бібліятэка Свабоды

XXI стагодзьдзе

Сяргей Абламейка

# невядомы Менск
## гісторыя зьнікненьня

кніга першая



Радыё Свабода

*Памяці маёй бабулі*
*Веры Лось-Паўлавай*

Сяргей Абламейка

# невядомы Менск
## гісторыя зьнікненьня

*Кніга першая*



Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода

Навуковыя рэцэнзэнты:
*Дарота Міхалюк,*
*доктар гісторыі габілітаваны, прафэсар*
*Захар Шыбека,*
*доктар гістарычных навук, прафэсар*
*Раман Юркоўскі,*
*доктар гісторыі габілітаваны, прафэсар*

**Сяргей Абламейка. Невядомы Менск. Гісторыя зьнікненьня.** Кн. 1. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2021. — 476 с.: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Рэдактар *Аляксандар Лукашук*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Сяргей Шупа*

Ніводнага артыкулу, ніводнай манаграфіі, ніводнай навукова-папулярнай кнігі не напісалі раней беларускія гісторыкі пра разбурэньне Старога гораду — аднаго з самых каштоўных раёнаў гістарычнага Менску. Паўтара дзясятка вуліц і завулкаў, шчыльна забудаваных мурававымі дамамі XVII–XIX стагодзьдзяў, што існавалі на Замкавай гары і яе ваколіцах, зьніклі бязь сьледу. Кніга доктара гісторыі Сяргея Абламейкі — першае навуковае дасьледаваньне пра час і прычыны разбурэньня Старога гораду, яго загадкі, яго герояў і антыгерояў.


FOL

ISBN 978-0-929849-86-7

# Зьмест

## Менскі палімпсэст

Яны думалі,
што ўсё сьцерлі,
што ўсё зьнесьлі,
што ўсё зраўнялі,
што ніхто не заўважыць,
што ніхто не здагадаецца,
што ніхто ня ўспомніць,
што ніхто не захоча,
што ніхто ня зможа,
што нікому ня трэба,
што ўсё забылі.

Наіўныя…

*Аляксандар Лукашук,*
*Бібліятэкар Свабоды*

## Ад аўтара

Сям'я маёй маці жыла ў гістарычным цэнтры Менску з канца XIX стагодзьдзя. У маіх прапрадзеда і прапрабабулі Яна і Агаты Ласёў з-пад Радашкавічаў было сямёра дзяцей. Іх старэйшы сын Тодар Лось пераехаў у Менск і даў пачатак менскай галіне майго роду па кудзелі. У Тодара таксама было сямёра дзяцей, чацьвёртай у 1915 годзе нарадзілася мая бабуля Вера. Да вайны Тодар з усімі сваімі дзецьмі, некаторыя зь якіх ужо мелі ўласныя сем'і,



Сям'я Тодара і Марыі Ласёў (сядзяць у цэнтры). Менск, 1936 год. У барэце — бабуля аўтара Вера Лось-Паўлава.

жыў у вялікай кватэры на другім паверсе дому на вуліцы Інтэрнацыянальнай, 11а (у двары насупраць цяперашняга кінатэатру «Перамога»).

У 1942 годзе нямецкія акупацыйныя ўлады канфіскавалі нашу кватэру і перасялілі прадзеда Тодара з прабабуляй Марыяй (з Мамчыцаў) і дарослымі дзецьмі Ганнай, Верай, Ірынай і Андрэем на вуліцу Ратамскую, 25 (цяпер Мельнікайце) у пакінуты гаспадарамі дом з мураваным цокалем і драўляным першым паверхам.

Там, на Ратамскай, бабуля Вера нарадзіла маю маму Алісу. Дзяцінства маці прайшло там жа, бо пасьля прыходу савецкіх уладаў у 1944 годзе кватэру на Інтэрнацыянальнай сям'і не вярнулі — яна як спадчына нямецкай вайсковай установы была перададзена аднаму з гарадзкіх ваенкаматаў. Па Астроўскага і Віцебскай маці хадзіла ў школу №30 на Рэвалюцыйнай, а пасьля ў школу №42 на Камсамольскай.

Там жа, на Ратамскай, нарадзіўся і я. Маё дзяцінства, прынамсі яго значная частка, прайшло ў рэшце Старога гораду — пераважна на Нямізе, дзе жылі бабуліны сяброўкі, да якіх мы часта хадзілі ў госьці, і ва ўсім Ракаўскім прадмесьці з мноствам яго брукаваных вулак і завулкаў — Астроўскага, Віцебскай, Замкавай, Шпалернай, Вызваленьня, Дзімітрава і іншых. Гэта быў наш раён, наш горад, наша асяродзьдзе. Старая Няміга зь яе аркамі, унутранымі дворыкамі і драўлянымі галерэямі на першых і другіх паверхах заўсёды, як жывая, стаіць перад вачыма. Я памятаю яе гукі, пахі і смак габрэйскіх булачак бэйгелах, якія пяклі бабуліны сяброўкі



Першая кляса школы №30, якая знаходзілася ў дварах паміж Нямiскай і Рэвалюцыйнай вуліцамі насупраць былога Інбелкульту. 1950 год. У другім радзе ў цэнтры коратка падстрыжаная вучаніца ў белым школьным фартуху — маці аўтара Аліса Паўлава.

ў маленькіх кватэрках, што вокнамі выходзілі на тыя драўляныя ўнутраныя галерэі.

Ня раз бабуля расказвала і пра Нізкі рынак[1], дзе яна маленькай дзяўчынкай гандлявала чыстай пітной вадой, каб дапамагчы сям'і і зарабіць на дзіцячыя прысмакі. У гэтых аповедах атмасфэра рынку апісвалася так маляўніча, што мне зь цягам часу стала здавацца, што я яго бачыў на свае вочы, як і старую Нямігу.

1 Першапачатковая назва Нізкі рынак, але ў XIX стагодзьдзі паралельна пачала ўжывацца і назва Ніжні рынак.

Аднойчы бабуля прывяла мяне на так званы «пуцеправод» над Нямігай — мост з плошчы Свабоды на Паркавую магістраль. Аказалася, Нямігу зносяць. Бабуля плакала, я сьцішана стаяў побач. Пасьля мы прыходзілі туды шмат дзён і глядзелі, як гусенічны кран з падвешанай на страле чыгуннай «бабай» зьнішчае старажытныя дамы на левым, няцотным баку вуліцы, што некалі прымыкалі да Школьнага двара. «Баба» глуха і вусьцішна стукалася аб старыя сьцены, яны дрыжэлі, стагналі, вытрымлівалі адзін-два ўдары, пасьля пачыналі адломвацца вялікімі кавалкамі і ўрэшце абрыналіся, узьняўшы хмары белага пылу.

Людзі, якія перажылі нямецкую акупацыю ў Менску, ня надта ахвоча расказвалі пра сваё тагачаснае жыцьцё. Не былі выключэньнем і мая бабуля са сваімі сёстрамі Ірынай і Ганнай, а таксама братам Андрэем, які пасьля палону вярнуўся ў акупаваны Менск і працаваў тэхнікам на беларускім радыё. Але была адна тэма, пра якую бабуля расказвала шмат разоў — гэта жорсткія савецкія бамбаваньні Менску. Вусьцішныя дэталі той трагедыі (накшталт чалавечых парэштак на тэлеграфных дратах) пакінулі ў яе душы такі сьлед, што яна да сьмерці ў 92 гады не магла пра гэта забыцца.

Так да замілаваньня раёнам дзяцінства дадалася крыўда за яго страту, бо з размоваў дарослых вынікала, што ня ўсе з разбурэньнем Нямігі ў 1970–1971 гадах згодныя і не за ўсе разбурэньні ў Менску падчас вайны адказныя немцы. І так маё жыцьцё назаўсёды зьвязалася са Старым горадам. Калі ў другой палове 80-х гадоў XX стагодзьдзя моладзевае аб’яднаньне «Талака» выступіла ў абарону

рэшты гістарычнага Менску, я ўжо быў сярод яго членаў. У газэтных справаздачах аб круглых сталах і палеміцы з архітэктарамі нярэдка можна сустрэць імя актыўнага выступоўцы «студэнта гістфаку БДУ Сяргея Абламейкі».

Калі ж у пачатку XXI стагодзьдзя менскі гарвыканкам заснаваў таварыства «Менская спадчына», якое занялося асваеньнем рэшты гістарычнай забудовы, бязьлітасна яе зьнішчаючы і перабудоўваючы ў стылі губэрнскага расейскага гораду, маё сэрца ня вытрымала. Я зразумеў, што трэба напісаць гісторыю разбурэньня Старога гораду з самага яе пачатку — з 20-х гадоў XX стагодзьдзя — інакш наступныя пакаленьні менчукоў пачнуць успрымаць вынікі правінцыйнага барбарства «Менскай спадчыны» як сапраўднае аблічча Старога Менску. Гэтым у 2006 годзе я і заняўся.

Але зрабіць гэта было няпроста. Спэцыяльных навуковых дасьледаваньняў, прысьвечаных гісторыі разбурэньня гістарычнага цэнтру Менску і яго прычынам, у Беларусі ніколі не праводзілася. У беларускай гістарыяграфіі няма ні асобнай кнігі, ні нават асобнага артыкулу, якія былі б цалкам прысьвечаныя гісторыі зьнікненьня ў Менску раёну Старога гораду, які ахопліваў сабой тэрыторыю Замчышча і прылеглыя кварталы вуліцы Нямігі, а таксама Нізкага і Рыбнага рынкаў, і прычынам гэтага зьнікненьня. Гэтая кніга — першае такое дасьледаваньне.

Без магчымасьці абаперціся на працы папярэднікаў давялося больш за дзесяць гадоў працаваць у беларускіх і замежных архівах, чытаць стары друк,

запісваць гутаркі зь менскімі старажыламі і шукаць паўсюль невядомыя здымкі Менску.

Асабліва плённымі аказаліся паездкі ў Фэдэральны архіў Нямеччыны (Bundesarchiv) у Кобленцы (люты 2008) і Вайсковы архіў Баварыі (Kriegsarchiv) у Мюнхэне (жнівень 2008), а таксама Нацыянальны архіў ЗША (NARA) у Мэрылэндзе (ліпень 2014). У гэтых архівах удалося знайсьці сотні раней невядомых наземных і авіяцыйных здымкаў Менску 1917–1944 гадоў, частка зь якіх, найперш здымкі з Фэдэральнага архіву Нямеччыны, у 2009 годзе празь Вікімэдыю трапілі ў грамадзкі ўжытак, дзякуючы таму, што я замовіў іх электронныя копіі. Але ў выглядзе папяровых копій або авіяцыйных фатастужак там застаюцца сотні пакуль невядомых беларускім дасьледчыкам фатаздымкаў Менску, якія мне ўдалося паглядзець і патрымаць у руках. Каля сотні зь іх я прывёз у выглядзе папяровых ксэракопій. Таксама вялікай удачай стала перадача мне адным з брытанскіх калекцыянэраў больш 150-ці здымкаў асабістага фатографа Вільгельма Кубэ, сярод якіх, напрыклад, здымкі інтэр’ераў Дамініканскага касьцёлу і аднаго з будынкаў езуіцкага кляштару — Дому губэрнатара.

І яшчэ адзін момант. Трэба разумець розьніцу паміж тэрмінамі «Стары горад» і «стары Менск». Стары Менск уключае ў сябе ўвесь гістарычны цэнтар зь Верхнім горадам, Новым горадам і шматлікімі прылеглымі да іх вуліцамі і завулкамі, многія зь якіх былі забудаваныя мураванымі дамамі толькі ў XIX стагодзьдзі.

У архітэктурна-мастацкім сэнсе Верхні горад і яго наваколле з камяніцамі, храмамі, кляштарамі

і палацамі больш каштоўны, чым помнікі Старога гораду. Але раён Нізкага рынку і Замчышча апынуўся ў цэнтры маёй увагі таму, што гэта — самая старажытная частка Менску, цалкам зьніклая на сёньняшні дзень; яе гістарычная каштоўнасьць цалкам сувымерная з мастацкай каштоўнасьцю Верхняга гораду.

У цэнтры ўвагі нацыянальных дзеячоў у 10–30-я гады XX стагодзьдзя былі ня толькі Стары горад, але і помнікі Верхняга гораду. Пляны сацыялістычнай рэканструкцыі сталіцы таксама закраналі ня толькі Стары горад, але і ўвесь стары Менск. Таму ў кнізе можна сустрэць фатаздымкі і згадкі пра помнікі ня толькі Нізкага рынку, але і ўсяго гістарычнага цэнтру.

## Папярэднікі і крыніцы

Тэма разбурэньняў у Менску, напрыклад, падчас Другой сусьветнай вайны або пасьля яе часам закраналася ў гістарычных працах, прысьвечаных іншым блізкім тэмам.

У 1957 годзе Акадэмія навук Беларусі выдала акадэмічную «Историю Минска». У гэтай калектыўнай працы былі два разьдзелы, дзе гаворка вялася непасрэдна пра разбурэньні. Гэта «Минск в годы Великой Отечественной войны (1941–1945)» і «Восстановление и дальнейшее развитие Минска в послевоенные годы (1946–1955)». Але аўтары не вылучалі гістарычны цэнтар як асобную і каштоўную частку гарадзкой архітэктуры. У 2006 годзе выдавецтва «Беларуская Энцыклапэдыя» выдала новую грунтоўную «Гісторыю Мінска», дзе ў разьдзеле пра Другую сусьветную вайну таксама закранаецца тэма разбурэньняў.

Мімаходзь закраналася гэтая тэма і ў працах асобных гісторыкаў і публіцыстаў. У 2004 годзе гісторык менскай архітэктуры Расьціслаў Баравы выступіў з артыкулам «Послевоенная реконструкция и восстановление Минска (История написанная и ненаписанная)», у якім закраналася тэма разбурэньняў у часе Другой сусьветнай вайны і пасьляваеннай рэканструкцыі сталіцы. Таксама пра разбурэньні часоў вайны пісалі ў сваіх кнігах

гісторыкі Юры Туронак («Беларусь пад нямецкай акупацыяй», 1993) і Ірына Варанкова («Двадцать второго июня, ровно в четыре часа…», 2011).

Асобную групу тэкстаў складаюць навукова-папулярныя гістарычныя працы пра Менск, дзе закраналася тэма каштоўнасьці архітэктуры гістарычнага цэнтру і гісторыя яго асобных будынкаў. Сярод іх «Рэха даўняга часу» Зянона Пазьняка (1985) і «Площадь Свободы в Минске» Уладзімера Дзянісава (1985).

Яшчэ адну групу публікацыяў складаюць працы архітэктараў, якія пісалі пра гарадзкую архітэктуру, у тым ліку пра гістарычны цэнтар, з пункту гледжаньня практыкі горадабудаўніцтва. Тут можна назваць кнігу Міхаіла Асмалоўскага «Минск» (1952), артыкулы архітэктара Яўгена Заслаўскага «К 60-летию освобождения Беларуси: итоги и факторы градостроительного развития Минска» (2004), а таксама Вячаслава Чарнатава «А могло бы быть... Однако...» (2005) і «Проект-идея центра Минска» (у суаўтарстве з Надзеяй Саўчанкай, 2006) прысьвечаныя праектам пасьляваеннага аднаўленьня сталіцы Беларусі.

Асобна ў гэтым пераліку стаіць кніга нямецкага прафэсара Томаса Бона «Минский феномен. Городское планирование и урбанизация в Советском Союзе после Второй мировой войны» (Масква, 2013. Арыгінал: Thomas M. Bohn: «Minsk — Musterstadt des Sozialismus. Stadtplanung und Urbanisierung in der Sowjetunion nach 1945». Böhlau Verlag GmbH, Köln, 2008). У гэтай працы асьвятляецца ўрбаністычны аспэкт пасьляваеннай гісторыі Менску.

Асобныя бакі гісторыі савецкай архітэктуры, часткай якой была рэканструкцыя Менску і разбурэньне яго гістарычнага цэнтру, асьветленыя ў працах іншых замежных гісторыкаў. Тут можна вылучыць манаграфію канадзкага прафэсара Г'ю Гадсана «Чарцяжы і кроў. Сталінізацыя савецкай архітэктуры», выдадзеную ў 1994 годзе ў Прынстане (Hugh D. Hudson, Jr. Blueprints and Blood: The Stalinization of Soviet Architecture, 1917–1937. Princeton: Princeton University Press, 1994), і кнігу сучаснага расейскага гісторыка Дзьмітрыя Хмяльніцкага «Зодчий Сталин», выдадзеную ў Маскве ў 2007 годзе.

Урэшце, зусім асобна ў нешматлікім шэрагу публікацыяў, прысьвечаных гістарычнаму цэнтру Менску, стаіць мастацтвазнаўчы нарыс Міколы Шчакаціхіна «Помнікі старадаўняе архітэктуры XVII–XVIII сталецьцяў у Менску», напісаны ў 1926 годзе і выдадзены ў 1928-м у акадэмічным зборніку «Запіскі Аддзелу гуманітарных навук. Працы камісіі гісторыі мастацтва». У гэтай працы Шчакаціхін пераканаўча паказаў вялікае мастацкае і гістарычнае значэньне помнікаў менскай культавай і сьвецкай архітэктуры, сканцэнтраваных у гістарычным цэнтры.

Аднак комплекснага гістарычнага дасьледаваньня, прысьвечанага гісторыі і прычынам разбурэньня Старога гораду ў Менску, часавым рамкам гэтага працэсу і яго сувязі з ідэалягічнай каньюнктурай і палітыкай камуністычных уладаў СССР, у беларускай гістарыяграфіі дагэтуль няма.

Таму гэтая кніга напісана на падставе клясычных гістарычных крыніц. Гэта архіўныя дакумэн-

ты, інфармацыйныя і публіцыстычныя матэрыялы газэт і часопісаў 10–50-х гадоў XX стагодзьдзя, мэмуары беларускіх пісьменьнікаў, палітыкаў і эмігрантаў, савецкіх палітыкаў і вайскоўцаў, апытаньні менскіх старажылаў, гістарычныя фатаздымкі вуліц і пляцаў старога менскага цэнтру XIX пачатку – XX стагодзьдзяў, нямецкія наземныя і аэрафотаздымкі часоў Першай і Другой сусьветных войнаў, савецкія пасьляваенныя здымкі Менску, а таксама старыя малюнкі менскіх мастакоў.

Архіўныя крыніцы можна падзяліць на апублікаваныя і неапублікаваныя. Да першай, зусім невялікай, групы належаць крыніцы, апублікаваныя ў зборніках дакумэнтаў, выдадзеных Нацыянальным архівам Рэспублікі Беларусь. Гэта «Інстытут беларускай культуры. 1922–1928» (2011), «Освобождённая Беларусь» (Т. 1, 2004, Т. 2, 2005), «Возрождённый из руин. Восстановление и развитие Минска в 1944–1955 гг.» (2017) і некаторыя іншыя. Каштоўныя дадатковыя дакумэнты па тэме дасьледаваньня апублікаваныя і ў дзьвюх кнігах выдадзенага ў 1998 годзе першага тому «Архіваў Беларускай Народнай Рэспублікі», а таксама ў зборніку дакумэнтаў «Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК» (Т. 1, 1983).

Да другой групы крыніц, якія захоўваюцца ў архіўных сховішчах Беларусі і некаторых іншых краінаў, адносіцца большасьць выкарыстаных у гэтым дасьледаваньні дакумэнтаў. Гэта рассакрэчаныя ў канцы XX стагодзьдзя дакумэнты Цэнтральнага камітэту Камуністычнай партыі Беларусі і пратаколы пасяджэньняў яго Бюро, а таксама

- дакумэнты аддзелу агітацыі і прапаганды ЦК;

- дакумэнты Савету народных камісараў БССР, яго сакратарыяту і кіраўніцтва справаў;

- дакумэнты Народнага камісарыяту асьветы;

- дакумэнты Дзяржаўнай плянавай камісіі БССР (Дзяржпляну) і Менскай акруговай плянавай камісіі (Акрпляну);

- дакумэнты Менскага акруговага і гарадзкога выканаўчых камітэтаў;

- дакумэнты Народнага камісарыяту ўнутраных справаў БССР (НКВД);

- дакумэнты Ўправы камунальнай гаспадаркі НКВД БССР (камгасу), а таксама Менскага акруговага аддзелу камунальнай гаспадаркі НКВД і Менскага гарадзкога аддзелу камунальнай гаспадаркі НКВД;

- дакумэнты Менскага акруговага савету дэпутатаў і Менскага гарадзкога савету дэпутатаў;

- дакумэнты Прэзыдыюму Інстытуту беларускай культуры і яго камісіяў — Гістарычнай, Мастацкай і Аховы помнікаў;

- дакумэнты Ўправы ў справах архітэктуры пры Савеце міністраў БССР; дакумэнты Дзяржаўнага інстытуту праектаваньня гарадоў РСФСР («Гипрогор») і праектнага інстытуту «Белдзяржпраект»;

- дакумэнты Беларускага дзяржаўнага музэю.

Каштоўную групу крыніц складаюць дакумэнты нямецкіх акупацыйных органаў. Гэта

- дакумэнты Генэральнага камісарыяту Беларусі;

- дакумэнты Менскага акруговага і Менскага гарадзкога камісарыятаў;

- дакумэнты Беларускага кіраўніцтва пры Генэральным камісарыяце і Гарадзкой управы на чале з бургамістрам;

- дакумэнты Жыльлёвага аддзелу Менскага гарадзкога камісарыяту, Жыльлёвага аддзелу Менскай гарадзкой управы, а таксама Рамонтна-будаўнічай канторы Жыльлёвага аддзелу.

Гэтыя фонды засяроджаныя ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўным архіве Менскай вобласьці, Беларускім дзяржаўным архіве навукова-тэхнічнай дакумэнтацыі і Цэнтральным навуковым архіве Акадэміі навук Беларусі.

Яшчэ адзін важны корпус крыніц — пэрыядычны друк. Найперш гэта асноўныя газэты беларускага руху 1917–1920 гадоў і штодзённыя газэты БССР 20–30 гадоў: «Беларусь», «Вольная Беларусь», «Звон», «Вольны сьцяг», «Савецкая Беларусь», «Звязда», «Рабочий», «Літаратура і мастацтва», а таксама асноўныя друкаваныя органы СССР — «Известия», «Правда». Другая група крыніц пэрыядычнага друку — гэта беларускія часопісы: «Наш край», «Чырвоная Беларусь», «Беларусь», «Полымя», «Працы БДУ», «Запіскі Аддзелу гуманітарных навук. Працы камісіі гісторыі мастацтва» і іншыя.

Асобна ў корпусе крыніц стаяць апытаньні менскіх старажылаў, праведзеныя аўтарам ў 2006–2009 гадах. Іх вынікам стала ўдакладненьне стану таго або іншага кварталу гістарычнай забудовы ў часы нямецкай акупацыі Беларусі і першых пасьляваенных гадоў.

І яшчэ адна група крыніц — гістарычныя фатаздымкі вуліц і пляцаў старога менскага цэнтру XIX — пачатку XX стагодзьдзяў, нямецкія назем-

ныя і аэрафотаздымкі часоў Другой сусьветнай вайны, савецкія пасьляваенныя здымкі Менску, а таксама старыя малюнкі вуліц і асобных будынкаў, сабраныя ў

- Беларускім дзяржаўным архіве кінафотафонадакумэнтаў,
- Беларускім дзяржаўным музэі Вялікай айчыннай вайны,
- Беларускім дзяржаўным гістарычным музэі,
- Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Акадэміі навук Беларусі,

а таксама ў шэрагу замежных архіваў:

- у Нацыянальным архіве ЗША ў Вашынгтоне (штат Мэрылэнд),
- нямецкім Бундэсархіве ў Кобленцы,
- Вайсковым архіве Баварыі ў Мюнхэне,
- Цэнтральным вайсковым архіве ў Варшаве,
- Нацыянальным лічбавым архіве ў Варшаве,
- зборах Нацыянальнага музэю ў Варшаве і іншых.

Некаторыя з гістарычных фатаздымкаў былі выдадзеныя ў фотаальбомах. Найперш гэта фотаальбом Васіля Каляды «Мінск учора і сёння» (1989) і яго ж пасьмяротная кніга «Воспоминание о городе. История Минска в фотографиях из коллекции Василия Каледы» (2004), фотаальбом Ільлі Куркова «Мінск незнаёмы» (2002), а таксама тры альбомы Віталя Кірычэнкі: «Мінск. Гісторыя пасляваеннага аднаўлення. 1944–1952» (2004), «Мінск. Гістарычны партрэт горада. 1953–1959» (2006) і «Мінск. Дзесяцігадовы шлях сталіцы. 1960–1969» (2007).

Аднак пры падрыхтоўцы кнігі і яе візуальнага афармленьня былі выкарыстаныя пераважна

знойдзеныя аўтарам і раней не апублікаваныя фатаздымкі, а таксама здымкі і малюнкі, сабраныя ў некалькіх прыватных калекцыях.

Дасьледаваньне пабудаванае пераважна паводле храналягічнага прынцыпу, але ёсьць і даволі значныя адхіленьні ад яго. Найперш гэта тычыцца разьдзелаў, якія тэматычна зьвязаныя з суседнімі, або тых выпадкаў, калі для тлумачэньня матэрыялу ці аўтарскай думкі трэба забегчы наперад або вярнуцца назад.

Першая кніга прысьвечана апісаньню раёну Старога гораду і падзеям, якія адбываліся ў ім і вакол яго ў 1920–1930 гадах XX стагодзьдзя аж да нападу Нямеччыны на СССР 22 чэрвеня 1941 году. Сярод іх — складаньне пляну рэстаўрацыі Замчышча ў 1925 годзе і пачатак распрацоўкі ў тым самым годзе генпляну Менску, які існаваньня Замчышча не прадугледжваў. Падзеі гэтыя рэканструяваныя і апісаныя на шырокім фоне ідэалягічнай канкурэнцыі паміж нацыянальнымі кадрамі і камуністычным кіраўніцтвам БССР.

У другой кнізе расказваецца пра частковае разбурэньне Старога гораду падчас Другой сусьветнай вайны і канчатковы яго знос падчас пасьляваеннай рэканструкцыі Менску. Таксама ў другой кнізе гаворка вядзецца пра апошнія спробы ўратаваць менскае Замчышча ў 1950-я гады XX стагодзьдзя і пра ідэалягічную каньюнктуру страты Менскам сваёй самай старой часткі.

## Асноўныя даты першай кнігі

14–15 лістапада 1919 году — падчас правядзеньня ў Менску сэсіі Рады БНР газэта «Беларусь» друкуе нарыс Рамуальда Зямкевіча «Стары замак у Менску», у якім аўтар прапануе рэстаўраваць Замчышча і пабудаваць на яго тэрыторыі сядзібу ўраду БНР.

1922 год — у БССР ствараецца Часовае бюро краязнаўства.

1923 год — пры Наркамасьвеце БССР ствараецца Навукова-экспэртная камісія для выяўленьня на тэрыторыі Беларусі помнікаў старажытнасьці і іх аховы.

7 лютага 1925 году — у складзе Інбелкульту ствараецца Камісія аховы помнікаў.

10 красавіка 1925 году — Камісія аховы помнікаў вырашае пачаць распрацоўку пляну рэстаўрацыі менскага Замчышча.

Лета 1925 году — прапаганда помнікаў Старога Менску.

Ліпень 1925 году — спроба стварэньня музэю Старога Менску.

Ліпень-верасень 1925 году — стварэньне пляну рэстаўрацыі Замчышча.

28 ліпеня 1925 году — прэзыдыюм Менскага акруговага выканкаму вырашае пачаць распрацоўку генэральнага пляну Менску.

Люты 1926 году — бюро ЦК КП(б)Б прымае сакрэтную пастанову аб дзейнасьці Інбелкульту і краязнаўчым руху, вынікам чаго стала поўнае адхіленьне краязнаўцаў ад справы аховы помнікаў.

Студзень-красавік 1926 году — запрошаны ў Менск маскоўскі прафэсар Уладзімір Сямёнаў стварае плян рэканструкцыі Менску.

12 траўня 1926 году — Менскі акруговы выканаўчы камітэт зацьвярджае плян прафэсара Сямёнава.

11 верасьня 1926 году — Менская акруговая плянавая камісія адмаўляецца выдаткаваць грошы на рэалізацыю праекту рэстаўрацыі Замкавай гары ў Менску і аднаўленьня яе помнікаў і выключае пункт аб гэтым з пляну грамадзкіх работ на 1926/27 год.

13 верасьня 1926 году — прэзыдыюм Дзяржпляну БССР зацьвярджае праект рэканструкцыі Менску, створаны маскоўскім прафэсарам Сямёнавым, і, такім чынам, гэты дакумэнт набывае афіцыйны статус.

Кастрычнік 1926 году — улады прыступаюць да распрацоўкі 5-гадовага пляну «благоустройства» Менску, які стаў альтэрнатывай пляну аднаўленьня і захаваньня Старога гораду і Замчышча. Падставай для «благоустройства» стаецца плян Уладзіміра Сямёнава.

Травень 1927 году — першыя зносы дамоў на вуліцы Замкавай.

Восень 1927 году — ліквідацыя Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту.

1928 год — першая спроба Камгасу НКВД, у адпаведнасьці з плянам прафэсара Сямёнава, пасадзіць на месцы Замчышча парк і выкапаць

возера на Татарскіх агародах. Перашкодзіў недахоп сродкаў.

Вясна 1929 году — для «пашырэньня» самай вузкай менскай вуліцы, былой Кацярынінскай, зносіцца архітэктурная дамінанта Школьнага двара зь вялікім круглым купалам — бэс-мэдрэш пахавальнага брацтва «Шывэ круім» — і шэраг іншых старых камяніцаў на Школьнай і Кацярынінскай вуліцах, а ў наступныя гады — і на Нізкім рынку.

Лета 1929 году — адмова камуністычнага кіраўніцтва БССР ад палітыкі беларусізацыі, пачатак антыбеларускай кампаніі.

1930 год — масавыя арышты нацыянальнай інтэлігенцыі.

Вясна 1931 году — высылка большасьці арыштаваных «нацдэмаў», у тым ліку ўдзельнікаў абароны Старога гораду, углыб Расеі.

Красавік-травень 1931 году — на Нізкім рынку зносяцца гандлёвыя рады, а на паўночна-заходнім баку рынкавага пляцу з боку Замчышча пасаджаныя некалькі дзясяткаў дрэваў — правобраз будучага Парку культуры і адпачынку.

Травень 1931 году — пачатак стварэньня генэральнага пляну Менску ў Дзяржаўным інстытуце праектаваньня гарадоў РСФСР («Гипрогор» РСФСР) у Ленінградзе.

1934 год — стварэньне ў Ленінградзе папярэдняга варыянту генпляну Менску.

1936 год — стварэньне ў Ленінградзе першага чыставога варыянту генпляну Менску.

1939 год — стварэньне ў Ленінградзе другога чыставога варыянту генпляну Менску.

Пачатак 1940 году — інстытут «Белдзяржпраект» робіць нязначную карэкціроўку праекту генпляну і перадае яго на фармальнае зацьвярджэньне ў Менскі гарсавет.

Сакавік 1940 году — сэсія Менскага гарсавету «зацвердзіла генеральны план рэканструкцыі сталіцы Совецкай Беларусі — Мінска — і праграму будаўніцтва на 1940 год». Генплян прыняты да выкананьня.

Усе варыянты даваеннага генпляну Менску прадугледжваюць поўны знос Старога гораду, скопваньне Замкавай гары і пракладку праз яе тэрыторыю Паркавай магістралі ў бок будучага Парку культуры і адпачынку.

Сёньня ў інтэрнэце можна знайсьці шмат здымкаў самай вузкай з захаваных менскіх вуліц — Музычнага завулку ў Верхнім горадзе, а таксама розных камэрных куточкаў Траецкага прадмесьця. Зьдзіўляе, колькі ракурсаў адшукалі маладыя менскія фатографы сярод 15-20 дамоў, колькі рамантыкі і замілаваньня яны там знаходзяць і колькі пачуцьцяў да тых менскіх мясьцінаў укладаюць у свае здымкі.

Што ж рабілася б зь беларускай моладзьдзю, каб увесь Стары горад зь яго вуліцамі і завулкамі захаваўся? А калі б дадаць да яго яшчэ і нязьнішчаны Верхні горад? Няма сумневу: гісторыя Беларусі ў другой палове XX стагодзьдзя была б іншай, шмат якіх палітычных падзеяў проста не адбылося б. Народ, які мае такі Стары горад, іх бы не дапусьціў.

## Дзе ў Менску быў Стары горад

У сёньняшнім Менску няма раёну, які б жыхары называлі Старым горадам. У лепшым выпадку кажуць і пішуць пра гістарычны цэнтар, маючы на ўвазе раён Пляцу Волі (Плошчы Свабоды). Яго яшчэ называць Верхнім горадам.

Але ў даваенным Менску Стары горад існаваў. Гэта быў вельмі ўстойлівы мікратапонім. Старым горадам да вайны называлі раён Замчышча, Нізкага і Рыбнага рынкаў з вуліцамі Замкавай, Стара-Мясьніцкай, Нова-Мясьніцкай, Завальнай, Падзамкавай, Казьмадзям'янаўскай (пазьней Дзям'яна Беднага), Школьнай (пазьней Вольнай), Няміскай, Калініна, часткова Гандлёвай і Падзамкавай-на-Балоце. Усе яны, за выключэньнем апошняй, былі шчыльна забудаваныя 2-3-павярховымі мураванымі дамамі XVII–XIX стагодзьдзяў.

У 1919 годзе Аркадзь Смоліч у сваёй славутай «Геаграфіі Беларусі» пісаў:

«*У шырокай лагчыне паміж замкам і Высокім местам знаходзіцца гандлёвы асяродак Менску. Такую ролю гэтая мяйсцовасьць іграе спрадвеку; наагул, мусіць, тут і пабудаваўся спачатку Менск. Ня дарма ж народ дагэтуль называець гэтую лагчыну — Старым местам, або яшчэ — Нізкім местам, ці Нізкім рынкам...*»[2]

---

2 Смоліч А. Геаграфія Беларусі. Менск, 1993. С. 242.

Сам тэрмін «Стары горад» або «Старое места» вядомы ў менскіх дакумэнтах з пачатку XVII стагодзьдзя. Паводле гісторыка Расьціслава Баравога, гэты тэрмін тады стасаваўся да двух арэалаў — раёну Траецкай гары на левым беразе Сьвіслачы і раёну Замку і Нізкага рынку на беразе правым[3]. Паводле Баравога, першапачатковы Стары горад быў якраз на Траецкай гары, у ваколіцах Траецкага рынку — сёньня гэта раён Опэрнага тэатру. Менавіта там былі пабудаваныя асноўныя для Менску XIV–XVI стагодзьдзяў праваслаўныя цэрквы Сьвятой Тройцы і Ўзьнясенская і першы гарадзкі касьцёл — Фарны; там жа разьмяшчаліся асноўныя рамесьніцкія цэхі і ўласна рынак.

Гэты Стары горад быў спрэс драўляны і ў выніку шматлікіх пажараў і вайны з Расеяй паловы XVII стагодзьдзя пачаў занепадаць[4]. Захаваў сваё значэньне для менчукоў толькі Траецкі рынак. Ён быў асноўнай гандлёвай пляцоўкай для жыхароў цэнтральнай часткі гораду да 30-х гадоў XX стагодзьдзя і быў зьнішчаны ў выніку пабудовы на яго месцы ў 1933–1938 гадах Опэрнага тэатру.

Другому Старому гораду — на правым беразе Сьвіслачы ў ваколіцах Замку — было наканавана праіснаваць да паловы XX стагодзьдзя. Сярод сучасных гісторыкаў пануе думка, што сярэднявеч-

3 Боровой Р. В. Минские древности. «Старый город» средневекового Минска по письменным источникам // Гістарычна-археалагічны зборнік. Менск, 2000. №15. С. 128–132.

4 Паводле Р. Баравога, на Траецкай гары яшчэ ў IX–X стагодзьдзях магло існаваць дрыгавіцкае паселішча. А калі будучую Меншчыну пачалі калянізаваць крывічы з Полацкага княства, яны паставілі Замак на правым беразе Сьвіслачы як процівагу старому дрыгавіцкаму паселішчу.

ны Менск знаходзіўся менавіта тут — на гары, з трох бакоў аточанай водамі Сьвіслачы і Нямігі, а з чацьвёртага боку (паўднёвага) забалочанай мясцовасьцю, на якой пазьней узьнік рамесьніцкі пасад і рынак, названы ў XVI– XVII стагодзьдзях Нізкім. Гэтая частка гораду стала «старой», калі ў канцы XVI стагодзьдзя на суседняй з Замчышчам гары быў закладзены Новы або Высокі рынак — галоўнае адміністрацыйнае і прадстаўнічае ядро гораду ў XVII — пачатку XX стагодзьдзяў. Тут узьнік сапраўдны эўрапейскі рэнэсансны рынак — квадратны ў пляне брукаваны пляц з новай мураванай ратушай у цэнтры і кляштарнымі будынкамі, храмамі, палацамі і мяшчанскай забудовай па пэрымэтры.

Ужо аўтары XIX стагодзьдзя са спасылкамі на старажытныя дакумэнты называлі ваколіцы Замчышча і Нізкага (або Ніжняга) рынку Старым горадам. Сярод іх быў і Павал Шпілеўскі, які ў 1853 годзе абмежаваў менскі Стары горад Замчышчам, Нізкім рынкам, Траецкай гарой, Татарскім канцом і Ракаўскім прадмесьцем[5].

Высокі рынак або Верхні горад быў проста гарадзкім цэнтрам. А раён сёньняшняга Кастрычніцкага пляцу і Аляксандраўскага сквэру ўздоўж вуліцы Захараўскай (сёньня праспэкт Незалежнасьці) называлі ў XIX стагодзьдзі Новым местам. У першай палове XX стагодзьдзя ў Новае места або Новы горад перамясьціўся цэнтар, а Стары горад яго жыхары пачалі ўважаць за гарадзкую ўскраіну. І

5 Шпилевский П. М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. Менск, 1992. С. 138.

сапраўды, з пункту гледжаньня новага цэнтру зусім недалёка за Старым горадам былі Татарскія агароды, а за імі адразу і менскае прадмесьце Пярэспа.

## Гарадзкое асяродзьдзе і яго недаацэнка

Архітэктурная вартасьць кожнага гістарычнага гораду складаецца з двух элемэнтаў: гарадзкіх дамінантаў і шараговай забудовы. Да гэтага часу гісторыкі і мастацтвазнаўцы зьвярталі і зьвяртаюць увагу пераважна на дамінанты — ратушы, саборы, кляштары і палацы. У прынцыпе, гэта апраўдана, бо дамінанты звычайна маюць вялікую гістарычную і мастацкую каштоўнасьць. Менш увагі (і павагі) выклікае шараговая гарадзкая забудова — простыя мяшчанскія і купецкія дамы. А між тым якраз яны ўтвараюць нешта ня менш важнае і вартае для кожнага эўрапейскага гораду — гістарычнае гарадзкое асяродзьдзе.

Менавіта гістарычнае асяродзьдзе стварае замкнутасьць гарадзкой прасторы, збалянсоўвае яе і завязвае на дамінанты, падкрэсьліваючы іх значнасьць і мастацкія вартасьці. Без гарадзкога асяродзьдзя дамінанты (такія, напрыклад, як культавыя помнікі) застаюцца без кантэксту, яны як бы вырваныя зь яго. Такая «рваная» арганізацыя прасторы нехарактэрная для эўрапейскага гораду, і якраз такую карціну можна назіраць цяпер у Верхнім горадзе беларускай сталіцы.

Апрача мастацкай вартасьці гістарычная гарадзкая забудова выконвае вельмі важную ідэалягічную функцыю — яна сьведчыць пра цывілі-

зацыйную прыналежнасьць гораду і выхоўвае яго жыхароў у духу той цывілізацыі, да якой горад належыць. Гэта і ёсьць галоўная сучасная функцыя гістарычнай забудовы. А таксама і галоўная прычына яе захаваньня або разбурэньня — вольныя народы беражліва і ашчадна захоўваюць кожны стары камень у сваіх гарадах, паняволеныя або посткаляніяльныя народы безаглядна руйнуюць каштоўныя сьведчаньні сваёй гісторыі. Або ім руйнуюць, каб забыліся на сваю даўніну.

Эўрапейская традыцыя захаваньня і рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры сягае вельмі старых часоў. У красавіку 1745 году аўстрыйская імпэратрыца Марыя Тэрэзія падпісала дэкрэт, якім загадала Мілянскай акадэміі жывапісу, скульптуры і архітэктуры выконваць працэдуру, якая пазьней была распаўсюджана на астатнія часткі імпэрыі Габсбургаў.

«*... ніводзін мастак, скульптар ці архітэктар... ніводзін майстар ці прафэсіянал, які мае дачыненьне да аб'ектаў спадчыны ці сучаснага мастацтва, што зьяўляюцца грамадзкім здабыткам і могуць быць пашкоджаныя ў працэсе рамонтных работ, ня могуць праводзіць працы без папярэдняга вывучэньня сутнасьці як прапанаваных работ, так і самога твора членамі Акадэміі. Сутнасьцю і мэтай гэтага эдыкту ёсьць атрыманьне гарантыі, што добрыя творы, вартыя таго, каб існаваць у будучыні, будуць абароненыя ад разбурэньня...*»[6]

6 Цыт. паводле: Папруга У. Аб захаванні гісторыка-культурнай каштоўнасці «Гістарычны цэнтр г. Мінска» // Архитектура и строительство. 2005. №5. С. 21.

Паводле беларускага архітэктара-рэстаўратара Ўладзімера Папругі, гэты эдыкт і да сёньня вызначае ідэалёгію і базавыя прынцыпы абыходжаньня з помнікамі.

У XIX стагодзьдзі за прыкладам Аўстра-Вугоршчыны пайшлі многія эўрапейскія краіны.

Беларусь у канцы XVIII стагодзьдзя трапіла ў склад Расеі, дзе культурная сытуацыя моцна адрозьнівалася ад Эўропы. На думку расейскай імпэратрыцы Кацярыны II, тагачасныя беларускія гарады былі цесныя і малапрыдатныя для жыцьця, таму яна загадала спрасьціць і пашырыць у іх вуліцы. Многія гарады, у тым ліку Менск, атрымалі рэгулярныя пляны, і пачалася іх перабудова. Пашанцавала толькі Вільні і, збольшага, менскаму Старому гораду.

Пад уплывам тагачаснай рэальнасьці беларускія інтэлектуалы XIX стагодзьдзя збольшага дацэньвалі вартасьць гарадзкіх дамінантаў у выглядзе збораў, кляштараў і палацаў, але не цанілі шараговай гарадзкой забудовы, нават болей — пагарджалі ёй. Вось што пісаў у 50-я гады XIX стагодзьдзя Ўладзіслаў Сыракомля ў сваім нарысе пра Менск. Спачатку ён захапляецца чысьцінёй і вольнай прасторай:

«*Унутраны выгляд гораду вызначаецца акуратнасьцю і парадкам. Вуліцы шырокія і прамыя, дамы не заціснутыя, паветра чыстае, скрозь даступнае павевам ветру настолькі, што нават вуліцы, дзе жыве выключна габрэйская бедната, можна праходзіць без гідлівасьці, якую, напрыклад, у нас у Вільні выклікаюць вуліцы Жмудзкая або Жыдоўская. Муры і бярвёны дамоў, пафарбаваныя ў белае, выглядаюць лепей, чым у Вільні, дзе рознакаляровая страка-*

*тасьць камяніц рэдка дадае, а часьцей псуе выгляд найпрыгажэйшага будынку. На вуліцах няма тлуму, бо ўсім тут прасторна, а будынкі найбольш важнага значэньня не засланяюцца суседнімі і выступаюць ва ўсёй сваёй велічы...»*[7]

А пасьля Сыракомля параўновае Менск зь Вільняй:

*«Усё тут такое чыстае, новае, прыгожае, што напраўду імпануе сваёй эўрапейскасьцю таму, хто, як мы, прыехаў зь Вільні і чыё вока прывыкла да беспрэтэнзійнай фізіяноміі сьціснутых, заслоненых адзін адным дамоў, ад якіх вее духам векавой старажытнасьці. Тут жа нешта падобнае знойдзеш, толькі калі спусьцісься з Высокага рынку, каля касьцёлу бэрнардынаў, да рынку, што завецца Нізкім, дзе нашмат больш людзкога тлуму, цеснаты і дзе часта забудовы нагадваюць сваёю архітэктураю старыя часы і старыя звычаі»*[8].

Як бачым, у XIX стагодзьдзі менскі Стары горад нагадаў Сыракомлю Вільню, і ён грэбліва піша пра цесноту віленскага і менскага старых цэнтраў. А захапляла яго менавіта шырыня і прастора спрошчаных расейцамі ў пачатку XIX стагодзьдзя менскіх вуліц — іх ён называе эўрапейскімі.

Сыракомля недаацэньваў якраз шараговую гарадзкую забудову (або гістарычнае гарадзкое асяродзьдзе). Будучы носьбітам заходняй польскай культуры, ён, тым ня менш, ня мог яшчэ ведаць, што ў XX стагодзьдзі пачнуць цаніць менавіта замкнутасьць і камэрнасьць гістарычных гарадзкіх ку-

7 Сыракомля У. Мінск // Добрыя весці. Менск, 1993. С. 323–326
8 Тамсама.

точкаў. Зрэшты, як ня мог ён прадбачыць і таго, што яго нашчадкі праз сто гадоў разбураць выбухамі царкву Дабравешчаньня XII стагодзьдзя ў Віцебску і выдатныя менскія помнікі віленскага барока — касьцёлы і кляштары дамініканаў і бэнэдыктынак.

## Як выглядала гістарычная забудова

У апошнія 20–25 гадоў недаацэнка менскай даўніны і няведаньне сапраўднай гісторыі матэрыяльнай культуры гораду дасягнула свайго апагею. Цяпер нават абаронцы старой менскай архітэктуры і тыя, хто займаецца рэстаўрацыяй, сьцьвярджаюць, што стары Менск быў пераважна драўляным горадам, а нешматлікія каменныя пабудовы ў цэнтры былі крытыя бляхай і мала чым адрозьніваліся ад аналягічных спарудаў у іншых губэрнскіх цэнтрах Расеі.

Горад, аднак, такім ня быў. У яго цэнтры было 39 цалкам мураваных кварталаў. Толькі так званы Новы горад у Менску зь яго цэнтральнай вуліцай — Захараўскай, часткова нагадваў сабой расейскі губэрнскі цэнтар. Дый тое некаторыя вуліцы Новага гораду, напрыклад, Дамініканская (пазьней Энгельса) і Юраўская (пазьней Камуністычная, цяпер не існуе), былі забудаваныя зусім не расейскімі камяніцамі. На сёньня захавалася вельмі мала здымкаў гораду з XIX стагодзьдзя, але тыя, што ёсьць — сьведчаць якраз аб эўрапейскім характары менскай забудовы.

Апрача фатографаў, сьведчаньні аб сапраўдным абліччы гораду пакінулі беларускія пісьменьнікі. Вось як пра Менск у 1853 годзе пісаў Павал Шпілеўскі:

«*Минск принадлежит к числу больших и красивых городов Западной России и при настоящем своем благоустройстве и обновленном виде, после пожара в 1835 году, может быть назван столицей Белоруссии; он обширнее и щеголеватее Могилева и Витебска. За исключением Троицкого предместья, Татарского конца и глухих переулков по окраинам города, в Минске все дома каменные и большей частью очень большие, а улицы довольно гладко вымощены камнем и содержатся очень опрятно. Раскинутый на горах и крутизнах Минск почти со всех трактов или въездов представляет прекрасный вид... По горам, по пригоркам красуются здания то высокие и широкие, то узкие и продолговатые, с черепичными крышами во вкусе средних веков...*»[9]

Больш расейскім, з крытымі бляхай стрэхамі Менск пачаў рабіцца ў другой палове XIX стагодзьдзя. Пасьля пажару 1881 году і пазьней, у пачатку XX стагодзьдзя, Менск зазнаў бум ня толькі мураванага будаўніцтва ў цэнтры, але і драўлянай забудовы па ўскраінах. Вось тады ён у значнай ступені і набыў выгляд правінцыйнага расейскага гораду з эклектычнымі будынкамі чырвонай цэглы ў цэнтры. Сказаліся больш чым 100 гадоў знаходжаньня ў складзе Расейскай імпэрыі. Зрэшты, чарапічны завод дзейнічаў у Менску аж да 1950-х гадоў — нават

9 Шпилевский П. М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. С. 131.

перад Другой сусьветнай вайной і адразу пасьля яе шмат будынкаў у горадзе былі крытыя дахоўкай «во вкусе средних веков».

Але і пасьля пажару 1881 году Менск у значнай ступені захаваў свой эўрапейскі выгляд. Расейскія падарожнікі часам неўсьвядомлена адзначалі гэта, зьвяртаючы ўвагу на камэрнасьць прасторы, вузкасьць вуліц, іх чысьціню і вызначаючы тып дамоў на галоўных вуліцах гораду як «старые католические». Вось характэрная цытата з падарожных нататак расейскага эканаміста Андрэя Субоціна, які прыяжджаў у Менск у 1887 годзе:

«*Улицы города довольно чисты; все они вымощены, хотя и нешироки, с удобными тротуарами из поперечных дощечек; видно, что за исправностью этой статьи благоустройства здесь строго наблюдают. Мало того, в городе устроен водопровод, т. е. есть то, чего давно добиваются более богатые города внутренней России. Дома в городе небольшие, но каменных довольно много. Главные улицы, особенно Губернаторская и прилегающие к ней, почти сплошь состоят их каменных, больше двух этажных домов и лучшие здания — кроме гостинницы Сутина — старые католические, а также здание клуба с венецианскими окнами… Живут здесь довольно просторно, хотя дворы и небольшие; подвальных жилищ очень мало, да и те встречаются только на главных улицах и заняты больше мастерскими. По пространству город невелик…*»[10]

10 Субботин А. В черте еврейской оседлости: Отрывки экономических исследований в западной и юго-западной России за лето 1887 г. СПб., 1888. С. 7.

Апісаны Ўладзіславам Сыракомлем і Паўлам Шпілеўскім менскі пэйзаж не стасуецца зь дзеяньнямі сёньняшніх гора-рэстаўратараў, якія аднаўляюць у Менску дамы ў расейскім губэрнскім стылі і накрываюць іх зялёнай бляхай.

Праблема палягае ў ідэалягічным выбары: што аднаўляць — расейскія або дарасейскія ўзоры? Вобразна кажучы, пытаньне стаіць так: бляха або чарапіца? Пакуль перамагае бляха і правінцыйны клясыцызм менскага губэрнскага архітэктара Фёдара Крамера[11].

Вось жа менскі Стары горад — надзвычай важны для беларускай культуры. Там не было такіх выдатных помнікаў, як на Высокім рынку (Верхнім горадзе), але само асяродзьдзе было ня менш вымоўнае за пышнае багацьце апошняга.

З архітэктурных дамінантаў у Старым горадзе да XX стагодзьдзя захавалася толькі рэнэсансная Петрапаўлаўская царква (1612) на Нямізе і дзьве сынагогі на Школьным двары, у тым ліку гатычная Халодная (1570).

У сярэдзіне XIX стагодзьдзя былі разабраныя на будаўнічы матэрыял і часткова ўключаныя ў новую забудову касьцёл і кляштар баніфратраў, які стаяў на паўднёва-заходнім баку Нізкага рынку паміж вуліцамі Зыбіцкай і Казьмадзям'янаўскай. Таксама была разабраная і замкавая ўніяцкая царква. На

11 Менскі губэрнскі архітэктар у канцы XVIII — пачатку XIX стагодзьдзяў. Перабудаваў у стылі правінцыйнага расейскага клясыцызму выдатныя помнікі віленскага барока — менскую ратушу, мужчынскі базыльянскі кляштар (Дваранская вучэльня), Езуіцкую школу (Дом губэрнатара), Езуіцкі калегіюм зь вежай ды інш.

месцы апошняй у XIX стагодзьдзі зьявілася сынагога цэху мясьнікоў.

Але сам пляц Нізкага рынку, бясспрэчна, меў гатычную пляніроўку зь веерам з шасьці вуліц, якія часта пад вострымі вугламі разыходзіліся ў розныя бакі. Нізкі рынак меў два комплексы арачных гандлёвых радоў, у тым ліку шыкоўныя Мясныя рады з чырвонай цэглы, якія, падпіраючы замкавы вал у тупіку на вуліцы Нова-Мясьніцкай, стваралі ўражаньне магутнай сярэднявечнай фартэцыі. Другія арачныя гандлёвыя рады цягнуліся ламанай лініяй уздоўж берагу Сьвіслачы, падпіраючы замкавы вал з усходу.

Другі гандлёвы вузел Старога гораду — Рыбны рынак — таксама быў элемэнтам гатычнай пляніровачнай канструкцыі з удзелам вуліц Нямiскай і Ракаўскай і меў мураваныя гандлёвыя рады.

Ужо на мапах XVIII стагодзьдзя Нізкі рынак цалкам аточаны мураванымі дамамі. Цалкам забудавана камяніцамі і вуліца, якая першая ў канцы XVI стагодзьдзя зьвязала Нізкі і Высокі рынкі — Казьмадзям'янаўская. Гэта першая цалкам мураваная вуліца Менску. Можна не сумнявацца, што першыя мураваныя дамы паўсталі на гэтай вуліцы ўжо ў канцы XVI — пачатку XVII стагодзьдзяў, там жа была першая менская аптэка.

На Замчышчы да Першай сусьветнай вайны стаяў непашкоджаны будынак Трыбуналу Вялікага Княства Літоўскага. Яго можна бачыць на малюнках Язэпа Драздовіча.

У Старым горадзе была самая вузкая менская вуліца — ламанай трасы адрэзак Нямігі паміж Нізкім і Рыбным рынкамі. Адлегласьць паміж пе-

раважна трохпавярховымі дамамі на гэтым участку складала 4–6 мэтраў. Быў у Старым горадзе і самы вузкі менскі завулак — Рыбны (меў шырыню 2–3 мэтры); ён вузкім ламаным праходам зьвязваў Рыбны рынак (або Біржавы завулак) з вуліцай Школьнай[12]. І, нарэшце, была там ужо згаданая самая старая мураваная і самая калярытная сваёй атмасфэрай менская вуліца — Казьмадзям'янаўская, якая вузкай стужкай вілася зь Нізкага рынку ў Верхні горад.

Шчыльная мяшчанская і купецкая забудова Старога гораду, два гандлёвыя пляцы — Нізкага і Рыбнага рынкаў, арачныя гандлёвыя рады, Замчышча і шэраг вузкіх і крывых брукаваных вуліц стваралі непаўторны калярыт сярэднявечнага эўрапейскага гораду.

Тое, што большасьць пабудоваў Старога гораду паходзіла з XIX стагодзьдзя, як сёньня прынята лічыць, толькі часткова адпавядае сапраўднасьці. Датаваньне XIX стагодзьдзем — умоўнае. Насамрэч дамы Нізкага рынку і вуліцы Казьмадзям'янаўскай былі пабудаваныя ў XVIII–XIX стагодзьдзях з выкарыстаньнем элемэнтаў камяніцаў XVII і,

12 Назва завулку ўмоўная. Высьветліць сапраўдную назву не ўдалося. На мапах і плянах гораду ён не пазначаўся — іх складальнікі, верагодна, лічылі яго проста вузкім праходам паміж дамамі. Тым ня менш на аэраздымках 1917–1918 гадоў ён добра бачны. На аэраздымках 1941 году відаць, што завулак у сваёй цэнтральнай частцы амаль перакрыты рогам унутрыквартальнага дому, які пабудавалі або дабудавалі ў міжваенны час. Апытаныя менчукі пацьвердзілі існаваньне завулку. Некаторыя зь іх казалі: «А-а, памятаю гэты завулак. Мы яго называлі проста Прахадняк...» (В. Кіпель) Завулак бяз назвы для Менску — ня рэдкасьць. Паводле Захара Шыбекі, у 1911 годзе ў Менску было 19 безыменных завулкаў.

магчыма, канца XVI стагодзьдзяў. Таму іх сьмела можна лічыць помнікамі XVI–XIX стагодзьдзяў. На здымках пасьляваенных руінаў Старога гораду можна ўбачыць значна старэйшыя за XIX стагодзьдзе скляпеністыя столі цокальных паверхаў і лёхаў.

## Хто і як будаваў дамы і плошчы

Для таго, каб зразумець каштоўнасьць менскай архітэктуры XIX стагодзьдзя, трэба ведаць наступнае.

Нягледзячы на захапленьне Сыракомлі менскай «эўрапейскасьцю» ў выглядзе шырокіх і прамых вуліц Новага гораду, Менск XIX стагодзьдзя ў архітэктурным сэнсе, як і ў папярэднія стагодзьдзі, быў кансэрватыўным горадам і захоўваў старыя традыцыі будаўніцтва. Усё стагодзьдзе нягледзячы на 100-гадовае знаходжаньне ў складзе Расейскай імпэрыі ў горадзе захоўвалася цэхавая арганізацыя рамесьнікаў.

Зьвесткі аб менскіх рамесьніках у гістарычнай літаратуры сустракаюцца вельмі адрозныя. Напрыклад, паводле Аляксандра Ельскага, у 1885 годзе ў менскія цэхі ўваходзіла каля 130 цэхавых майстроў, 400 чаляднікаў і 270 вучняў[13]. Аднак, паводле іншых, значна больш сур’ёзных дасьледаваньняў, цэхавых рамесьнікаў было на парадак болей. Паводле беларускага гісторыка 1920-х гадоў Р. Рака, у 1866 годзе ў менскія цэхі ўваходзіла 2048 майстроў, чаляднікаў і вучняў, а ў 1885 годзе гэтая

13 Ельскі А. Мінск // Выбранае. Менск, 2004. С. 156.

лічба вырасла да 4874[14]. Колькасьць цэхаў у Менску ў другой палове XIX стагодзьдзя дасягнула 41[15]. У будаўніцтве дамоў бралі ўдзел прадстаўнікі цэхаў муляраў, будаўнікоў, кавалёў, бляхароў, маляроў, шкляроў.

Структуру і традыцыі цэхі захавалі з XVI–XVII стагодзьдзяў, зьмяніліся толькі некаторыя функцыі і назвы. У XIX стагодзьдзі каб стаць майстрам, трэба было тры гады быць вучнем, столькі ж чаляднікам, пасьля пасьпяхова здаць экзамэн на выраб «штукі» перад камісіяй зь ліку старых майстроў і ўнесьці тры рублі ў цэхавую касу. У першай палове XIX стагодзьдзя ў Менску яшчэ праводзіліся парады цэхаў з харугвамі.

Кіравалі менскімі цэхамі старасты (колішнія цэхмістры), якіх абіралі на агульным сходзе майстроў. Старасты, у сваю чаргу, на агульным сходзе абіралі гарадзкую цэхавую ўправу. Старасты цэхаў арганізоўвалі экзамэны-экспэртызы, разьвязвалі канфлікты і зьбіралі падаткі.

Другая палова XIX стагодзьдзя прынесла ў жыцьцё менскіх цэхаў і новыя павевы. У 1887 годзе чаляднікі і вучні кавальскага і сьлясарнага цэхаў абвясьцілі страйк з патрабаваньнем зьменшыць працоўны дзень з 14 да 12 гадзін (з 6-ай раніцы да 6-ай вечара, а не да 8-ай, як было раней) і зраўняць заробак вучняў і чаляднікаў. На бок майстроў, аднак, сталі паліцыя і ўлады, арганізатары страйку былі пакараныя[16].

14 Рак Р. Рамесьнік м. Менску да рэволюцыі 1917 г. // Наш край. 1927. №4. С. 5–15.

15 Тамсама. С. 9.

16 Тамсама. С. 10.

У цэхах у другой палове XIX стагодзьдзя кольказна пераважалі габрэі. Якраз зь іх перавагай і была зьвязаная ліквідацыя цэхавай арганізацыі рамесьнікаў у Беларусі ў пачатку XX стагодзьдзя. Справа ў тым, што пасьведчаньне цэхавага майстра давала габрэям права перасякаць «рысу аселасьці», падарожнічаць і сяліцца па ўсёй Расейскай імпэрыі. Але скасаваньне «рысы аселасьці» не ўваходзіла ў пляны расейскага ўраду, таму цэхі былі распушчаныя[17].

Тым ня менш, захаваньне цэхавай структуры праз усё XIX стагодзьдзе азначала і захаваньне старых будаўнічых традыцый. Калі, скажам, цэхавыя майстры ў XIX стагодзьдзі будавалі шараговыя, не запраектаваныя тагачаснымі моднымі архітэктарамі 2–3-павярховыя дамы ў Старым горадзе, напрыклад, на Замчышчы, яны захоўвалі традыцыі — цэхі, як вядома, былі вельмі кансэрватыўнай структурай.

Тыя дамы сваім выглядам нагадвалі камяніцы XVIII стагодзьдзя — такія будынкі можна было бачыць у ваколіцах Нізкага рынку, напрыклад, на вуліцы Замкавай. Там былі больш стромыя дахі, маленькія вокны з частымі аконнымі рамамі і тоўстыя сьцены. Замкавая была брукаваная так званым бутавым каменем (або глыжамі), а тратуары ўздоўж Замкавай — дошкамі або каменнымі плітамі. Традыцыі XVIII стагодзьдзя цэхавыя майстры працягвалі як у пачатку XIX стагодзьдзя, так і ў яго другой палове.

17 Тамсама. С. 6.

У 1885 годзе ў Менску, паводле Аляксандра Ельскага, было 1600 дамоў, у тым ліку 1100 мураваных[18]. Ужо згаданы тут расейскі эканаміст Андрэй Субоцін пісаў, што паводле стану на 1860 год у Менску было 2155 дамоў, у тым ліку, 427 мураваных; паводле ж стану на 1887 год Субоцін называе лічбу 4000 дамоў, у тым ліку мураваных — каля 1000[19]. Верагодна, Субоцін улічваў менскія прадмесьці ў шырокім сэнсе.

У 1881 годзе горад перажыў вялікі пажар, які зьнішчыў значную частку пабудоваў на захад і паўднёвы захад ад Старога гораду (ад Нямігі да вакзалу, паводле сёньняшніх каардынатаў). Згарэла і частка забудовы Замчышча. Лічыцца, што Менск тады страціў каля 1000 дамоў. Аднак гэты самы пажар даў штуршок новаму мураванаму будаўніцтву. Якраз канец ХІХ-га і пачатак ХХ стагодзьдзяў — пара самай актыўнай забудовы гораду.

У Старым горадзе вуліцы Замкавую, Нова-Мясьніцкую і Завальную забудоўвалі цэхавыя майстры на свой капыл — так як умелі, па-старому. Там яшчэ можна было сустрэць скляпеньні ў першых паверхах і арках-брамах, у дварах — нязьменныя драўляныя галерэі; прыбіральні таксама пераважна разьмяшчаліся ў дварах. У тым самым часе ў Новым горадзе паўставалі будынкі ў стылі мадэрн, а троху пазьней, у пачатку ХХ-га — эклектычныя, з рэтраспэктыўнымі алюзіямі на вялікія стылі.

Да 1896 году колькасьць мураваных будынкаў у Менску дасягнула 2110, а ў 1911 годзе камяніцаў

18 Ельскі А. Выбранае. С. 155.
19 Субботин А. В черте еврейской оседлости… С. 9.

было ўжо 2709[20]. У цэнтры гораду, як ужо было сказана, налічвалася 39 цалкам мураваных кварталаў. Разам з тым ускраіны актыўна забудоўваліся драўлянымі дамамі, і таму агульны лік будынкаў у Менску на 1911 год склаў 10 300[21].

6–7 працэнтаў гарадзкой забудовы складалі «зьмешаныя» дамы: першыя мураваныя паверхі ў іх прызначаліся пад майстэрні і крамы, а верхнія драўляныя — для жыцьця гаспадароў.

У 1901 годзе цэхавая арганізацыя менскіх майстроў была скасаваная. Адгэтуль права займацца рамяством атрымаў кожны, а будаўніцтва стала больш адпаведным эпосе.

## Вулічная атмасфэра да рэвалюцыі 1917 году

Нягледзячы на 100-гадовае знаходжаньне ў складзе Расейскай імпэрыі Менск да другой паловы XIX стагодзьдзя захоўваў свой старадаўні рамесьніцка-купецкі характар. Гэта можна назваць фэнамэнальнай асаблівасьцю менскай гісторыі — настолькі моцнаю была цэхавая традыцыя, закладзеная мяшчанамі ў XV–XVI стагодзьдзях.

Зноў цытата зь менскіх уражаньняў Андрэя Субоціна:

«*Обилие и разнообразие торговых заведений поражает всякого обывателя внутренней России…*

20 Шыбека З. В., Шыбека С. Ф. Мінск. Старонкі жыцця дарэвалюцыйнага горада. Менск, 1994. С. 86.
21 Тамсама. С. 90.

*Достаточно сказать, что на 3000 домов здесь более 2000 торговых заведений или по одному на 30–35 душ, тогда как в губернских городах внутренней России по одному на 100–200 жителей; при том в Минске, как и в других городах черты еврейской оседлости, бросается в глаза и другая особенность, отличающая их от наших чисто российских городов — это децентрализация торговых заведений, представляющая немалые удобства для обывателей... Проходя и проезжая по Минску, изумляешься обилию лавок, торгующего и промышляющего люда; невольно задаёшь себе вопрос — кто же у кого покупает? и разрешаешь этот вопрос так: должно быть, покупают друг у друга — сапожник у булочника, портной у мясника, булочники у портного и т. д. Да оно почти так и бывает, ибо покупателя в собственном смысле, т. е. такого, который сам ничего не производит, в городе очень немного...*»[22]

Нягледзячы на наяўнасьць у горадзе некалькіх рынкаў — Траецкага, Сураскага і іншых — менавіта Стары горад зь Нізкім і Рыбным рынкамі заставаўся асноўным гандлёвым раёнам гораду да 20-х гадоў XX стагодзьдзя. Праўда, мела месца пэўнае разьдзяленьне спэцыялізацыяў паміж рынкамі.

На Траецкім рынку сяляне Меншчыны прадавалі з падводаў свойскую жывёлу і птушак, ганчарныя вырабы, садавіну, гародніну і прадукты жывёлагадоўлі — каўбасы, кумпякі, паляндвіцы, масла, тварог, сыр і іншыя вырабы. Там жа менскія рамесьнікі прадавалі сялянам земляробчы інвэнтар і прадметы побыту.

22 Субботин А. В черте еврейской оседлости... С. 13–14.

А на Нізкім і Рыбным рынках гандлявалі пераважна прафэсійныя гандляры — там існавала мноства ятак і дробных крамак у гандлёвых радах, дзе гандлявалі мясам, селядцамі, тытунём і прамысловымі вырабамі, а з імправізаваных прылаўкаў і бязь іх, у падваротнях, дварах, на вуліцах і завулках гандлявалі самаробнай ежай і пітвом.

Ужо ня раз згаданы тут Андрэй Субоцін пакінуў маляўнічыя апісаньні рынкаў Старога гораду. Вось як ён пісаў пра Рыбны рынак, зблытаўшы яго назву зь Нізкім:

«*В Минске гостинного двора нет, а есть ряды лавок около собора, нижний базар за синагогой с сотнями лотков, ларей и клетушков с дешёвым товаром, узкий, грязный переулок, именуемый пассажем, сплошь занятый лавками с готовым платьем и днём постоянно наполненный гвалтом и зазыванием, как у нас на толкучках, или в Петербурге на Апраксином и Александровском рынках…*»[23]

Атмасфэру Нізкага рынку Субоцін перадаў наступным чынам:

«*Вот проходим по базару, где окружающие низенькие каменные здания сплошь заняты лавками. Съёмная плата за лавки обыкновенно по 2–3 р. в неделю за лавку в одно окно и по 4–5 р. — в два окна; недельная плата вообще развита в черте еврейской оседлости… Осмотрев много… лавок прошли мы на толкучку, где стояла ступа непротолчённая: литвины в серых свитках, русские мужички в зипунах, солдаты, мещане и мещанки, евреи и всякий другой народ, не столько покупали, сколько торгова-*

23 Тамсама. С. 14.

*лись и толкались; вдоль базара правильными рядами расположены навесы с разной снедью — рыба, мясо, овощи, хлеб, масло и др.*»[24]

У Менску асабліва славіліся пякарскія вырабы, што прадаваліся на Нізкім рынку. Цётак, якія там займаліся пякарствам, менчукі называлі «пекаркі». Яны прадавалі посныя і масьленыя баранкі, сітніцы, крэндзелі, булкі, сухары, куханы (асобага гатунку белы хлеб) з маслам, кмінам і цыбуляй, таўкачыкі з грэцкіх круп і так званыя «картафляшкі» (з бульбы)[25].

Пры выхадзе на Нізкі рынак вуліцы Стара-Мясьніцкай (Старазамкавай, вяла да Замкавай) было месца, якое сёньня назвалі б «пунктам грамадзкага харчаваньня». Вось як яго апісаў у сваіх падарожных нататках Павал Шпілеўскі:

«*Близ Замковой улицы есть так называемый Смачный куток (Вкусный угол), нечто вроде обжорного ряда, где за пять копеек серебром угощают крупником (супом из круп) и куском говядины, также колдунами (пирменями) и воловьей печенкой*»[26].

На Нізкім рынку гандлявалі і алькагольнымі напоямі. Апрача расейскай гарэлкі, прадавалі і мясцовыя нацыянальныя напоі. Эксклюзівам Нізкага рынку быў зьбіцень, які гатавалі зь лістоў аеру, мёду і патакі. Адным з найбольш улюбёных напояў менчукоў была кава. Яе таксама ў розным выглядзе прадавалі на Нізкім рынку.

24 Тамсама. С. 15, 17.
25 Грамадскі быт і культура гарадскога насельніцтва Беларусі. Менск, 1990. С. 50.
26 Шпилевский П. М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. С. 140.

Склад гандляроў Нізкага рынку быў інтэрнацыянальны — апрача беларусаў і габрэяў, там можна было сустрэць нават кітайцаў з заплеценымі ў косачкі валасамі, яны гандлявалі цацкамі і маляўнічымі веерамі. Але габрэі, вядома, дамінавалі. Паводле тагачасных афіцыйных крыніц, у 1887 годзе ў Менску і Менскім павеце 88% купцоў былі габрэямі[27].

Але на архітэктуры Старога гораду перавага габрэяў, за выключэньнем адзінкавых выпадкаў, як, напрыклад, некаторыя архітэктурныя элемэнты Школьнага двара, ніяк не адбілася. Гэта зьвязана з цэхавай спэцыфікай гарадзкога будаўніцтва XIX стагодзьдзя, а таксама з тым, што частка дамоў Старога гораду, найперш Нізкага рынку і яго ваколіц, узыходзіла да XVII–XVIII стагодзьдзяў.

27 Субботин А. В черте еврейской оседлости… С. 11.

Частка II

# Стары горад і БНР



## Гістарызм і любоў да мінулага як палітыка

Дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі ад самага моманту яе стварэньня зьвярнулі ўвагу на патрэбу адраджэньня беларускай гістарычнай спадчыны і выхаваньня ў беларусаў гістарычнай сьвядомасьці. Можна нават сказаць, што гісторыя БНР зь першых дзён, ад самога моманту правядзеньня ў Менску Ўсебеларускага зьезду, вызначаецца скрайнім гістарызмам. Айцы БНР усяляк дэманстравалі, што аснову сваёй ідэалёгіі яны шукаюць і знаходзяць у слаўнай і гераічнай мінуўшчыне Бацькаўшчыны і што кожны беларус мае чым у гісторыі ганарыцца.

Ужо ў 1917–1918 гадах былі закладзеныя многія з агульнапрызнаных сёньня нарожных камянёў беларускага гістарызму. Шэраг публікацыяў Рамуальда Зямкевіча і Максіма Гарэцкага трывала ўгрунтавалі імя Францішка Скарыны ў беларускую гістарычную сьвядомасьць.

У жніўні 1917 году споўнілася 400 гадоў беларускаму кнігадрукаваньню. Юбілей быў добра выкарыстаны беларускімі дзеячамі. У «Вольнай Беларусі» за месяц выйшла некалькі сур'ёзных публікацыяў. Гарэцкі напісаў грунтоўны артыкул «Доктар Францыск Скарына»[28]. Але найболей адзначыўся

28 Гл.: Вольная Беларусь. 8 жніўня 1917.

Рамуальд Зямкевіч. Ён напісаў аж тры артыкулы пра Скарыну і беларускі друк. Гэта «400-лецьце беларускага друку»[29], «Значэньне Францішка Скарыны ў беларускай культуры»[30] і «Друк Скарыны і друк сучасны»[31]. У першым зь іх Зямкевіч прапанаваў заснаваць «мэдаль Скарыны, каб даваць яго ў знак заслугі нашым найлепшым пісьменьнікам ды дзеячам», і сьцьвярджаў, што Іван Фёдараў быў беларусам.

Асабліва каштоўнаю ў той сытуацыі была палымяная публіцыстыка Зямкевіча:

«*Але, як ніяк, нас зьніштожыць паны-абрусіцелі не здалелі, — ня ўдасца гэта ім і ў будучыні... Нам, беларусам, няма чаго брацца за чужое, годзе ўжо служыць гноем пад чужую культуру. Мы маем сваё мінулае дый не абы якое, цяперашняе рунее й красуе надзіва, ёсьць з чаго быць гордым і будучына будзе нашай... Наша справа жывая ды сьвятая, дагэтуль ніякая сіла нас зламаць не магла і зламаць ня зможа. Народ з гэтакім мінулым не прападзе*»[32].

Ужо падчас працы ў Менску Першага Ўсебеларускага зьезду ў сьнежні 1917 году яго дэлегатам былі прачытаныя лекцыі па гісторыі Беларусі. Паводле сьведчаньня ўдзельніка зьезду, выдатнага беларускага палітычнага дзеяча, журналіста і паэта, аўтара гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» Макара Косьцевіча (Краўцова Макара), тыя лекцыі дапамаглі амаль дзьвюм тысячам дэлегатаў зьезду

29 Тамсама.
30 Гл.: Вольная Беларусь. 11 жніўня 1917.
31 Гл.: Вольная Беларусь. 28 жніўня 1917.
32 Вольная Беларусь. 8 жніўня 1917.

пераадолець раскол на левых і правых, а таксама падзел на губэрнскія зямляцтвы[33].

Ганаровы старшыня Зьезду, славуты беларускі навуковец, акадэмік Расейскай акадэміі навук Яўхім Карскі прачытаў дэлегатам лекцыю аб асаблівасьцях беларускай мовы, тэрыторыі і этнаграфіі Беларусі[34]. Другая прачытаная на Зьезьдзе лекцыя называлася «Полацкі пэрыяд беларускай гісторыі» — яе дэлегатам зьезду прачытаў вядомы рэлігійны дзяяч ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі[35]. Гэтых двух сьціплых гістарычных экскурсаў аказалася дастаткова, каб дэлегаты пранікліся духам нацыянальнага адзінства і дружна ўзяліся за работу — раскол быў пераадолены.

Пасьля абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 году пачаліся пошукі дзяржаўных атрыбутаў — сымбаляў, узнагародаў, тэрміналёгіі і іншых традыцыйных атрыбутаў дзяржаўнасьці. Гістарызм дзеячоў БНР выявіўся ў факце выбару ў якасьці дзяржаўных сымбаляў бел-чырвона-белага сьцяга і герба «Пагоня». «Літоўская Пагоня — гэта беларускі дзяржаўны герб. Яго ўжывалі ўсе даўнейшыя беларускія ваяводзтвы», — пісаў у тыя часы Язэп Лёсік[36].

У траўні 1918 году прафэсар Мітрафан Доўнар-Запольскі выступае ў газэце «Вольная Беларусь» з праграмным артыкулам, у якім прапануе абаперціся ў дзяржаўным будаўніцтве на беларускую гісторыю

33 Краўцоў Макар. Ўсебеларускі зьезд 1917 г. Вільня, 1921. С. 24.
34 Тамсама.
35 Тамсама.
36 Лёсік Я. «Літва — Беларусь» // Школа и культура Советской Белоруссии. 1921. №1–2. С. 17.

пэрыяду Вялікага Княства Літоўскага. Спачатку ён піша пра агульнадзяржаўныя ўстановы і пасады:

*«Слова рэспубліка ў нашай мове няма: трэба ўжываць —* ***Рэч Паспалітая****... Парлямэнт павінен атрымаць найменьне* ***Вальнага Сойму****, а Ўстаноўчы Сойм —* ***Вялікага Вальнага Сойму****; старшыня парлямэнту —* ***маршалак галоўны****; дэпутаты —* ***паслы****; рада міністраў —* ***Рада****. У складзе Рады павінны мець мейсца гэткія міністры:* ***канцлер*** *(старшыня, або міністар міжнародных спраў);* ***падскарбі земскі*** *(міністар фінансаў);* ***маршалак земскі*** *(міністар юстыцыі);* ***гэтман*** *(міністар вайсковы)...»*[37]

Для будучай беларускай судовай сыстэмы Доўнар-Запольскі прапаноўваў гэткую тэрміналёгію:

*«Па судовым справам трэба ўстанавіць гэтакія тэрміны:* ***галоўны трыбунал****, як кожны сэнат. Пры ім —* ***падкаморы земскі*** *— загадчык мяжоваю часьцю. Угалоўны суд —* ***суд гродзкі****, грамадзянскі суд —* ***суд земскі****. Пры суду павінны быць* ***пракуратары****,* ***інстыгатары****, або* ***віжы*** *(следователи); міравы —* ***копны судзьдзя****... Суд засядае ў* ***судовай ізьбе****, ён назначае* ***судовыя рокі*** *(тэрміны), мае* ***парады*** *— пасядзеньні, мае* ***намовы*** *(нарады), вядзе* ***рэцэсы*** *— пратаколы. На судзе выступаюць* ***умацаваныя*** *— адвакаты, каторыя падтрымоўваюць або старану* ***адпорную*** *(ответчик), або* ***павадовую*** *(истец)...»*[38]

37 Доўнар-Запольскі М. К пытаньню аб найменьні дзяржаўных установаў // Вольная Беларусь. 26 траўня 1918.

38 Тамсама.

І, нарэшце, фінансавыя і мясцовыя органы гісторык прапанаваў называць наступным чынам:

«*У фінансавым загадзе пры падскарбію земскім маецца рада — **скарбовы трыбунал**. Розныя чыноўнікі гэтага міністэрства носяць найменьні: **бірчых**, **паборцаў**, **скарбнікаў**, **рэфэрандароў**, **рэвізораў**, **шафароў**... Таможня — **мытная камора**, пошліна — **мыта**. Раскладка падаткаў — **разрубы**, **разьмёты**...*

*Гарадзкое самаўпраўленьне складаецца з **рады галоўнай мескай** (думы), гарадзкі галава — **войт**, гарадзкая ўправа — **рада бурмістраў**, а засядае рада ў **ратушы**...*»[39]

Гэта толькі невялікія фрагмэнты. Увесь артыкул, натуральна, ахопліваў большасьць галінаў дзяржаўнага і грамадзкага жыцьця, а ўсе прапанаваныя тэрміны забясьпечваліся адпаведнымі тлумачэньнямі і аналёгіямі. Заканчваўся артыкул прафэсара Доўнар-Запольскага гэткім заклікам:

«*Я ўпрашаў бы землякоў не баяцца старасьвецкай праўнай тэрміналёгіі. Уся яна злажылася ў нас у 16-м веку; ёю нашыя продкі карысталіся аж да 18-га веку і часткаю нават да 1830-га году... Будзем аднаўляць наш праўны язык зь Літоўскага Статуту... Тэрміналёгія Статуту ўтварылася ў часы нашай дзяржаўнай (панствовай) незалежнасьці. Нам трэба расстацца з расійскім правам і тэрміналёгіяй. Гэта трэба і можна...*»[40]

У сьнежні 1919 году шэф Вайскова-дыпляматычнай місіі БНР у Рызе палкоўнік Кастусь Езавітаў

39 Тамсама.
40 Тамсама.

зьвяртаецца да надзвычайнага пасла БНР у краінах Балтыі Кляўдыюша Душэўскага з рапартам, у якім прапануе заснаваць для адзначэньня салдат і афіцэраў Асобнага атраду БНР пад камандаваньнем генэрала Станіслава Булак-Балаховіча і ўзьняцьця іх баявога духу Полацкі беларускі крыж. Разам з тым Езавітаў задумвае Полацкі беларускі крыж як найвышэйшую ўзнагароду БНР:

«*Прапаную... зацьвердзіць тутака прэдстаўляемае пры гэтым "Палажэньне аб Полацкім Беларускім Крыжэ" і зацьвердзіць праект гэтага Крыжа і ордзенскай да яго стужкі. Дадатак: палажэньне і фатаграфія Крыжа і ордзенскай стужкі да яго. Палажэньне аб Ордзене "Полацкага Беларускага Крыжа". І. Полацкі Беларускі Крыж зьяўляецца ядзіным ордзенам БНР і выдаецца як у вайсковыя, так і ў мірныя часы за асобыя заслугі грамадзянам БНР перад Бацькаўшчынаю. ІІ. Ордзен мае пяць сьцепеняў с падразьдзяленьнем кожнай на мірную і вайсковую катэгорыі... V. Ордзен выдаецца кожны раз па пастанове Рады Міністраў БНР*»[41].

Гісторыя робіцца для тагачасных беларускіх палітыкаў і журналістаў невычэрпнай крыніцай аргумэнтаў у агітацыі і прапагандзе. Газэта «Звон» у верасьні 1919 году зьмясьціла рэдакцыйны артыкул «Як мы гэта разумеем»:

«*...Цяпер мы кіруемся на Захад дзеля нашай палітычнай слабасьці (маюцца на ўвазе надзеі тагачасных дзеячоў на Польшчу — С. А.), але нашая арыентацыя мае пад сабою цьвёрды гістарычны*

41 Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Вільня—Нью-Ёрк—Менск—Прага, 1998. Т. 1. Кн. 1. С. 555–556.

*грунт і гістарычныя традыцыі, выпрабаваныя нашай гісторыяй і жыцьцём нашых прэдкаў*»[42].

Падобнымі артыкуламі, праектамі і прапановамі поўніцца ўвесь тагачасны беларускі друк. Падзеі і героі беларускай гісторыі робяцца прадметам вывучэньня на тагачасных настаўніцкіх курсах, у беларускіх школах, уключаюцца ў падручнікі і чытанкі.

У тым самым часе пачынае шанавацца і зусім нядаўняя гісторыя. 25 сакавіка 1920 году, у другую гадавіну абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, настаўнікі менскіх беларускіх школ вывелі сваіх вучняў на першую ў гісторыі дэманстрацыю з нагоды Дня Незалежнасьці[43]. У праваслаўных і каталіцкіх храмах Менску з удзелам дзяржаўных і грамадзкіх дзеячоў, вучняў менскіх беларускіх школаў у гэты дзень ішлі ўрачыстыя набажэнствы, а беларускія тэатральныя трупы давалі тры спэктаклі — а 16-й гадзіне ў «Беларускай хатцы» для дзяцей, і яшчэ два спэктаклі а 19-й гадзіне ў гарадзкім тэатры і «Беларускай хатцы» для публікі ўсіх узростаў[44].

У афіцыйных дакумэнтах, мэмарандумах і зваротах Ураду БНР да замежных урадаў і міжнародных структураў робяцца пашыраныя гістарычныя экскурсы. У «Ноце Рады Народных Міністраў БНР Ураду Злучаных Штатаў Паўночнай Амэрыкі» за подпісам Вацлава Ластоўскага, напрыклад, пісалася:

42 Звон. 8 верасьня 1919.
43 Улашчык М. Хроніка // Выбранае. Менск, 2001. С. 325.
44 Беларусь. 24 сакавіка 1920.

*«Народ беларускі трапіў у Расейскую няволю ў самым канцы XVIII сталецьця і адразу пачалася зь ім расправа. Першы ўдар быў скіраваны на нашу культуру і веру. Прасьледаваньні гугенотаў у Францыі бледнуць перад тымі прасьледаваньнямі, якія выносілі беларусы-ўніяты ў Расеі, наша ўніяцкае духавенства. Расея вынішчыла цэрквы, манастыры і іх маетнасьці забрала, а кнігі папаліла. Блізка сто гадоў, да 1905 г., беларусы ня мелі права выдаць ніводнай кнігі на сваёй мове, ня мелі права маліцца на сваёй мове...»*[45]

Пільную ўвагу дзеячы БНР зьвяртаюць на царкоўную сытуацыю ў Беларусі. Увесну 1920 году газэта «Беларусь» у артыкуле «Аб беларускім праваслаўі» выступіла з крытыкай русыфікатарскай пазыцыі Праваслаўнай царквы ў Беларусі[46]. Артыкул гэты выклікаў абурэньне ў праваслаўных колах і лісты пратэсту ў рэдакцыю. Лёсіку нават давялося апраўдвацца[47]. Тым ня менш, праз паўтара месяца «Беларусь» у артыкуле «Ці патрэбна беларусам вунія?» выступіла з праектам адраджэньня Ўніяцкай царквы ў Беларусі:

«...*Прызнаньне над сабою галавенства папы было б вельмі карыснае. Злучэньне цэркваў на Беларусі павінна ісьці па двух кірунках: у праваслаўных цэрквах служэньне вядзецца на славянскай мове па чыну грэцкаму, казаньні ідуць па-беларуску. У касьцёлах Беларусі мша служыцца па лаціне, дадатковае*

45 Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 2. С. 869.

46 Беларусь. 14 сакавіка 1920. С. 1–2. Артыкул падпісаны крыптанімам «Б.»

47 Гл.: Лёсік Я. Некалькі слоў беларускім сьвяшчэньнікам // Беларусь. 9 чэрвеня 1920.

*набажэнства і казаньне адбываецца ў беларускай мове...*»[48]

Дзеячы БНР, якія гуртаваліся ў 1919–1920 гадах вакол газэты «Беларусь», адстойвалі права беларусаў на спадчыну ВКЛ, назву «Літва» і на Вільню. Прычым тагачасныя выступы і публікацыі на гэтую тэму адрозьніваліся аптымізмам і надзеяй на хуткі посьпех беларускай справы. Фактычна тады былі закладзеныя падмуркі сучасных патрыятычных канцэпцыяў гісторыі Беларусі і сфармуляваныя іх асноўныя пастуляты. У лютым 1920 году Язэп Лёсік (пад псэўданімам «Я. Ксяневіч») выступіў з артыкулам «У справе тэрміну Літва»:

«... *Даўнейшая Жмудзь, а цяперашняя Літва не заўсёды навет належала да Літоўска-Беларускай дзяржавы... Сам народ спаў, а тэрмін Літва падказаў пакінуць усю гэтую “непрыемную гісторыю” на Жмудзь, тым больш, што некаторыя сьвятлейшыя жмудзіны ахвотна называлі сябе літоўцамі і лічылі гісторыю даўнейшай Беларуска-Літоўскай дзяржавы сваёю гісторыяй. Няхай сабе цешацца: жмудзіны народ невялічкі, і яго можна будзе зьесьці, не баючыся яго гісторыі. Іншая справа Беларусь, Украіна...*»[49]

Час паказаў, наколькі наіўным быў той аптымізм.

Праз тыдзень, 2 сакавіка 1920 году, Лёсік пад тым самым псэўданімам апублікаваў артыкул «У справе прыналежнасьці Вільні». Аўтар адстойваў беларускасьць Вільні і сьцьвярджаў, што пры вызначэньні дзяржаўнай і нацыянальнай прыналежнасьці таго

48 Беларусь. 21 красавіка 1920. Артыкул падпісаны крыптанімам «А.».

49 Беларусь. 26 лютага 1920.

або іншага гораду ня трэба зьвяртаць увагу на склад яго насельніцтва:

«*У межах этнаграфічнага расьсяленьня беларускага народу ўсе гарады* ***беларускія***. *Культурная асыміляцыя — зьяўленьне штучнае, часовае, ненатуральнае. Калі беларускія гарады маглі апалячыцца ці абмаскаліцца, то гэтакім парадкам яны могуць і абеларусіцца*»[50].

У Менску пачынаюць чытаць лекцыі па гісторыі Беларусі. У студзені 1920 году «Беларусь» паведамляе:

«*У таварыстве "Хрысьціянска-дэмакратычнай злучнасьці" па нядзелях чытаюцца для народу лекцыі. Па сьвятой гісторыі чытае кс. Абрантовіч, па гісторыі Беларусі — член Рады Пупко*»[51].

Адначасова з прапагандай беларускай гісторыі і спадчыны ВКЛ беларускія дзеячы задумваюцца над тым, дзе ёсьць цэнтар Беларусі, які горад будзе сталіцай новаабвешчанай беларускай дзяржавы. Акт 25 Сакавіка замацоўваў Вільню ў складзе БНР, але бурлівыя палітычныя падзеі і больш моцныя геапалітычныя гульцы рэгіёну пакінулі старую сталіцу па-за ўплывам дзеячоў БНР. Горад па чарзе абвяшчаўся сталіцай незалежнай Літвы, сталіцай Літоўска-Беларускай ССР, марыянэтачнай Сярэдняй Літвы і, нарэшце, у 1922 годзе быў уключаны ў склад Другой Рэчы Паспалітай як цэнтар Віленскага ваяводзтва.

У такой сытуацыі на першае месца вылучыўся Менск як другі пасьля Вільні горад Беларусі. Пры

50 Беларусь. 2 сакавіка 1920.
51 Беларусь. 23 студзеня 1920.

тым, што самі дзяржаўныя дзеячы БНР яшчэ ня трацілі надзеі на здабыцьцё Вільні або толькі разважалі, які горад будзе другой сталіцай, разьвіцьцё палітычных падзеяў і сымпатыі творчай інтэлігенцыі схілілі шалі на бок Менску.

У адным зь лістоў да прэм'ер-міністра БНР Антона Луцкевіча ў верасьні 1919 году Макар Косьцевіч называе Менск «сэрцам Беларусі»[52]. У кастрычніку таго самага году менская беларуская газэта «Звон» паўтарае тую самую думку: «Менск — сэрца Беларусі, яе этнаграфічная сталіца...»[53]

## Менск становіцца сталіцай

У другой палове 1919 — пачатку 1920 году менавіта ў Менску сканцэнтраваліся асноўныя палітычныя і творчыя сілы Беларускай Народнай Рэспублікі.

У чэрвені 1919 году на акупаванай Польшчай Віленшчыне з ініцыятывы палякаў адбыліся выбары дэлегатаў на Беларускі зьезд Віленшчыны і Горадзеншчыны, які прайшоў насуперак польскаму сцэнару. Палякі спадзяваліся, што зьезд прыме пастанову аб далучэньні Віленшчыны да Польшчы, але дэлегаты выказаліся за незалежную Беларускую рэспубліку, абралі Цэнтральную Беларускую Раду Віленшчыны і Горадзеншчыны і прывіталі тэлеграмай Урад БНР як сваю ўладу[54]. У склад Рады

52 Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 1. С. 435.
53 Звон. 10 кастрычніка 1919.
54 Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 1. С. 364; Кн. 2. С. 1191.

ўвайшлі Кляўдыюш Душэўскі (старшыня), Янка Станкевіч (адзін з намесьнікаў), Бранiслаў Тарашкевіч (сакратар), Павал Аляксюк, Тамаш Грыб, Янка Чарапук ды іншыя.

У другой палове году кіраўніцтва віленскай Рады (12 чалавек) было кааптавана ў склад Рады БНР як паўнамоцнае прадстаўніцтва насельніцтва Віленшчыны і Горадзеншчыны (паколькі ў часе Ўсебеларускага зьезду 1917 году Вільня была адрэзаная ад астатняй Беларусі лініяй фронту) і часткова перабралася ў Менск.

У Менску ў той пэрыяд знаходзіліся старшыня Рады БНР і рэдактар штодзённай газэты «Беларусь» Язэп Лёсік, намесьнікі старшыні Рады БНР Аркадзь Смоліч і Аляксандар Уласаў, сакратар Рады БНР Пётра Крачэўскі, а таксама Антон Аўсянік, Палута Бадунова, Вацлаў Іваноўскі, Вацлаў Ластоўскі, Макар Косьцевіч (Краўцоў Макар), Язэп Мамонька, Мікола Шыла, Францішак Аляхновіч, Зьмітрок Бядуля, Янка Бялькевіч, Максім Гарэцкі, Усевалад Ігнатоўскі, Ігнат Канчэўскі, Яўхім Карскі, Антон Неканда-Трэпка, Ядвіга Луцэвіч, Ян Луцэвіч (Янка Купала), Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.), Аляксандар Прушынскі (Алесь Гарун), Рамуальд Зямкевіч, Уладзіслаў Галубок, Фларыян Ждановіч, Уладзімер Тэраўскі, Язэп Драздовіч, айцы Фабіян Абрантовіч, Андрэй Цікота ды многія-многія іншыя — сотні палітычных, культурных і рэлігійных працаўнікоў.

Першую палову 1919 году Менск знаходзіўся ў руках бальшавіцкіх камісараў Літоўска-Беларускай ССР. Расейская Надзвычайная камісія (ЧК) ужо ў тым часе пачала перасьледаваць беларускія нацыянальныя кадры і змагацца зь беларускай

культурай. Члены ўраду ЛітБелу, беларускія нацыянал-бальшавікі Язэп Дыла, Усевалад Фальскі і Фабіян Шантыр былі арыштаваныя ЧК паводле абвінавачаньня ў спробах «организовать независимую белорусскую компартию», што «подрывало Советскую власть» у Беларусі[55]. Пазьней Шантыр быў расстраляны, Дыла — высланы зь Беларусі, а Фальскі цудам выратаваўся з-пад расстрэлу — яму далі пяць гадоў смаленскай катаржнай турмы.

У пачатку жніўня 1919 году польскія аддзелы генэрала Станіслава Шаптыцкага пачалі набліжацца да Менску і 8 жніўня ўвайшлі ў горад. Бальшавікі ўцяклі ў Смаленск, захапіўшы з сабою ў якасьці закладнікаў вялікую групу беларускіх дзеячоў, якія ў Менску на той час займалі розныя, пераважна непалітычныя пасады. Сярод іх былі Вацлаў Іваноўскі, Антон Трэпка, айцец Андрэй Цікота[56].

Перад адыходам бальшавікі паспрабавалі нанесьці шкоду гарадзкой эканоміцы і гаспадарцы — яны вывезьлі харчовыя запасы, абсталяваньне прамысловых прадпрыемстваў, майстэрняў і друкарні, мэблю гарадзкіх установаў, а таксама абрабавалі асобныя прыватныя кватэры. Першы нумар газэты «Звон» гэткім чынам адгукнуўся на адыход бальшавікоў зь Менску:

«...*Бальшавікі аграбілі горад дашчэнту; былі вывезены ня толькі розныя машыны, але нават хатнія прылады — крэслы, ложкі, міскі... Няхай жа*

55 Арлоў У. Імёны Свабоды. Менск, 2007. С. 149.

56 Некаторыя закладнікі, у тым ліку Вацлаў Іваноўскі, былі выпушчаныя на волю і вярнуліся ў Менск толькі праз паўгода, у студзені 1920-га. Гл.: Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 1. С. 590–591.

*ім будзе калом зямля, тым маскоўскім бальшавіком, што давялі наш слаўны горад да такога цяжкага і галоднага становішча*»[57].

Але яшчэ большымі былі культурныя страты, якія бальшавікі нанесьлі тады беларускаму руху — падчас адыходу ЧК зьнішчыла наклады некалькіх нумароў розных пэрыёдыкаў і вывезла з сабой у Смаленск увесь аграмадны склад беларускай кнігарні. Вось як пра гэтае няшчаснае здарэньне пісаў «Звон»:

«*Апошнім часам яна (беларуская кнігарня — С. А.) месьцілася на Захараўскай вуліцы №18... Яе вывезьлі бальшавікі на Маскоўшчыну. Беларускія кніжкі друкаваліся цяжкай працай беларускіх работнікаў і выдаваліся коштам ахвяр прыхільнікаў беларускага руху. Яны дарма раздаваліся ў беларускія вёскі і сёлы... Тым часам бальшавікі не пасаромеліся адабраць іх у народу і вывезьці да сябе на Маскоўшчыну. Усяго было забрана беларускіх кніг па старой даваеннай цане на 50.000 рублёў, што па цяперашнім цэнам будзе каля 500.000. Так была аграблена ў нашага народу яго духоўная справа*»[58].

Пасьля адыходу бальшавікоў Менск на 11 месяцаў (8 жніўня 1919 — 11 ліпеня 1920) трапіў пад акупацыю Польшчы. Нягледзячы на розныя абмежаваньні і нават рэпрэсіі з боку мясцовых польскіх урадоўцаў гэты год увайшоў у гісторыю як час аптымізму і вялікіх надзеяў дзеячоў БНР.

З прыходам палякаў для кіраваньня горадам быў створаны часовы магістрат. Гэтая старонка гісторыі

57 Звон. 25 жніўня 1919.
58 Звон. 12 верасьня 1919.

Менску замоўчваецца сёньняшнімі гісторыкамі. У акадэмічнай «Гісторыі Менску» 2006 году пра гэта няма ні слова. Тым часам у акадэмічным выданьні «Истории Минска» 1957 году гэтую падзею замаўчаць не наважыліся:

«*По поручению белополяков националисты создали в Минске магистрат, который помогал захватчикам соблюдать в городе зверский оккупационный режим. Белорусские националисты с холопской услужливостью приветствовали Пилсудского в момент его приезда в Минск, называли этого палача "освободителем" Белоруссии*»[59].

Краўцоў Макар пра гэтую падзею напісаў інакш:

«*Часовы Нацыянальны камітэт па прапазыцыі палякоў ахвотна дэлегаваў сваіх прадстаўнікоў у назначаны часова Магістрат, Сьледчую Камісію па рэвізіі арыштованых, якіх вастрог ня мог навет зьмясьціць, і ў іншыя грамадзкія дробныя інстытуцыі*»[60].

Афіцыйнае справаводзтва ў магістраце пачалі весьці часткова па-беларуску. Гэта была знамянальная падзея — упершыню за два з паловай стагодзьдзі і пасьля 128 гадоў расейскага панаваньня ў горадзе работнікі, якія атрымлівалі заробкі з гарадзкога бюджэту (настаўнікі школаў, працаўнікі камунальных службаў і інш.) расьпісваліся за атрыманьне заробку ў беларускамоўных ведамасьцях, па-беларуску таксама пісаліся скаргі і падаваліся прашэньні[61].

---

59 История Минска. Менск, 1957. С. 286–287.
60 Краўцоў Макар. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. С. 53.
61 Гл. ДАМн. Увесь фонд 1806.

Дапамога магістрату ў «соблюдении в городе зверского оккупационного режима» выявілася, напрыклад, у вяртаньні менскім вуліцам іх спрадвечных назваў. Справа ў тым, што за месяц да свайго адыходу зь Менску бальшавікі зьмянілі назвы большасьці цэнтральных вуліц гораду. У пачатку ліпеня 1919 году «Звезда» пісала:

*«По постановлению исполкома улицы г. Минска переименованы следующим образом:*

*Губернаторская — улицей Маркса,*

*Захарьевская — Советской,*

*Подгорная — им. Свердлова,*

*Скобелевская — Красноармейской,*

*Крещенская — им. Урицкого,*

*Юрьевская — им. Февральской революции,*

*Полицейская — Пролетарской,*

*Преображенская — Интернациональной,*

*Юбилейная пл. — пл. 25-го Октября,*

*Троицко-Базарная пл. — пл. им. Парижской Коммуны,*

*пл. у вокзала Либ.-Ром. ж. д. — пл. 18-го Октября 1905 года,*

*Петропавловская — им. Володарского,*

*Богадельная — Коммунистической,*

*Койдановская — им. Лассаля,*

*Архиерейский пер. — им. Достоевского,*

*Георгиевская — им. Толстого»*[62].

Новы магістрат прыняў пастанову аб вяртаньні менскім вуліцам іх старых назваў — прычым аўтэнтычных, яшчэ з дарасейскіх часоў. У пачатку верасьня 1919 году «Звон» паведаміў:

62 К переименованию улиц Минска // Звезда. 3 ліпеня 1919.

*«Подлуг пастановы Магістрату, пераймяноўваюцца вось якія вуліцы м. Менска:*
*Петрапаўлаўская — на Дамініканскую,*
*Губэрнатарская — на Францішканскую,*
*Крашчэнская — на Валошскую,*
*Багадзельная — на Фэліцыянскую,*
*Прэабражэнская — на Зборавую,*
*Тарговая — на Зыбіцкую,*
*Паліцэйская — на Мастовую,*
*Скобелеўская — на Кашарскую,*
*Манастырскі пер. — на Бэрнардынскі пер.,*
*Пляц Волі — на Катэдральны пляц»*[63].

З гэтага відаць, якія ў абодвух бакоў былі ідэалёгія, прыярытэты і мэты. Бальшавікі, хоць і мянялі царскія назвы на свае камуністычныя, але не забыліся і на Дастаеўскага з Талстым. Гэта быў другі крок наперад на шляху русыфікацыі — нават дэкляруючы інтэрнацыяналізм, бальшавікі заставаліся вялікадзяржаўнымі расейцамі. Менскі магістрат пад кіраўніцтвам мясцовага польскага дзеяча Доўнар-Запольскага рабіў крок назад, у бок справядлівасьці і аднаўленьня гістарычнай памяці — ён вяртаў гораду спрадвечныя, аўтэнтычныя назвы-помнікі. Канкурэнцыя ў сфэры тапанімікі, як убачым далей, працягвалася да сярэдзіны 20-х гадоў.

Калі ўвесну таго году польскія аддзелы захапілі Вільню, галоўнакамандуючы польскага войска Юзэф Пілсудзкі 22 красавіка выдаў адозву да насельніцтва былога Вялікага Княства Літоўскага. Як толькі 8 жніўня палякі ўвайшлі ў Менск, тая адозва,

63 Пераймянаваньне вуліц // Звон. 8 верасьня 1919.

надрукаваная па-польску і па-беларуску, зьявілася на вуліцах гораду. Пілсудзкі пісаў, што Беларусь шмат гадоў ня ведае свабоды, што яна ўвесь час знаходзілася пад гвалтам — расейскім, нямецкім, бальшавіцкім, і абяцаў вызваленьне:

«...*Гэткая безупынная няволя, добра вядомая мне самому як радзіўшамуся на гэтай нешчасьлівай зямельцы, павінна быць урэшце спынена. Польскае войска, прыйшоўшае на Беларусь, нясе ўсім Вам свабоду... Хачу Вам даць магчымасьць разьвязаць унутраныя нацыянальныя і рэлігійныя справы так, як самі захочаце, безь якога-небудзь гвалту або націску з боку Польшчы*»[64].

Адначасова з уступленьнем у Менск Пілсудзкі выдаў і яшчэ адну адозву да беларускага насельніцтва. Ён адзначаў доўгае сужыцьцё беларускага і польскага народаў і пісаў, што прыйшоўшыя польскія войскі адчынілі зноў для Беларусі магчымасьць далейшага шчасьлівага сужыцьця двух братніх народаў: «...Хацеў бы бачыць гэты край вольным паміж вольнымі народамі»[65]. А пра дачыненьні Беларусі з Польшчаю Пілсудзкі пісаў, што Беларусь будзе гаварыць з Польшчаю «як роўны з роўным і вольны з вольным»[66].

20 жніўня 1919 году польскія ўлады выдалі загад №2 аб карыстаньні беларускай моваю:

«*Ст. I На абшарах, занятых польскімі войскамі, урадовай мовай лічыцца мова польская. Урадовыя загады будуць выдавацца ў польскай мове побач зь*

64 Цыт. паводле: Ігнатоўскі У. Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця. Менск, 1926. С. 246.

65 Тамсама. С. 248.

66 Тамсама.

*перакладам іх на мову беларускую. Першае месца займае аснова польскай мовы.*

*Ст. II У сваіх зносінах з уладай насяленьне можа ўжываць побач з польскай і мову беларускую*»[67].

18–19 верасьня 1919 году адбыўся візыт Начальніка Польскай дзяржавы Юзэфа Пілсудзкага ў Менск. Гэтая падзея стала яшчэ адным штуршком для энтузіязму ў беларускіх колах. Падчас візыту Пілсудзкі двойчы на афіцыйных урачыстасьцях прамаўляў па-беларуску.

18 верасьня на ўрачыстасьці ў галоўнай залі Шляхоцкага дому на Дамініканскай вуліцы першаю Пілсудзкага вітала дэлегацыя Беларускага нацыянальнага камітэту, створанага ў жніўні пасьля прыходу палякаў. Старшыня БНК А. Прушынскі (Алесь Гарун) зачытаў прывітальны адрас па-беларуску:

«*Мінае ўжо шосты тыдзень, як мы, тубыльцы гэтага места, слаўнага сэрца Беларусі — Менску, жывем спакойным жыцьцём. Разьвеяўся той чырвоны туман, каторы вісеў над намі гэтыя доўгія месяцы... Але, гаворачы словамі вешчага Баяна нашага, плачуць яшчэ маткі ў Віцебску, стогнуць людзі ў Магілёве, маўчыць, бо забаронены, хаўтурны голас абымшэлых званіцаў Смаленску, адкуль кожны дзень прыходзяць весткі пра новыя і новыя нявінныя ахвяры... Мы верым і спадзяемся, што разам з вольным Менскам, Вільняй і сівой Горадняй вольнымі і шчасьлівымі будуць у вольнай і незалежнай Беларускай Рэспубліцы нашыя адвечныя астрогі на рубяжох Масквы — Віцебск і Магілёў, і стары Смаленск. Гэтага мы спадзяемся, у гэта мы верым, а*

67 Тамсама. С. 247.

*гэтымі надзеяй і верай абдараваў нас братні народ, каторага слаўнаму прадстаўніку гатовы мы сказаць на Меншчыне ня толькі нашае сягоньняшняе "дзякуй", але і заўсёды: "Здароў будзь, прыходзь да нас, госьцю мілы, суседзе дарагі"*»[68].

Пасьля прамовы Алеся Гаруна Пілсудзкі зь цікавасьцю доўга размаўляў зь беларусамі і толькі пасьля выслухаў прывітаньне ад мясцовых палякаў. На наступны дзень а 13-й гадзіне адбылася найважнейшая падзея візыту кіраўніка адроджанай Польшчы ў Менск — прыём 44 дэпутацыяў ад нацыянальных, рэлігійных і грамадзка-палітычных згуртаваньняў Меншчыны і суседніх абшараў Беларусі. Спачатку выступілі каталіцкі і праваслаўны біскупы — Зыгмунт Лазінскі і Мэльхісэдэк, а таксама прадстаўнікі мусульманаў і габрэяў. Выступілі таксама прадстаўнікі «Польскай рады зямлі Менскай», шляхты і іншыя.

Ад беларусаў было тры прамоўцы — прадстаўнік сялянаў Меншчыны, член менскага земства Міканор Ярашэвіч і старшыня БНК Аляксандар Прушынскі. Першы і трэці прамаўлялі па-беларуску, а Ярашэвіч — па-расейску і з патрабаваньнем прызнаць афіцыйны статус расейскай мовы, бо, маўляў, народная мова беларусаў зьяўляецца часткай расейскай, а літаратурная беларуская мова яшчэ толькі распрацоўваецца і незразумелая большасьці беларусаў[69].

---

68 Цыт. паводле: Астрога В., Скалабан В. Пілсудскі ў Менску. Хроніка аднаго візіту // Спадчына. 1998. №4. С. 38. Гл. таксама: Звон. 1 кастрычніка 1919.

69 Астрога В., Скалабан В. Пілсудскі ў Менску. Хроніка аднаго візіту. С. 44.

Выслухаўшы ўсіх прамоўцаў і ўсе дэпутацыі, Юзэф Пілсудзкі выступіў з прамовай у адказ. Большасьць прысутных у Вялікай залі Шляхоцкага дому былі зь першых яго словаў шакаваныя, бо прамаўляў Начальнік польскай дзяржавы на добрай беларускай мове:

«*Шчыра дзякую за выказаныя мне як Галаве польскага войска і Польскай дзяржавы прывітаньні. Як сын гэтае зямлі я добра ведаю гаротнае палажэньне яе, якое было заўсёды доляю яе насельніцтва. Дзяды нашыя ня бачылі ніколі нічога лепшага за гвалт, мукі і злачынствы... Польшча йдзе на ўскраіны не дзеля таго, каб навязаць сваю волю. Я выдаў Адозву, пацьверджаную вышэйшай уладаю — Польскім Соймам, што гэтай зямлі ніхто нічога гвалтам накідаць ня будзе, яна будзе вольнаю, і само насяленьне вырашыць формы свайго палітычнага быту. Я даў слова і трымаюся яго моцна. Насельніцтва будзе паклікана да выбараў органаў мясцовага самакіраваньня, а затым надыдзе час, калі вы зможаце выказаць свае думкі і пажаданьні пра дзяржаўны лад. І ў першым, і ў другім выпадках дадзеная будзе поўная свабода, без усялякіх рэлігійных, нацыянальных або клясавых абмежаваньняў*»[70].

А далей Пілсудзкі ўразіў прысутных яшчэ больш, бо паабяцаў Беларусі дзяржаўнасьць і незалежнасьць:

«*Я буду ганарыцца Польшчаю, польскім войскам і самім сабою, калі змагу даць гэтай зямлі найвышэйшы дар, зь якога яна гэтулькі часу не карыстала, — дар волі. Жадаю вам поўнага посьпеху ў працы, якая*

70 Тамсама. С. 45.

*ў атмасфэры поўнай волі зьяднае ўсіх. Пакуль я буду камандаваць польскім войскам, я гарантую вам дакляраваную свабоду. Я веру і спадзяюся, што гэтая зямля як асобная адзінка зойме належнае ёй месца ў сусьветным ліку дзяржаўных народаў*»[71].

Прысутны пры гэтым польскі ўрадовец з Баранавічаў К. Рдултоўскі гэткім чынам апісаў расчараваньне і прыкрыя пачуцьці мясцовых палякаў:

«*Для большасьці з нас, палякаў, не знаёмых з палітычнымі праектамі Пілсудзкага, абедзьве гэтыя беларускія прамовы пакінулі дзіўнае і турботнае ўражаньне. Нават той факт, што прывітаньне было прамоўлена не па-польску, рабіў для польскіх вушэй пэўную прыкрасьць. Столькі гадоў мы чакалі яго па-польску, але, калі яно адбылося, Начальнік дзяржавы зьвярнуўся па-беларуску да людзей, якія дасканала ведалі польскую мову…*»[72]

Пад вечар таго дня перад самым ад'ездам Начальніка Польскай дзяржавы ўстрывожаныя генэральны камісар Цывільнага ўраду Ўсходніх земляў Ежы Асмалоўскі і яго намесьнік, кіраўнік Цывільнага ўраду Менскай акругі Ўладыслаў Рачкевіч запрасілі Пілсудзкага ў кабінэт да Рачкевіча на «філіжанку кавы і кубак віна». Там яны сталі пераконваць Начальніка, што Меншчына нічым не адрозьніваецца ад Віленшчыны і зьяўляецца такой самай польскай тэрыторыяй, што тут паўсюль існуюць шляхецкія засьценкі, якія захоўваюць польскія традыцыі. Пілсудзкі, аднак, паводле ўспамінаў Асмалоўскага, цьвёрда заявіў у адказ:

71 Тамсама. С. 45–46.
72 Тамсама. С. 46.

«*Вільня ёсьць і мае застацца ў сваім характары асяродкам польскасьці на ўсходніх землях. Менск павінен стаць асяродкам беларускіх земляў*»[73].

19 верасьня Пілсудзкі прыняў у сябе дэлегацыю найвышэйшага органу Рады БНР — Сэньёрэн-Канвэнту ў складзе Я. Лёсіка, А. Смоліча, А. Аўсяніка, кс. Ф. Абрантовіча, М. Шылы, А. Прушынскага і Я. Мамонькі. Падчас размовы ён паабяцаў усялякае спрыяньне школьным і культурным справам беларусаў, згадзіўся са стварэньнем Беларускай вайсковай камісіі для фармаваньня беларускага войска і даў дазвол на аднаўленьне дзейнасьці Рады БНР, гарантаваўшы радным недатыкальнасьць[74]. З гэтага відаць, што як і ў сваіх адозвах, Пілсудзкі шмат усяго абяцаў беларусам ва ўнутраных справах, адмаўляючыся даць ім нейкія правы ў зьнешніх зносінах і прызнаць незалежнасьць Беларусі.

Час — і зусім недалёкі — паказаў, што слова свайго Пілсудзкі трымаўся ня моцна і што «ганарыцца Польшчаю, польскім войскам і самім сабою» яму калі і давялося, дык не з прычыны таго, што даў ён «гэтай зямлі найвышэйшы дар, зь якога яна гэтулькі часу не карыстала, — дар волі». Пілсудзкі не хацеў траціць усходнія землі былой Рэчы Паспалітай, якія яна мела да 1772 году, а новым у гэтым праекце быў усяго толькі фэдэралісцкі лад, які ён плянаваў для адроджанай Польшчы, а таксама Літвы, Беларусі і Украіны. Ужо ў лютым 1920 году Пілсудзкі заявіў, што падтрымае культурныя патрабаваньні белару-

73 Тамсама. С. 50.

74 Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 1. С. 433–435.

саў, але палітычных саступак на карысьць «беларускай фікцыі» рабіць не жадае і ня будзе[75].

Прайшло яшчэ няшмат гістарычнага часу, і Пілсудзкі забыўся і пра падтрымку «культурных патрабаваньняў» беларусаў. Неўзабаве начальнік польскай дзяржавы згадзіўся на Рыскі мір 1921 году, якім Беларусь падзялялася на дзьве часткі паміж Польшчай і Савецкай Расеяй. Прамотарамі гэтай мірнай дамовы былі польскія шавіністы з колаў нацыянальнай дэмакратыі Рамана Дмоўскага. Вельмі хутка ў польскім «заборы» пачалася гвалтоўная і грубая палянізацыя, якой «сын гэтае зямлі» зусім не перашкаджаў.

Але ў першыя месяцы польскай акупацыі Менску пра будучыя падзеі яшчэ ніхто ня ведаў, і многія беларусы лёталі па Менску акрыленыя. «Звон» вітаў Пілсудзкага гэткім аптымістычным пасажам:

«*... Для нас, беларусаў, прыезд у Менск творцы польскага войска і незалежнай Польшчы мае асаблівае, гістарычнае значэньне... Мы добра ведаем, што і Касьцюшку, і Міцкевіча, і паўстанцаў — адным словам, увесь польскі рамантызм... дала Польшчы беларуская зямля. На беларускай зямлі вырас і Пілсудзкі. Тое, што зрабіў Пілсудзкі для Польшчы, ставіць яго імя разам з успомненымі людзьмі, што выгадаваліся на беларускай зямельцы на гонар Польшчы. Але мы спадзяемся, што для Беларусі імя Пілсудзкага будзе яшчэ больш значным і слаўным. Пілсудзкі — наступнік вялікіх традыцыяў — сучасьнік адраджэньня беларускай дзяржаўнасьці. Нават незалежна ад стараньняў асобных людзей Беларусь*

75 Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 5. Менск, 1999. С. 493.

*хутка ўжо зойме належнае ёй месца сярод народаў і дзяржаваў... Пілсудзкі мусіць дапамагчы нам, прыняўшы праграму беларускай дзяржаўнасьці... Хвіліна для Беларусі паважная. Сьвядомыя гэтай павагі, мы разам з усімі радасна вітаем нашага вялікага земляка ў сэрцы зямлі беларускай, найстарым Менску...*»[76]

У Менску закіпела работа. За кароткі час быў наладжаны выхад беларускай газэты «Звон» (рэдактарка — дзяячка хрысьціянска-дэмакратычнага руху, выкладчыца Менскай беларускай гімназіі Ядвіга Луцэвіч-Іваноўская, пэрыядычнасьць — тры разы на тыдзень, першы нумар — 25 жніўня). «Звон» у кастрычніку быўператвораны ў штодзённую газэту «Беларусь» (рэдактарка Ядвіга Луцэвіч, пазьней Язэп Лёсік, першы нумар — 21 кастрычніка). Апрача газэтаў у Менску выходзілі часопісы «Беларускае жыцьцё» і «Рунь».

Усяго за некалькі тыдняў разгарнулі сваю працу Беларуская школьная рада Меншчыны, Беларускія настаўніцкія курсы, у Менску адкрылася Беларуская гімназія, тры прагімназіі, на Меншчыне — больш за 100 беларускіх школаў, агулам па Беларусі — каля 350.

Пад кантролем Беларускага нацыянальнага камітэту камісія ў складзе У. Ігнатоўскага і Я. Карскага правяла беларусізацыю Менскага беларускага пэдагагічнага інстытуту — перад вяртаньнем у Менск у ліпені 1920 году бальшавікоў гэтая ўстанова, фактычна, была рэарганізаваная ў беларускі ўнівэрсытэт.

---

76 Астрога В., Скалабан В. Пілсудскі ў Менску. Хроніка аднаго візіту. С. 34–35.

Міністэрства асьветы БНР заснавала Менскае асьветнае выдавецтва. Выйшлі з друку новыя падручнікі і навучальныя дапаможнікі, у тым ліку «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» У. Ігнатоўскага, «Гісторыя беларускае літаратуры» М. Гарэцкага, «Геаграфія Беларусі» А. Смоліча і інш.

Пачалі актыўную працу чатыры тэатральныя трупы — створанага пад эгідай Ураду БНР Беларускага нацыянальнага тэатру (кіраўнік Ф. Аляхновіч); Першага беларускага таварыства драмы і камэдыі (кіраўнік Ф. Ждановіч); Менскага таварыства працаўнікоў беларускага мастацтва і тэатру (кіраўнікі У. Галубок і У. Фальскі) і драматычнай сэкцыі Беларускай тэатральнай грамады (моладзевая трупа). Пры тэатрах працавалі танцавальны ансамбаль Ч. Родзевіча і хор У. Тэраўскага.

Менскія газэты з захапленьнем пісалі пра пастаноўку «Паўлінкі» з У. Галубком у ролі пана Быкоўскага і пра выступы хору Тэраўскага. Тэатральныя трупы пачалі гастраляваць па Меншчыне — адбыліся спэктаклі ў Барысаве, Жлобіне, Заслаўі, Койданаве, Оршы, Радашкавічах. У горадзе працавалі шматлікія беларускія гурткі мастацкай самадзейнасьці. Міністэрства асьветы БНР выдала для аматарскіх тэатраў зборнік п’ес[77].

Усё гэта давалася нялёгка, бо польская адміністрацыя і вайскоўцы ня надта спрыялі беларусам, а часам і адкрыта перашкаджалі. Ажыцьцяўлялася цэнзура газэтаў, — некаторыя нумары кан-

---

77 Больш падрабязна гл.: Сідарэвіч А. Беларуская Народная Рэспубліка // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1. Менск, 1993. С. 384–390.

фіскоўваліся або выходзілі зь белымі плямамі. Настаўніцкі інстытут і Беларускую гімназію ўжо празь месяц пазбавілі памяшканьняў[78], даўшы, што праўда, грошы на адкрыцьцё настаўніцкіх курсаў[79]. Тым ня менш беларускія дзеячы ня страчвалі аптымізму. У лістападзе Аркадзь Смоліч пісаў зь Менску ў Варшаву да Антона Луцкевіча:

«*Скажу толькі наогул — што наша праца нармальна разьвіваецца і паскараецца, што павінна было б даваць нам усякія ясныя надзеі — нягледзячы нават на ўсю няпэўнасьць становішча і правакацыю, якой мы акружаны*»[80].

У канцы лютага 1920 году Смоліч зь Менску пісаў да таго самага адрасата зь яшчэ большым аптымізмам:

«*За апошнія тыдні, пасьля майго прыезду з Варшавы, справа нашая ідзець шляхам канкрэтнай работы. Усё шырэй і шырэй разьвіваецца інструктарская арганізацыя; цяпер лік інструктароў перайшоў 20; да таго ж праца іх мусіць канцэнтравацца ў Меншчыне: толькі тут палякі даюць ім працаваць. Ясна, што разам з тым растуць, як грыбы, арганізацыі, прыбывае новых людзей. Наагул — мы расьцем. Гэта відаць нават з пашырэньня газэты, якая цяпер б'ецца, здаецца, у 3000 экз... Ідзець выдавецтва. За апошні месяц выдана 5–6 кніжок. Маем масу матар'ялу да друку, як прыгожага пісьменства, так і школьных падручнікаў. Асаблівы ўраджай на драматургаў...*»[81]

78 Ня маюць прытулку // Звон. 10 кастрычніка 1919.
79 Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн.1. С. 513.
80 Тамсама. С. 512.
81 Тамсама. С. 695.

Гэтая тытанічная праца некалькіх сотняў людзей суправаджалася вялікай ахвярнасьцю і падзьвіжніцтвам. Школьныя інспэктары БНР, пра якіх кажа Смоліч, ігнаравалі забарону палякаў арганізоўваць беларускія школы на тэрыторыі Заходняй Беларусі — на Віленшчыне і Горадзеншчыне. За гэта іх лавілі, арыштоўвалі і, нават, жорстка зьбівалі — тым ня менш праца на тых абшарах працягвалася і кансьпірацыйна.

20 верасьня супрацоўнік газэты «Звон» Макар Косьцевіч пісаў прэм'ер-міністру БНР Антону Луцкевічу ў Варшаву:

«... *Выбачай, браце, за гэтакі стыль, але што ж зрабіць, калі я ўжо тры дні не абедаю і трэйцюю ноч мучуся ад бяссоньніцы, а да доктара схадзіць ня маю за што. Мне брыдка пісаць табе пра гэта. 4 гадз. 10 мін. пасьля поўначы, а я заснуць не магу... Трэба ж яшчэ тое-сёе прыгатаваць для "Звона"*»[82].

Так маглі працаваць толькі гранічна адданыя беларускай справе людзі, якія сьвята верылі ў сваю рацыю і адчайна прагнулі перамогі сваіх ідэяў. Гераічныя высілкі сотняў менскіх працаўнікоў і тысяч іншых па ўсёй Беларусі зрабілі магчымым узьнікненьне БССР, а пазьней і Рэспублікі Беларусь. Бяз тых герояў беларускай дзяржаўнасьці магло і ня быць.

Натуральна, што ў сытуацыі барацьбы супраць польскіх культурных уплываў і надзеі на хуткую дзяржаўную незалежнасьць беларускія дзеячы, верныя прынцыпу гістарызму, не маглі не зьвярнуць увагі на гісторыю і помнікі «сэрца зямлі беларускай, найстарога Менску».

82 Тамсама. С. 436.

## Апалёгія «нашага Старога Менску»

Летам 1919 году ў Менску разгарнулі сваю дзейнасьць два Таварыствы, якія займаліся апекай над помнікамі гісторыі і культуры. Гэта «Towarzystwo opieki nad zabytkami ziemi Mińskiej» і «Менскае таварыства гісторыі і старажытнасьці». У склад першага, якое дзейнічала як філія Варшаўскага таварыства апекі над помнікамі мастацтва і культуры (часам, у беларускім друку гэтую структуру называлі «Менскі саюз Варшаўскага таварыства апекі...»), уваходзілі прадстаўнікі мясцовай польскай інтэлігенцыі і шляхты. У склад другога ўвайшлі прадстаўнікі мясцовай беларускай інтэлігенцыі (у тым ліку абруселыя беларусы), а таксама некаторыя зь мясцовых расейцаў — выкладчыкаў былога Настаўніцкага інстытуту.

Дзейнасьць Менскага таварыства, якое пры стварэньні, сярод іншага, ставіла сабе за мэту «ахову помнікаў гісторыі і культуры, утварэньне гісторыка-археалягічнага музэю», была неўзабаве польскімі ўладамі забароненая[83]. Тым ня менш, з прычыны таго, што некаторыя яго актыўныя ўдзельнікі працавалі выкладчыкамі ў Менскім беларускім пэдагагічным інстытуце, дзейнасьць таварыства паўлегальна працягвалася там. Асабліва актыўнічаў у гэтай справе разам са студэнтамі Ўсевалад Ігнатоўскі.

Трагічны лёс Беларусі выявіўся ў выпадках, калі прадстаўнікі адной сям'і належалі да супрацьлеглых грамадзкіх плыняў. Напрыклад, вядомы

83 Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 5. С. 169–170.

тагачасны беларускі дзяяч Антон Неканда-Трэпка, намесьнік дырэктара Беларускага пэдагагічнага інстытуту, быў супраць вывазу помнікаў культуры Менску і Меншчыны ў Варшаву, а яго бацька Станіслаў зьяўляўся старшынём польскага таварыства і актыўна ўдзельнічаў у тых вывазах[84] .

Разам з адыходам польскіх войскаў зь Менску ў ліпені 1920 году актывісты польскага таварыства вывезьлі 500 вялікіх скрыняў з карцінамі, старажытнай зброяй і іншымі творамі мастацтва[85]. Вывезеныя помнікі юрыдычна былі ўласнасьцю спольшчанай менскай шляхты, якая, бясспрэчна, мела права ў выпадку эвакуацыі забраць з сабой і сваё майно. Перашкодзіць жа вывазу нацыянальных здабыткаў беларускага народу магла толькі іх нацыяналізацыя або забарона на вываз з боку легітымных беларускіх уладаў, дзейнасьць якіх тады была акупантамі абмежаваная.

Тым ня менш і праца польскага таварыства аб'ектыўна спрыяла росту інтарэсу да гісторыі Беларусі, у тым ліку да гісторыі Менску і яго помнікаў.

У беларускім друку стала нарастаць колькасьць гістарычных публікацыяў. Дзеячы БНР стараліся ўсяляк актывізаваць нацыянальную гістарычную сьвядомасьць мясцовага грамадзтва. Артыкулы, прысьвечаныя гісторыі і культуры Беларусі, сталі зьяўляцца практычна ў кожным нумары газэты «Беларусь». Ганаровы старшыня Ўсебеларускага зьезду 1917 году акадэмік Яўхім Карскі, якому та-

84 Краўцоў Макар. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. Вільня, 1921. С. 49.
85 Больш падрабязна гл.: Вяртаньне. Менск, 1992.

ды было ўжо каля 60 гадоў, здавалася, ня спаў і не адпачываў. У «Беларусі» друкаваліся дзясяткі яго навукова-папулярных нарысаў па гісторыі і культуры Беларусі — гэта быў сапраўдны грамадзкі і творчы подзьвіг Карскага.

Актыўным папулярызатарам беларускай гісторыі быў у тыя часы таксама Язэп Лёсік. Сярод іншага, увосень 1919 году ён напісаў для «Звона» вялікі нарыс «Кароткая гісторыя культурнага жыцьця Беларусі».

Але галоўная ўвага гістарычных публіцыстаў сканцэнтравалася на Менску. І зьвязана яна найперш з імёнамі Язэпа Лёсіка і Рамуальда Зямкевіча. Прычым, як убачым далей, дзеяньні Лёсіка і Зямкевіча ў гэтай справе маглі быць скаардынаваныя і ўзгодненыя.

У 1917–1918 гадах Язэп Лёсік быў рэдактарам газэты «Вольная Беларусь», якая выдавалася ў Менску. Летам 1918 году ў трох нумарах газэты ў сэрыі «Нашы месты» Лёсік друкуе гістарычны нарыс «Менск»[86]. У гэтым тэксьце цалкам выявіліся яго гістарычныя прыярытэты і асаблівае стаўленьне да Менску.

Нарыс адкрываўся ўжо знаёмым чытачу сьцьверджаньнем: «Менск — сэрца Беларусі»[87]. У тэксьце Лёсік падрабязна апісвае найважнейшыя этапы менскай гісторыі, зьвяртаючы ўвагу на матэрыяльнае становішча гораду і лёс яго забудовы. Трэцяя частка нарысу амаль цалкам прысьвечана трагіч-

86 Гл.: Л-к Я. Менск // Вольная Беларусь. 6 ліпеня 1918; 4 жніўня 1918; 3 верасьня 1918.
87 Вольная Беларусь. 6 ліпеня 1918.

най, на думку Лёсіка, падзеі ў менскай і беларускай гісторыі — ліквідацыі Ўніяцкай царквы:

«*Такім чынам адбыўся гэты важны акт злучэньня вуніятаў з праваслаўнымі, зьнішчыўшы беларушчыну як у цэркві, так і ў пачатковых школах, каторыя ў той час утрымоўваліся пры цэрквах*»[88].

А заканчваўся нарыс наступнымі словамі рэдактара «Вольнай Беларусі»:

«*У цяперашні час Менск — самы вялікі горад на Беларусі і, займаючы цэнтральнае становішча ў нашым краю, недарма завецца сэрцам Беларусі. Менск — цэнтар беларускага руху. Адгэтуль цяпер пашыраецца беларускі рух і беларускі друк па ўсёй Беларусі. Менск жа быў тым мейсцам дзе адбыўся першы ўсебеларускі кангрэс, палажыўшы пачатак аднаўленьню ідэі дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі*»[89].

Пра стаўленьне Лёсіка да Менску яскрава сьведчыць і той факт, што нарыс «Менск» друкаваўся ў сэрыі «Нашы месты» першым і што толькі пасьля публікацыі яго апошняй трэцяй часткі ў пачатку верасьня 1918 году «Вольная Беларусь» пачынае друкаваць другі і апошні ў сэрыі «гарадзкі» нарыс пра Вільню[90].

«Вольная Беларусь» пад кіраўніцтвам Лёсіка трымала таксама пад пільнай увагай лёс помнікаў менскай архітэктуры. У траўні 1918 году газэта,

---

88 Вольная Беларусь. 3 верасьня 1918.

89 Тамсама.

90 Гл.: Вольная Беларусь. 22 верасьня 1918, 29 верасьня 1918. Апрача нарысаў пра Менск і Вільню газэта ў сэрыі «Нашы месты» надрукавала яшчэ ў нумары за 20 кастрычніка 1918 году нарыс «Ваколіцы Вільні».

напрыклад, зьмясьціла артыкул пра гісторыю і сучасны стан Дамініканскага касьцёла:

«*Дамініканскі касьцёл у Менску, пабудованы 265 гадоў таму назад і забраны пад казармы б. віленскім губэрнатарам Мураўёвым у 1869 г., хутка стане зноў сьвятыняй для каталікоў. 24-га красавіка касьцёл прывялі да парадку і высьвянцілі. Цяпер разьбіраюць столі, што былі прыроблены для казармаў. Будуць зробленыя сьценныя малюнкі і фрэскі... Старыя людзі апавядаюць, што касьцёл гэты пабудован на ахвяры, прызначаныя для гэтай мэты. Была вайна з Масквою, і войска беларускае ахвяравалася злажыць на сьвятыню па залатоўцы з конскага капыта, калі возьмуць перамогу над Маскоўшчынай. У войску былі каталікі і праваслаўныя, дзеля гэтага сьвятыня павінна была мець два прастолы: каталіцкі і праваслаўны...*»[91]

Сярод тагачасных аўтараў і папулярызатараў гісторыі Менску сваёй актыўнасьцю вылучаўся ўжо ня раз згаданы беларускі нашаніўскі дзяяч, бібліяфіл і літаратуразнавец Рамуальд Зямкевіч. Прадметам асаблівага клопату Зямкевіча быў Стары Менск.

Яшчэ ў першым нумары часопісу «Варта» за 1918 год ён апублікаваў гістарычны нарыс «Няміга і Менск». У часы рэдактарства Лёсіка ў «Вольнай Беларусі» Зямкевіч зьмяшчае там шэраг сваіх гістарычных і публіцыстычных артыкулаў, прысьвечаных, у прыватнасьці, гісторыі беларускага кнігадрукаваньня і асобе Францішка Скарыны. Публікацыі Зямкевіча адрозьніваліся ня толькі гістарычнай

91 Вольная Беларусь. 5 траўня 1918.

грунтоўнасьцю, але і яркай публіцыстычнасьцю. Ва ўжо згаданым артыкуле «400-лецьце беларускага друку» ён, напрыклад, пісаў:

«*Наша справа жывая ды сьвятая, дагэтуль ніякая сіла нас зламаць не магла і зламаць ня зможа. Народ з гэтакім мінулым не прападзе*»[92].

Ідэю ўзвышэньня Менску, прапаганды яго гістарычнага мінулага і гістарычнай значнасьці для беларусаў Лёсік і Зямкевіч пасьлядоўна праводзілі і ў часы польскай акупацыі Беларусі ў 1919–1920 гадах.

Ужо ў першыя месяцы польскай акупацыі ў Менску пачалі чытаць лекцыі па гісторыі гораду і праводзіць аматарскія экскурсіі па яго гістарычных месцах. Грамадзкі рэзананс і водгукі ў друку выклікала, напрыклад, лекцыя Тодара Корзуна 29 лютага 1920 году «Аб Старым Менску»[93]. У артыкуле «Стары Менск» пра лекцыю Корзуна ў газэце «Беларусь», рэдактарам якой у тыя часы ўжо быў Язэп Лёсік, пісалася:

«*Сярод старадаўных гмахаў Менску першае месца займаюць касьцёлы, якіх тут некалісь было васямнаццаць. Найстарэйшым зь іх была г. зв. Вітаўтава фара, якой толькі астаткі можна яшчэ было бачыць над Сьвіслаччу год трыццаць таму назад. Шмат з гэтых касьцёлаў у цяперашнім часе ўжо не існуе. Касьцёл падамініканскі быў пабудаваны коштам войска, зборамі — з конскага капыта. Далей ідзе цяперашняя катэдра — былы паезуіцкі касьцёл*»[94].

92 Вольная Беларусь. 8 жніўня 1917.
93 Беларусь. 20 сакавіка 1920.
94 Тамсама.

У публікацыях мела месца і крытыка царскіх пераробак помнікаў менскай архітэктуры:

«... *Шмат яшчэ мае ў сабе Менск старадаўніх памятак. Шмат прыгожых даўнейшых будынкаў зьніштожана, шмат перароблена і пераробкай папсована. Гэтак папсавана пераробкай прыгожая г. зв. "Жоўтая царква" (на Нізкім Рынку), пабудованая ў XVII в. у стылі "адраджэньня", з прыгожым скляпеньнем і царскімі дзьвярмі — з копіямі абразоў Рафаэля і Корагія, каторыя цяпер перароблены і папсованы*»[95].

Існавалі пляны вяртаньня менскім помнікам архітэктуры іх першапачатковага выгляду і прызначэньня. «Беларусь» увесну 1920 году паведаміла пра намер гарадзкіх уладаў вярнуць менскі катэдральны праваслаўны сабор (былую ўніяцкую царкву Сьвятога Духа) ва ўлоньне каталіцкай царквы і вярнуць яму першапачатковы выгляд[96].

Тагачасны Менск яшчэ захоўваў шмат зь незваротна страчаных сёньня каштоўных помнікаў архітэктуры або іх руінаў. Апрача згаданай вышэй Вітаўтавай фары на схіле ад Траецкай гары да Сьвіслачы гэта адносіцца, напрыклад, да старажытнай царквы ў раёне Татарскіх агародаў. У лістападзе 1919 году пра яе на старонках «Беларусі» пісаў Рамуальд Зямкевіч:

«*Цяпер у Менску, на месцы, гдзе плывець Няміга, цягнецца вуліца Нямігская, пад каторай ёсьць закрыты рышток, і толькі пад вясну, калі вада зьбіра-*

95 Тамсама.

96 Беларусь. 19 траўня 1920. Рэнэсансна-гатычная царква Сьвятога Духа была ў XIX стагодзьдзі двойчы перабудаваная ў стылі казённага расейскага праваслаўя.

*еціца зь сьнегу, прарываецца Няміга праз усыпаную гаць і, плывучы даўным сваім руслам, залівае цэлую вуліцу і Рыбны рынак, а плывучы далей увакруг гары, гдзе некалісь стаяў замак, праз Татарскае балота ўплывае ў Сьвіслач. На гэтым балоце, якое ляжыць паміж замкам, татарскай ваколіцай, рэчкай Сьвіслачай і Замковай вуліцай, стаяла некалісь, як апавядае легенда, вельмі старажытная царква; цяпер жа знаходзяцца на гэтым месцы толькі развалiны і каменьне...*»[97]

Што да так званых «перараробленых» старых будынкаў, дык газэта «Беларусь» зьвяртала тады ўвагу ня толькі на культавыя помнікі, але і на грамадзянскія будынкі і прыкметныя ў мінулым помнікі жылой забудовы:

«*Дзе-нідзе яшчэ як памятка мінуўшчыны віднеюць арыгінальныя стара-шляхоцкія дварочкі, як дварок Ванькoвіча на Валоскай вуліцы. Трэба яшчэ ўспомніць што на месцы цяперашняга Высокага рынку, а тагды пляцу Напалеона, была знамянітая ратуша, у якой мясьціўся Трыбунал. Гэты гмах загадаў раскідаць менскі губэрнатар Шклярэвіч у 1851 г., разам з камяніцамі Трэбарта і Макарэвіча, цяпер зусім папсаванымі*»[98].

У 1919–1920 гадах на старонках «Беларусі» і іншых тагачасных выданьняў Рамуальд Зямкевіч зьмясьціў шэраг артыкулаў пад псэўданімамі Юры Алелькавіч і Раман Суніца. Галоўны зь іх — нарыс «Стары замак у Менску», апублікаваны пад псэўданімам Раман Суніца ў двух нумарах «Бела-

97 Беларусь. 12 лістапада 1919.
98 Беларусь. 20 сакавіка 1920.

русі» у лістападзе 1919 году. Верны бээнэраўскаму прынцыпу гістарызму, Рамуальд Зямкевіч асьвятліў у сваім нарысе менавіта тыя старонкі гісторыі Менскага замку, якія не былі вядомыя шырокай публіцы і меліся выклікаць гонар за сваю слаўную гісторыю. Зямкевіч імкнуўся падкрэсьліць гістарычнае значэньне Менску і яго старога цэнтру — Менскага замку.

Знаёмства чытача са зьместам артыкулу Зямкевіча вымагае пэўных уводзінаў. Справа ў тым, што гісторыя менскай архітэктуры яшчэ і да сёньня застаецца сапраўднай terra incognita. Той, хто скажа, што гісторыя забудовы Менску на сёньняшні дзень сярод усіх эўрапейскіх сталіцаў найменш дасьледаваная, не памыліцца.

Цяпер адной з асноўных крыніцаў па гісторыі забудовы Менску лічыцца складзены расейскімі ўладамі ў 1793 годзе плян гораду. На ім рознай штрыхоўкаю пазначаны мураваная і драўляная забудова. Вуліцы Няміская, Фэліцыянская і Койданаўская, паводле таго пляну, былі спрэс застаўленыя драўлянымі дамамі. Але ў 2007 годзе гісторык архітэктуры Р. Баравы апублікаваў артыкул, у якім даказаў, што мураваны дом №7 па вуліцы Рэвалюцыйнай (раней Койданаўскай) пры яе перасячэньні з Камсамольскай пабудаваны ў першай палове XVIII-га, а можа і ў XVII стагодзьдзі[99].

Сёньня гісторыкі архітэктуры пра мураваны Менскі замак або яго мураваныя элемэнты і чуць ня хочуць — лічыцца, што замак меў земляныя валы і быў спрэс забудаваны драўлянымі будынкамі.

---

99 Гл.: Архитектура и строительство. 2007. №6.

Пра тое сьведчыць і расейскі плян 1793 году. Тым часам часопіс «Беларусь» у 1945 годзе ў артыкуле «Замкавая гара ў Мінску» пісаў пра адзін з будынкаў на Замчышчы:

*«... гэты дом, у якім калісьці зьмяшчаўся Гарадзкі суд, быў пабудаваны з рэшткаў фундамэнта старога замку. У часе вайны гэты дом загінуў...»*[100]

Гэтую згадку можна было б сьпісаць на міталёгію, калі б ня дадзеныя археалёгіі. Археоляг В. Тарасенка летам 1947 году апублікаваў вынікі сваіх раскопак Менскага замчышча, праведзеных у 1946 годзе:

*«У верхніх, перамешаных пластах зямлі... знаходзілася многа абломкаў цэглы і рознага будаўнічага хламу ад разбураных старажытных і больш новых пабудоў, існаваўшых на Замчышчы. Сярод іх былі выяўлены і абломкі "пальчаткі" — цэглы ручной фармоўкі XV–XVI стагодзьдзяў з прадоўжанымі барознамі — сьлядамі пальцаў»*[101].

Высновы В. Тарасенкі — важны аргумэнт на карысьць існаваньня на Замчышчы мураваных будынкаў. І тут дарэчы будуць аргумэнты Рамуальда Зямкевіча. Ён таксама быў добра абазнаны ў менскай гісторыі. У сваёй найважнейшай публікацыі «Стары замак у Менску» ён прывёў шэраг гістарычных дакумэнтаў і сьведчаньняў пра існаваньне ў Менскім замку некалькіх мураваных будынкаў.

У 1635 годзе Варшаўскі Сойм зацьвердзіў падаткі для збудаваньня ў Менскім замку двух мураваных будынкаў для захоўваньня «кніг гродзкіх і зем-

100 Беларусь. 1945. №9. С. 60.
101 Беларусь. 1947. №7. С. 24.

скіх»[102]. Далей Зямкевіч цытуе люстрацыю Менскага замку, зробленую скарбовымураднікам Вялікага Княства Літоўскага Савіцкім у 1783 годзе:

«*Са Старога рынку праз Замковы мост, блізка зямлі, гэта значыць, нізка ляжачы, увайшоўшы ў Замак, пляц вялікі пустуючы, па левую руку, дзе быў будынак вялікі дзеравянны, а ў ім былі па абодвум старонам Судовыя Пакоі, каторы то будынак праз пажар у 1778 гаду... дашчэнту згарэў. Тутака, бліжэй ад уваходу на Замак... два склепы мураваныя, апаўшыя па... пажары, без направы астаўшыя. Пры іх трэйці склеп, коштам цэлага Ваяводзтва, а па просьбе онага-ж стараньнем Яго Вяльможнасьці Пана Хвэлікса Пётуха-Кубліцкага... ест асновани, для злажэньня Архіву Гродзкага Менскага Ваяводзтва, вымураваны; вокны з кратамі і над дзьвярыма крата жалезная, дзьверы на крукі і замочкі ўстроены*»[103].

З гэтага апісаньня вынікае, што склепамі тады называлі аднапавярховыя мураваныя будынкі абарончага характару са скляпеністымі столямі. Гэта, зрэшты, і не маглі быць лёхі, бо там для «кніг гродзкіх» было б занадта вільготна. І было такіх скляпеністых старажытных будынкаў у Менскім замку, як вынікае з цытаванай Зямкевічам люстрацыі, прынамсі тры.

Далей Зямкевіч апісвае яшчэ і іншыя будынкі Менскага замку, якімі тады валодалі Рэчыцкі мечнік Антон Пётух-Кубліцкі і былы рэгент гродзкі Менскага ваяводзтва Фэлікс Пётух-Кубліцкі.

102 Беларусь. 14 лістапада 1919.
103 Беларусь. 15 лістапада 1919.

Паводле Зямкевіча і згаданай люстрацыі, сядзіба Пётухаў на Замчышчы мела выгляд міні-замку — «дзядзінчык агароджаны» з уваходнай брамай — раней там месьціліся «Менская Гродзкая Канцэлярыя і Менская Магдэбургія»[104].

А вось як Рамуальд Зямкевіч піша пра долю Менскага замку пасьля далучэньня Беларусі да Расеі:

«*Чаго не здалелі даканаць у нішчэньні памятак старасьвеччыны пажары, дык даканалі гэтага новыя гаспадары — расейцы, каторыя ў помач пажарам ніштожылі сыстэматычна ўсё, што толькі, паводлуг іх паглядаў і думак, магло прыпамінаць польскія часы. Перш-наперш валы навакол Замку былі зраўнаны й аддадзены пад забудовы. Мэтрапалітанская Ўніяцкая Царква была продана з вызначаных публічных таргоў Лютэранскаму Таварыству.*

*Любоў да грабяжоў і асабістай карысьці тагачасных расейскіх чыноўнікаў пагражала цэласьці і істнаваньню гістарычных памятнікаў будавецтва, якія раней належалі да Польскага Ўраду. Гэткая доля не мінула і часьці Каралеўскага Менскага Замку: была яна разам з мураваным домам аддадзена за невядомыя заслугі Івану Малафееву, асэсару Грамадзянскай Палаты. Малафееў перапрадаў сваю маентнасьць на Замку ў 1799 гаду Ягору Чалгакову, саветніку ўраду Менскага Намесьніцтва. Акт прадажы паказвае: дом у два паверхі… у каторых некалісь былі польскія Ўрады… Гэтак рабіліся ў нас прадажы і перапрадажы праз нашых няпрошаных апекуноў расейцаў. Дом Чалгакова дайшоў да нашых часоў*

104 Тамсама.

*безь перамены і знаходзіцца на Стара-Мясьніцкай вуліцы №16...»*[105]

Відавочна, што мураваныя дамы ў Менскім замку — не прыдумка энтузіястаў. Бяда ў тым, што саму Замкавую гару разам з усімі падмуркамі і культурным слоем у сярэдзіне 50-х гадоў скапалі.

Як бы стараючыся засьцерагчы сёньняшніх гісторыкаў ад празьмерных сумненьняў наконт Менскага замку, Зямкевіч напісаў:

«*...Дапусьціць трэба, што там быў дастатковы лік будынкаў для прыняцьця і гасьціны часта прыяжджаючых у Менск каралёў*»[106].

Не забыўся Рамуальд Зямкевіч і пра змрочныя часы Менскага замку. Вось як ён пісаў пра вайну з Аляксеем Міхайлавічам — часы так званага Патопу:

«*У 1655 гаду вайна з Маскоўшчынай прыняла страшэнны разгар: у Менск рынуліся казакі, татары, калмыкі, маскалі, каторыя пачалі рэзаць насяленьне і падпалілі места. Большая часьць гораду згінула ў крыві ды ў папялішчы*»[107].

Але значна больш цікавымі ўяўляюцца зьвесткі з публікацыі Зямкевіча, якія датычацца гістарычнага значэньня Менскага замку і яго далучанасьці да найважнейшых падзеяў беларускай гісторыі. Аўтар паведамляе чытачу, што Менскі замак быў адным з улюбёных замкаў караля і вялікага князя Жыгімонта І Старога, які некалькі разоў тут падоўгу жыў са сваім дваром. Жыгімонт І ў Менскім

105 Тамсама.
106 Беларусь. 14 лістапада 1919.
107 Беларусь. 14 лістапада 1919.

замку двойчы прымаў парад сваіх войскаў перад іх вырашальнымі паходамі і бітвамі. Першы раз — у 1508 годзе, перад паходам на Маскву, і другі раз — у 1514 годзе, калі войска Вялікага Княства Літоўскага пад камандаваньнем Канстанціна Астроскага, прамаршыраваўшы перад каралём у Менскім замку, проста адтуль накіравалася пад Воршу і атрымала гістарычную перамогу над войскамі Маскоўскай дзяржавы. Пра гэтую перамогу, як вядома, пісалі тады многія эўрапейскія газэты, а ў Празе, дзе тады таксама кіравалі Ягелоны, з нагоды Аршанскай перамогі адбыліся трохдзённыя народныя гуляньні на Старамесцкім пляцы.

Яшчэ адзін кароль і вялікі князь літоўскі, які, паводле Рамуальда Зямкевіча, вельмі любіў разам са сваім дваром жыць у Менскім замку, — Жыгімонт Аўгуст, сын Жыгімонта I Старога і Боны Сфорцы. Жыгімонт Аўгуст спыняўся ў Менскім замку ў 1564 годзе «ў часе вайны з Масквой, у каторай князь Мікалай Радзівіл на чале літоўска-беларускага войска і надворных каралеўскіх палкоў атрымаў памятную ў гісторыі пабеду пад Воршай у 1564 г.»[108]. Другі раз Жыгімонт Аўгуст жыў са сваім дваром у Менскім замку ў 1568 годзе.

«... *Як бачым з усяго вышэйсказанага, — пісаў Зямкевіч, — Замак у Менску і месца, дзе ён стаяў, маюць сваё слаўнае гістарычнае прошлае з-прад тысячы лет*»[109].

108 Тамсама.
109 Беларусь. 15 лістапада 1919.

## Замчышча як месца будучай сядзібы ўраду БНР

Дата, калі нарыс Рамуальда Зямкевіча «Стары замак у Менску» пачаў друкавацца ў «Беларусі», — 14 лістапада — паказвае, што яго публікацыя была прымеркаваная да сэсіі Рады БНР, якая адкрылася ў Менску 12 лістапада.

Гэта была доўгачаканая і надзвычай важная для ўсіх менскіх беларусаў падзея. Тады яшчэ шмат хто меў ілюзіі і спадзяваўся, што з палякамі можна будзе дамовіцца і яны прызнаюць беларускую дзяржаўнасьць. Сэсія Рады БНР сапраўды прыняла гістарычнае рашэньне: яна пацьвердзіла — а фактычна другі раз абвясьціла — незалежнасьць Беларусі, гэтым разам ва ўмовах польскай акупацыі і насуперак жаданьню польскіх уладаў:

«*Адзначаючы радасны факт далучэньня да Рады Беларускай Народнай Рэспублікі вышэйшага нацыянальнага прадстаўнічага органу Заходняй Беларусі, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі на першым сваім урачыстым сходзе ад 12-га лістапада гэтага 1919 году пацьвярджае пастанову сваю ад 25 марца 1918 году аб поўнай незалежнасьці і непадзельнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў яе этнаграфічных межах. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі як адзіны дзяржаўны орган Беларускага народу павядзе сваю працу ў кірунку здабыцьця прызнаньня перад народамі ўсяго сьвету поўнай незалежнасьці і непадзельнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў яе этнаграфічных межах. Дзеля таго Рада даручае свайму спаўняючаму органу — Радзе Народных Міністраў*

*безадкладна афіцыяльна ўступіць у перагаворы з Польскім Гаспадарствам і з усімі гаспадарствамі сьвету аб юрыдычным і фактычным прызнаньні незалежнасьці і непадзельнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў яе этнаграфічных межах*»[110].

Выконваючы гэтую пастанову Рады, прэм'ер-міністар БНР Антон Луцкевіч двойчы — 20 лістапада 1919 году і 3 студзеня 1920 году — сустракаўся зь Юзэфам Пілсудзкім, спрабуючы дамагчыся прызнаньня дзяржаўнасьці і незалежнасьці БНР, але няўдала[111]. Пілсудзкі пацьвярджаў усе свае ранейшыя заявы, выказваў зьдзіўленьне з прычыны непрыхільных да беларусаў дзеяньняў польскіх уладаў Менску, наогул «... агульны характар гутаркі быў вельмі ветлы і прыхільны, — ведама, на грунце польска-беларускай дзяржаўнай фэдэрацыі...»[112], але пра незалежнасьць гаварыць не хацеў, спасылаючыся на Антанту і польскіх шавіністаў эндэкаў. Пілсудзкі прапаноўваў пачакаць, бо, як напісана ў пратаколе другой сустрэчы:

«*Паводле рахунку Пілсудзкага, да моманту разьвязкі пытаньня аб Беларусі на доўгі час ёсьць яшчэ каля году. За гэты час беларусы і павінны зрабіць вялікую работу і выявіць як найбольш актыўнасьці ў культурна-прасьветнай рабоце і ў прапагандзе, у чым акупацыйныя ўласьці гатовы аказваць помач*»[113].

---

110 Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 1. С. 489.

111 Гэта былі другая і трэція сустрэчы Антона Луцкевіча зь Юзэфам Пілсудзкім. Першая адбылася ў верасьні 1919 году.

112 Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 1. С. 507–509.

113 Тамсама. С. 575–576.

Неўзабаве частка беларускіх дзеячоў адвярнулася ад палякаў і перайшла да актыўнай антыпольскай прапаганды. Узначальвалі гэтую частку беларускія эсэры, якія ўжо ў лістападзе 1919 году ўвайшлі ў таемнае антыпольскае пагадненьне з савецкай Расеяй. У выніку 13 сьнежня 1919 году адбыўся раскол Рады БНР, заснаваліся Найвышэйшая Рада БНР — фактычна, дырэкторыя зь пяці чалавек — і Народная Рада БНР, якія сфармавалі два суперныя ўрады. Найвышэйшай Радзе падпарадкоўваўся ўрад А. Луцкевіча, Народнай Радзе — урад В. Ластоўскага[114].

Палякі арыштавалі эсэраў-раскольнікаў, у тым ліку Ластоўскага, Бадунову і Мамоньку. Яшчэ праз пару месяцаў, зразумеўшы марнасьць арыентацыі на палякаў, Антон Луцкевіч сышоў у адстаўку. А эсэры пад канец вясны 1920 году радыкалізаваліся настолькі, што арыентавалі сваю партыю (5 тысяч членаў) і Грамаду моладзі (10 тысяч членаў), а таксама Сувязь беларускага працоўнага сялянства на стварэньне баявых дружынаў і пачатак антыпольскай партызанкі. Аднак 11 ліпеня ў Менск прыйшлі саветы, і пачаўся новы этап менскай і беларускай гісторыі.

Тым ня менш той год — ад паловы 1919-га да паловы 1920-га — стаў значным пэрыядам і для БНР, і для гісторыі Беларусі наогул. Ураду БНР удалося заснаваць дыпляматычныя місіі ў Нямеччыне, Латвіі, Літве, Эстоніі, Чэхаславаччыне, Баўгарыі,

114 Больш падрабязна пра гэта: Міхалюк Д. Беларуская Народная Рэспубліка: Ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці. Смаленск, 2015. С. 415–433.

Фінляндыі, Турэччыне[115]. Замежныя прадстаўніцтвы БНР і выдавецтвы пры іх, вайскова-дыпляматычныя місіі, нечуваны раней прагрэс нацыянальнай асьветы, сотні беларускіх школ, многія дзясяткі беларускіх газэт і часопісаў, росквіт (у параўнаньні з папярэднімі часамі) культуры і мастацтва, шырокая падтрымка насельніцтва, тысячы пакліканых у беларускае войска добраахвотнікаў, дыпляматычныя посьпехі і пэўная няяснасьць становішча — куды схіляцца шалі вагаў, — усё гэта давала беларускім дзеячам (асабліва рамантычна настроенай інтэлігенцыі) падставы спадзявацца і марыць аб поўным посьпеху сваёй справы.

І вось у такіх умовах, у дні паўторнага абвяшчэньня незалежнасьці БНР і вялікіх надзеяў беларускага актыву Рамуальд Зямкевіч і рэдакцыя газэты «Беларусь», супрацоўнікам і фактычным рэдактарам якой тады быў Старшыня Рады БНР Язэп Лёсік, праводзяць акцыю ў справе папулярызацыі менскага Старога гораду.

На працягу лістапада газэта «Беларусь» пяць разоў аддае свае старонкі пад апалягетычныя тэксты Зямкевіча пра Менск. 4 лістапада газэта друкуе нарыс Зямкевіча «Беларускія назовы вуліц у Менску», 14 і 15 лістапада з працягам — «Стары замак

115 Самі беларускія ўрадоўцы пазьней прыводзілі свае доказы і сьцьвярджалі, што незалежнасьць БНР прызналі Расея і Польшча, што, вядома, не адпавядала сапраўднасьці. Гл.: Інфармацыйная запіска Аляксандра Галавінскага аб палітычным становішчы Беларусі, узьнікненьні і дзейнасьці Ўраду БНР, дачыненьні да суседніх дзяржаваў, складзеная на падставе дадзеных архіву Ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі // Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 2. С. 1184–1197.

у Менску», 26 і 27 лістапада з працягам — «Стары Менск у беларускіх успамінах». Гэта сьведчыць пра невыпадковы характар сэрыі публікацыяў пра Менск. Яны меліся прыцягнуць увагу палітыкаў і беларускага грамадзтва да менскай гісторыі і гістарычнага значэньня Старога гораду.

Можна зрабіць выснову, што Язэп Лёсік, Рамуальд Зямкевіч і іх калегі, зьвязваючы вялікія надзеі з новай сэсіяй Рады БНР і з аптымізмам гледзячы ў будучыню, выбіралі сядзібу для будучых урадавых установаў незалежнай дзяржавы — Беларускай Народнай Рэспублікі.

Таму нарыс Рамуальда Зямкевіча «Стары замак у Менску» і стаў ключавой публікацыяй «Беларусі» у гэтай справе. Пералічыўшы аргумэнты, якія, на яго думку, абгрунтоўвалі важнае гістарычнае значэньне «сэрца Беларусі, найстарога Менску» і менскага замку як сядзібы каралёў і вялікіх князёў літоўскіх, дзе рабіліся агляды войскаў перад вырашальнымі перамогамі, у тым ліку і перад гістарычнай бітвай пад Воршай у 1514 годзе, Рамуальд Зямкевіч заканчвае свой тэкст прапановай пабудаваць на менскім Замчышчы сядзібу Ўраду і Сойму Беларускай Народнай Рэспублікі:

*«Замковая гара ў Менску... дзякуючы яе гістарычна-археалягічнаму значэньню, павінна быць выкарыстана пад будову новага замчышча для устаноў Беларускага Гаспадарства, прычым археалёгі і архітэктары павінны папрацаваць як пры раскопках, так і пры новай будове, каб асталася яна памяткай для будучых пакаленьняў»*[116].

116 Беларусь. 15 лістапада 1919.

Вось так нарадзілася гэтая ідэя.

Сьлед ад таго грамадзкага інтарэсу да Замчышча застаўся ў беларускім мастацтве. Адным з тых, хто відавочна захапіўся ідэяй Рамуальда Зямкевіча, быў выдатны беларускі мастак Язэп Драздовіч. У той час нацыянальнага ўздыму (1919–1920) ён таксама знаходзіўся ў Менску — працаваў мастаком-дэкаратарам у «Беларускай хатцы» і Беларускім дзяржаўным тэатры, супрацоўнічаў зь літаратурнымі і асьветнымі выдавецтвамі як мастак-ілюстратар, выкладаў малюнак у беларускай гімназіі і жаночай прагімназіі. А ў кароткія вольныя хвіліны Драздовіч таксама блукаў па Старым горадзе і, натуральна, маляваў. Вось тыя яго малюнкі з пачатку 1920 году і засталіся найлепшым доказам уплыву ідэі Рамуальда Зямкевіча на тагачасных беларускіх дзеячоў.

Магчыма, Верхні горад у архітэктурна-мастацкім сэнсе ў тыя часы быў непараўнана больш цікавы і прывабны для мастакоў, чым Замчышча. Квадратны рэнэсансны рынкавы пляц зь пяцьцю храмамі, шасьцю кляштарамі і езуіцкай вежай з гадзіньнікам — непараўнана больш плённая і прывабная для маляваньня натура, чым занядбаная, парослая бадыльлем гара над Сьвіслаччу з напаўразбуранымі руінамі, неахайнымі, даўно не рамантаванымі двух-трохпавярховымі дамамі на вузкіх вуліцах і амаль вясковымі агародамі.

І тым ня менш Драздовіч у пачатку 1920 году стварае толькі адзін малюнак Высокага места і пяць малюнкаў Замкавай гары і яе ваколіцаў. Да гэтага трэба дадаць яшчэ дзьве яго рэканструкцыі крывіцкіх «гарадцоў», у якіх пазнаюцца Менскі за-

мак XI–XII стагодзьдзяў і яго брама, а таксама два фатаздымкі, дзе Драздовіч зьняты пад Замкавай гарой — ля вусьця Нямігі і на беразе Сьвіслачы ў атачэньні прачак і дзяцей. Агулам каля дзясятка выяваў Замкавай гары[117]. Таксама ў яго архіве захаваўся здымак, на якім мастак стаіць ля вытоку Нямігі.

Калі да гэтага дадаць імя чалавека, які ў чэрвені 1920 году здымаў Драздовіча ў Старым горадзе — а гэта славуты беларускі фатограф Леў Дашкевіч, які ў сярэдзіне 20-х гадоў на замову Інбелкульту будзе здымаць гістарычныя помнікі Менску — то карціна тагачаснага зацікаўленьня даўнінай паўстае перад намі яшчэ больш аб'ёмна.

Гэтак міжволі Язэп Драздовіч пакінуў яскравае мастацкае сьведчаньне захапленьня ідэяй Рамуальда Зямкевіча стварыць на менскім Замчышчы сядзібу Ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі і Сойму БНР. Рэчаіснасьць ужо зімой і вясной 1920 году паказала, што хутка тыя надзеі спраўдзіцца не маглі.

Тым ня менш Язэп Лёсік ад прапаганды Старога Менску не адступаў. Рэдагаваная ім «Беларусь» і ў 1920 годзе перадрукоўвала некаторыя зь лістападаўскіх тэкстаў Зямкевіча, а таксама прысьвячала новыя публікацыі менскай гісторыі і архітэктуры, прыцягваючы ўвагу чытачоў да старажытнасьці і значнасьці патэнцыйнай сталіцы БНР.

Каштоўнасьць гістарычнага Менску стала тады агульным месцам і трапляла нават у адозвы. За месяц да прыходу ў Менск бальшавікоў улетку 1920

117 Гл.: Язэп Драздовіч. Альбом-манаграфія. Менск, 2002.

году газэта «Беларусь», друкуючы ўлёткі з заклікам да добраахвотнікаў уступаць у Беларускае войска і прыходзіць на прызыўныя пункты Беларускай вайсковай камісіі, пісала:

«*Грамадзяне Беларусі!*

*Варожая навала, што пагражала нашаму старому Менску, адбіта дзякуючы адвазе і ахвярам польскага войска. Але ня кінулі маскоўскія тыраны каваць путы на нашую волю, на волю Беларусі. Зьбіраюць яны з усяго сьвету дзікіх, ахвочых да рабунку людзей і пасылаюць катаваць нашую Бацькаўшчыну. Гарадзь вёскі і месты, тысячы братоў нашых паўцякалі з-пад родных стрэх. Такая ж доля чакае і ўсіх нас. Хто ж павінен бараніць нас, як ня мы самі, як ня нашае войска, беларускае войска! Устаньма ж на абарону радзімага краю! Пад штандар Пагоні ў беларускае войска! Хто дужы і малады — да зброі*!»[118]

Як бачым, нават у адозьве да мабілізацыі перад сьмяротнай небясьпекай рэдактар Лёсік з гонарам падкрэсьлівае — «нашаму старому Менску», г. зн. разуменьне каштоўнасьці тагачаснага архітэктурна-гістарычнага аблічча Менску і яго значнасьці для Беларусі было поўнае і абсалютнае.

Падчас адыходу палякаў зь Менску 11 ліпеня 1920 году на Замчышчы здарыўся вялікі пажар, многія дамы былі моцна пашкоджаныя, пацярпела і самая старая забудова на вуліцы Стара-Мясьніцкай. У горадзе хадзілі чуткі, што Замчышча наўмысна падпалілі польскія легіянэры, каб схаваць сьляды габрэйскага пагрому.

118 Беларусь. 28 траўня 1920.

Адным з тых, хто зацікаўленьне Язэпа Драздовіча Старым Менскам падзяляў, можа быць Янка Купала. У той час яны вельмі блізка супрацоўнічалі. У 1920–1922 гадах Янка Купала быў рэдактарам менскага часопісу «Вольны сьцяг», а Язэп Драздовіч у 1920–1921 гадах працаваў у гэтым выданьні мастаком-афарміцелем.

Можна толькі здагадвацца, пра што гаварылі абодва творцы падчас працы над нумарамі часопісу, але тэма Старога Менску ў гэтых размовах павінна была прысутнічаць. Бо мы дакладна ведаем, што пазьней, у 20-я гады, паводле ўспамінаў старажылаў, Янка Купала і Якуб Колас часта гулялі па вузкіх і крывых вулках Замчышча або стаялі над стромым замкавым схілам да Сьвіслачы. Некаторыя зь мясцовых жыхароў іх пазнавалі і прыязна віталіся. Вось як пра гэта згадаў у сваёй мэмуарнай аповесьці габрэйскі пісьменьнік і журналіст Аркадзь Капілаў, які нарадзіўся і вырас на вуліцы Замкавай:

«*Потом исчезли улицы, город пережил катастрофу. Но никого, увы, она не потрясла: было — не было... Обидно. Потому что Замчище — праматерь Минска, его история. Уже одно то, что сюда заходили, гуляя по набережной Свислочи, Янка Купала и Якуб Колас, наполняет гордостью сердце...*

*— Тот, что с палкой, — Янка Купала, — охотно объяснял я всем, кто с почтением смотрел на этих незнакомых Замчищу людей. — А рядом с ним Якуб Колас...*»[119]

Якуба Коласа ў 1919–1920 гадах у Менску не было, і відавочна, што Купала вадзіў яго на Замкавую

119 Капилов А. Замковая 2/7. Менск, 1995. С. 7.

гару, каб паказаць старыя муры і расказаць пра рамантычны ўздым тых часоў і наіўныя спадзяваньні займець сваю незалежную дзяржаву. Сам ён пра тыя няспраўджаныя надзеі пазьней напісаў:

«*Калі бальшавікі ўцяклі зь Менску, а палякі ўвайшлі, то беларусы з аблягчэньнем уздыхнулі. Начальніка Польскай дзяржавы віталі шчыра і спадзяваліся, што справа незалежнасьці Беларусі цяпер стане на цьвёрдым грунце... У Менску тады закіпела праца. Арганізаваўся Беларускі нацыянальны камітэт, пачала выходзіць штодзённая беларуская газэта, а 12 лістапада была адкрыта сэсія Рады БНР. Здавалася, што ўсё пойдзе добра…*»[120]

Відавочна што прагулкі з Коласам на Замчышча сталі водгульлем тых Купалавых няспраўджаных надзеяў, а для нас яны засталіся доказам, што прапаганда Старога гораду ў 1918–1920 гадах сапраўды знайшла водгук у душах беларускіх інтэлектуалаў.

Падзеі 20-х гадоў XX стагодзьдзя паказалі, што ідэя «старога беларускага работніка»[121] Рамуальда Зямкевіча пабудаваць на Замкавай гары ў былым менскім замку сядзібу для дзяржаўных установаў Беларускай Народнай Рэспублікі і яе падтрымка ў колах беларускай палітычнай і культурнай эліты забытыя не былі[122].

---

120 Купала Я. Справа незалежнасьці Беларусі за мінулы год // Жыве Беларусь: Вершы, артыкулы. Менск, 1993. С. 344.

121 Так Зямкевіча называў апошні прэм’ер-міністар БНР Аляксандар Цьвікевіч. Гл.: Западноруссизм. С. 140.

122 А. Чарнякевіч і А. Пашкевіч у артыкуле «Псіхалогія здрады: беларускі нац. рух вачыма канфідэнта II аддзела польскага Ген. штаба» (АРХЭ. 2005. №6) паказалі, што ў 1922 г. Зямкевіч стаў агентам дэфэнзывы. На маю думку, той этап яго жыцьця не перакрэсьлівае папярэдні.

Частка III

# Інбелкульт
# і Стары горад



## Стары горад паміж дзьвюма сусьветнымі войнамі

Адчуць менскую атмасфэру 1918 году, у тым ліку і атмасфэру Старога гораду, можа дапамагчы тагачасны друк. Вось як апісваў Менск у лютым 1918 году, г. зн. адразу пасьля прыходу ў горад нямецкіх войскаў, ваенны карэспандэнт газэты «Berliner Tagesblatt» обэр-лейтэнант Гофман:

«*Вось доўгачаканы Менск — конка, дрожкі ў вялікай колькасьці, прыгожы чыгуначны вакзал, але ж гэта яшчэ прадмесьце. Высокія званіцы цэркваў ды іншыя камяніцы абяцаюць большае. Ходнікі цэмэнтаваныя, радзей драўляныя, вялікія крамы й прадстаўнічыя будынкі. Словам — вялікі горад. Нават прыбіральшчыкі вуліцаў за працай, і яны зьявіліся паводле загаду нямецкіх уладаў? Не — яны даўно знаходзяцца на службе ў тутэйшых гаспадароў, таксама як і вазакі, што звозяць сколаты лёд. Вуліцы чысьцюткія, і насельніцтва сустрэла нас ветліва. Жыхары добра апранутыя... Паміж прыстойнай публікі шмат галаварэзаў, што туляюцца па горадзе ў паўвайсковай вопратцы: кіргізы, татары, расейцы — людзі, якім няма чаго губляць. Нямецкія ўлады чакае немалая праца*»[123].

123 Ляхоўскі У., Раманава І. Паўсядзённае жыцьцё Менску ў 1918–1938 гадах: дакумэнтальныя сьведчаньні й ўспаміны // Спадчына. 2003. №2–3.

Моцнае ўражаньне на немца зрабіў узровень гандлю і асартымэнт тавараў у менскіх крамах:

*«Вялікія крамы, якія ўтрымліваюцца ў чысьціні, кавярні, гасьцінныя і кіно ажыўляюць вулічнае жыцьцё. Зірнем на вітрыны крамаў. І чаго толькі тут няма. Мыла розных гатункаў, ікра, кава, гарбата, міндаль, карынкі, скура і сукно — усё, што душа можа пажадаць. Хоць кошты вышэйшыя, чым у Бэрліне. Але хто ўмее патаргавацца, зможа зьберагчы лішнюю капейку, асабліва калі ён свае пакупкі будзе рабіць не на галоўных вуліцах, дзе менчукі пераважна гуляюць, на Губэрнатарскай і Захараўскай...»*[124]

Пакінуў обэр-лейтэнант Гофман і апісаньне тагачаснага Нізкага рынку:

*«Вялікай папулярнасьцю ў пакупнікоў карыстаецца Нізкі рынак, дзе можна купіць усё. Вось стаіць мужык, які прадае боты; ён утульна ўладкаваўся на бліжэйшай лесьвіцы на вуліцы і тым самым эканоміць на аплаце за месца. Па ўсім кірмашы снуюць габрэі й габрэйкі, якія, прапануючы свой тавар, нярэдка надакучліва прыстаюць да пакупнікоў. Паўсюль бруд і смурод, пры гэтым побач спакойна прадаецца ўсё што заўгодна: ці гэта ношаная сукенка ці старое жалеза, стручковыя плады ці кава, журавіны, мяса, рыба, галянтарэйныя тавары ці ганчарныя вырабы. Старая прадаўшчыца газы, там у самым кутку, апранутая ў скураную спадніцу, з галавы да ног запэцкана сваім таварам. Але газа ўсім патрэбная, жыць безь яе цяжка, хоць кошты высокія. А там вось кіргіз-кветачнік, які прадае свае*

124 Тамсама.

*папяровыя кветкі і сьцяжкі. Аднак здымаць сябе не дае, зьбягае ад фотаапарата»*[125].

Такім убачыў Нізкі рынак нямецкі журналіст вясной 1918 году.

З пачатку XX стагодзьдзя кожнае дзесяцігодзьдзе няўхільна адсоўвала Стары горад на пэрыфэрыю менскага грамадзкага жыцьця. Цэнтар усё болей перамяшчаўся ў раён Савецкай (Захараўскай). Гэта відаць і з пададзенай вышэй цытаты.

Калі ў 1892 годзе ў Менску была пушчана конка, дык адна зь яе лініяў прайшла проста па Нізкім рынку і самай вузкай вуліцы гораду — Кацярынінскай (адрэзак Нямiскай паміж Рыбным рынкам і Казьмадзям'янаўскай). А калі ў 1929 годзе на зьмену концы прыйшоў трамвай, то яго маршруты Нізкі рынак ужо абыходзілі, толькі адна з трамвайных лініяў прайшла непадалёк — па сёньняшняй вуліцы Багдановіча і спэцыяльным мосьце празь Сьвіслач адразу ў Верхні горад.

Жыхароў Старога гораду не было ў сьпісе першых карыстальнікаў гарадзкога водаправоду, заведзенага ў Менску ў 1873 годзе. Не было іх і ў сьпісе падпісчыкаў на электраэнэргію першай менскай электрастанцыі ў 1895 годзе. Не было дзеля аднае простае прычыны — беднасьці; багатыя мяшчане, як вядома, у непрэстыжных раёнах ня селяцца. Радыё на вуліцы Замкавай было праведзена ў палове 30-х гадоў.

Тым ня менш Стары горад заставаўся старасьвецкім гандлёвым цэнтрам і прыцягваў да сябе ўвагу нешматлікіх менскіх інтэлектуалаў.

125 Тамсама.

Вуліца Замкавая і яе ваколіцы захоўвалі сваю цэхавую спэцыфіку. Там па-ранейшаму жыла рамесьніцкая беднata: сталяры, муляры, бляхары, краўцы, шаўцы, рэзьнікі, шчотачнікі, тачыльшчыкі ды іншыя. Якраз гэтым тлумачыцца факт зьмены назвы вуліцы Падзамкавай-на-Балоце — за саветамі яе назвалі Саматужнай.

Нацыянальны склад жыхароў Старога гораду быў стракаты. Ваколіцы Нізкага рынку насялялі пераважна габрэі, але жылі таксама беларусы, палякі, расейцы, татары і немцы. У некаторых дамах, напрыклад, на вуліцы Нова-Мясьніцкай пры самым яе выхадзе на Стара-Мясьніцкую, жыло адразу па некалькі нямецкіх сем'яў. Тым ня менш, у 20–30-я гады, паводле ўспамінаў тамтэйшых жыхароў, Замчышча гаварыла па-беларуску, па-расейску і на ідыш — большасьць жыхароў магла падтрымаць гаворку на гэтых трох мовах.

Пэрыфэрыйнасьць Старога гораду абумоўлівала і характар жыцьця яго насельнікаў. Жанчыны часта не працавалі і займаліся хатняй гаспадаркай. З раніцы многія гаспадыні ішлі купляць сьвежыя садавіну і гародніну на Траецкі рынак, а па дарозе назад дакуплялі мясныя і малочныя прадукты ў гандлёвых радах на Нізкім рынку. Там было некалькі вядомых крамаў, у якія прыходзілі і прыяжджалі жыхары зь іншых менскіх раёнаў. Гэта ювэлірная крама «Торгсин» і хлебная крама «Колас», дзе прадаваўся заўсёды сьвежы менскі эксклюзіў — выраблены з пытляванай мукі сітны хлеб. Абедзьве гэтыя крамы знаходзіліся на Нізкім рынку ў доме паміж трасай вуліцы Гандлёвай і Сьвіслаччу. На другім баку рынку была славутая рыбная крама Акуня.

Па-ранейшаму квітнеў гандаль саматужна вырабленымі стравамі — прадавалі бабы, пончыкі-пышкі і «куханы» з цыбуляй і макам. Бацькам дапамагалі дзеці. 6–8 гадовая бабуля аўтара гэтых радкоў у 1921–1923 гадах гандлявала на Нізкім рынку пітной вадой — па капейцы за конаўку; выручка ішла на пакупку абаранкаў.

Паводле ўжо згаданага Аркадзя Капілава, родны трохпавярховы дом якога стаяў на рагу вуліц Замкавай і Стара-Мясьніцкай, пад вечар у летнюю сьпёку гаспадыні на Замкавай гары і ў Траецкім прадмесьці палівалі ходнікі вадой, каб прыбіць пыл, выносілі з кватэраў табурэты або крэслы і разам з суседзямі і дзецьмі ў нетаропкай гавэндзе абмяркоўвалі навіны прайшоўшага дня. Сыходзячы з дому, жыхары Старога гораду часта пакідалі дзьверы незамкнутымі.

Дзеці менскага Замку былі адной вялікай сям'ёй, хоць і дзяліліся на двары. Гэтыя двары, дарэчы, нягледзячы на архітэктурную ізаляванасьць для дзяцей усё роўна былі прахаднымі. Улетку дружна кралі на Татарскіх гародах гуркі, моркву і тут жа, памыўшы ў Сьвіслачы і паскробшы шкельцам, зьядалі. На Траецкім рынку дралі з конскіх хвастоў валасы на жылку для вудаў — Сьвіслач тады была багатая на рыбу. Увесь Стары горад і ня толькі ён, паводле таго самага Капілава, ведаў і захапляўся Юзікам — найлепшым менскім рыбаком, які штодзень лавіў вудай каля Хлусавага моста. Узімку каталіся на санках з Замкавай гары проста на сьвіслацкі лёд або хадзілі на лыжах аж да купальняў і Лодачнай станцыі на Людамонце — сёньня раён Камсамольскага возера.

У архітэктурным сэнсе Менск у тым часе нёс далейшыя страты. У пэрыяд Першай сусьветнай вайны і розных акупацыяў былі моцна пашкоджаныя самыя старыя камяніцы на Замчышчы — будынак Трыбуналу Вялікага Княства Літоўскага і дамы Маньковіча на Стара-Мясьніцкай вуліцы. Стан гэтых помнікаў зафіксаваў на сваіх малюнках 1920 году Язэп Драздовіч.

Падчас адступленьня польскіх войскаў зь Менску летам 1920 году на Замчышчы здарыўся пажар. Пра гэты пажар менчукі пасьля доўга памяталі.

Пажары ў Менску падчас польскай акупацыі 1919–1920 гадоў — гэта наогул агульнае месца многіх успамінаў і вядомая рэч для гісторыкаў. Засталіся і пісьмовыя сьведчаньні. Вось як пра пажары часоў польскай акупацыі згадвала дачка Ўладзіслава Галубка Вільгельміна:

«*Вернувшись в Минск, нам пришлось испытать и холод, и голод. Семья большая, а отец надолго прикован к постели жестоким ревматизмом. Город оккупирован белополяками, горел повсеместно…*»[126]

Сьведкам пажару ў Старым горадзе пры адступленьні палякаў быў Янка Купала. Успамін пра гэтую трагічную падзею трапіў нават у ягоныя вершы, што, безумоўна, сьведчыць і пра маштаб падзеі, і пра маштаб душэўнай раны песьняра. У 1925 годзе ў вершы «Шляхам гадоў» Купала пісаў:

*Крывёй пажараў аблілося неба.*
*Так дзякавала панская рука,*

126 Воспоминания Вильгельмины Голубок // Ціхановіч Я. Партрэт стагоддзя. Менск, 2015. С. 384.

*Што некалі — ці трэба, ці ня трэба —*
*Мы паншчыну на іх рабілі як маглі...*

У 1928 годзе ў вершы «Летапіснае» Купала зноў успамінае пра польскія пагромы і падпалы ў Старым горадзе і нават з жалем сьведчыць пра іх вынікі — руіны і папялішчы:

*Арол белы над Менскам,*
*А зь ім польскія дары:*
*Катаваньні, пагромы,*
*Шыбяніцы, пажары.*

*Адступіў ўрэшце вораг,*
*Але ў спадках пакінуў*
*Папялішчы ў сталіцы*
*І руіны, руіны...*

І ўжо нават пасьля спробы самагубства, цалкам ляяльны да савецкай улады Купала ў вершы «Беларусі ардэнаноснай» у 1935 годзе зноў успамінае той трагічны пажар:

*Але зьмяніла навалу германскую*
*Подлае панства ад польскай кароны, —*
*Скрыпнулі вісельні, путы забразгалі,*
*Кроў палілася... Пажары, пагромы.*

...

*Шум і гоман у сталіцы,*
*Сьцяг ля сьцяга ўецца,*
*Як на градах мак чырвоны,*
*Ажно сэрца б'ецца.*

*Сэрца б'ецца і пытае:*
*— А што за навіна?*
*— Вызваленьня ад палякаў*
*Сёньня гадавіна!*

*А сталіца — дзіву дайся!*
*Паўстала з руінаў, —*
*Менск — сталіца, гордасьць наша,*
*Слава ўсёй краіны.*

*Дзе дымелі папялішчы —*
*Сьляды панскай ўлады,*
*Гмах ля гмаху вырас новы,*
*Чыстата, парадак.*

Польская акупацыя Беларусі ў 1919–1920 гадах сапраўды была вельмі жорсткай: людзей ня толькі зьневажалі, рабавалі і зьбівалі — іх расстрэльвалі і вешалі. Групавыя здымкі павешаных і расстраляных сялян — ня рэдкасьць у беларускіх газэтах і часопісах 1920-х гадоў. Ня дзіва, што дзень вызваленьня Менску ад палякаў 11 ліпеня быў да 1941 году галоўным дзяржаўным сьвятам БССР.

У 1922 годзе расейскі сацыял-дэмакрат Фёдар Дан апублікаваў у Бэрліне свае ўспаміны «Два года скитаний (1918—1921)». Быў там і такі запіс пра падзеі верасьня-кастрычніка 1920 году — г. зн. пасьля адыходу з гораду палякаў 11 ліпеня:

«*Знайсьці ў Менску кватэру ці хоць нейкі пакой было вельмі цяжка. Усё было забіта франтавымі ўстановамі ды іхнымі незьлічонымі службоўцамі. Але, акрамя таго, значная частка Менску з фабрыкамі й заводамі была разбурана і, як мне казалі, наў-*

*мысна падпалена падчас адступленьня палякамі, якія перашкаджалі тушыць пажар*»[127].

Не палепшылася сытуацыя і ў сярэдзіне 20-х гадоў. Менск па-ранейшаму быў запоўнены людзьмі, якія шукалі хоць якое жытло, пры тым, што ў горадзе і самі менчукі перажывалі востры жыльлёвы крызіс. 16 сакавіка 1925 году Бюро Менскага акруговага камітэту КП(б)Б вырашыла:

«*Имея в виду наличие безработицы в Минске, а также скопление перебежчиков из Польши, притом отсутствие помещений, — просить Бюро ЦК КП(б)/Б указать ЦК МОПР'а о необходимости перепровождения политэмигрантов в другие города*»[128].

З прычыны беспрацоўя і адсутнасьці жытла перабежчыкаў з Заходняй Беларусі пачалі высылаць у іншыя гарады СССР. Тады, у 1925-м, іх яшчэ не саджалі ў турмы.

Паколькі дамы былі старыя, на Замчышчы адбываліся шматлікія рамонты. Дзьвюхмоўная ў тыя часы «Звезда» пісала:

«*Будаўніча-гандлёвы трэст пачаў рамонт жытла... Ён рамантуе шэраг дамоў — дом №10 на Нізкім рынку — 22 кватэры, дом №5-12 на Школьнай вул. — 14 кватэраў...*»[129]

Не заўсёды будаўнікі пасьпявалі — часам, здараліся і абвалы канструкцый. У студзені 1926 году газэта «Савецкая Беларусь» пісала:

«*Абвал дому. 29-га студзеня раніцай на Няміга-Ракаўскай вул. у камунальным доме №8 абвалілася*

127 Ляхоўскі У., Раманава І. Цыт. твор.
128 Дзяржаўны архіў Менскай вобласьці, ф. 12-п, воп. 1, спр. 199, арк. 56.
129 Звезда. 8 кастрычніка 1927.

*столь. Жыльцы не пацярпелі. Дом пагражае далейшым абвалам*»[130].

У 1929 годзе дом на рагу Замкавай і Стара-Мясьніцкай (адрас Замкавая, 2 або Стара-Мясьніцкая, 7) абрынуўся ў сваёй цэнтральнай трохпавярховай частцы — засталіся толькі бакавыя двухпавярховыя.

У 1920-я гады Стары горад панёс тапанімічныя страты. У 1926 годзе прэзыдыюм Менскага акруговага выканаўчага камітэту пастанавіў перайменаваць Рыбны рынак у Біржавы завулак[131]. У 1930-я гады Казьмадзям'янаўскую перайменавалі ў вуліцу Дзям'яна Беднага, а Школьную ў Вольную. Зрэшты самі менчукі і нават прадстаўнікі ўладаў у наступныя гады ігнаравалі гэтыя перайменаваньні і называлі згаданыя вуліцы Старога гораду па-ранейшаму[132].

На працягу 1926–1927 гадоў гістарычная рэчка беларусаў Няміга была схаваная ў жалезабэтонны калектар, пры гэтым была зьмененая яе траса. Раней яна цякла па вуліцы Нямігскай, паварочвала на Рыбны рынак, абцякала Замчышча з захаду і поўначы і ўпадала ў Сьвіслач за Замкавай гарой. Калектар жа праклалі напрасткі — па трасе былой Кацярынінскай вуліцы і Нізкім рынку, не правёўшы археалягічных дасьледаваньняў.

130 Савецкая Беларусь. 31 студзеня 1926.

131 Звезда. 21 студзеня 1926. Прапанова аб перайменаваньні была ўнесеная на разгляд прэзыдыюму Менскага акруговага выканкаму 15 студзеня 1926 году камгасам НКВД. Гл.: НАРБ, ф. 6, воп.1, спр. 899, арк. 31.

132 Гл., напр.: Якушка Г. Перспектывы рэканструкцыі горада Менска // Звязда. 21.03.1937.

Хаваць Нямігу ў зямлю пачалі летам 1926 году. 8 верасьня «Звезда» паведаміла:

«*На работах сейчас более 350 человек. Производятся работы по включению Немигского канала в железо-бетонную трубу от реки Свислочи до Республиканской улицы. Существующее в настоящее время русло Немиги отводится в сторону, что даст возможность уложить трубу. Приступлено к бетонированию фундамента трубы у реки Свислочи*»[133].

Будаўнікі працавалі даволі хутка, бо ўжо 21 верасьня газэта паведаміла аб заканчэньні першага этапу будаўніцтва:

«*Земляные работы на участке от Республиканской до Немиги-Раковской улиц и от реки Свислочи до Екатерининской улицы закончены. Через две недели начнутся работы по бетонированию реки Немиги. Железо-бетонные работы предполагается закончить к 4-му ноября, а засыпку трубы — 1-му декабря. Внутри коллектора прокладываются канализационные трубы для сточных вод. На работах до 400 человек*»[134].

Тым ня менш кіраўнікі будаўніцтва зразумелі, што восень выдалася халоднай і зіма наступіць хутка, а таму была прынятая гэткая пастанова:

«*... Все работы по канализации г. Минска разделены на 5 лет. В 1927 г. предполагается произвести следующее: закончить вторую половину работ по заключению реки Немиги в железобетонную трубу...*»[135]

133 Звезда. 8 верасьня 1926.
134 Звезда. 21 верасьня 1926.
135 Звезда. 23 верасьня 1926.

Першую частку калектару адмыслова скліканая Менскім акруговым аддзелам камунальнай гаспадаркі камісія прыняла 23 сьнежня 1926 году[136]. Чыноўнікі спачатку сабраліся ў будынку рамонтна-будаўнічага пададдзелу Менскага аддзелу камунальнай гаспадаркі на Пляцы Волі №2, пасьля агледзелі вынікі будоўлі на Нямізе і падпісалі акт прыёму.

У наступным, 1927-м годзе, рака Няміга ў Старым горадзе перастала існаваць — другая частка працаў была пасьпяхова ажыцьцёўленая. Пры гэтым аб правядзеньні археалягічных раскопак у найстаражытнейшай частцы гораду мовы не ішло, згоды ў Інбелкульту ніхто не пытаўся, і шкода найстарэйшым археалягічным пластам была нанесена непапраўная:

«*Во время земляных работ на Немиге обнаружено значительное количество предметов домашнего инвентаря и оборудования, вооружения и т.д., относящихся к 16–17 столетиям. Все находки отправляются в археологическую комиссию Инбелкульта*»[137].

У 1928–1929 гадах падчас земляных працаў для пракладкі каналізацыйных труб па трасе Казьмадзям'янаўскай вуліцы і далей у Верхні горад, былі апаганеныя могілкі бэрнардынскага і базыльянскага мужчынскіх кляштараў.

Трагічныя наступствы для шараговай мяшчанскай забудовы Старога гораду мела грандыёзная паводка вясны 1930 году. Халады і сьнег у той год трымаліся да канца красавіка, а затым горад на

136 НАРБ, ф. 691, воп. 1, спр. 82, арк. 306.
137 Звезда. 21 верасьня 1926.

некалькі дзён ахутаў цёплы вільготны туман. Праз тры дні ноччу Сьвіслач імкліва выйшла зь берагоў. Паводка была такой моцнай, што ад некаторых дамоў з-пад вады былі відаць толькі вільчыкі стрэхаў — напрыклад, на Старавіленскім тракце і Пралетарскай вуліцы (сёньня Янкі Купалы). Вада дабралася да ніжніх паверхаў дамоў у Траецкім прадмесьці. У Старым горадзе некранутаю паводкай засталася толькі самая высокая частка Замчышча. Вуліцы Раманаўская Слабада, Нова-Маскоўская, Гандлёвая, Няміга, Нізкі і Рыбны рынкі, паўночны бок Замчышча (так званае Балота) і Татарскія агароды былі залітыя цалкам. Вада не спадала тры дні, Сьвіслач бурліва цякла праз масты, горад аказаўся падзеленым на дзьве часткі[138].

У красавіку-траўні 1931 году на Нізкім рынку былі зьнесеныя гандлёвыя рады, а на паўночна-заходнім баку рынкавага пляцу (з боку Замчышча) пасаджаныя некалькі дзясяткаў дрэваў[139].

У канцы чэрвеня таго самага году менскі ЖАКТ №5, на тэрыторыі якога знаходзілася частка Замчышча, распачаў у Старым горадзе «ачыстку двароў ад сьмецьця»[140]. Падчас гэтых працаў, верагодна, яшчэ больш пацярпелі найстарэйшыя помнікі Замчышча на вуліцы Стара-Мясьніцкай — для малаадукаваных функцыянэраў ЖАКТу яны, мабыць, былі ня больш чым руінамі або кучамі будаўнічага друзу.

138 З успамінаў В. М. Бугаенкі // Памяць: Мінск. Гісторыка-дакумэнтальная хроніка гарадоў і раёнаў Беларусі. У 4 т. Менск, 2002. Т. 3. С. 205.

139 Рабочий. 6 траўня 1931.

140 Рабочий. 28 чэрвеня 1931.

Наогул, жыцьцё ў Старым горадзе ішло вельмі інтэнсіўнае. Новыя ўлады то абвяшчалі муніцыпалізацыю дамоў у гэтым раёне, то праз нейкі час пераглядалі сваё рашэньне і вярталі дамы гаспадарам. Часам гэтыя рашэньні датычыліся адразу двух-трох дзясяткаў дамоў, але адбываліся і «кропкавыя» муніцыпалізацыі. Напрыклад, у ліпені 1928 году дом № 11/1 на рагу Казьмадзям'янаўскай і Кацярынінскай, які належаў І. В. Ляхаўскаму, было вырашана муніцыпалізаваць

«*па прычыне безгаспадарчага скарыстаньня яго дамаўласьнікам Ляхаўскім*»[141].

Муніцыпалізаваныя дамы праз аўкцыёны перадавалі дробным прадпрымальнікам для арганізацыі гандлю і вытворчасьці рознай прадукцыі.

Адны дамы паводле пастановы гарадзкіх уладаў зносілі, іншыя — рамантавалі і аднаўлялі. Гэтак у траўні 1927 году было вырашана з прычыны дрэннага стану зьнесьці дом №11 на Замкавай вуліцы[142], а ў жніўні 1927-га з такой самай прычыны было вырашана адрамантаваць дом №13/9 на Стара-Мясьніцкай вуліцы[143]. Ва усіх гэткіх выпадках ініцыятарам быў Менскі аддзел камунальнай гаспадаркі (камгас).

У сьнежні 1925 году з дому №6 па Школьнай вуліцы была выселеная сынагога. У пастанове акруговага выканкаму сьцьвярджалася, што «яўрэйская малельня», нягледзячы на тое, што займае ўсяго адзін пакой, усё роўна замінае нармальнаму жыцьцю

141 НАРБ, ф. 6, воп. 1, спр. 1869, арк. 216.
142 НАРБ, ф. 6, воп. 1, спр. 1340, арк. 142 аб.
143 Тамсама, арк. 211 аб.

членаў Саюзу будаўнікоў, якія ў тыя часы засялялі будынкі былога Школьнага двара[144].

У лютым 1926 году прэзыдыюм Менскага акругавага выканкаму прыняў пастанову «Аб рамонце ў гэтым годзе брукаў і тратуараў у Менску і гарадзкіх паселішчах акругі»[145]. Пасьля гэтага ў 1926–1931 гадах некаторыя з цэнтральных вуліц забрукавалі часаным каменем або клінкерам — гэтак называецца брук з чырвонай цэглы, пакладзенай «елачкай». Часаны камень эшалёнамі пастаўляўся па чыгунцы з Украіны. Брукаваньне, аднак, ня тычылася Старога гораду. У 1934 годзе пачалі класьці асфальт і тут жа заклалі ім некаторыя забрукаваныя раней часаным каменем вуліцы.

У пачатку 30-х гадоў савецкія ўлады шчыльна заняліся менскай архітэктурай — у 1933 годзе прэзыдыюм ЦВК СССР у Маскве прыняў адмысловую пастанову аб працы Менгарсавету ў галіне будаўніцтва[146]. Пастанова канстатавала, што ў Менску «развитие коммунального хозяйства и жилищного строительства отстает от темпов роста населения и развития культурно-бытовых запросов трудящихся»[147]. Словы пастановы «сосредоточить основное свое внимание на восстановлении и правильной организации эксплоатации наличного жилищного фонда... и на дальнейшем новом строительстве»[148] у Менску зразумелі па-свойму. Тут было вырашана, што горад не адпавядае свайму высокаму званьню

144 НАРБ, ф. 6, воп. 1, спр. 540, арк. 286 аб.
145 Савецкая Беларусь. 27 лютага 1926.
146 Известия ЦИК Союза ССР и ВЦИК. №299, 10 сьнежня 1933.
147 Тамсама.
148 Тамсама.

сталіцы Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, і загадана «повысить этажность» ужо існуючых будынкаў.

Тая «этажность» (ды яшчэ шырыня вуліц) доўгі час будуць важнымі крытэрыямі для савецкіх архітэктараў і ў пасьляваенную пару. У Менску пачаліся надбудовы — там, дзе было два паверхі, надбудоўвалі трэці, дзе тры — дадавалі чацьвёрты, а то і пяты. У 1936 годзе газэта «Рабочий» паведамляла:

«*Минский строительный трест проводит большие работы по надстройке этажей над старыми одноэтажными и двухэтажными зданиями. Особого внимания заслуживает опыт надстройки гинекологического корпуса Клинического городка. Здесь впервые в БССР и даже в СССР сохранена и поднята крыша без разборки стропил, обрешетки и самой кровли. Подъем произведен обычными джеками — подъемными механизмами. Опыт Минстроя заслуживает применения на всех жилищных надстройках БССР*»[149].

Масавая кампанія надбудовы дадатковых паверхаў у цэнтральнай частцы гораду працягвалася да 1940 году і неўзабаве абярнулася вялікай трагедыяй — напятая статыка старых камяніцаў ня вытрымала пажараў першых дзён вайны, і ў горадзе пачаліся абвалы спаленых будынкаў. Гэта — адна з асноўных прычынаў разбурэньняў у Новым горадзе.

У 1929 годзе для «пашырэньня» самай вузкай менскай вуліцы — былой Кацярынінскай, была зьнесеная архітэктурная дамінанта Школьнага два-

149 Рабочий. 20 сьнежня 1936.

ра зь вялікім круглым купалам — бэс-мэдрэш пахавальнага брацтва «Шывэ круім» — і шэраг іншых старых камяніцаў на Школьнай і Кацярынінскай вуліцах, а таксама на Нізкім рынку.

У 1936 годзе ў Верхнім горадзе выбухамі дынаміту зьнішчылі гатычна-рэнэсансную Сьвятадухаўскую царкву кляштару базыльянак, двойчы ў XIX стагодзьдзі перабудаваную на праваслаўную катэдру ў псэўдарускім стылі.

## Інбелкульт пераймае справу аховы помнікаў

У 20-я гады гістарызм БНР ня зьнік, бо заставаліся ўдзельнікі тых падзеяў — яго носьбіты. Натуральна, што засталіся і ідэі, якія прапагандавала газэта «Беларусь» і яе аўтары, у тым ліку Рамуальд Зямкевіч. У 20-я гады ў БССР гэтыя ідэі атрымалі сваё далейшае і нечаканае разьвіцьцё.

Першую і галоўную сваю ўвагу адразу пасьля стварэньня ў 1922 годзе Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт) зьвярнуў на беларускую навуковую тэрміналёгію. А неўзабаве, пасьля пераходу туды з Наркамасьветы Ўсевалада Ігнатоўскага ў пачатку 1925 году, Інбелкульт пачаў актыўныя захады для захаваньня гістарычнай спадчыны Менску і іншых рэгіёнаў невялікай на той час рэспублікі. Найлепшыя беларускія навукоўцы пачалі пісаць пра гісторыю сталіцы і пра памяткі яе старажытнасьці.

Усевалад Ігнатоўскі — адно з ключавых імёнаў той пары. У часы БНР увагу да помнікаў менскай

даўніны праяўлялі выкладчыкі і студэнты Менскага Беларускага пэдагагічнага інстытуту, дырэктарам якога быў Ігнатоўскі. Фактычна, у інстытуце пад яго кіраўніцтвам паўлегальна дзейнічала забароненае палякамі Менскае таварыства гісторыі і старажытнасьці. З прыходам бальшавікоў у 1920 годзе Ігнатоўскі стаў народным камісарам земляробства і ў сьнежні таго самага году пры яго садзеяньні дзейнасьць Таварыства была адноўленая. А калі ў сьнежні 1921 году Ігнатоўскага прызначылі народным камісарам асьветы БССР, Менскае таварыства гісторыі і старажытнасьці пачало дзейнічаць фактычна пры Наркамасьветы.

І вось што ў тым самым сьнежні 1921 году пісаў афіцыйны орган Наркамасьветы БССР часопіс «Вольны сьцяг» у артыкуле «Нашы старажытнасьці»:

*«Настаў час, калі трэба палажыць канец далейшаму дратаваньню сваіх родных скарбаў і ўзяцца за іх ахову і навуковы разгляд і пачаць глядзець на гэту справу іншым поглядам, поглядам, які выклікае наша жыцьцё і культурная асаблівасьць нашага краю. Гэта справа да Беларускага нацыянальна-культурнага адраджэньня мае такую вялікую значнасьць, што ніводная галіна нашай навукі ня можа ісьці ўперад, ня маючы пад сабой даведзенага гістарычнага грунту нашай прошласьці. Мы ведаем, як дорага цэняць за граніцай астаткі культуры сваіх прабацькоў, як прыгожа і беражліва трымаюцца там гэткія помнікі... Няўжо ж мы, беларусы, стоячы поплеч з народамі высокай культуры, будзем і далей так няхаіць тое сваё дарагое, што робіць нам гонар*

*і славу, няхаіць тое, без чаго мы ня можам ісьці да сьветлых дзён...»*[150]

Аўтарам гэтага артыкулу быў пісьменьнік і гісторык, пазьнейшы правадзейны член Інбелкульту Міхаіл Мялешка. Рэдактарам «Вольнага сьцягу» быў Янка Купала, першыя нумары афармляў Язэп Драздовіч — з гэтага зразумела, чаму выданьне так шмат увагі надавала помнікам гісторыі і культуры, у прыватнасьці, друкуючы фотаілюстрацыі краязнаўчага і культурна-гістарычнага характару.

У 1923 годзе Менскае таварыства гісторыі і старажытнасьці налічвала каля 50 правадзейных членаў[151]. Адной са сваіх асноўных функцый таварыства лічыла ахову помнікаў. У 1922 годзе для прыцягненьня ў гэтую справу актывістаў на месцах таварыства пачало арганізацыю краязнаўчага руху і стварыла Часовае бюро краязнаўства[152]. Актыўнымі ўдзельнікамі і сябрамі праўленьня Менскага таварыства гісторыі і старажытнасьці былі У. Ігнатоўскі, В. Дружчыц, М. Касьпяровіч, М. Мялешка і іншыя, каго мы пазьней убачым удзельнікамі справы папулярызацыі менскай даўніны і яе абароны. У 1924 годзе таварыства ў сувязі з разгортваньнем працы Інбелкульту спыніла свае пасяджэньні і ў 1925-м было распушчанае.

Пасьля ўсталяваньня савецкай улады новыя гаспадары ўзяліся і за ахову помнікаў. Адразу пасьля рэвалюцыі і ў 20-я гады бальшавікі выдалі больш за 15 дэкрэтаў аб ахове помнікаў культуры і

150 Вольны сьцяг. 25 сьнежня 1921. С. 37–38.
151 Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 5. 1999. С. 170.
152 Вяргей В. С. Краязнаўства // Памяць: Мінск. Гісторыка-дакументальная хроніка гарадоў і раёнаў Беларусі. Т. 3. С. 208.

мастацтва. Цяпер гісторыкам вядома, што помнікі культуры і мастацтва, найперш музэйныя каштоўнасьці, былі тады патрэбныя бальшавікам для продажу за мяжу — краіне не хапала валюты. Продаж нацыянальных каштоўнасьцяў працягваўся ў 20-я і 30-я гады.

Пастановы цэнтральнага ўраду дубляваліся ў рэспубліках. 24 сьнежня 1924 году СНК БССР прыняў пастанову пра абавязковую рэгістрацыю і ахову помнікаў мастацтва, старажытнасьці, народнага побыту і прыроды. Першы сьпіс помнікаў культуры, якія падлягалі ахове дзяржавы, быў зацьверджаны пастановай СНК БССР 5 ліпеня 1926 году[153]. Пасьля Другой сусьветнай вайны была праведзеная перарэгістрацыя помнікаў, што зьбераглíся. Адна такая перарэгістрацыя прайшла ў 1950 годзе, другая — у 1957-м.

Менскае Замчышча было ўключанае ва ўсе тры гэтыя сьпісы як адзін з найважнейшых помнікаў гісторыі і археалёгіі Беларусі. Тым ня менш такі яго статус не перашкодзіў ужо ў год прызнаньня найкаштоўнейшым помнікам (1926) пачаць пляноваць яго знос, у 1956 годзе скапаць і зьнесьці, а ў 1957 годзе надаць былой тэрыторыі Замчышча статус помніка ўсесаюзнага значэньня.

Але ў 1925 годзе да гэтага было яшчэ далёка. Тагачасныя беларускія дзеячы выкарыстоўвалі ўплыў і вагу Ўсевалада Ігнатоўскага ў камуністычным кіраўніцтве БССР як прыкрыцьцё для ажыцьцяўленьня найбольш важных плянаў і вырашэньня ўзьніклых праблем. Апрача іншых вы-

153 Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1. С. 235.

сокіх пасадаў, у 20-я гады Ігнатоўскі быў членам Прэзыдыюму ЦВК БССР і членам Бюро ЦК КП(б) Б. Няма сумневу, што ён быў гарачым і шчырым патрыётам, разумеў усе патрэбы Беларусі і па меры магчымасьці стараўся палагоджваць супярэчнасьці паміж бальшавікамі і нацыянальнымі беларускімі работнікамі.

Напрыклад, калі ў 1922 годзе пасьля выхаду «Практычнай граматыкі беларускай мовы» бальшавіцкая газэта «Звезда» назвала падручнік контррэвалюцыйным, а яго аўтар Язэп Лёсік быў арыштаваны ГПУ, толькі заступніцтва Ігнатоўскага дазволіла Лёсіку выйсьці на волю — ён праседзеў у турме лістапад і сьнежань[154].

У сьнежні 1924 году намесьнік паўнамоцнага прадстаўніка ГПУ па Заходнім краі І. Апанскі пісаў у сакрэтнай дакладной запісцы на імя першага сакратара ЦК КП(б)Б Крыніцкага:

«... *За последнее время большое число прибывает из-за границы белорусской интеллигенции, всех сортов, всех профессий. Между прочим, эти интеллигенты, попадая в ГПУ на допросах при выяснении их личностей, очень твердо заявляют, что они могут достать поручительство от ЧЕРВЯКОВА, ИГНАТОВСКОГО, КАМЛЮКА и др. И на вопрос: знают ли они Вас, отвечают: мы думаем, что за нас поручатся, как за белоруссов... Бывают даже и такие характерные случаи, когда даются поручительства за провокаторов и шпионов. Доказательством этого служит поручительство ЧЕРВЯКОВА и ИГНАТОВСКОГО за гр-на ПЯТКЕВИЧА, высы-*

154 Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 4. С. 360.

*лаемого согласно постановления Коллегии ОГПУ в Концлагерь на 3 года...»*[155]

У 1923 годзе Саўнаркам Беларусі зацьвердзіў пры Наркамасьвеце БССР Навукова-экспэртную камісію, якая павінна была выяўляць на тэрыторыі Беларусі помнікі старажытнасьці, ставіць іх на ўлік і стварыць сыстэму аховы. Старшынём камісіі быў прызначаны старшыня Інбелкульту С. Некрашэвіч, членамі — І. Сербаў, П. Харламповіч і М. Мялешка. Наркамат асьветы пад кіраўніцтвам Усевалада Ігнатоўскага ажыцьцяўляў ахову помнікаў у БССР да 1925 году.

У пачатку 1925 году ахова помнікаў была перададзеная створанаму на ініцыятыву таго самага Ігнатоўскага Інстытуту беларускай культуры. Прычым гэта была ня простая перадача функцыі — у сьнежні 1925 году наркам асьветы БССР Усевалад Ігнатоўскі замест накіраванага ў Ленінград на двухгадовую стажыроўку да акадэміка Я. Карскага Сьцяпана Некрашэвіча стаў старшынём Інбелкульту і старшынём яго прэзыдыюму[156]. Пры гэтым Ігнатоўскі да лютага 1926 году захаваў за сабой і пасаду народнага камісара асьветы БССР. Пераймаючы пасаду ў Інбелкульце, Ігнатоўскі перавёў туды з Наркамасьветы і справу аховы помнікаў. Пры яго апякунстве захады па абароне помнікаў сталі набіраць новы тэмп і размах.

У красавіку 1925 году газэты паведамілі, што «при Институте белорусской культуры учреждена

155 НАРБ, ф. 4-п, воп. 1, спр. 1964, арк. 5. Правапіс і пунктуацыя арыгіналу захаваныя.
156 Інстытут беларускай культуры. Менск, 1993. С. 15.

комиссия по охране памятников старины, народной культуры и природы»[157]. Насамрэч усё адбылося значна раней.

7 лютага 1925 году прэзыдыюм Інбелкульту ў складзе У. Ігнатоўскага (старшыня), А. Смоліча (намесьнік старшыні) і Я. Дылы (навуковы сакратар) разгледзеў пытаньне аб стварэньні пастаянных камісій ІБК і зацьвердзіў іх склад. У адпаведнай пастанове запісалі:

«*Склад Камісіі па ахове помнікаў: старшыня — праф. Кацэнбоген С., нам. старш. — Грамыка М., навук. сакр. — Сербаў І. (штатная пасада)*»[158].

Неўзабаве Камісія разгарнула такую актыўную і шырокую дзейнасьць, што прыцягнула ўвагу ўсіх як зацікаўленых, так і «незацікаўленых» бакоў. І актыўнасьць тая тлумачыцца найперш пэрсанальным складам Камісіі і актывістаў, якія вакол яе гуртаваліся. Усе трое кіраўнікоў да таго часу ўжо вызначыліся актыўнасьцю і зацікаўленасьцю ў справе збору і аховы помнікаў.

Старшыня Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту Саламон Кацэнбоген (1889–1946) у 20-я гады быў блізкім супрацоўнікам Усевалада Ігнатоўскага, у прыватнасьці ў 1921 годзе быў намесьнікам Ігнатоўскага ў Народным камісарыяце асьветы БССР. У 1922 годзе замяніў Ігнатоўскага на пасадзе дэкана факультэту грамадзкіх навук БДУ. Займаўся філязофіяй і сацыялёгіяй, выкладаў курс гісторыі старажытнай культуры. На момант прызначэньня

157 Звезда. 22 красавіка 1925.
158 Цэнтральны навуковы архіў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (ЦНА НАНБ), ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 3.

кіраўнікам камісіі працаваў прафэсарам і прарэктарам БДУ. Кацэнбоген быў вельмі актыўны ў справе зьбіраньня помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, у прыватнасьці турбаваў (і нэрваваў) адпаведныя органы РСФСР, патрабуючы вяртаньня ў Беларусь вывезеных у царскія часы культурных каштоўнасьцяў. У 1924 годзе Кацэнбоген разам з прафэсарам М. Доўнар-Запольскім стварыў у БДУ Музэй першабытнай гісторыі. Для гэтага ён езьдзіў у Ленінград і прывёз з Эрмітажу

«*па сутнасьці, цэлы гістарычны музэй — 350 экспанатаў, якія адлюстроўвалі рэлігію Эгіпту і народаў Усходу, а з Акадэміі навук — матэрыялы па археалёгіі Беларусі*»[159].

Навуковы сакратар Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту Ісак Сербаў (1871–1943) таксама «паходзіў» зь ліку супрацоўнікаў Народнага камісарыяту асьветы. Працуючы ў 1919–1921 гадах яшчэ ў Магілёўскім і Гомельскім губэрнскіх аддзелах народнай асьветы, актыўна ўдзельнічаў у справе зьбіраньня і аховы помнікаў гісторыі і культуры[160]. Усё жыцьцё займаўся беларускай этнаграфіяй, сабраў вялікія калекцыі беларускага народнага адзеньня, выдаў альбом «Беларускае народнае мастацтва», у 1925 годзе праводзіў археалягічныя раскопкі ў Менску і ваколіцах. На момант прызначэньня навуковым сакратаром камісіі працаваў загадчыкам катэдры этнаграфіі БДУ.

---

159 Яноўскі А. Замежныя камандзіроўкі гісторыкаў БДУ: творчыя здабыткі і зломы лёсаў. — http://www.hist.bsu.by/bel/nauka/konf/75%20let/konference/yanovsky.htm

160 Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Менск, 1987. Т. 4. С. 708.

Намесьнік старшыні Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту Міхайла Грамыка (1885–1969) — вядомы беларускі паэт, драматург і навуковец, правадзейны член Інбелкульту з моманту заснаваньня ў 1922 годзе. Грамыка быў арыштаваны ў 1930 годзе. Аўтар шматлікіх мастацкіх кніг і падручнікаў па геаграфіі і прыродазнаўстве. У Інбелкульце ўваходзіў у склад яшчэ трох сэкцыяў — прыродазнаўчай, літаратурнай і мастацкай[161].

Камісія аховы помнікаў Інбелкульту пераняла функцыі Навукова-экспэртнай камісіі Наркамасьветы, якая ў сувязі з гэтым была ліквідаваная[162].

Членамі Камісіі аховы помнікаў, якія бралі актыўны ўдзел у яе працы, былі М. Азбукін, М. Доўнар-Запольскі, В. Дружчыц, Я. Дыла, М. Мялешка, А. Палеес, А. Паноў, А. Смоліч, Сокалаў (імя выявіць не ўдалося), А. Сьцепуржынскі, П. Харламповіч, М. Шчакаціхін і іншыя. Але сярод усіх вялікай актыўнасьцю, энэргіяй і адданасьцю справе вылучаўся Мікола Шчакаціхін. Ён і адыграў адну з ключавых роляў у падзеях вакол камісіі, якія неўзабаве разгорнуцца і неўзабаве ж згорнуцца — актыўнай працы на долю камісіі выпала ўсяго тры з паловай месяцы.

161 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 4.
162 Вяргей В. С. Краязнаўства // Памяць: Мінск. Гісторыка-дакумэнтальная хроніка гарадоў і раёнаў Беларусі. Т. 3. С. 208.

## Камісія бярэ ініцыятыву

Пасьля зацьвярджэньня 7 лютага 1925 году прэзыдыюмам Інбелкульту складу камісіі пачалася падрыхтоўчая праца — трэба было распрацаваць правілы і статут, акрэсьліць кірункі дзейнасьці, паўнамоцтвы, правы і абавязкі супрацоўнікаў.

У першыя месяцы камісія мела ад Ігнатоўскага фактычны карт-блянш — усе яе пастановы і рашэньні аўтаматычна прымаліся і зацьвярджаліся прэзыдыюмам. Ужо 21 лютага прэзыдыюм заслухаў І. Сербава з папярэдняй інфармацыяй аб плянах камісіі, ухваліў іх і даручыў склікаць першае пасяджэньне камісіі[163].

Першае пасяджэньне камісіі ў складзе С. Кацэнбогена, М. Грамыкі і І. Сербава адбылося 26 лютага і было прысьвечанае тром пытаньням:

1. разгляду і зацьвярджэньню Правішлаў аб Камісіі аховы помнікаў;

2. пераемнасьці ў працы з Цэнтральнай навукова-экспэртнай камісіяй Наркамасьсветы, якая раней займалася справай аховы помнікаў, і атрыманьні ад яе ўсіх дакумэнтаў;

3. зацьвярджэньню пляну работы[164].

Даклады па ўсіх трох пытаньнях зрабіў І. Сербаў. Ён прадставіў напісаны ім рукапісны варыянт правілаў аб дзейнасьці камісіі, які выклікаў спрэчкі. Як запісана ў пратаколе:

*«т. Грамыка зьвярнуў увагу на тое, што правілы пашыраюць паўнамоцтвы камісіі па аддзелу самай*

163 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 10.
164 Тамсама, арк. 71.

*аховы помнікаў, што па яго думках для камісіі досыць было б працы па выяўленьню, падрахунку і рэгістрацыі помнікаў і адначасна клапаціцца аб забароне помнікаў ад іх зьнішчэньня»*[165].

З Грамыкам катэгарычна не згадзіўся старшыня камісіі С. Кацэнбоген — ён цалкам падтрымаў прапанаваныя Сербавым шырокія паўнамоцтвы камісіі, у выніку чаго правілы былі зацьверджаныя[166].

Паводле ўхваленага варыянту, камісія сапраўды набывала статус афіцыйнага кіраўнічага органу БССР у сваёй галіне. Былі ў правілах пункты, якія павінны былі адразу выклікаць насьцярогу і працідзеяньне ГПУ — напрыклад, паўнамоцтвы камісіі шукаць і вяртаць з-за мяжы вывезеныя раней зь Беларусі помнікі.

У разьдзеле І правілаў пад назвай «Мэты і задачы камісіі» было сказана:

«*Камісія мае сваёй мэтай — выяўленьне помнікаў гісторыі і старажытнасьці, культуры і прыроды на тэрыторыі БССР. Камісія вядзе падрахунак і рэгістрацыю выяўленых помнікаў. Камісія ведае аховай помнікаў і забараняе іх ад руйнаваньня і зьнішчэньня. Яна ж вядзе выяўленьне і падрахунак помнікаў беларускай культуры, якія вывезеныя ці эвакуіраваныя за межы Беларусі*»[167].

Паводле разьдзелу ІІ «Правы і абавязкі», камісія брала на сябе вельмі шырокія паўнамоцтвы. Вось некаторыя з тых пунктаў паводле рукапісу Сербава:

165 Тамсама.
166 Тамсама.
167 Тамсама, арк. 29.

*«1. Камісія вядзе прапаганду па выяўленьню і ахове помнікаў праз друк і грамадзкія арганізацыі. 2. Яна выдае і распаўсюджвае літаратуру па гэтаму пытаньню. 3. Арганізуе паказальныя выстаўкі і музэі... 5. Знараджае экскурсіі і экспэдыцыі па выяўленьню і вызначэньню помнікаў, па згодніцтву з адпавядаючымі камісіямі Інбелкульту... 7. Зьбірае матэрыялы, вывучае іх і выпускае свае друкарскія труды пад агульнай рэдакцыяй Інбелкульту. 8. Арганізуе музэехраніліщча, заказьнікі і запаведнікі. 9. Вядзе сьпісы ўсім помнікам, якія знаходзяцца ў музэехраніліщчах і ў падрахунках камісіі... 11. Камісія сочыць за выкананьнем законаў па ахове помнікаў. 12. Яна ж састаўляе пляны і каштарысы па ахове помнікаў і праводзіць гэтыя пляны ў жыцьцё...»*[168]

Як бачым, камісія мелася стаць навукова-адміністрацыйным органам у справе аховы помнікаў. Яна брала на сябе арганізацыю музэяў і кіраваньне музэйнай справай, арганізацыю выставаў, экскурсійную справу, правядзеньне навуковых экспэдыцый і дасьледаваньняў, стварэньне сеткі карэспандэнтаў-інспэктараў на месцах, шырокую выдавецкую дзейнасьць і прапаганду помнікаў у друку і нават фінансаваньне ахоўных і рэстаўрацыйных мерапрыемстваў.

Ухвалены праект правілаў прадугледжваў, што камісія будзе мець прэзыдыюм і сакратарыят, што ў пасяджэньнях будуць браць удзел і мець права голасу члены Інбелкульту, якія працуюць у галіне аховы помнікаў, а таксама спэцыяльна запрошаныя

168 Тамсама, арк. 29–29 аб.

зацікаўленыя чыноўнікі і экспэрты, якія таксама будуць мець права голасу ў пытаньнях, якія іх датычаць. Зьбірацца, паводле правілаў, камісія мелася адзін раз на месяц. Але якраз гэты пункт выкананы ня быў — арганізатары стараліся праводзіць пасяджэньні кожны тыдзень, але гэта ім не заўсёды ўдавалася. За першыя тры з паловай месяцы сваёй працы камісія сабралася 9 разоў.

Прэзыдыюм Інбелкульту сваімі пастановамі ад 5 сакавіка і 15 красавіка поўнасьцю зацьвердзіў пратакол першага сходу Камісіі аховы помнікаў і ўхваленыя ёй правілы[169]. Прэзыдыюм таксама запрапанаваў Народнаму камісарыяту асьветы скасаваць у сваім складзе Навукова-экспэртную камісію аховы помнікаў і перадаць усе яе дакумэнты і сабраныя матэрыялы Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту.

Камісія такім чынам набыла афіцыйны статус, які першыя месяцы няўхільна датрымліваўся. Дакумэнты сьведчаць, што камісія, напрыклад, узяла пад свой адміністрацыйны кантроль Беларускі дзяржаўны музэй, і ў яе сходах як правадзейны член камісіі браў удзел дырэктар музэю Павал Харламповіч[170]. Ужо ў сакавіку камісія пастанавіла:

«*Прызнаць неабходным злажыць: а) Палажэньне аб Дзяржаўным Музэі, б) агульны плян яго разьмяшчэньня па аддзелах і сэкцыях, в) плян яго работы на бягучы год, г) каштарысы на яго абарудаваньне і апэрацыйныя работы, а таксама і падрабязговае тлумачэньне па кожнаму параграфу каштарысных*

169 Тамсама, арк. 25 аб.; 70.
170 Тамсама, арк. 74.

*расходаў. Зложаныя т. Харламповічам каштарысы прызнаць здавальняючымі*»[171].

Зьбіралася Камісія аховы помнікаў на свае пасяджэньні ў будынку Інбелкульту на вуліцы Рэвалюцыйнай кожны чацьвер а 19-й гадзіне.

## У цэнтры ўвагі Інбелкульту — Стары Менск

Другое пасяджэньне Камісіі аховы помнікаў адбылося ўжо праз тыдзень пасьля першага — 5 сакавіка 1925 году. Удзельнікі канстатавалі, што ў БССР

«*помнікі матэрыяльнай культуры і мастацтва без належнай аховы псуюцца і руйнуюцца: трэба тэрмінова ўстанавіць ахову гэтых помнікаў*»[172].

А пастанова гэтага, фактычна, першага працоўнага сходу камісіі стала знамянальнай і пацьвердзіла галоўны клопат нацыянальных дзеячоў Беларусі яшчэ з часоў БНР:

«*Пакуль разьвернецца работа на мясцох, трэба ўзяць на ўчот усе помнікі ў Менску, для чаго запрасіць на чарговае пасяджэньне камісіі т.т. Сакалова і Сьцепуржынскага, абгледзіць зь імі ўсе мясцовыя помнікі і ўзяць іх на ўчот, а таксама устанавіць іх ахову*»[173].

---

171 Тамсама.
172 Тамсама, арк. 60.
173 Тамсама. Алесь Сьцепуржынскі быў кіраўніком Менскага акруговага таварыства краязнаўства. З гэтага можна зрабіць выснову, што і «т. Сакалоў» быў калегам Сьцепуржынскага.

У пратаколе гаварылася, што выявіць менскія помнікі можна па

«*работам т.т. Сакалова і Сьцепуржынскага, якія працуюць па вывучэньню Менску*»[174].

Камісія вырашыла на ўжо выяўленыя менскія помнікі, якія

«*маюць вялікую культурную каштоўнасьць, але ж без аховы могуць зруйнавацца*»,

скласьці

«*каштарысы і паклапаціцца аб выпуску матэрыяльных сродкаў*»[175].

Сходы працаўнікоў і афіцыйныя пасяджэньні камісіі, як ужо было сказана, адбываліся ў будынку Інбелкульту на вуліцы Рэвалюцыйнай (Койданаўскай). Седзячы і ходзячы за два крокі ад гістарычнай Нямігі, Замчышча і ўсяго Старога гораду зь яго вузкімі вулкамі, цяжка было не клапаціцца аб ім.

19 сакавіка, выконваючы папярэднюю пастанову, камісія правяла пашыранае пасяджэньне, прысьвечанае помнікам Старога Менску. Удзельнічалі, паводле пратаколу, «т.т. Смоліч, Сербаў, Шчацціхін, Сьцепуржынскі, Сокалаў і Харламповіч». І. Сербаў зрабіў даклад па двух пытаньнях — аб выяўленьні помнікаў старажытнасьці ў Менску і аб арганізацыі іх «абгляду і вывучэньня» супольна з зацікаўленымі камісіямі і сэкцыямі Інбелкульту. У пастанове запісалі:

«... *Прасіць т.т. Сокалава і Сьцепуржынскага ў хуткім часе злажыць сьпіскі мясцовых помнікаў з*

174 Тамсама.
175 Тамсама.

*падрабязным апісаньнем кожнага помніка: гдзе ён знаходзіцца, у якім становішчы і зь якога боку мае сваю каштоўнасьць… Вайсьці ў згоду з зацікаўленымі сэкцыямі і камісіямі Інбелкульту наконт абгляду і вывучэньня менскіх помнікаў старажытнасьці, будаўніцтва і мастацтва, а затым прыняць належныя меры па ахове гэтых помнікаў*»[176].

На тым самым пасяджэньні заслухалі даклад М. Шчакаціхіна аб «помніках мастацкага будаўніцтва ў правінцыі», у якім ён заявіў, што «многім помнікам мастацкай архітэктуры пагражае руйнаваньне і зьнішчэньне» і заклікаў неадкладна прыняць меры па іх ахове. Вырашылі

«*прасіць т. Шчакаціхіна ў хуткім часе зладзіць сьпісак усіх тых архітэктурных помнікаў, якім пагражае руйнаваньне ці зьнішчэньне, з падрабязговым тлумачэньнем аб кожным помніку і аб яго каштоўнасьці*»[177].

Трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу, што асноўным клопатам Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту была старая забудова беларускіх гарадоў і «помнікі мастацкага будаўніцтва» — гэта азначае, што тагачасныя беларускія інтэлектуалы дакладна разумелі вялікую важнасьць менавіта гарадзкой архітэктурнай спадчыны і канцэнтравалі сваю ўвагу менавіта на ёй.

2 красавіка на пасяджэньні пры ўдзеле «т.т. Кацэнбогена, Сербава, Смоліча, Азбукіна, Доўнар-Запольскага, Шчакаціхіна, Харламповіча, Сокалава і Палееса» камісія прызначыла адказных за

176 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 74.
177 Тамсама.

стварэньне сьпісаў помнікаў гарадзкой архітэктуры ў Менску, Віцебску, Магілёве, Полацку, Мазыры і Барысаве, а таксама падтрымала прапанову А. Смоліча арганізаваць у бліжэйшыя месяцы «абгляд і опісь помнікаў старажытных гарадоў» — Віцебску, Полацку, Воршы і Слуцку[178].

10 красавіка адбылося чарговае, шостае, пасяджэньне камісіі, якое стала гістарычным і мела ў блізкай будучыні сур'ёзныя наступствы і для Старога Менску, і для большасьці членаў Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту. На тым пасяджэньні камісія вырашыла дамагацца рэстаўрацыі Замчышча і яго забудовы.

Спачатку прысутныя заслухалі даклад «т. Сьцепуржынскага» аб менскіх архітэктурных помніках. Дакладчык падрабязна апісаў і ахарактарызаваў Дом гродзкага суду на Замчышчы і само Замчышча, Кацярынінскую царкву на Нямізе, Халодную сынагогу, катэдральны касьцёл і катэдральны сабор, дом езуіцкага калегіюму («гдзе цяпер ВСНХ»), дом езуітаў («гдзе цяпер НКА»), былы гасьціны двор,

178 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 75. Архіўны арыгінал пратаколу №5 пасяджэньня Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту пашкоджаны і не дазваляе цалкам ідэнтыфікаваць усіх прызначаных адказнымі за апісаньне і збор матэрыялаў па гарадах і вывезеных каштоўнасьцях. У пашкоджаным дакумэнце адпаведны пункт пастановы выглядае так: «Прасіць саставіць пад... апісаньне помнікаў: а) т.т. Сьцепуржынскаг... ...на — па Менску і яго... б) т.т. Васілевіча і... па Вітабску; в) Даўгялу і Пас... ...Магілёва; г) т.т. Дэйніса і Пігул... ...Полацку; д) т. Леца — па Мазыру; е) т. Шыонка — па Барыс...; ж) т. Харламповіча — па... каштоўнасьцям; з) т. Палееса — па гэбр... ...туры; і) т. Доунар-Запольскага — ... зеным архівам; к) т.т. Даугялу і Сербава — па... ...куіраванным культурным каштоўн...»

дом масонаў і «дом Пятра Вялікага, на дварэ дома Рабпрос»[179]. «Домам Пятра Вялікага» у той час у Менску называлі палац Сапегаў XVII стагодзьдзя па адрасе Камуністычная, 19 — ён стаяў ззаду дамініканскага кляштару.

Зацьверджаная прэзыдыюмам Інбелкульту 4 траўня пастанова шостага пасяджэньня камісіі выглядала наступным чынам:

«*Зьвярнуць увагу ў першую чаргу на вывучэньне помнікаў Старога Менску і яго акругі, каб можна было ў бягучым годзе прыгатаваць матар'ялы для выданьня зборніку па ўсебаковаму апісаньню Менска і яго акругі. Трэба пасьпяшыць з вывучэньнем усёй плошчы старога замку і горада, якія існавалі на Нямізе, гдзе да гэтай пары яшчэ захаваліся насыпы, равы і валы, а таксама і некаторыя руіны старых будынкаў. Даручаецца т. Сербаву 12/IV з'арганізаваць камісію зь мясцовых навуковых сіл і грамадзкіх прадстаўнікоў для абгляду Старога Менску і Замкавай гары, каб на месьце выявіць, якія там патрэбна правесьці работы па рэстаўрыраваньню помнікаў старажытнасьці*»[180].

Нарэшце надышло 12 красавіка — вызначаны пастановай дзень «абгляду» Замкавай гары. Сербаў склікаў грамадзкую камісію, якая цэлы дзень правяла ў Старым горадзе і склала аб гэтым адпаведны пратакол:

«*Камісія — у складзе т. Сербава ад Камісіі па ахове помнікаў, т. Дружчыц ад Гістарычна-археалягічнай сэкцыі, т. Палееса ад Гэбрэйскага аддзелу,*

179 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 78.
180 Тамсама.

*т.т. Ажгірэя*[181] *і Дубоўкі ад групы «Маладняк», т.т. Харламповіча і Вяржбіцкага ад Дзяржаўнага Музэю, т.т. Сьцепуржынскага і Панова — абгледзела плошчу, якую займаюць Стары Менск і яго Замчышча, на правым беразе ракі Сьвіслачы пры зьліяньні яе зь Нямігай.*

*Ад старога менскага замку засталася толькі насыпная гара, вельмі зруйнаваная і заваленая розным мусарам. На самай гарэ стаяць каменныя і драўляныя руіны будынкаў... Уся мясцовасьць Замчышча знаходзіцца ў самым антысанітарным становішчы. Ад старых замкавых будынкаў захаваўся толькі Дом гродзкага суда, ніз каменны, а верх драўляны, вельмі цікавай архітэктуры. На другім паверсе жывуць кватаранты, а ў ніжнім зьмяшчаецца кузьня. Будынку пагражае з аднаго боку руйнаваньне, а з другога — пажар ад кузьні*»[182].

Утрымліваў пратакол грамадзкай камісіі і рэкамэндацыі, выкананьне якіх павінна было дапамагчы захаваць Замчышча:

*«Камісія прызнала, што трэба абавязкова:*

*1) Прывесьці Замкавую гару ў належны від, абчысьціць яе ад мусару... закрапіць апоўзьні насыпаў...*

*2) Узяць Дом гродзкага суда на ўчот па ахове помнікаў і прымусіць гаспадара гэтага будынку зрабіць належны рамонт, а таксама выселіць адтуль кузьню.*

*3) Камісіі па ахове помнікаў зладжыць пляны і каштарысы на прывядзеньне менскага Замчышча ў*

181 Сапраўднае прозьвішча беларускага паэта Анатоля Вольнага.
182 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 99.

*належны від і прадставіць усе матар'ялы па гэтых пытаньнях у Прэзыдыюм ІБК*»[183].

Пратакол «абгляду» Старога Менску і Замкавай гары падпісалі намесьнік старшыні Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту Міхайла Грамыка і сакратар камісіі Ісак Сербаў. Справа была зробленая. Камісія працавала вельмі хутка. Пляны і каштарысы былі складзеныя менш чым за месяц, Дом гродзкага суду і Замкавая гара былі ўключаныя ў складзены камісіяй папярэдні сьпіс менскіх помнікаў, якія падлягаюць дзяржаўнай ахове, і ўсе матэрыялы былі перададзеныя на разгляд прэзыдыюму Інбелкульту.

4 траўня прэзыдыюм у складзе «старшыні ІБК т. Ігнатоўскага У., нам. старшыні А. Смоліча, члена прэзыдыюму Б. Аршанскага і нав. сакратара ІБК Я. Дылы» разгледзеў шосты (аб рэстаўрацыі Замкавай гары) і сёмы (аб яе аглядзе) пратаколы Камісіі аховы помнікаў і зацьвердзіў іх без заўваг. У рашэньні запісалі:

«*Прапанаваць камісіі паразумецца з Горіспалкомам аб упарадкаваньні Замкавае гары ў Менску*»[184].

Камісія з імпэтам узялася выконваць пастанову прэзыдыюму, але скончыць пачатае не змагла. Яе актыўнасьць прыцягнула ўвагу ня толькі прыхільнікаў справы разьвіцьця беларускай культуры, але і яе непрыяцеляў. Камісію на ўзроўні Наркамату фінансаў і СНК БССР фактычна пазбавілі фінансаваньня.

---

183 Тамсама.
184 Тамсама, арк. 94.

24 верасьня 1925 году Бюро ЦК КП(б)Б разглядзела пытаньне аб працы Інстытуту беларускай культуры. Да пасяджэньня бюро была падрыхтаваная справаздача аб дзейнасьці Інбелкульту за пэрыяд зь лютага па жнівень 1925 году, якую падпісалі намесьнік старшыні Інбелкульту А. Смоліч і навуковы сакратар ІБК Я. Лёсік. У разьдзеле аб дзейнасьці Камісіі аховы помнікаў яны напісалі, што камісія фактычна пазбаўленая фінансаваньня і ніякай гаворкі аб аднаўленьні і рэстаўрацыі з прычыны «браку коштаў» не ідзе:

«*Камісія аховы помнікаў старасьветчыны, мастацтва і прыроды далей рэгістрацыі гэтых помнікаў на мясцох не магла разьвінуць сваёй працы, бо на гэта ўсё бракуе коштаў. Па гэтай жа самай прычыне немагчыма перавезьці назад эвакуаваныя ў часе вайны вартасьці, якія зараз гінуць у музэях і архівах РСФСР*»[185].

У пастанове Бюро ЦК КП(б)Б па справаздачы Інбелкульту было напісана шмат правільных і паліткарэктных на той час словаў і нават згадана пра грошы:

«*1) Считать необходимым усилить партруководство Инбелкультом. 2) Наладить связь с рабоче-крестьянскими массами при помощи членов-корреспондентов. 3) Признать необходимым дополнительно обеспечить Инбелкульт средствами...*»[186]

Камісія аховы помнікаў, аднак, нічога не атрымала.

185 НАРБ, ф. 4-п, воп. 1, спр. 2003, арк. 411.
186 Тамсама, арк. 375.

## Канфлікт Камісіі аховы помнікаў з уладамі

У 1926 годзе член прэзыдыюму і навуковы сакратар Інбелкульту Аляксандар Цьвікевіч апублікаваў справаздачу аб дзейнасьці ІБК за 1925 год. У разьдзеле «Ахова помнікаў» ён пісаў:

*«Ахова помнікаў — справа ў Беларусі зусім новая. Да таго моманту, калі гэтай справай пачала займацца адпаведная камісія Інбелкульту, ёй да пэўнай меры займалася Навукова-экспэртная камісія пры Наркамасьвеце БССР. Аднак, у экспэртнай камісіі былі свае сьціплыя мэты — яна павінна была толькі канцэнтраваць музэйныя рэчы і забараняць вываз іх за граніцу. “Камісія па ахове помнікаў старажытнасьці, быту і культуры”, заснаваная пры Інбелкульце, зрабілася органам значна шырэйшым як па сваёй праграме, так і па сваёй працы. Функцыі яе цяпер маюць дзяржаўны характар»*[187].

Успрымаючы сябе галоўным адміністрацыйна-навуковым органам БССР у галіне аховы гістарычнай спадчыны, камісія зь першых дзён свайго існаваньня заняла наступальную пазыцыю ў дачыненьні да органаў дзяржаўнай улады на месцах.

Ужо праз месяц пасьля свайго стварэньня, у пачатку красавіка 1925 году, камісія разаслала ва ўсе райвыканкамы «для абавязковага выкананьня» прынятыя на той момант савецкімі ўладамі нарматыўныя дакумэнты «аб учоце і ахове помнікаў

187 Інстытут беларускае культуры. Гісторыя ўзьнікненьня. Сучасная структура. Навукова-дасьледчая дзейнасьць / Апрац. А. І. Цьвікевіч. Менск, 1926. С. 47–48.

на мясцох і аб адпаведнасьці мясцовай улады за ахову помнікаў на тэрыторыі свайго раёну»[188]. Да цыркулярных распараджэньняў розных савецкіх наркаматаў была прыкладзеная тэрмінова распрацаваная камісіяй «Інструкцыя аб тым, якія помнікі падлягаюць учоту, як вясьці ўчот і самую ахову»[189].

І ўжо ў першы месяц пачаліся і канфлікты. 2 красавіка камісія заслухала даклад дырэктара Дзяржаўнага музэю П. Харламповіча аб тым, што

«*Слуцкі АВК (акруговы выканаўчы камітэт — С. А.) адказваецца выпаўніць пастанову РНК (Рады народных камісараў — С. А.) аб канцэнтрацыі музэйных каштоўнасьцяў і не выдае Менскаму дзяржаўнаму музэю тых прадметаў, якія належаць дзяржаўнай ахове*»[190].

Абмеркаваўшы даклад Харламповіча, пастанавілі:

«*Зьвярнуцца ў РНК праз прэзыдыюм з асобным прадстаўленьнем, каб прымусіць Слуцкі АВК тэрмінова выдаць Дзяржаўнаму музэю прадметы, маючыя музэйную значнасьць, з прылажэньнем сьпісу гэтых прадметаў*»[191].

Гаворка ішла пра старыя карціны і антыкварную мэблю. Прэзыдыюм пад старшынствам У. Ігнатоўскага сабраўся 15 красавіка і нечакана адмовіўся падтрымаць камісію ў яе канфлікце са Слуцкім акруговым выканаўчым камітэтам. Разгледзеўшы адпаведны пратакол Камісіі аховы помнікаў, было вырашана яго

188 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 75.
189 Тамсама.
190 Тамсама.
191 Тамсама.

*«зацьвердзіць за выключэньнем пытаньня аб скарзе на Слуцкі АВК. На чарговым сходзе прэзыдыюму заслухаць аб гэтым спэцыяльны даклад прадстаўніка камісіі»*[192].

Вопытны чыноўнік Ігнатоўскі, добра абазнаны ў рэальных настроях тагачаснай беларускай намэнклятуры, асьцярожна вырашыў не канфліктаваць з уладамі. Наступнае пасяджэньне прэзыдыюму да пытаньня аб Слуцкім АВК, натуральна, не вярнулася.

Хутка, аднак, узьніклі яшчэ больш вострыя сытуацыі. У пачатку траўня Камісія аховы помнікаў атрымала трагічную вестку — разбураныя Барысаглебскі і Пятніцкі храмы XII стагодзьдзя ў Бельчыцах, былой сядзібе Полацкіх князёў на ўскрайку тагачаснага Полацку. За помнікі мастацкай архітэктуры ў камісіі адказваў Мікола Шчакаціхін. Ён неадкладна быў накіраваны ў Полацак:

*«Інстытут беларускай культуры адразу ж камандыраваў мяне ў Полацак для высьвятленьня на месцы характару і памераў зробленых пашкоджаньняў, а таксама для навуковага дасьледаваньня пазасталых рэштак будынкаў. Прыехаўшы ў Полацак, я знайшоў болей як напалову разбураныя руіны двох нядаўна яшчэ зусім моцных будынкаў; яшчэ стаялі аголеныя, абадраныя муры, і то ня цалком; дахі былі зьнішчаны і ўсё засыпана друзам, сьмяцьцём і абломкамі... Апроч таго, у пазасталых рэштках, пад пластамі груба зьбітага тынку, былі знойдзены часткова запсутыя, а часткова зусім добра яшчэ захаваныя насьценныя росьпісы , вялікае*

192 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 70.

*гістарычнае значэньне якіх выразна відаць хаця б толькі з таго, што росьпісы гэтыя зьяўляюцца адзіным у Беларусі ўзорам насьценнага малярства XII сталецьця...»*[193]

Мікола Шчакаціхін расчысьціў і вывучыў росьпісы абодвух напаўразбураных храмаў і паспрабаваў арганізаваць разам зь мясцовымі ўладамі іх абарону:

«... *Быў складзены акт, у якім падкрэсьлівалася выдатнае навуковае значэньне памянёных помнікаў і зазначалася на небясьпеку, у якой знаходзяцца рэшткі іх, пазбаўленыя аховы як ад наўмыснага злачынства, гэтак і ад атмасфэрных уплываў; у акце быў пункт, згодна якога Полацкі выканком, каб хоць часткова ўзьмясьціць шкоды, прынесеныя аддзелам камунальнае гаспадаркі, абавязваўся на працягу аднаго месяца пасьля складаньня акту ачысьціць руіны ад бруду і сьмецьця, зрабіць над імі часовыя перакрыцьці, каб ахаваць нутраныя росьпісы ад дажджу, сьнегу і ветру, зрабіць дзьверы, якія маглі б быць зачынены, і зрабіць недаступным уваход у будынкі»*[194].

15 траўня 1925 году Камісія аховы помнікаў Інбелкульту абмеркавала здарэньне ў Полацку і пастанавіла дамагацца суду над вінаватымі:

«*Сабраць матар'ялы аб зруйнаваньні архітэктурна-гістарычнага помніка ў Полацку і ўвайсьці з хадайніцтвам у РНК наконт прыцягненьня віноўнікаў да суда па 1–3 ст. Уг. Код.*»[195].

193 Звезда. 2 кастрычніка 1927.
194 Тамсама.
195 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 134.

Пастанову падпісалі С. Кацэнбоген і І. Сербаў.

3 чэрвеня сабраўся прэзыдыюм Інбелкульту. Як пісалася ў пратаколе, «Прысутнымі былі: Старшыня ІБК с. Ігнатоўскі У., яго намесьнік с. Смоліч А. і члены прэзыдыюму Жылуновіч Зм., загадчык Жыдоўскага аддзелу Аршанскі Б., і навуковы сакратар Дыла Я.».

Даклад аб рашэньнях Камісіі аховы помнікаў зрабіў А. Смоліч. Пасьля гарачых спрэчак было вырашана пратакол сходу камісіі ў частцы

«*аб зруйнаваньні ў Полацку Барысаглебскага манастыру... зацьвердзіць толькі па пытаньню аб зборы аб гэтым матар'ялу*»[196].

Другі раз кіраўніцтва Інбелкульту не захацела ўваходзіць у адкрыты канфлікт з уладамі. Натуральна, гэта была не баязьлівасьць — гэта была рэальная і цьвярозая ацэнка сытуацыі, якая існавала на той час у БССР. Большая частка партыйнага кіраўніцтва ў цэнтры і на месцах, а таксама практычна ўвесь савецкіх апарат карных органаў — НКВД і ГПУ, варожа ставіліся да дзейнасьці нешматлікіх беларускіх дзеячоў, лічылі іх «шавіністамі» і «нацыяналістамі».

Вось характэрны прыклад гэтага стаўленьня.

У сьнежні 1925 году IX зьезд КП(б)Б прыняў пастанову «О работе среди молодежи», дзе сярод цяжкасьцяў, зь якімі сустракаецца бальшавіцкая партыя ў сваёй дзейнасьці ў БССР, значылася і такая —

«*активность части мелкобуржуазной националистической белорусской интеллигенции, которая*

196 Тамсама, арк. 131 аб.–132.

*стремится к влиянию на крестьянскую и учащуюся молодежь»*[197].

Тым ня менш Камісія аховы помнікаў асьцярожнай пазыцыі кіраўніцтва Інбелкульту не падзяляла. Ужо ў сярэдзіне траўня 1925 году, г. зн. усяго праз два з паловай месяцы пасьля свайго стварэньня, камісія з дапамогай сваіх сяброў-карэспандэнтаў на месцах падрыхтавала «Сьпіскі манумэнтальных помнікаў, якія трэба ўзяць на ўчот і пад ахову на тэрыторыі БССР» і пастанавіла «правесьці іх у заканадаўчым парадку праз РНК»[198]. Менавіта гэты сьпіс практычна бязь зьменаў быў зацьверджаны ўрадам БССР праз год, 5 ліпеня 1926 году.

Не зьбіралася камісія адступаць і ў Полацку. Яна вырашыла не апэляваць да прэзыдыюму Інбелкульту, а дзейнічаць самастойна і дамагацца ад полацкіх уладаў выкананьня адпаведных заканадаўчых актаў. 9 чэрвеня, пасьля таго, як у пачатку месяца ў Менск вярнуўся М. Шчакаціхін, камісія правяла спэцыяльнае пасяджэньне, цалкам прысьвечанае сытуацыі вакол разбурэньня двух храмаў XII стагодзьдзя ў бельчыцкім Барысаглебскім манастыры. Камісія разгледзела складзены Шчакаціхіным у Полацку акт ад 2 чэрвеня 1925 году ў справе «ўзяцьця на ўчот полацкіх помнікаў мастацтва і старажытнасьці», заслухала вусную інфармацыю навукоўца і пастанавіла:

---

197 Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т. 1. Менск, 1983. С. 263.

198 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 134. Поўны сьпіс па ўсіх акругах на 20 старонках гл.: ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 135 аб.–145.

*«2. Запрасіць Полацкі акруговы выканаўчы камітэт, якім арганізацыям даручае ён справу фактычнае аховы пералічаных у акце помнікаў.*

*3. Даручыць нагляд за аховай помнікаў мастацтва і старажытнасьці ў Полацкай акрузе сябрам-карэспандэнтам ІБК П. Дэйнісу і Б. Цаста, выслаўшы ім адпаведныя пасьведчаньні.*

*4. Нагляд за сваячасным выкананьнем рамонтных работ па праекту П. Дэйніса даручыць Полацкаму акруговаму т-ву краязнаўства»*[199].

Паводле акту 2 чэрвеня, М. Шчакаціхін абавязаў Полацкі выканкам выканаць кансэрвацыю помнікаў паводле праекту мясцовага краязнаўца Пятра Дэйніса. Тым ня менш уратаваць Бельчыцкі манастыр камісіі не ўдалося. Больш чым праз два гады Мікола Шчакаціхін быў вымушаны канстатаваць:

*«Аднак і да гэтага часу акт ляжыць нерухома, абавязкі, узятыя на сябе Полацкім выканаўчым камітэтам, ня выкананы і будынкі руйнуюцца ўсё далей і далей...»*[200]

У пасяджэньні 9 чэрвеня 1925 году бралі ўдзел С. Кацэнбоген, М. Грамыка, І. Сербаў, М. Шчакаціхін і Я. Дыла. Пратакол №9 пасяджэньня Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту стаў апошнім. Іншых пратаколаў таго году ў архівах гэтай установы не захавалася.

Тым ня менш зь іншых крыніц вядома, што камісія сваю дзейнасьць працягвала і нават мела падтрымку некаторых высокіх дзяржаўных урадоўцаў. У прыватнасьці, камісія працягвала настой-

199 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 169.
200 Звезда. 2 кастрычніка 1927.

ваць на прыцягненьні да крымінальнай адказнасьці за пашкоджаньне помнікаў архітэктуры. У кастрычніку 1925 году першы нумар новага органу ЦБК, часопісу «Наш край» у нататцы «Камісія па ахове помнікаў» пісаў:

«*Праз вышэйшыя дзяржаўныя ўстановы камісія правяла загад аб тым, што ахова манумэнтальных помнікаў, а таксама гарадзішч, курганоў і г. д. ускладаецца на адказнасьць мясцовых выканкомаў і сельсаветаў. За пашкоджаньне і разбурэньне помнікаў вінавайцы караюцца па 112 ст. Крымінальнага кодэксу*»[201].

Аднак загаду відавочна было недастаткова. Камісія пачала дамагацца прыняцьця адпаведнага закону.

У лютым 1926 году ў Менску адбыўся першы Ўсебеларускі краязнаўчы зьезд. Сярод іншага, дэлегаты прынялі асобную рэзалюцыю аб краязнаўчай працы і ахове помнікаў. Былі ў ёй і такія пункты:

«... *6. Краязнаўчыя арганізацыі на мясцох павінны мець самы бачны і няўхільны нагляд за тым, каб ня нішчыліся ніякія помнікі археалёгіі і наагул старасьветчыны... і ў выніках пагражаючай небясьпекі паведамляць Інбелкульт. 7. Зьвярнуцца ў належныя ўстановы з хадайніцтвам аб выданьні адпаведнага закону наконт аховы помнікаў старасьветчыны, мастацтва і прыроды*»[202].

Другім раздражняючым улады фактарам у дзейнасьці Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту былі ініцыяваныя ёй частыя патрабаваньні вярнуць

201 Наш край. 1925. №1. С. 64.
202 Наш край. 1926. №2–3. С.86.

вывезеныя ў Расею помнікі беларускай культуры і мастацтва. Гэта не магло падабацца ўладам і яшчэ больш не магло падабацца ГПУ.

Як памятаем, у зацьверджаным прэзыдыюмам Інбелкульту статуце камісіі пад назвай «Правілы Камісіі па ахове помнікаў» быў і пункт, які даваў ёй паўнамоцтвы шукаць і дамагацца вяртаньня з-за мяжы вывезеных раней зь Беларусі помнікаў. У ім, сярод іншага, гаварылася, што «Камісія... вядзе выяўленьне і падрахунак помнікаў беларускай культуры, якія вывезеныя ці эвакуіраваныя за межы Беларусі»[203].

Гэтыя мэты камісія ставіла перад сабой у лютым 1925 году. А вось радкі са справаздачы аб дзейнасьці камісіі, апублікаванай праз 7 месяцаў, у кастрычніку таго самага году ў часопісе «Наш край»:

«*Камісія вядзе далейшую працу па выяўленьню, вывучэньню і рэгістрацыі помнікаў гісторыі, быту, мастацтва і прыроды на тэрыторыі БССР. Таксама прымаюцца меры да выяўленьня і звароту помнікаў беларускае культуры, вывезеных за межы Беларусі*»[204].

Тэма вяртаньня з РСФСР вывезеных туды да рэвалюцыі і падчас яе музэйных, архіўных і бібліятэчных збораў пастаянна ўзьнікала ў Беларусі ў 1925–1926 гадах падчас розных нарадаў, сходаў, зьездаў і ў друку. Зь вясны 1925 году камісія, напрыклад, дамаглася вяртаньня са Смаленску каштоўных жывапісных карцінаў, якія былі вывезеныя туды з Горы-Горак. І ўрэшце праз год — дамаглася.

203 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 29.
204 Наш край. 1925. №1. С. 64.

А ў студзені 1926 году адбылося мерапрыемства, якое стала маніфэстам патрабаваньняў Камісіі аховы помнікаў вярнуць вывезеныя ў РСФСР і іншыя рэспублікі і дзяржавы беларускія каштоўнасьці. 17–18 студзеня ў Менску, у памяшканьні Інбелкульту на вуліцы Рэвалюцыйнай адбыўся скліканы Інбелкультам «Першы зьезд дасьледчыкаў беларускае археалёгіі і археаграфіі».

Ужо склад тых, хто выступіў на зьезьдзе з дакладамі, тлумачыць, чаму галоўным зьместам пастановаў зьезду стала вяртаньне ў Беларусь гістарычных і мастацкіх каштоўнасьцяў — Дз. Даўгяла, М. Доўнар-Запольскі, В. Дружчыц, М. Мялешка, І. Сербаў, П. Харламповіч, Я. Сіманоўскі і іншыя. Большасьць зь іх бралі рэгулярны ўдзел у пасяджэньнях Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту.

Прафэсар Доўнар-Запольскі зрабіў два даклады аб беларускіх архіўных зборах за межамі БССР і за межамі СССР, Дз. Даўгяла і В. Дружчыц — аб Літоўскай мэтрыцы і патрэбе яе вяртаньня з РСФСР, Я. Сіманоўскі — аб старых бібліятэках, вывезеных зь Беларусі і г. д.

У выніку зьезд, у якім бралі ўдзел 26 дэлегатаў-навукоўцаў з вырашальным голасам і 8 студэнтаў БДУ з дарадчым, прыняў пяць рэзалюцый. І ўсе яны датычыліся вяртаньня ў Беларусь вывезеных зь яе ў розныя часы музэйных, архіўных і мастацкіх каштоўнасьцяў або суду над вінаватымі ў разбурэньні помнікаў гісторыі і культуры. Вось як аб гэтым паведамляла тады газэта «Савецкая Беларусь»:

«*Зьезд апрацаваў рэзалюцыі па наступных пытаньнях:*

*1) Аб Літоўскай мэтрыцы, яе звароце ў БССР і працягу яе друкаваньня.*

*2) Аб звароце беларускіх старых архіўных фондаў, якія знаходзяцца цяпер за межамі Беларусі.*

*3) Аб ахове старажытнасьцяў гісторыі і мастацтва.*

*4) Аб звароце ў БССР музэйных каштоўнасьцяў, што вывезены за яе межы...*

*5) Аб звароце ў БССР старых яе кніжных фондаў — бібліятэк*»[205].

Зьмест кожнай з рэзалюцый даваў стопрацэнтныя падставы ГПУ штампаваць усё новыя і новыя дакладныя запіскі ў Маскву і ЦК КП(б)Б аб шавінізьме беларускай інтэлігенцыі.

У рэзалюцыі аб Літоўскай мэтрыцы пісалася:

«*1. Давесьці да ведама ўраду БССР аб неабходнасьці захаваньня Літоўскай мэтрыкі ў межах СССР, бо яна зьяўляецца гістарычнай уласнасьцю працоўных Беларусі.*

*2. Прымаючы пад увагу, што вывучэньне і распрацоўка даных аб мінулым Беларусі безумоўна немагчыма бяз сталага і непасрэднага карыстаньня Літоўскай мэтрыкай... зьезд лічыць неабходным як найхутчэй перавесьці архіўны фонд Мэтрыкі Літоўскае ў БССР, на што ёсьць прынцыповая згода належных устаноў РСФСР*»[206].

У рэзалюцыі аб вяртаньні іншых архіўных фондаў было выстаўлена патрабаваньне аб вяртаньні ў Беларусь былых Віленскага і Віцебскага архіваў, беларускіх архіўных збораў з былога расейскага

205 Савецкая Беларусь. 24 студзеня 1926.
206 Наш край. 1926. №1. С. 58.

Архіву землеробства і землебудаўніцтва, з былога архіву Галоўнага вайсковага штабу, зь Ленінградзкай публічнай бібліятэкі, са збораў былога Міністэрства замежных справаў і зь іншых установаў.

У той час паміж урадамі СССР і Польшчы вяліся перамовы аб абмене архіўнымі фондамі, і існавала рэальная пагроза, што шмат якія каштоўныя для Беларусі архіўныя матэрыялы трапяць за мяжу. Таму ў гэтай рэзалюцыі ўтрымлівалася і наступнае патрабаваньне:

«... *У дэлегацыі паміж Польшчаю і СССР, якая разглядае пытаньне аб рэдукцыі архіваў, няма прадстаўніка БССР у той час, як мае свайго прадстаўніка УССР, і выходзячы з патрэбы адстойваньня там інтарэсаў БССР, зьезд просіць Уладу БССР падняць пытаньне аб прызначэньні ў гэтую дэлегацыю прадстаўніка БССР*»[207].

У рэзалюцыях аб вяртаньні музэйных і бібліятэчных збораў называліся зусім канкрэтныя прадметы і калекцыі, дакладныя месцы іх знаходжаньня і падкрэсьлівалася, што гэта толькі прыклады — маўляў, сама праблема значна шырэйшая:

«*Зьезд лічыць патрэбным падняць перад Урадам пытаньне аб узвароце ў Музэі БССР прадметаў археалёгіі і мастацтва, якія вывезены ў розныя часы за межы Беларусі і знаходзяцца ў музэях РСФСР, як напрыклад:*

*а) у Смаленскім музэі — 25 карцін з Горак, б) у Маскве — куфар з срэбрам і шкатулка з дыямэнтамі (брыльлянтамі), эвакуаваныя зь Менскага музэю,*

207 Тамсама.

*в) з Ульлянінску — часткі музэйных рэчаў беларускага гісторыка Жыркевіча...»*[208]

Тое самае і ў справе вяртаньня бібліятэчных збораў:

«*Прасіць Інбелкульт зьвярнуцца да Ўраду па пытаньні аб звароце ў БССР бібліятэк, вывезеных зь Беларусі ў розныя часы, як, напрыклад:*

*а) бібліятэка Храбтовіча, якая вывезена з Шчорсаў у Кіеўскі дзяржаўны ўнівэрсытэт у 1922 г., б) бібліятэка б. Полацкае вуніяцкае сэмінарыі, якая ў 1900 г. была вывезена зь Віцебску ў Кіеўскую духоўную акадэмію, в) бібліятэка па беларусазнаўству пры Музэі Каладзеева 1812 г. у Маскоўскім гістарычным музэі…»*[209]

А ў рэзалюцыі аб ахове старажытнасьцяў гісторыі і мастацтва ўтрымлівалася ўжо знаёмае нам патрабаваньне прыняць спэцыяльны закон аб крымінальнай адказнасьці за разбурэньне або пашкоджаньне помнікаў даўніны:

«*Прасіць прэзыдыюм Інбелкульту і Гіст.-арх. камісію апрацаваць спэцыяльны законапраект аб старажытных помніках гісторыі і мастацтва Беларусі і правясьці ў самым хуткім часе праз заканадаўчыя ўстановы БССР*»[210] .

У 1927 годзе ў БССР ужо існаваў Закон аб парадку аховы помнікаў старажытнасьці, мастацтва і прыроды, аднак у рэальным жыцьці за разбурэньне або пашкоджаньне помнікаў гісторыі і культуры ў Беларусі ніхто тады пакараны ня быў.

208 Тамсама. С. 59.
209 Тамсама.
210 Тамсама.

Тут, аднак, зьвяртае на сябе ўвагу іншая акалічнасьць — чаму пры наяўнасьці ў Інбелкульце Камісіі аховы помнікаў зьезд археолягаў просіць прэзыдыюм Інбелкульту і яго Гісторыка-археалягічную камісію распрацаваць і дамагчыся прыняцьця закону аб ахове помнікаў гісторыі і мастацтва і аб крымінальнай адказнасьці за іх пашкоджаньне?

Справа ў тым, што на той час — студзень 1926 году — дзейнасьць Камісіі аховы помнікаў была ўжо некалькі месяцаў фактычна паралізаваная, а яе кіраўнік С. Кацэнбоген у канцы лістапада 1925 году нечакана пакінуў Беларусь.

## Загадкавы ад'езд Саламона Кацэнбогена. Сьлед ГПУ

Актыўнасьць Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту вясной 1925 году і яе настойлівыя намаганьні прыцягнуць да судовай адказнасьці вінаватых у зьнішчэньні або пашкоджаньні помнікаў старажытнасьці сталі, фактычна, апагеем у дзейнасьці камісіі і, верагодна, прыцягнулі ўвагу да яе рэспубліканскага кіраўніцтва.

Старшыня камісіі прафэсар Саламон Кацэнбоген, паводле сваёй асноўнай працы, быў намесьнікам рэктара Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. І вось якраз 4 чэрвеня 1925 году Бюро ЦК КП(б)Б разглядае даклад праўленьня БДУ, зь якім выступае намесьнік рэктара С. Кацэнбоген. Гэта было плянавае мерапрыемства, матэрыялы да якога рыхтаваліся яшчэ ў траўні. Сярод падрыхтаваных

да пасяджэньня дакумэнтаў быў праект пастановы аб працы БДУ. І вось 4 чэрвеня Бюро ЦК прымае той праект практычна бязь зьменаў. Членам Бюро ЦК праца праўленьня БДУ, а значыць і даклад С. Кацэнбогена, не спадабаліся:

*«2) Признать настоятельно необходимым укомплектование БГУ марксистскими силами по общественным кафедрам и поручить АПО принять меры к этому. 3) Поручить Главпрофобру совместно с Комфракцией правления БГУ пересмотреть состав беспартийных профессоров и преподавателей по общественным кафедрам и внести предложения на секретариат об удалении от преподавания лиц явно враждебных коммунизму и марксистской идеологии. Срок предоставления предложений — 15 августа»*[211].

Гэта быў трывожны сыгнал, бо фраза «признать настоятельно необходимым укомплектование БГУ марксистскими силами по общественным кафедрам» у пастанове Бюро ЦК непасрэдна сьведчыла пра незадавальненьне самім Кацэнбогенам і яго дзейнасьцю — менавіта ён у той час займаў і пасаду дэкана факультэту грамадзкіх навук БДУ.

Праз пяць дзён, 9 чэрвеня, С. Кацэнбоген бярэ ўдзел у пасяджэньні Камісіі аховы помнікаў, на якім разглядаецца складзены Міколам Шчакаціхіным у Полацку акт аб разбурэньні помнікаў XII стагодзьдзя. 15 траўня, як памятаем, камісія патрабавала суду над вінаватымі, але 9 чэрвеня ў пастанове згадак пра чыюсьці адказнасьць ужо няма — вырашана толькі даслаць запыт у Полацкі акруговы выканкам

211 НАРБ, ф. 4, воп. 1, спр. 2002, арк. 5.

наконт прызначэньня адказных за ахову бельчыцкіх храмаў, іх рамонт і кансэрвацыю.

У той самы дзень, 9 чэрвеня, Бюро ЦК КП(б)Б зноў вяртаецца да сытуацыі ў БДУ і нечакана вырашае ўзмацніць яго кіраўніцтва другім намесьнікам рэктара. Шараговым — 14-м — пытаньнем пасяджэньня Бюро ў той дзень было ўнесена такое: «О работе тов. Слонима». У пастанове па гэтым пытаньні запісалі:

«*I) Отменить прежнее решение Бюро ЦК о работе тов. Слонима в кустарной кооперации. II) Утвердить тов. Слонима членом правления БГУ, вторым заместителем ректора БГУ, признавая основной практической работой тов. Слонима эту работу по БГУ*»[212].

У выніку 29 чэрвеня 1925 году Наркамасьветы БССР зацьвердзіў праўленьне БДУ на 1925/26 навучальны год у наступным складзе:

*«1. Пічэта Ўладзімір Іванаў — рэктар. 2. Кацэнбоген Саламон Захараў — нам. рэк-ра па акадэмічнай часткы. 3. Загадчык рабфакаў Слонім Самуіл, намесьнік рэктара па адміністрацыйна-гаспадарчай часткы. 4. Праф. Шчапоцьеў Аляксандр — сябра праўленьня. 5. Студэнт Лапотка Ігнат — сябра праўленьня»*[213].

Такая пазыцыя партыйнага кіраўніцтва Беларусі, відаць, насьцярожыла прафэсара Кацэнбогена, і ён пачынае памалу дыстанцыявацца ад дзейнасьці Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту (чытай «нацыяналістаў») і больш канцэнтруецца на працы ў БДУ.

212 Тамсама, арк. 92.
213 НАРБ, ф. 205, воп. 3, спр. 3615, арк. 16.

Але пакуль яшчэ яму давяралі. У ліпені Кацэнбоген накіроўваецца ў першую ў тым годзе сваю камандзіроўку ў Маскву, а адтуль — у Нямеччыну. Камандзіроўка ў Нямеччыну была дазволена яму Народным камісарыятам асьветы яшчэ 5 траўня[214]. Але рэальна ў тое лета выезд за мяжу дазваляла адмысловая камісія ЦК па навуковых камандзіроўках у складзе Гесэна (старшыня), Апанскага, Валасевіча і Шаранговіча, зацьверджаная рашэньнем Бюро ЦК КП(б)Б 8 чэрвеня 1925 году[215].

У Нямеччыну Кацэнбоген паехаў з жонкай і двума дзецьмі. Афіцыйнай прычынай камандзіроўкі праўленьне БДУ у адпаведным пасьведчаньні назвала такую:

«... *с целью закупки всевозможных предметов оборудования по антропологии и археологии и для изучения музеев по истории первобытной культуры и этнографии...*»[216]

Кацэнбоген выехаў у Нямеччыну ў ліпені, а гэта азначае, што асаблівых праблемаў у дачыненьнях з рэспубліканскім кіраўніцтвам у яго яшчэ не было. Вярнуўся прафэсар у Менск да пачатку новага навучальнага году. За гэты час Камісія аховы помнікаў Інбелкульту даволі далёка зайшла ў справе Старога гораду ў Менску — у прыватнасьці быў распрацаваны плян рэстаўрацыі менскага Замчышча і полацкіх помнікаў, пра што гаворка пойдзе далей.

Ня выключана, што Кацэнбоген як камуніст мог мець у Нямеччыне і нейкае канфідэнцыйнае

214 Тамсама, арк. 9.
215 НАРБ, ф. 4-п, воп. 1, спр. 2002, арк. 85.
216 НА РБ, ф. 205, воп. 3, спр. 3615, арк. 13.

заданьне ад кіраўніцтва БССР або ад ГПУ. Ён мог, напрыклад, сустракацца з прадстаўнікамі ўраду БНР і зандзіраваць глебу на прадмет магчымага вяртаньня дзеячоў БНР у Менск. Як вядома, у верасьні ў Бэрлін накіруецца Цішка Гартны, а ў кастрычніку ўрад БНР сапраўды прыме пастанову аб самаліквідацыі. Але — гэта толькі прыпушчэньні, ніяк не пацьверджаныя дакумэнтальна.

І вось якраз у тую восень здарылася нешта такое, што прымусіла Кацэнбогена пакінуць Беларусь. Што гэта было — дакладна невядома. 1 кастрычніка 1925 году Кацэнбоген быў зьняты з пасады дэкана факультэту грамадзкіх навук, што аслабіла яго пазыцыі ва ўнівэрсытэце і істотна зьменшыла заробак. У дакумэнце, які аб гэтай перамене ў лёсе прафэсара сьведчыць — паслужны сьпіс, складзены аддзелам кадраў БДУ — прычына адхіленьня ад пасады дэкана факультэту грамадзкіх навук не названая[217].

Верагодна, за лета і пачатак восені Кацэнбоген ня здолеў пераканаць ЦК у сваёй ляяльнасьці, і яго адхіленьне стала вынікам пастановы Бюро ЦК КП(б)Б ад 4 чэрвеня («признать настоятельно необходимым укомплектование БГУ марксистскими силами по общественным кафедрам и поручить АПО принять меры к этому»). Гэта і была адна з «принятых мер». Член «Бунду» з 1904 году і член РКП(б) са студзеня 1920 году Саламон Кацэнбоген аказаўся недастаткова марксісцкім дэканам. Гэта быў ужо значна больш трывожны сыгнал.

217 Тамсама, арк. 19.

У канцы кастрычніка прафэсар Кацэнбоген другі раз накіроўваецца ў Маскву. 28 кастрычніка рэктар БДУ Уладзімер Пічэта на просьбу Кацэнбогена падпісвае яму наступны дакумэнт:

«*Пасьведчаньне. Дадзена Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэтам Намесьніку Рэктара, прафэсару Саламону Захаравічу КАЦЭНБОГЕНУ ў тым, што ён камандыруецца Праўленьнем Б.Д.У. у гор. Маскву дзеля навуковай працы, а таксама дзеля закупкі неабходных вучэбных падсобак для Ўнівэрсытэту тэрмінам з 29 кастрычніка па 10 лістапада 1925 году...*»[218]

Менш чым праз 10 дзён пасьля вяртаньня з Масквы (дзе ён, відавочна, пры дапамозе нейкіх сувязяў у ЦК РКП(б) або праз знаёмых шукаў магчымасьці ўладкавацца на працу), 20 лістапада 1925 году, прафэсар Кацэнбоген піша на імя рэктара БДУ наступную заяву:

«*Ректору Белгосуниверситета.*

*Профессора С. З. Кацeнбогена*

*Заявление.*

*Оставляя после долгих лет работы Белгосуниверситет и уезжая в Москву, убедительно прошу сохранить за мною до окончания учебного года звание Профессора Белгосуниверситета*»[219].

У гэтай заяве зьвяртае на сябе ўвагу красамоўны выраз «оставляя после долгих лет работы Белгосуниверситет». Насамрэч у БДУ Кацэнбоген працаваў усяго чатыры гады — 9 верасьня 1921 году ён быў прыняты на пасаду прафэсара катэдры сацыялёгіі,

218 Тамсама, арк. 17.
219 Тамсама, арк. 18.

а 1 кастрычніка 1922 году стаў намесьнікам рэктара і дэканам факультэту грамадзкіх навук. Аўтар заявы відавочна шкадаваў, што ад'яжджае зь Менску і пакідае ўнівэрсытэт.

25 лістапада справа Кацэнбогена была разгледжаная на пасяджэньні праўленьня БДУ. Аб гэтым застаўся наступны запіс у пратаколе пасяджэньня:

«*Слухалі: Заяву Нам. Рэктара, праф. С. З. Кацэнбогена аб тым, што ён адкамандыроўваецца ў Маскву ў распараджэньне ЦК РКП(б). Пастанавілі: Праўленьне Б.Д.У. выражае прафэсару С. Кацэнбогену шчырую падзяку за працы па Ўнівэрсытэту*»[220].

Але яшчэ за дзень да таго, як Кацэнбоген напісаў заяву на імя Пічэты з просьбай захаваць за ім званьне прафэсара БДУ да канца навучальнага году, 19 лістапада 1925 году, Кацэнбоген прысутнічаў на пасяджэньні Бюро ЦК КП(б)Б. Для чаго? Зноў сухія радкі пратаколу:

«*Слушали: Просьбу тов. КАЦЭНБОГЕНА об отпуске его из Белоруссии в распоряжение ЦК РКП. Постановили: Удовлетворить*»[221].

У адрозьненьне ад іншых пунктаў парадку дня, па справе Кацэнбогена абмену думкамі не адбылося — ніхто не выступаў і ніхто ні аб чым не пытаўся: Кацэнбоген папрасіўся, яго адпусьцілі. І ніхто яму не падзякаваў за працу ў Беларусі на розных, у тым ліку і міністэрскіх, пасадах.

А далей пачынаюцца загадкі. 25 лістапада быў апошні дзень працы Кацэнбогена ў БДУ і Беларусі наогул. 19 лістапада на Бюро ЦК ён прасіў адпусь-

220 НАРБ, ф. 205, воп. 5, спр. 113, арк. 129.
221 НАРБ, ф. 4-п, воп. 3, спр. 8, ч. III, арк. 279.

ціць яго ў распараджэньне ЦК РКП(б) у Маскву, праз тыдзень, на пасяджэньні праўленьня БДУ ён заявіў ужо, што «адкамандыроўваецца» ў Маскву. Відавочна, што пра адкамандзіраваньне ён казаў, маючы за сабой ужо рашэньне Бюро ЦК — інакш кажучы, хітраваў

А дзе ж прафэсар Саламон Кацэнбоген урэшце апынуўся? У архівах БДУ захавалася наступная тэлеграма:

«*Минск. Университет. Ректор. 19/I.*

*Губ. Саратова б/157316*

*Убедительно прошу выдать жалование подъёмные жене здесь ничего не получил квартиры нет = Каценбоген*»[222]

Як бачым, праз два месяцы, 19 студзеня 1926 году, прафэсар Кацэнбоген напісаў свайму былому калегу і начальніку Ўладзімеру Пічэту адчайную тэлеграму з Саратаўскай губэрні РСФСР. Замест Масквы ён апынуўся далёка на ўсходзе Расеі бяз грошай і жытла — нядрэннае адкамандзіраваньне ў распараджэньне ЦК РКП(б).

На абароце гэтай тэлеграмы ёсьць гэткі запіс:

«*Разгледжана ў пасяджэньні праўленьня Б.Д.У. ад 20 студзеня 1926 г. Хадайніцтва задаволена. Ст. дзелавод*»[223].

Пічэта былому калегу не адмовіў, хоць «подъёмные», як вядома, выдаюцца на новым месцы працы. Аб чым усё гэта сьведчыць? Адказ відавочны. Саламон Кацэнбоген быў або высланы зь Беларусі, або ўцёк.

---

222 НАРБ, ф. 205, воп. 3, спр. 3615, арк. 22.
223 Тамсама, арк. 22 аб.

Калі меркаваць толькі па зьнешніх фактарах і нешматлікіх захаваных архіўных матэрыялах — справа выглядае на мяккую высылку і амаль нічым не адрозьніваецца ад яшчэ аднаго такога самага «пераезду» ў Маскву, які адбыўся 10 месяцаў пазьней. У верасьні 1926 году зь Менску быў высланы прафэсар Мітрафан Доўнар-Запольскі. Вось якую заяву ў канцы верасьня 1926 году ён напісаў на імя рэктара БДУ:

«*Т. Ректору Белорусского Государственного Университета.*

*Профессора М. В. Довнар-Запольского*

*Заявление*

*В виду моего переезда на работу в Москву прошу освободить меня от обязанностей профессора Белорусского Государственного Университета и выдать мне удостоверение в том, что ухожу по собственному желанию с 1 октября 1926 г.*

*Проф. Довнар-Запольский*»[224].

4 кастрычніка 1926 году прафэсар Доўнар-Запольскі атрымаў ад кіраўніцтва ўнівэрсытэту гэткі дакумэнт:

«*Пасьведчаньне.*

*Дадзена гэтае Мітрафану Віктаравічу Доўнар-Запольскаму ў тым, што ён састаяў на пасадзе прафэсара па катэдры гісторыі Беларусі — на Пэдагагічным Факультэце і па катэдры гісторыі народнай гаспадаркі Расіі — па Факультэту Права і Гаспадаркі Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту, з 1 кастрычніка 1925 г. па 1-ае верасьня 1926 г. і аслабанен ад пасады ў Б.Д.У., згодна яго аб тым*

224 НАРБ, ф. 205, воп. 3, спр. 2549, арк. 7.

*заявы, што подпісамі і прыкладаньнем пячаткі сьведчыцца. В. а. / Рэктар Б.Д.У. (Слонім) Кіраўнік спраў (Серко)»*[225].

У чым розьніца паміж справамі Кацэнбогена і Доўнар-Запольскага, калі меркаваць па захаваных архіўных матэрыялах? Амаль ніякай. Абодва «пераехалі» ў Маскву. Доўнар-Запольскі апынуўся яшчэ і ў лепшым становішчы, бо здолеў у Маскве ўладкавацца на неблагую працу — ён стаў выкладчыкам у Сельскагаспадарчай акадэміі імя Ціміразева і ў Інстытуце народнай гаспадаркі імя Пляханава. Для Кацэнбогена ў Маскве такой працы не знайшлося, і ён урэшце апынуўся ў Саратаве выкладчыкам сацыялёгіі мясцовага ўнівэрсытэту.

Той факт, што Доўнар-Запольскі не прасіў грошай у БДУ пры звальненьні, таксама мала аб чым сьведчыць. Выкладаньне ва ўнівэрсытэце было яго дадатковай працай. Асноўныя грошы ён атрымліваў як урадавы чыноўнік — супрацоўнік Дзяржпляну БССР. Выходную дапамогу ён мог атрымаць там.

Адзіная розьніца — гэта тое, што сёньня дакладна вядома пра высылку Доўнар-Запольскага, бо апублікаваны дакумэнт з архіву ФСБ Расеі, дзе пра гэта згадваецца.

У кастрычніку 1926 году з АГПУ па Заходнім краі рапартавалі ў Маскву:

«*По нашему настоянию видный идеолог движения — профессор Довнар-Запольский принужден был покинуть пределы Б.С.С.Р., Некрашевич, Смолич, Дыло, Красинский, Середа и многие другие были*

225 Тамсама, арк. 6.

*сняты со всех своих постов и поставлены на другую работу»*[226].

Адносна Кацэнбогена такога дакумэнту пакуль ня знойдзена.

Высылка Доўнар-Запольскага насіла ў параўнаньні зь некаторымі іншымі выпадкамі нават «мяккі» характар. Наогул, высылка за межы Беларусі была ў першай палове і сярэдзіне 20-х гадоў мяккай формай рэпрэсіяў:

«*Змаганьне зь беларускімі працаўнікамі асабліва актыўна пачало праводзіцца зь лютага 1921 году, калі ДПУ са згоды ЦБ КП(б)Б арыштавала 860 чалавек (па некаторых зьвестках—1500). Большасьць зь іх былі сябрамі БПСР (Беларускай партыі эсэраў), некаторыя змагаліся за беларускую дзяржаўнасьць, уваходзячы ў Раду БНР»*[227] .

У 1922 годзе ЦВК СССР прыняў пастанову «Об административной высылке лиц, признанных социально-опасными». На падставе той пастановы ў 1922 годзе зь Беларусі былі высланыя вядомыя прафэсары, колішнія эсэры М. Ярашэвіч, С. Скандракоў, А. Міцкевіч, В. Жыван, А. Савіч, П. Каравайчык і іншыя[228].

ГПУ НКВД за беларускімі «шавіністамі» пільна сачыла ад самага ўсталяваньня савецкай улады ў Беларусі.

У 1925 годзе — годзе ад'езду Кацэнбогена — сакрэтны аддзел ГПУ накіраваў у ЦК КП(б)Б спра-

226 Цыт. паводле: Протько Т. Становление советской тоталитарной системы в Беларуси (1917–1941 гг.). Менск, 2002. С. 126.
227 Гесь А. Выслаць за межы Беларусі. — http://belwl.org/ru/activities/books/politicheskie_repressii/a_ges/data/tpl-ru_print/
228 Тамсама.

вараздачу, дзе словам «шавінізм» акрэсьліў пазыцыю некалькіх дзясяткаў нацыянальных дзеячоў, супрацоўнікаў Інбелкульту, сярод якіх былі названыя і некаторыя ўдзельнікі пасяджэньняў Камісіі аховы помнікаў[229].

У тым самым годзе ГПУ склала і прадставіла ў Бюро ЦК КП(б)Б сакрэтны «Список участников белорусского националистического движения (1917–1924)», у які было ўключана 826 прозьвішчаў, прычым ня толькі зь ліку тых, хто жыў і працаваў у Беларусі — былі там імёны беларускіх дзеячоў зь іншых гарадоў СССР і замежжа: зь Віленшчыны, Масквы, Яраслаўля і інш.[230]

15 кастрычніка 1926 году намесьнік паўнамоцнага прадстаўніка АГПУ па Заходнім краі І. Апанскі вызначыў два найбольш небясьпечныя для Масквы асяродкі «шавіністычнай» работы ў БССР:

«*Наркомпрос является главным стержнем, вокруг которого развивается белорусское шовинистическое движение... Инбелкульт — штаб-квартира всего движения, враждебная КП(б)Б, не желает работать под ее руководством*»[231].

Вельмі характэрная дэталь — для структуры савецкага ГПУ фармальна не існавала саюзных рэспублік, менскі аддзел гэтай установы і ў 1926 годзе афіцыйна называўся АГПУ па Заходнім краі[232].

229 Васілеўская Н. Масавыя рэпрэсіі інтэлігенцыі // Палітычныя рэпрэсіі на Беларусі ў XX стагоддзі: Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі. — http://belwl.org/ru/activities/books/politicheskie_repressii/n_vasilevskaya/

230 НАРБ, ф. 4-п, воп. 1, спр. 1973, арк. 2–60.

231 Протько Т. Становление советской тоталитарной системы в Беларуси (1917–1941 гг.). С. 125.

232 НАРБ, ф. 6, воп. 1, спр. 899, арк. 234.

Праца Кацэнбогена ў Інбелкульце, верагодна, і стала сапраўднай прычынай яго адʼезду зь Беларусі. Актыўная дзейнасьць Кацэнбогена на пасадзе кіраўніка Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту, яго паездкі ў Расею і патрабаваньні вярнуць адтуль вывезенае зь Беларусі назад у Менск, патрабаваньні грошай на ахову і рэстаўрацыю помнікаў і суду над вінаватымі ў разбурэньні або пашкоджаньні помнікаў архітэктуры павінны былі выклікаць немалое раздражненьне ў органах улады. Зрэшты, усіх акалічнасьцяў ягонага адʼезду мы можам так і не даведацца. У пастановах Бюро ЦК КП(б)Б побач з адкрытымі пунктамі, якія тычацца Кацэнбогена, ёсьць і такія: «Слушали: Секретно. Постановили: Секретно». Карʼера Кацэнбогена ў будучыні склалася пасьпяхова, праз некалькі гадоў ён стаў рэктарам Саратаўскага ўнівэрсытэту, рэпрэсаваны ня быў.

Абставіны адʼезду Кацэнбогена і выкладзеныя тут факты схіляюць да думкі, што ў гэтых падзеях нейкую ролю адыграў ужо ня раз згаданы Самуіл Слонім. Думаць так прымушалі абставіны прызначэньня яго на пасаду другога намесьніка рэктара БДУ.

Як памятаем, праз пяць дзён пасьля таго, як Бюро ЦК КП(б)Б выказала незадавальненьне працай факультэту грамадзкіх навук БДУ, якім кіраваў Кацэнбоген, тое самае Бюро ЦК адмяняе сваю пастанову аб накіраваньні Слоніма ў саматужную каапэрацыю, прызначае яго прарэктарам БДУ ды яшчэ з загадкавай фармулёўкай («Утвердить тов. Слонима членом правления БГУ, вторым заместителем ректора БГУ, признавая основной практической

работой тов. Слонима эту работу по БГУ»). Было зразумела, што Слоніма прызначылі невыпадкова — яго як бы прыставілі, падсадзілі да Кацэнбогена і Пічэты. Здавалася, што дух ЧК-ГПУ проста лунае над гэтай сытуацыяй.

На шчасьце, у Нацыянальным архіве Беларусі захавалася асабістая справа Самуіла Слоніма як супрацоўніка БДУ. Ва ўласнаручна запоўненай ім анкеце напісана, што нарадзіўся ён у 1888 годзе, месца нараджэньня — Сянно, паводле паходжаньня — мешчанін, паводле нацыянальнасьці — габрэй, родная мова — расейская. У 1915 годзе Слонім скончыў юрыдычны факультэт Санкт-Пецярбурскага ўнівэрсытэту, служыў у царскім войску, даваў прыватныя ўрокі. Член РКП з 1920 году.

А далей гістарычная таямніца адкрылася. Тое, што нас цікавіць, Слонім і не хаваў. Магчыма, ён нават гэтым ганарыўся і карыстаўся ў сваёй дзейнасьці для адпаведнага ўплыву на людзей. У анкеце, а пасьля і яшчэ ў адным дакумэнце яго асабістай справы ён уласнаручна піша, што ў 1920–1923 гадах працаваў у Віцебску

«... *членом презид. Губчека*»[233].

Прэзыдыюм ЧК звычайна складаўся з трох чалавек — старшыні і двух яго намесьнікаў, гэта быў найвышэйшы адміністрацыйна-выканаўчы орган цэнтральнай і ўсіх рэгіянальных структур ВЧК. Кола замкнулася, сытуацыя набыла яснасьць. Вось чаму Бюро ЦК КП(б)Б, прызначаючы Слоніма

233 НАРБ, ф. 205, воп. 3, спр. 7634, арк. 2 аб. Ва ўнівэрсытэцкай анкеце Слонім слова Губчэка піша як «Губчка» (А. 1 аб), а ў сваім кароткім паслужным сьпісе «Губчека» (А. 2 аб).

прарэктарам БДУ, выкарыстала тую загадкавую фармулёўку («признавая основной практической работой тов. Слонима эту работу по БГУ»).

Кадравы чэкіст Самуіл Слонім у 1924 годзе накіроўваецца на выкладчыцкую працу ў Камвуз, а 21 студзеня 1925 году прызначаецца загадчыкам рабфаку БДУ. У чэрвені яго прызначаюць другім намесьнікам рэктара БДУ, а пасьля ад'езду Кацэнбогена ён застаецца адзіным прарэктарам унівэрсытэту да кастрычніка 1928 году, калі яго прызначаюць першым намесьнікам народнага камісара асьветы Антона Баліцкага (арыштаванага ў 1930 годзе)[234]. Магчыма, Слонім меў дачыненьне і да арышту Баліцкага.

У 1926 годзе Слонім будзе прызначаны кураторам будаўніцтва новага корпусу Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту і, відавочна, адыграе ў гэтым сваю ролю, бо якраз вакол таго будаўніцтва разгорнецца пэўная барацьба.

Вяртаючыся ж да справы Саламона Кацэнбогена, трэба сказаць наступнае. Ёсьць усе падставы меркаваць, што пастанова 4 чэрвеня, як і прызначэньне другім прарэктарам у БДУ «саматужнага каапэратара» Слоніма, былі пачаткам наступу на Кацэнбогена як на старшыню Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту і што наступ гэты стаў вынікам актыўнай дзейнасьці Камісіі. І Кацэнбоген гэта зразумеў.

Калі ж 1 кастрычніка 1925 году яго зьнялі з пасады дэкана факультэту грамадзкіх навук — гэта стала апошнім сыгналам аб тым, што над яго галавой зьбіраецца навальніца.

234 Тамсама, арк. 7.

Так ці іначай, мы бачылі, што ён шкадаваў аб адʼезьдзе і не хацеў пакідаць родны горад, ён добра арганізаваў у фінансавым пляне свой пераезд, двойчы атрымаўшы грашовую дапамогу БДУ[235]. Таму ўсе прыведзеныя і разгледжаныя тут дакумэнты сьведчаць, што Кацэнбоген хутчэй за ўсё зь Беларусі ўцёк, ратуючы сябе і сваю сямʼю ад магчымых рэпрэсіяў.

Яго адʼезд ня мог не адбіцца на дзейнасьці Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту і, галоўнае, на лёсе тых культурных абʼектаў, захаваньня і аднаўленьня якіх яна дамагалася.

Тым ня менш члены Камісіі аховы помнікаў, яе шырокі актыў спрабавалі ў 1925–1927 гадах выкарыстаць розныя спосабы і розныя сродкі для захаваньня і папулярызацыі гістарычнага цэнтру Менску. Гэта малавядомыя або і зусім невядомыя старонкі гісторыі Беларусі. Таму на іх варта спыніцца больш падрабязна.

235 НАРБ, ф. 205, воп. 3, спр. 3615, арк. 21.

## Спроба камісіі абаперціся на краязнаўчы рух

З 1924 году пры Інбелкульце працавала Цэнтральнае бюро краязнаўства (ЦБК) — каардынацыйны орган шырокага краязнаўчага руху, разгорнутага ў 1922–1924 гадах у БССР нацыянальнымі дзеячамі. У 1925 годзе Камісія аховы помнікаў паспрабавала далучыць краязнаўцаў да сваёй працы. ЦБК на просьбу камісіі распрацавала спэцыяльную інструкцыю для раённага краязнаўчага таварыства. У разьдзеле «Археалёгія і гісторыя» было запісана:

«*Апісаць усе помнікі старасьветчыны: курганы, гарадзішчы, старасьвецкія будынкі і руіны, старыя цэрквы і іх помнікі, касьцёлы, сынагогі, капліцы, панскія палацы, могілкі. Ахова іх*»[236].

На ініцыятыву камісіі ў ЦБК былі распрацаваныя спэцыяльныя анкеты для раённых і валасных краязнаўчых таварystваў, мэтай якіх было выяўленьне і ахова помнікаў архітэктуры. Раённыя таварыствы рассылалі і адмысловыя адозвы, мэтай якіх была прапаганда справы аховы помнікаў.

Вось радкі са справаздачы аб дзейнасьці Клічаўскага раённага таварыства краязнаўства Бабруйскай акругі:

«*Каб уцягнуць у працу шырокія колы мясцовай людпасьці, т-ва распаўсюдзіла па ўсіх сельсаве-*

236 Наш край. 1925. №1. С. 42.

*тах, лясьніцтвах, школах і савецкіх гаспадарках адпаведную анкету; з мэтай аховы помнікаў старасьветчыны па ўсіх кутках раёну была разаслана асаблівая адозва зь лёзунгам «Шануй сваю старасьветчыну»*»[237].

Натуральна, што адным з самых актыўных было Менскае акруговае таварыства краязнаўства, а адным зь яго галоўных клопатаў — Стары Менск. І гэта невыпадкова, бо краязнаўцы, сярод якіх было шмат моладзі, знаходзіліся пад уплывам сваіх старэйшых таварышаў з Інбелкульту і яго Камісіі аховы помнікаў. У ліпені 1925 году «Звезда» паведамляла:

«*В Минске организовано окружное краеведческое товарищество... В настоящее время товарищество подготовляет к печати сборник о Минске... Всех товарищей, у которых есть какие-либо материалы для этого, просят зайти в комиссию. Адрес: Революционная, 21, Инбелкульт*»[238].

Варта зазначыць, што зборнік, паводле «Звезды», выдае таварыства, але зайсьці просяць у камісію Інбелкульту. Гэта прыклад шчыльнага супрацоўніцтва Камісіі аховы помнікаў з краязнаўчым таварыствам, што і ня дзіўна — Цэнтральнае бюро краязнаўства працавала пры Інбелкульце, а камісія была яго структурнай адзінкай.

У 1925 годзе актыўны супрацоўнік Камісіі аховы помнікаў і сэкцыі беларускага мастацтва Інбелкульту Мікола Шчакаціхін распрацаваў і апублікаваў вельмі падрабязную інструкцыю «Спосабы

237 Наш край. 1925. №2. С. 57.
238 Звезда. 9 ліпеня 1925.

зьбіраньня матар'ялаў зь беларускага мастацтва», прызначаную для мясцовых краязнаўчых суполак. Большая яе частка была прысьвечаная мэтодыцы фатаграфаваньня і апісаньня помнікаў культавай і грамадзянскай архітэктуры.

Вось фрагмэнты таго даволі вялікага дакумэнту, якія добра перадаюць непаўторны каларыт эпохі і грунтоўнасьць падыходу Шчакаціхіна да справы аховы і вывучэньня помнікаў.

Сярод усіх помнікаў ён асабліва вылучае архітэктурныя:

«*У найбольшай колькасьці мы знаходзім* ***помнікі архітэктурныя****, дасьледаваньне якіх, аднак, зьяўляецца найбольш цяжкім і складаным. Помнікі гэтыя бываюць двох гатункаў:* ***царкоўныя і грамадзянскія****, як каменныя, гэтак і драўляныя, прычым царкоўная архітэктура трапляецца значна часьцей і вельмі цікава з гістарычна-архітэктурнага боку...*»[239]

Вось рэкамэндацыі Шчакаціхіна адносна фотафіксацыі помнікаў:

«*Пры фатаграфаваньні архітэктуры* ***з кожнага помніка трэба рабіць, па магчымасьці, некалькі здымкаў****, кіруючыся наступнымі правіламі:*

*1. Царкоўныя будынкі фатаграфуюцца* ***з надворнага боку цалком два разы: з паўднёва- або паўночна-заходняга і з супрацьлеглага паўднёва- або паўночна-ўсходняга боку****, г. зн. адзін раз з рога каля галоўнага ўваходу, другі раз з рога каля аўтарнае часткі, з разрахункам, каб у абодвух выпадках было відаць два фасады адначасна.*

239 Наш край. 1926. №2–3. С. 66.

*2. Грамадзянскія будынкі, асабліва вялікія (напр., палацы) лепей за ўсё фатаграфаваць **чатыры разы: галоўны фасад, задні фасад, бакавыя фасады**»*[240].

І, нарэшце, невялікая цытата з інструкцыі Шчацціхіна адносна ўнутранага выгляду помнікаў:

*«3. Апроч агульных здымкаў, трэба сфатаграфаваць найбольш цікаўныя паасобныя дэталі, калі яны ёсьць: **ганкі, уваходы, вокны, арнамэнтальныя аздобы і г. д.** у большых разьмерах.*

*4. Унутры царкоўных будынкаў робяцца **два здымкі** агульнага выгляду: **у бок аўтара і ў бок уваходу**. У грамадзянскіх будоўлях абіраюцца найбольш цікаўныя і характэрныя памяшканьні, напр., **саля, уваходы і г. д.** Здымаюцца таксама **дэталі арнамэнтальных аздоб** на сьценах, дзьвярах, вокнах, столях і інш.»*[241].

Гэта фрагмэнт той часткі інструкцыі, дзе Шчаціхін дае рэкамэндацыі краязнаўцам на месцах, як фатаграфаваць помнікі архітэктуры. А вось як ён вучыў іх апісваць гістарычныя будынкі:

*«Апісаньні архітэктурных помнікаў, нават і без фатаграфічных здымкаў, зьяўляюцца найбольш важнай часткай справы. Трэба апісваць **усе старажытныя помнікі данага раёну**, не пакладаючыся пры гэтым на свой асабісты густ пры выбары гэтых помнікаў, бо лепей іншы раз апісаць які-небудзь помнік мала цікаўны і мала каштоўны, як прапусьціць што-небудзь запраўды каштоўнае, што відаць толькі спэцыялістаму...»*[242]

240 Таксама.
241 Таксама.
242 Тамсама. С. 66–67.

І далей у такім духу яшчэ шмат старонак і шмат пунктаў.

1925 год быў годам плённага і вельмі шчыльнага супрацоўніцтва Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту і Таварыства краязнаўства. Можна нават сказаць, што ў той час галоўным клопатам краязнаўцаў была ахова і прапаганда помнікаў архітэктуры. Па ўсёй Беларусі сотні людзей з фотаапаратамі і нататнікамі ў вёсках, мястэчках і гарадах пайшлі шукаць і апісваць старыя будынкі. У Менску і акруговых цэнтрах пачалі ладзіцца экскурсіі па старых частках гарадоў.

Вось фрагмэнт расказу пра летнюю (1925 году) актыўнасьць краязнаўцаў Магілёва ў адной з тагачасных публікацый Язэпа Троські:

«*Магілеўскае акр. т-ва краязнаўства нарыхтавала ў гэта лета шэсьць экскурсій па Магілеву з мэтай лепшага азнаямленьня з помнікамі архітэктуры, скульптуры, малярства і інш., якія сьведчаць аб старасьвецкай культуры краю. На чале экскурсій стаяў кіраўнік гістарычна-археалягічнае сэкцыі Д. І. Даўгяла, а апошняй экскурсіяй кіраваў С. Крэер…*»[243]

А вось апісаньне двух з шасьці экскурсійных маршрутаў:

***1-я экскурсія.*** *Перад намі вал — сучасны асяродак места, пункт, на якім ужо з XII веку існаваў магілеўскі замак. Па мяжы былога валу захаваліся толькі рэшткі земляных выступаў. Ад сьцяны, якая ахапляла вал, сьлядоў не засталося. Удзельнікі экскурсіі лёгка маглі ўявіць сабе выгляд Магілева*

243 Наш край. 1925. №2. С. 25.

*XVII–XVIII вякоў паводле 2-х старых гравюр, якія знаходзяцца ў Магілеўскім музэі.*

***2-я экскурсія**. Брацкі Багаяўленскі манастыр ад 30-х гадоў XVI веку. Побач Іванаўская царква 90-х гадоў XVI веку, навокал — брацкія гандлёвыя рады. Вока экскурсанта можа пацешыцца тут помнікамі беларускай духоўнай і матэрыяльнай культуры старых часоў, як, напрыклад: самабытная архітэктура Багаяўленскае царквы, прысадзістых, з моцнымі жалезнымі дзьвярмі крам у мураваных радох, разьба іканастасу XVII в., мастацкае малярства абразоў (брацкі абраз XVII в.) і г. д. Будынкі царкоўнае беларускае архітэктуры, бляшаныя дахі і муры гандлёвых радоў пачынаюць руйнавацца...»*[244]

Усяго Язэп Троська апісаў шэсьць экскурсійных маршрутаў па старым цэнтры Магілёва, зь якіх пяць былі прысьвечаныя помнікам архітэктуры XVI–XVIII стагодзьдзяў і толькі адзін — сучаснаму аб’екту — станцыі лекавых расьлін.

Гэта быў агульны тагачасны настрой і кірунак думак дзеячоў Інбелкульту. Невыпадкова магілёўскімі летнімі экскурсіямі 1925 году кіраваў загадчык Магілёўскага музэю Дзьмітры Даўгяла. У верасьні таго году ён будзе прыняты ў Інбелкульт на пасаду навуковага сакратара Гісторыка-археалягічнай камісіі, пераедзе ў Менск і тут жа зоймецца менскім Старым горадам і яго помнікамі.

Распрацоўка экскурсій была ўкладам краязнаўцаў у папулярызацыю помнікаў гарадзкой архітэктуры. Такія самыя экскурсійныя маршруты, як убачым далей, былі распрацаваныя і спэцыялістамі

244 Тамсама. С. 25–26.

Цэнтральнага бюро краязнаўства, а таксама супрацоўнікамі Беларускага дзяржаўнага музэю і дому «Рабпросу» ў Менску.

Не забывалі ў Інбелкульце і Таварыстве краязнаўства і пра Полацак — навукоўцы і мясцовыя актывісты ня трацілі надзеі выратаваць тамтэйшыя помнікі, у тым ліку і напалову разбураныя будынкі полацкага Барысаглебскага манастыра. У кастрычніку 1925 году Мікола Шчакаціхін друкуе сваю мастацтвазнаўчую працу «Фрэскі полацкага Барысаглебскага манастыра», у якой на падставе высноваў аб вялікай мастацкай вартасьці росьпісаў XII стагодзьдзя ў Бельчыцах абгрунтоўвае неабходнасьць іх захаваньня і рэстаўрацыі[245].

Да вывучэньня Сафійскага сабору і храмаў у Бельчыцах краязнаўцы прыцягнулі і навукоўцаў РСФСР. Летам 1926 году ў Полацку працавала адмысловая камісія:

*«У ліпені м-цы ў Полацку праводзіў дасьледчую працу над помнікамі XII ст. загадчык Смаленскага губ. музэю т. Хозераў супольна з нам. старшыні акр. краязн. т-ва т. Мялешка; зрабілі агляд становішча помнікаў старажытнасьці г. Полацку, прычым устаноўлена, што Сафійскі сабор патрабуе прыняцьця тэрміновых мер аховы, да ліку якіх у першую чаргу трэба аднесьці рамонт і ахварбоўку даху і інш.»*[246].

Апісвалі і вывучалі ў той час краязнаўцы помнікі па ўсёй рэспубліцы. Далёка ня ўсё ім удалося ўра-

245 Гл.: Шчакаціхін М. Фрэскі Полацкага Барысаглебскага манастыра // Наш край. 1925. №1. С. 17–27.

246 Наш край. 1926. №6–7. С. 75.

таваць і захаваць, бо дзейнасьць Таварыства краязнаўства празь некалькі гадоў была згорнутая. Але шмат што таварыства зрабіць пасьпела. Былі зробленыя здымкі і апублікаваныя апісаньні некаторых каштоўных помнікаў, якія да нашага часу не захаваліся — напрыклад, Рагачоўскага і Койданаўскага замкаў[247].

Краязнаўцы актыўна займаліся таксама публіцыстыкай і спрабавалі падвесьці гісторыка-тэарэтычную базу пад справу аховы помнікаў. Вось характэрны прыклад. У самым пачатку 1926 году старшыня Аршанскага краязнаўчага таварыства Д. Васілеўскі выступіў у рэспубліканскім друку з грунтоўным артыкулам «Сталецьце краязнаўчай працы на Беларусі». Вось як ён апісваў беларускія культурныя страты XIX стагодзьдзя і іх прычыны:

*«Паўстаньне 1831 году стрымала моц наступу польскай культуры на беларуса, але побач з гэтым павялічыўся ўціск беларускае культуры з боку царскага ўраду. Злучэньне вуніяцкае і праваслаўнае царквы прывяло к зьніштажэньню багацьцяў беларускай культуры, выяўленай у прадметах вуніяцкага культу»*[248].

Як бачым, агульнапрызнаная ўжо сёньня думка пра вялікія культурныя страты Беларусі пасьля забароны Ўніяцкай царквы, у тым ліку і ад гвалтоўнай перабудовы ўніяцкіх храмаў на расейскі манер, прапагандавалася краязнаўцамі ўжо ў 20-я гады XX стагодзьдзя. А вось як Д. Васілеўскі апі-

247 Гл.: Адзярыха М. Апісаньне Койданаўскага замку // Наш край. 1926. №1. С. 37–40; Шчакаціхін М. Замак у Рагачове // Наш край. 1926. №10–11. С.26–33.

248 Наш край. 1926. №2–3. С. 7.

саў страты помнікаў культуры і спробы іх аховы ў пэрыяд вайны і рэвалюцыі:

*«У першыя часы рэвалюцыі бібліятэкі браліся на вучот і ахоўваліся "валаснымі" камітэтамі, але польска-нямецкая навала ўвесь культурны рух сапсавала. У пажары грамадзянскае вайны загарэлася панскае дабро, а сумесна зь ім і тыя рэшткі беларускай культуры, якія захоўваліся па маёнтках ад старадаўніны. Камісіі па вучоту і ахове помнікаў мінулага, якія працавалі пры кожным аддзеле Нарасьветы, цягалі старыя кнігі і рэчы ў свае валасныя і павятовыя асяродкі. Вёска дужа за кнігамі для ўласнага ўжываньня ня гналася, бралі больш тыя кнігі, папера якіх ішла на курава...»*[249]

З гэтых некалькіх цытатаў добра відаць, наколькі сур'ёзна Таварыства краязнаўства было заангажаванае ў справу аховы помнікаў дзякуючы Інбелкульту і яго Камісіі аховы помнікаў.

Актыўнасьць была заўважаная і належным чынам «ацэненая» ў ГПУ і ЦК КП(б)Б. З канца 1925 году пачынаецца пакрыёмы наступ на краязнаўчы рух і яго паступовая пераарыентацыя на вывучэньне іншых галінаў народнага жыцьця. 20 сьнежня 1925 году НКВД БССР зацьвярджае статут Таварыства краязнаўства. З увагі на тыя ролю і месца, якія адыгрывала ахова помнікаў у дзейнасьці краязнаўцаў у 1925 годзе, цяжка ўявіць, каб сярод задач таварыства ў статуце ахова помнікаў ня згадвалася. Тым ня менш у зацьверджаным варыянце пра ахову помнікаў не было ні слова[250].

249 Тамсама. С. 12.
250 Гл.: Наш край. 1926. №12. С. 58–62.

Гэты першы крок уладаў прайшоў як бы незаўважаным. Праз паўтара месяца, 7–10 лютага 1926 году, у Менску ў будынку Інбелкульту адбыўся першы Ўсебеларускі краязнаўчы зьезд. Сьнежаньскі намёк НКВД дэлегаты праігнаравалі. Зьезд заслухаў даклад прафэсара Доўнар-Запольскага «Краязнаўчая праца ў галіне гісторыі і археалёгіі» і даклад Міхаіла Мароза «Ахова помнікаў». Па гэтых двух дакладах дэлегаты прынялі асобную рэзалюцыю, некаторыя пункты якой чытачу ўжо знаёмыя:

*«Заслухаўшы даклад праф. Доўнар-Запольскага “Краязнаўчая праца ў галіне гісторыі і археалёгіі” і інфармацыю т. Мароза аб ахове помнікаў старасьветчыны, культуры, быту, прыроды і мастацтва на Беларусі, першы Ўсебеларускі краязнаўчы зьезд пастанавіў:*

*1. Абавязаць краязнаўчыя арганізацыі: падлічыць, зрабіць апісаньне і зарэгістраваць усе помнікі старасьветчыны, якія знаходзяцца на іх тэрыторыі... і давесьці аб іх да ведама Інбелкульту...*

*3. Перагледзець пытаньне аб рэштках старасьветчыны з часоў гістарычных, як старыя будынкі, прадметы мастацтва, могілкі... Дзе б яны ні знаходзіліся, зарэгістраваць іх і давесьці да ведама Інбелкульту...*

*6. Краязнаўчыя арганізацыі на мясцох павінны мець самы бачны і няўхільны нагляд за тым, каб ня нішчыліся ніякія помнікі археалёгіі і наагул старасьветчыны... і ў выніках пагражаючай небясьпекі паведамляць Інбелкульт.*

*7. Зьвярнуцца ў належныя ўстановы з хадайніцтвам аб выданьні адпаведнага закону наконт*

*аховы помнікаў старасьветчыны, мастацтва і прыроды»*[251].

Як бачым, трэці пункт рэзалюцыі датычыўся рэштак помнікаў — руінаў, якія тагачасныя дзеячы Інбелкульту таксама лічылі вартымі захаваньня і аховы. Фактычна ўся рэзалюцыя, асабліва пункты 6 і 7, наўпрост парушалі зацьверджаны НКВД статут таварыства, у якім сярод задач арганізацыі пра ахову помнікаў ня згадвалася. Як вядома, і прыняцьця строгага закону тады дамагчыся не ўдалося — у рэальным жыцьці за разбурэньне або пашкоджаньне помнікаў гісторыі і культуры ў Беларусі ніхто пакараны ня быў. Але такія патрабаваньні нэрвавалі ўлады і выклікалі іх жаданьне процідзейнічаць. Менавіта таму ў гэты час яшчэ болей узмацняецца ўвага камуністычнага кіраўніцтва БССР і ГПУ да дзейнасьці Інбелкульту.

За тры дні да адкрыцьця першага Ўсебеларускага краязнаўчага зьезду, 4 лютага 1926 году, адбылося закрытае пасяджэньне Бюро ЦК КП(б)Б з удзелам прадстаўнікоў ГПУ, на якім была разгледжаная праца Інбелкульту і яго актыўнасьць у краязнаўчым руху. Па выніках нарады Бюро ЦК прыняло сакрэтную пастанову:

*«Работа Инбелкульта и положение в нем в настоящее время требуют серьезного внимания партии. Необходимо: 1) Укрепить коммунистами руководящую головку, обеспечив возможность практического руководства всеми отраслями работы; 2) Поручить фракции Инбелкульта совместно с АПО пересмотреть состав коммунистов членов Инбелкульта,*

---

251 Наш край. 1926. №2–3. С. 86.

*обеспечив участие их в работе секций и комиссий; 3) Установить регулярную работу комфракций и выделить регулярно действующее бюро фракции;... 5) Краеведческой работе придать практический уклон для увязки с современными требованиями. Обеспечить в краеведческой работе внимание и влияние партийных, профессиональных и сов. организаций. Напомнить окружкомам КПБ на неоднократно дававшиеся директивы о выделении партийцев в качестве членов корреспондентов Инбелкульта; 6) Считать нецелесообразным развертывание клубной работы при Инбелкульте, сосредоточить последнюю в союзных организациях»*[252].

На рашэньні Першага краязнаўчага зьезду гэтая сакрэтная пастанова паўплываць ужо не магла, хоць і зразумела, што сабрацца за тры дні да зьезду камуністычнае кіраўніцтва Беларусі магла прымусіць апэратыўная інфармацыя ГПУ аб зьмесьце плянаваных рэзалюцый зьезду.

У выніку шырокае стварэньне клюбаў прыхільнікаў Інбелкульту на месцах было забароненае, а краязнаўства ў цэнтры і на месцах было вырашана ўзяць пад партыйны кантроль. У гэтым самым часе іншая сакрэтная нарада ў ЦК КП(б)Б вырашыла «дэпалітызаваць працу ІБК, узяўшы болей акадэмічны напрамак»[253]. Усё гэта было адказам на актыўную дзейнасьць працаўнікоў Інбелкульту, у тым ліку і на іх настойлівыя патрабаваньні ахоўваць помнікі, выдаткоўваць на гэтыя мэты патрэбныя сродкі і караць тых, хто помнікі разбурае.

252 НАРБ, ф. 4-п, воп. 1, спр. 3077, арк. 9.
253 Тамсама, арк. 22.

Працаўнікі Інбелкульту і ўдзельнікі краязнаўчага руху сапраўды ігнаравалі камуністычную партыю і камсамол. У 1926 годзе сярод 598 членаў Менскага акруговага таварыства краязнаўства было толькі 17 членаў КПБ і ЛКСМБ[254]. Разам з тым у Інбелкульце працавала больш за 100 чалавек, а камуністаў было ўсяго некалькі, у тым ліку У. Ігнатоўскі. Колькасьць камуністычнай ячэйкі нават у 1928 годзе, калі ў Інбелкульце налічвалася ўжо каля 200 штатных і пазаштатных супрацоўнікаў, дасягнула толькі 16 чалавек, але сярод іх, апрача Ігнатоўскага, не было людзей, вядомых у беларускім нацыянальным руху[255]. Можна сьмела канстатаваць, што ад паловы 20-х гадоў Інбелкульт няўхільна і па першым часе неўпрыкмет пачаў аддаляцца ад беларушчыны.

«... *Вытрымаць гэтую лінію (беларушчыны — С. А.) У. М. Ігнатоўскаму было складана, улічваючы, што ў той час былі даволі моцнымі тэндэнцыі падазронасьці, недаверу, а часам і варожасьці да інтэлігенцыі, у тым ліку і ў Кампартыі Беларусі*»[256].

У выніку пастановаў ЦК КП(б)Б на пасяджэньнях камісіяў Інбелкульту пачалі зьяўляцца актыўныя камуністы, пачаліся спрэчкі і канфлікты. Пры складаньні сьпісу помнікаў сталі прапаноўваць больш увагі надаваць рэвалюцыйнай героіцы і менш сягаць у даўніну. Пра гэтыя падзеі адзін зь іх удзельнікаў, тагачасны супрацоўнік Інбелкульту Яўхім Кіпель запісаў у сваіх успамінах:

254 Наш край. 1926. №10–11. С. 64.
255 Інстытут беларускай культуры. С. 24.
256 Тамсама.

*«Вялікія церці паміж беларусамі і расейцамі ўзьніклі і ў помнікавай сэкцыі...»*[257]

Вынікам гэтай барацьбы стаў кампрамісны варыянт першага дзяржаўнага сьпісу помнікаў. Ня ўсе менскія каштоўныя будынкі ўдалося туды ўнесьці, але Замкавую гару і яе забудову адстаяць удалося. 5 ліпеня 1926 году СНК БССР прыняў пастанову «Аб абвяшчэньні дзяржаўнай уласнасьцю помнікаў старажытнасьці, мастацтва, быту і прыроды»[258].

Сьпіс помнікаў, паводле пастановы, складаўся з 94 аб'ектаў. Туды ўваходзілі помнікі з усёй рэспублікі, у тым ліку і помнікі прыроды — паркі, сады і, нават, запаведнік «Камароўскае балота ў Менску»[259]. Першым нумарам па Менскай акрузе значыўся «Дом I зьезда РСДРП»[260]. У сьпіс не ўвайшлі такія значныя помнікі менскай архітэктуры, як мужчынскі і жаночы базыльянскія кляштары і іх царква ў Верхнім горадзе, кляштар базыльянак на Траецкай гары, францішканскі кляштар, кляштар і касьцёл бэнэдыктынак, дом Ваньковіча і іншыя. Але патрэбная ўвага Старому гораду была нададзеная. Пад №5 Пастанова СНК БССР брала пад ахову «Дом Гродзкага суда, на Замчышчы каля Сьвіслачы», а пад №10 — усю «Замкавую гару на Нямізе» разам з забудовай[261].

Тым ня менш сакрэтная пастанова Бюро ЦК аб краязнаўчай працы ад 4 лютага 1926 году («Краеведческой работе придать практический уклон для

257 Кіпель Я. Эпізоды. Нью-Ёрк, 1998. С. 104.
258 Мастацтва Савецкай Беларусі. Т. 1. Менск, 1976. С. 33–36.
259 Тамсама.
260 Мастацтва Савецкай Беларусі. Т. 1. С. 33.
261 Тамсама.

увязки с современными требованиями. Обеспечить в краеведческой работе внимание и влияние партийных, профессиональных и сов. организаций») аказала на справу аховы помнікаў самы згубны ўплыў. Фактычна, першы Ўсебеларускі краязнаўчы зьезд стаў апошнім афіцыйным мерапрыемствам краязнаўцаў, на якім згадвалася пра патрэбу аховы помнікаў.

Ахоўная тэматыка як бы цудоўным і загадкавым чынам пачынае зьнікаць з краязнаўчых дакумэнтаў — менавіта так павінен быў успрымаць гэта тагачасны ўважлівы назіральнік. Насамрэч ніякага цуду тут не было — была закрытая нарада ў Бюро ЦК 4 лютага і сакрэтная пастанова.

Неўзабаве пасьля першага Краязнаўчага зьезду Цэнтральнае бюро краязнаўства прыняло «Пэрспэктыўны плян працы» на 1926 год. У гэтым дакумэнце ўжо не было ні слова пра ахову помнікаў. Замест аховы актывістам-краязнаўцам прапаноўвалі заняцца прыродазнаўствам і геаграфіяй, а таксама вывучэньнем сельскагаспадарчай вытворчасьці:

«*На бягучы 1926 год, на пэрыяд май-кастрычнік... ЦБК мае на ўвазе галоўным чынам вывучэньне жывой прыроды і летніх сэзонных зьяў, як у прыродзе, гэтак і ў гаспадарцы. ЦБК рыхтуецца выдаць шэраг спэцыяльных сэзонных інструкцый па зьбіраньні калекцый жывёл ды расьлін і прапануе краязнаўчым таварыствам і гуртком зьвярнуць увагу на наступнае: а) зьбіраньне заалягічных калекцый паводле інструкцыі праф. А. Фядзюшына, асабліва зьбіраньне шкоднікаў саду, поля, лесу і гароду; b) зьбіраньне мясцовых гербарыяў, асабліва лекавых і*

*тэхнічных дзікіх расьлін, паводле ўказаньняў праф. Васількова...; c) запаўненьне анкет па абсьледаваньні бюджэту часу беларускага селяніна... і анкеты праф. Скандракова аб тэхніцы сялянскага ральніцтва; d) запаўненьне анкет праф. Тарлецкага аб карысных выкапнях...»*[262]

Па першым часе ў 1926 годзе краязнаўцы па інэрцыі яшчэ і надалей надавалі нейкую ўвагу помнікам архітэктуры і іх ахове. Напрыклад, праводзілі ўжо згаданае абсьледаваньне і вывучэньне помнікаў Полацку, а таксама актыўнічалі ў Менску, але закладзеная сакрэтнай нарадай тэндэнцыя перамагала няўхільна. Зрэшты, інакш у тагачасным СССР і быць не магло.

Дзеля справядлівасьці трэба сказаць, што прыродазнаўства і вывучэньне сялянскай гаспадаркі з самага пачатку згадваліся сярод мэтаў краязнаўчага руху. Проста з пачатку 1926 году, калі ахову і вывучэньне помнікаў зь пераліку задач прыбралі, прыродазнаўства, натуральна, стала рабіцца прыярытэтам. Зрэшты, як убачым далей, ненадоўга — неўзабаве краязнаўцы наогул пачнуць вывучаць вытворчыя сілы вёскі і абсьледаваць заводы ў гарадах.

Адной з гучных акцый ЦБК 1926 году стала так званае «Спробнае краязнаўчае абсьледаваньне тыповага раёну БССР». Для гэтай мэты быў выбраны Асіповіцкі раён. А вось паводле якога крытэрыю ён быў выбраны:

*«... Гэты раён павінен быць тыповым для Беларусі і, значыць, мусіць быць лясістым, балатністым зь*

262 Наш край. 1926. №4–5. С. 80.

*перавагай лёгкіх грунтаў, сярэднім паводле прасторы і па колькасьці насельнікаў»*[263].

Пра помнікі гісторыі і патрэбу іх аховы ў «тыповым раёне» не было сказана ні слова.

У верасьні 1926 году ў Менску адбыўся пашыраны пленум Цэнтральнага бюро краязнаўства. Ад імя прэзыдыюму ЦБК са справаздачай аб яго дзейнасьці выступіў Аляксей Казак. Пра помнікі архітэктуры, калі меркаваць па апублікаваным у друку тэксьце дакладу, ён не згадаў[264]. Пасьля дакладу пленум прыняў «Рэзалюцыю па справаздачы прэзыдыюму ЦБК і акруговых т-ваў».

Гэты вялікі дакумэнт складаўся з дваццаці трох пунктаў. І толькі ў ягоным 11-м пункце мімаходзь, сярод іншага, была згаданая патрэба «апісваць помнікі»:

*«Чарговымі заданьнямі агульнадзяржаўнага значэньня да 10-га сакавіка 1927 г. зьяўляецца:*

*а) усебаковае дасьледаваньне і вывучэньне кожнай акругай аднаго раёну; б) сэзонныя фэналягічныя і мэтэаралягічныя назіраньні; в) вывучэньне бюджэту часу селяніна звычаёвага права, хатніх рамёстваў і становішча сялянскай гаспадаркі, паводле адпаведных анкет; г) вывучэньне грашовых скарбаў, вуснай народнай творчасьці і матар'ялаў па беларускім мастацтве; д) апісаньне помнікаў старасьветчыны, дзе гэта ня зроблена, карысных выкапняў і паселішчаў гарадзкога тыпу; е) прыняцьце ўдзелу ў дэмаграфічным перапісе 1926 г.»*[265]

263 Тамсама. С. 82.
264 Гл.: Наш край. 1926. №8–9. С. 65–68.
265 Тамсама. С. 72.

Помнікі архітэктуры, якія ў 1925 годзе дамінавалі ў клопаце краязнаўцаў, у верасьні 1926 году нават не пацягнулі ня тое што на асобны пункт, нават на падпункт рэзалюцыі — патрэбу іх апісаньня аб'ядналі з патрэбай апісаньня карысных выкапняў. А пра ахову помнікаў архітэктуры, патрэбу іх рэстаўрацыі і пошуку для гэтага сродкаў не было сказана ні слова.

Так маргіналізавалася найважнейшая для выхаваньня нацыянальнай сьвядомасьці справа. І тэндэнцыя гэтая з кожным месяцам рабілася ўсё больш відавочнаю.

13 кастрычніка 1926 году на пасяджэньні Цэнтральнага бюро краязнаўства член прэзыдыюму ЦБК, рэдактар часопісу «Наш край» Зьмітрок Бядуля зрабіў справаздачу аб дзейнасьці часопісу за першы год яго існаваньня (часопіс пачаў выдавацца ў кастрычніку 1925 году):

*«... За ўвесь час (1 год) надрукавана артыкулаў: прыродазнаўчых — 30; геаграфічных — 6; гістарычных — 7; аб помніках старасьветчыны — 10; быту, гігіены, санітарыі, народнай мэдыцыны, мовы — 8; мастацтва — 4; мэтадычных артыкулаў па краязнаўстве — 12; праграм, інструкцый і анкет — 25»*[266].

Статыстыка красамоўная і прыярытэты ясныя. Да таго ж, большасьць артыкулаў аб помніках архітэктуры зьявіліся ў першых нумарах часопісу. Такі зьмест «Нашага краю» ЦБК задаволіў. У пастанове запісалі:

---

266 Наш край. 1927. №1. С. 74.

*«Па дакладзе пастаноўлена адзначыць, што часопіс мае належны характар і месцы здавальняе; галоўным недахопам зьяўляецца нерэгулярнасьць выхаду...»* [267]

Але гэтага было недастаткова для тых, хто пільна назіраў за дзейнасьцю краязнаўцаў. Хай сабе і на маргінэсе, хай сабе і бяз згадак пра патрэбу аховы і рэстаўрацыі помнікаў, але пра іх існаваньне ўсё ж згадвалі. Гэта, відаць, адпаведныя структуры трывожыла. Таму яшчэ праз два месяцы, у сьнежні 1926 году, па краязнаўчым руху нанесьлі некалькі апошніх удараў.

Спачатку чарговае закрытае пасяджэньне Бюро ЦК КПБ(б) чарговы раз абмеркавала сытуацыю ў Інбелкульце, пры якім дзейнічала Цэнтральнае бюро краязнаўства. Сярод пастановаў ізноў было вырашана максымальна «деполитизировать ИБК», а пытаньне «краеведческой организации» разгледзець асобна[268].

Неўзабаве камісія ЦК КПБ(б) па інтэлігенцыі правяла спэцыяльнае пасяджэньне, прысьвечанае Інбелкульту, і прыняла адпаведную рэзалюцыю. У матэрыялах пасяджэньня восем правадзейных членаў Інстытуту беларускай культуры, тагачасная інтэлектуальная эліта народу, упершыню абвінавачваліся ў нацыянал-дэмакратызьме:

*«1. Цвикевич Александр, национал-демократ, сущности советской власти не осознал. Член президиума ИБК, ученый секретарь ИБК.*

267 Тамсама. С. 75.

268 Цыт паводле кн.: Інстытут беларускай культуры. 1922–1928. Дакумэнты і матэрыялы. Менск, 2011. С. 166.

*2. Лёсик Язеп, национал-демократ, член ИБК, председатель правописно-терминологической комиссии.*

*3. Азбукин Николай, национал-демократ, (бывший эсер — активный). Член ИБК, научный секретарь ЦБК.*

*4. Трампович, национал-демократ, член ИБК, ученый секретарь медсекции.*

*5. Чаржинский Владислав, национал-демократ, секретарь секции языка и литературы.*

*6. Смолич Аркадий, национал-демократический уклон. Заведующий редакционно-издательским отделом, заместитель председателя ИБК, член президиума ИБК.*

*7. Луцевич Иван (Янка Купала), левонароднический уклон. Член ИБК, член правописно-терминологической комиссии.*

*8. Мицкевич Константин (Якуб Колас), национал-демократический уклон, под влиянием Лёсика. Член ИБК, член правописно-терминологической комиссии»*[269].

А ў 9-м пункце прынятай па выніках нарады рэзалюцыі камісія ЦК КПБ(б) вырашыла:

*«Азбукіна з работы [у] ЦБК зьняць, замест высунуць аднаго зь беспартыйных нізавых работнікаў Краязнаўчага таварыства»*[270].

І нарэшце ў тым самым сьнежні 1926 году ў галоўным органе краязнаўцаў, часопісе «Наш край» зьяўляецца артыкул Васіля Самцэвіча «Краязнаў-

269 Тамсама. С.162.
270 Тамсама. С.165.

ства ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве краю».

Публікацыя тая стала апатэозам рэалізацыі сакрэтнай пастановы Бюро ЦК КП(б)Б ад 4 лютага 1926 году. Гэтым тэкстам камуністычнае кіраўніцтва БССР і ГПУ забівала апошні цьвік у труну справы аховы помнікаў у Беларусі.

Вось невялікія фрагмэнты таго праграмнага артыкулу, якім адкрываўся 12-ты нумар «Нашага краю» за 1926 год. Але і яны даюць магчымасьць адчуць, у якой вусьцішнай ідэалягічнай атмасфэры даводзілася працаваць тады дзеячам Інбелкульту. Гэта — прэамбула антыбеларускага пагрому 1929–1930 гадоў.

Пачынае аўтар з крытыкі дзейнасьці краязнаўцаў:

«... *Краязнаўства ў мінулым амаль што зусім не насіла характару практычна-карыснай працы; яно было далёка ад вырашэньня жыцьцёвых гаспадарчых і культурным праблем. Цяпер наадварот: справа краязнаўства зьяўляецца пераважна вытворчай праблемай, праблемай будаўніцтва новай гаспадаркі і новай культуры.*

*Перад партыяй, Савецкай уладай і перад усімі працоўнымі масамі стаіць цяпер вялікая задача гаспадарчага і культурнага будаўніцтва ў кірунку новага сацыялістычнага ладу. Нам патрэбна разьвіваць нашу прамысловасьць, падняць на належную вышыню тэхніку нашае сельскае гаспадаркі, стварыць культурныя ўмовы жыцьця і працы. Задачы, якія перад сабой ставіць рабочая кляса і Савецкая ўлада, могуць быць з посьпехам выкананы толькі*

*пры ўмове ўсебаковага вывучэньня прыродных багацьцяў і асаблівасьцяй краю…»*[271]

Вось як Васіль Самцэвіч тлумачыў патрэбу зьмены кірунку, у якім мусяць праводзіцца краязнаўчыя дасьледаваньні:

*«Вывучэньне і вырашэньне праблем сельскай гаспадаркі, умоў разьвіцьця нашай прамысловасьці, укладу эканамічных і бытавых узаемаадносін маюць для нас у сучасны момант ня толькі адмыслова-тэарэтычнае значэньне, але і практычную неабходнасьць.*

*Для разьвіцьця сельскае гаспадаркі нам неабходна добра ведаць усе прыродныя і сацыяльна-эканамічныя ўмовы данай мясцовасьці, становішча сельскагаспадарчае тэхнікі, культурны ўзровень насельніцтва гэтае мясцовасьці і г. д.; нельга разьвіваць прамысловасьці таго ці іншага віду, не дасьледаваўшы належным чынам усіх магчымасьцей гэтага разьвіцьця: налічча сыравіны, запасаў энэргіі, працоўнае сілы, выгаднага транспарту, попыту на вырабляемыя прадукты…»*[272]

І, нарэшце, пастаноўка новай «вытворчай» задачы перад краязнаўчым рухам:

*«Дзеля гэтага краязнаўчым арганізацыям трэба будаваць плян сваёй працы, выходзячы зь мясцовых чарговых задач Савецкае ўлады, увязваць сваю працу з практычнай працай савецкіх установаў. Толькі ў такім выпадку праца краязнаўчых арганізацый будзе жыцьцёвай і карыснай для працоўных мас і органаў Савецкае ўлады.*

271 Наш край. 1926. №12. С. 3–5.
272 Тамсама.

*Такія пытаньні, як інтэнсыфікацыя сельскай гаспадаркі, рацыяналізацыя лясной гаспадаркі, мэліярацыя, разьвіцьцё мясцовай прамысловасьці, каапэрацыі, правядзеньне культурных мерапрыемстваў... могуць быць вырашаны савецкімі органамі на мясцох у значнай меры пры дапамозе краязнаўчых арганізацый…*

*Органам плянуючым, гаспадарчым і каапэрацыйным установам і працаўнікoм неабходна бліжэй падысьці да краязнаўчых арганізацый, устанавіць з апошнімі цесную сувязь…*

*Школьнае краязнаўства павінна насіць вытворчы ўхіл і быць грамадзка-карысным і неабходным, напрыклад: вывучэньне санітарна-гігіенічнага становішча вёскі з мэтай палепшыць яго, абсьледаваньне сельскай гаспадаркі і барацьба за павышэньне яе тэхнікі*»[273].

Дастаткова параўнаць гэты тэкст з раней прыведзенымі вытрымкамі з экскурсіяў па Магілёве, каб зразумець і адчуць маштаб зьменаў, якія былі гвалтоўна навязаныя краязнаўцам партыйным кіраўніцтвам БССР усяго праз год пасьля пачатку іх актыўнай дзейнасьці ў галіне вывучэньня і аховы помнікаў.

Няма патрэбы і казаць, што аслабленае звальненьнем свайго навуковага сакратара прафэсара Міколы Азбукіна Цэнтральнае бюро краязнаўства прыняло гэтую партыйную дырэктыву да выкананьня безь пярэчаньняў. Затое варта нагадаць, што аўтар артыкулу, удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі, настаўнік і краязнавец Васіль Самцэвіч з

273 Тамсама.

Барысаўшчыны ў 1929 годзе стаў на чале Цэнтральнага бюро краязнаўства, узначальваў яго да самага моманту ліквідацыі ў 1932 годзе, стаў заслужаным настаўнікам БССР, пражыў доўгае жыцьцё і памёр у 1978 годзе, маючы 89 з паловай гадоў. Рэпрэсаваны неўзабаве Мікола Азбукін не дажыў і да 50-ці.

10–13 лютага 1927 году адбыўся II Ўсебеларускі краязнаўчы зьезд з удзелам 187 дэлегатаў з усёй рэспублікі. Па дакладзе прэзыдыюму і акруговых таварыстваў вяліся дэбаты па 23 тэмах, а прынятая выніковая рэзалюцыя зьезду складалася з 33 пунктаў. Ні сярод абмеркаваных 23 тэмаў, ні ў 33 пунктах пастановы не было ні слова пра помнікі архітэктуры і іх ахову[274]. А тым часам на момант правядзеньня зьезду ў Беларусі налічвалася 240 краязнаўчых арганізацый, у якія ўваходзіла 9389 актыўных членаў[275]. Усю гэтую армію людзей раптам пазбавілі іх асноўнай мэты.

Далейшая дзейнасьць краязнаўцаў мела ўжо ў значнай ступені абсурдысцкі характар. 25 сакавіка 1927 году Менскае акруговае таварыства краязнаўства заслухала справаздачу свайго кіраўніцтва. Вось чым у той час ужо займаліся людзі, якія паўтара года перад гэтым абсьледавалі помнікі Старога Менску, праводзілі экскурсіі па Пляцы Волі і Замчышчы, а таксама зьбіралі здымкі старых вуліц і будынкаў для наступнага іх выданьня пад адной вокладкай:

«*У горадзе абсьледавана 17 прадпрыемстваў (заводы, фабрыкі): тры скураных заводы і ФЗУ*

274 Гл.: Наш край. 1927. №2. С. 60–62.
275 Полымя. 1927. №1. С. 205.

*(фабрычна-завадзкая вучн. школа); тры дражджавыя заводы "Красная заря", "Пролетарий" і "Варшавянка"; майстэрню ім. Бурбіса; чыгуна-ліцейны зав. "Энэргія"; броварны зав. "Беларусь"; цукеркавая фабрыка "Прагрэс"; шапавальная фабрыка; вяровачная майстэрня; абуўная фабрыка; дрэваапрацовачны завод; абуўную майстэрню; шкляны зав. "Пралетары". Пры абсьледаваньні былі ўключаны такія пытаньні: гісторыя зав., пунктуальны абрыс яго, адкуль дастаўляецца сыравіна, якія прадпрыемствы маюць цэхі, аддзелы, стадыі... колькасьць вытворчасьці ў дзень, месяц, год, санітарны выгляд заводу... Ухвалілі: даабсьледаваць у такім жа парадку і рэштку больш буйных прадпрыемстваў, сканцэнтраваўшы матар'ял аб прамысловасьці гор. Менску...* »[276]

Адзіным апраўданьнем гэтага абсурду можа служыць той факт, што на ўсіх «абсьледаваных» заводах і фабрыках краязнаўцы прасілі ўзоры тэхнікі і прадукцыі ў якасьці экспанатаў для краязнаўчага музэю.

А скончылася ўсё ўвосень 1927 году, калі адзначалася 10-годзьдзе «Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі». Якраз тады рэспубліканскі краязнаўчы рух быў арыентаваны на вывучэньне рэвалюцыйнай гісторыі Беларусі. Гэта ўжо было лягічнае завяршэньне распачатай у канцы 1925 году пераарыентацыі краязнаўчай працы і трыюмфам сакрэтнай пастановы 4 лютага 1926 году («Краеведческой работе придать практический уклон для увязки с современными требованиями...»).

276 Наш край. 1927. №5. С. 64.

У «пераарыентацыі» краязнаўчага руху быў вымушаны ўдзельнічаць і адзін зь яго «айцоў-заснавальнікаў» Усевалад Ігнатоўскі. Кастрычніцкі нумар «Нашага краю» за 1927 год, дзе было некалькі дырэктыўных публікацый аб неабходнасьці вывучэньня рэвалюцыйнага руху, адкрываўся якраз артыкулам Ігнатоўскага «Вывучэньне Кастрычніцкай рэвалюцыі». Ігнатоўскі дырэктыўным тонам заклікаў краязнаўцаў сканцэнтравацца на вывучэньні рэвалюцыйнай гісторыі.

Старшыня Інбелкульту, член Бюро ЦК КП(б)Б і ЦВК БССР, лідэр нацыянал-камуністаў Усевалад Ігнатоўскі, які актыўна патранаваў справу вывучэньня, прапаганды і аховы помнікаў архітэктуры ў пачатку і сярэдзіне 20-х гадоў спачатку ў Наркамаце асьветы, а пасьля ў Інбелкульце, як уяўляецца, усё бачыў і ўсё разумеў. Якраз такое разьвіцьцё сытуацыі ў Беларусі і стала адной з прычынаў яго пазьнейшага самагубства. Гэта быў крах ілюзій.

У кастрычніку 1930 году часопіс «Наш край» быў перайменаваны ў «Савецкую краіну», а ў студзені 1933-га — зачынены. Калі падпісчыкі «Нашага краю» ў канцы 1930 году са зьдзіўленьнем атрымалі часопіс пад новай назвай, там у рэдакцыйным артыкуле пісалася:

«*Контррэвалюцыйны беларускі нацыянал-дэмакратызм сплёў моцнае гняздо ў БАН пры злачынным патураньні нацыянал-апартуністаў з былога кіраўніцтва Акадэміі і Наркамасьветы Ігнатоўскага, Баліцкага, Бялугі і інш... Іх рупарам быў выбраны штомесячнік «Наш край»... Адсюль зразумела, чаму краязнаўства БССР... ганялася за старажытнасьцю, мінулым, купалася ў гразі цэркваў, касьцёлаў,*

*сынагог, упускаючы задачы сацыялістычнага будаўніцтва»*[277].

Што да самога краязнаўчага руху, то яго, як і яго ўдзельнікаў, чакала трагічная доля:

*«У пачатку 1930-х гадоў краязнаўства ў БССР фактычна вынішчана, многія вядомыя вучоныя і мясцовыя краязнаўцы рэпрэсіраваны. У 1932 годзе прынята пастанова СНК БССР “Аб мерапрыемствах па разгортваньню краязнаўчага руху”, якая прадпісвала краязнаўцам дасьледаваць і паказваць выключна посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва»*[278].

У 1932 годзе, як бачым, бальшавікам пасьля «шэрагу мерапрыемстваў» давялося разгортваць краязнаўства ў Беларусі наноў.

І гэта пры тым, што краязнаўчы рух у БССР, разгорнуты Інбелкультам у 1925–1926 гадах, быў самым масавым ва ўсім СССР. Калі ў 1926 годзе, на момант гвалтоўнага адцягненьня краязнаўцаў ад справы вывучэньня і аховы помнікаў, у БССР было 90 рэгіянальных краязнаўчых таварыстваў і 41 гурток, якія аб’ядноўвалі 6830 членаў, то ў пачатку 1928 году краязнаўцаў у Беларусі налічвалася ўжо 10 510 чалавек, аб’яднаных у 301 арганізацыю[279]. У РСФСР, колькасьць насельніцтва якой больш чым у 30 разоў перавышала колькасьць насельніцтва

277 Цыт. паводле: Аляксееў Л. В. Разгром краязнаўства // Памяць: Мінск. Гісторыка-дакументальная хроніка гарадоў і раёнаў Беларусі. Т. 3. С. 210.

278 Трэпет. Л. Краязнаўства // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 4. С. 259 .

279 Наш край. 1926. №8–9. С. 67; Трэпет Л. Краязнаўства // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 4. С. 259.

БССР, краязнаўчых арганізацый было каля 1100. У рэзалюцыі 2-й Усебеларускай краязнаўчай канфэрэнцыі ў студзені 1929 году сьцьвярджалася, што ў Беларусі 10 тысяч краязнаўцаў, а ва ўсім СССР іх 50 тысяч[280].

Аналягічная пераарыентацыя дзейнасьці краязнаўцаў мела месца і ў РСФСР, але адбылося гэта на 3–4 гады пазьней у параўнаньні зь Беларусьсю. Можна канстатаваць, што першы ўдар па нацыянальнай гісторыі і культуры быў нанесены бальшавікамі якраз у БССР.

## Спроба арганізацыі музэю Старога Менску

Гэтая ініцыятыва ўзьнікла ў 1924 годзе, яшчэ да стварэньня Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту. Падзеі і абставіны, якія суправаджалі гэтую спробу, а таксама склад удзельнікаў паказвае, што яна была часткай агульнага клопату беларускага актыву пра менскую даўніну.

31 сьнежня 1924 году тры дэпутаты Менскага гарсавету, члены яго камунальнай сэкцыі Аўгулевіч, Мярло і Шманай напісалі ліст да дырэктара Беларускага дзяржаўнага музэю П. Харламповіча з прапановай заснаваць у музэі куток Старога Менску і прапанавалі са свайго боку ўдзел і садзеяньне[281].

13 студзеня 1925 году Харламповіч накіраваў у гарсавет афіцыйны адказ. Ён пісаў, што ў музэі, апрача некалькіх фатаздымкаў, няма дастаткова

280 Наш край. 1929. №1. С. 57.
281 ДАМн, ф. 354, воп. 1, спр. 141, арк. 2.

экспанатаў, каб паўнавартасна прадставіць Стары Менск. Таму Харламповіч прапанаваў энтузіястам-дэпутатам дапамагчы музэю знайсьці неабходныя сродкі на закупку экспанатаў і самім паўдзельнічаць у справе камплектаваньня будучай экспазыцыі.

Хуткі адказ Харламповіча і зьмест ягонага ліста наводзяць на думку, што сапраўднымі ініцыятарамі стварэньня «кутка Старога Менску» маглі быць людзі, што гуртаваліся вакол Інбелкульту, Навукова-экспэртнай камісіі Наркамасьветы і Беларускага дзяржаўнага музэю — іншымі словамі, усе раней названыя героі нашага аповеду, у тым ліку сам Павал Харламповіч. Прыцягненьне дэпутатаў магло дапамагчы здабыць грошы.

Ліст Харламповіча настолькі вымоўны, што яго варта прывесьці амаль цалкам:

*«Для того, чтобы придать уголку действительно показательный характер, необходимо его пополнить следующими материалами:*

*Старый Минск.*

*1. Фотографии:*

*а) различные панорамы г. Минска,*

*б) улицы и площади,*

*в) старинные постройки,*

*г) исторические здания, места и местности.*

*2.Рисунки, зарисовки, картины:*

*а) реставрационные опыты воспроизведения Старого Минска,*

*б) зарисовки старых зданий, улиц, дворов, площадей и т. д.*

*3. Акты, привилегии и грамоты, относящиеся например к:*

*а) дарованию г. Минску Магдебургского права,*

*б) акты на те или иные архитектектурные постройки, снесения или упразднения их (Старый театр, Ратуша, помещен. бывш. Базилианского монастыря, Рахитов, Францисканского, Бенедиктинского),*

*в) акты об увеличении городских границ.*

*4.Планы и чертежи:*

*а) старые планы гор. Минска,*

*б) чертежи проложения или изменения направления улиц,*

*в) планы быв. Ратуши, Старого театра на бывш. Соборной площади, монастырей и замка...»*[282]

І вось як Павал Харламповіч бачыў спосаб вырашэньня пастаўленай ім самім задачы:

*«Для успешного проведения в жизнь организации уголка вышеуказанные предметы и материалы необходимо приобрести. Музей же, за отсутствием средств, не в состоянии это сделать и вынужден обратиться к Вам за содействием, каковое может быть оказано как в форме материальной поддержки, в виде отпуска специальных средств на организацию уголка, так и в предоставлении разного рода предметов, материалов и проч., могущих служить для пополнения уголка. Белгосмузей надеется, что встретит с Вашей стороны ожидаемую поддержку и мысль об организации уголка города Минска будет осуществлена»*[283].

Грошы і падтрымка гарсавету. Вось для чаго быў патрэбны ўдзел энтузіястаў зь ліку дэпутатаў.

282 Тамсама, арк. 2; 2 аб.
283 Тамсама, арк. 2 аб.

Ва ўмовах сьціплага бюджэту Белдзяржмузэю гэта быў слушны крок.

У лісьце Харламповіча была выкладзеная цэлая праграма, якая сьведчыла ня толькі аб характары зацікаўленьняў і падыходаў тагачасных дзеячоў да праблемы вывучэньня і захаваньня Старога гораду ў Менску, але і пра загадзя прадуманы і падрыхтаваны плян.

Дэпутаты адрэагавалі хутка. Ужо 29 студзеня 1925 году прэзыдыюм Менскага акруговага выканкаму разгледзеў пытаньне «Об ассигновании 500 руб. из резервного фонда на организацию "Уголка музея" г. Минска при Госмузее», зь якім выступіў кіраўнік камунальнай сэкцыі гарсавету і загадчык менскага камгасу М. Рабіновіч[284]. Зьмест дакладу Рабіновіча пратакол не фіксуе, але пастанову вынесьлі наступную:

*«Отпустить на указанную надобность 200 руб. из резервного фонда»*[285].

Зразумела, што гэтай сумы, роўнай месячнаму заробку члена пастаяннай камісіі Інбелкульту, на выкананьне вялікага і падрабязнага пляну Харламповіча было недастаткова, але пачатак быў пакладзены.

Паралельна пачаліся і захады навастворанай Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту ў справе вывучэньня і захаваньня Старога гораду ў Менску. Займалася камісія, як мы ўбачым далей, і фатаграфаваньнем гістарычных будынкаў сталіцы. За вясну Камісія аховы помнікаў правяла абсьледаваньне

284 НАРБ, ф. 6, воп. 1, спр. 540, арк. 43.
285 Тамсама.

Старога гораду і, як чытач ужо ведае, запатрабавала рэстаўрацыі Замчышча і старых будынкаў на ім.

Успрымаючы сябе дзяржаўным органам у справе аховы рухомых і нерухомых помнікаў, камісія старалася дапамагчы і Белдзяржмузэю. Гэта ня дзіўна, бо ўдзельнікам пасяджэньняў камісіі быў і Павал Харламповіч.

15 красавіка на ініцыятыву камісіі прэзыдыюм Інбелкульту разгледзеў пытаньне «Аб арганізацыі кампаніі па зьбіраньню ў БССР музэйна-каштоўных рэчаў» і даручыў Камісіі аховы помнікаў распрацаваць правілы і прынцыпы такога зьбіраньня для наступнага зацьвярджэньня на Навуковай радзе ІБК[286]. Гэта была мэтадалягічная дапамога музэйшчыкам.

У справе арганізацыі «кутка Старога Менску» ў Белдзяржмузэі таксама адбыўся прагрэс — у выніку супольнай дзейнасьці дэпутатаў, старой інтэлігенцыі і Камісіі аховы помнікаў ідэя стварэньня «кутка» трансфармавалася ў спробу адкрыцьця асобнага Музэю гораду Менску.

11 ліпеня 1925 году ў камунальнай сэкцыі гарсавету адбылося першае пасяджэньне Камісіі па арганізацыі музэю гораду Менску ў складзе тых самых дэпутатаў Шманая (старшыня камісіі), Аўгулевіча (член камісіі) і Мярло (сакратар). Зьмест вынесенай пастановы сьведчыць пра сувязь гэтых дэпутатаў з Інбелкультам і яго Камісіяй аховы помнікаў:

«*I. 1. Выяснить вопрос о возможности использования для музея документов Минского архива,*

286 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 70.

*вывезенного в Москву, посредством командировки члена комиссии.*

*2. Приступить к выявлению исторических мест города Минска для съемок и художественных зарисовок.*

*3. Провести кампанию по сбору вещей исторического значения в городе Минске за вознаграждение, объявив об этом в печати. Для приемки и оценки предметов создать комиссию.*

*4. Просить комхоз дать распоряжение руководителям работ по строительству в городе сообщать в комиссию о найденных предметах исторического значения, а в будущем до начала основных работ сообщать в комиссию заблаговременно.*

*5. Связаться с комиссией по охране памятников старины Инбелкульта...*

*II. 1. Просить Бюро секции поставить вопрос перед президиумом горсовета об образовании денежного фонда на расходы комиссии в размере 2.500 рублей на 1925–26 бюджетный год...*»[287]

Вяртаньне з Расеі вывезеных туды беларускіх архіўных і музэйных каштоўнасьцяў стаяла ў пастанове першым пунктам. У той год гэта быў адзін з галоўных клопатаў Камісіі аховы помнікаў і Белдзяржмузэю. Ужо першы нумар часопісу «Наш край» увосень 1925 году паведамляў, што Камісіяй аховы помнікаў

«*прымаюцца меры да выяўленьня і звароту помнікаў беларускае культуры, вывезеных за межы Беларусі*»[288].

287 ДАМн, ф. 354, воп. 1, спр. 141, арк. 3.
288 Наш край. 1925. №1. С. 64.

Сталыя спробы беларусаў вярнуць з Масквы культурныя і мастацкія багацьці, у розны час вывезеныя туды зь Беларусі, не маглі не насьцярожваць ГПУ і ЦК КП(б)Б.

Тым ня менш летам 1925 году вынік актыўнасьці гарадзкіх дэпутатаў і тых, хто за імі стаяў, не прымусіў сябе чакаць.

Прыняты на пасяджэньня Камісіі па арганізацыі музэю гораду Менску пратакол ужо праз тыдзень, 18 ліпеня, быў разгледжаны прэзыдыюмам Менскага акруговага выканкаму, які вынес па ім станоўчае рашэньне:

«*Считать необходимым организацию музея города Минска, для чего поручить Бюджетной комиссии внести в смету 1925/26 года необходимую сумму для этой цели*»[289].

Пастанова чыноўнікаў дала абаронцам менскай даўніны немалыя надзеі. Дэпутаты нават перайшлі ў сваёй працы на беларускую мову.

На чарговым пасяджэньні Камісіі па арганізацыі музэю гораду Менску 30 жніўня з падачы дзеячоў Інбелкульту было вырашана:

«*Прасіць Бюро сэкцыі (камунальнай сэкцыі гарсавету — С. А.) падняць пытаньне аб водпуску сродкаў на расходы па фатаграфіраваньню гораду Менску, яго вуліц, пляцоў, будынкаў і г. д. Лічыць неабходным, каб установы, якія маюць фатаграфічныя зьнімкі і мастацкія зарысоўкі гістарычнага значэньня, перадавалі іх у камісію для музэю дарэмна*»[290].

289 ДАМн, ф. 354, воп. 1, спр. 141, арк. 8.
290 Тамсама, арк. 4.

Як бачым, у сярэдзіне 20-х гадоў XX стагодзьдзя розныя культурныя ўстановы арганізоўвалі збор фатаздымкаў Старога Менску і яго фатаграфаваньне, аднак лёс гэтых здымкаў да нашых дзён невядомы.

Рашэньне прэзыдыюму акруговага выканкаму ад 18 ліпеня 1925 году аб стварэньні Музэю гораду Менску так ніколі і не было выкананае. Грошы зь бюджэту на яго стварэньне адпушчаныя не былі. Наогул, увосень таго году чыясьці нябачная рука рэзка запаволіла або і спыніла многія ініцыятывы беларускага актыву, накіраваныя на захаваньне, вывучэньне і прапаганду помнікаў Старога Менску. Зразумела, што гэта маглі быць толькі КП(б)Б і АГПУ — рэальныя гаспадары БССР.

На гэта паказвае і тое, што паралельна са спробамі беларускіх дзеячоў стварыць музэй Менску пачаліся ліхаманкавыя захады ў справе арганізацыі Музэю рэвалюцыі БССР, якімі кіраваў менскі акруговы камітэт КП(б)Б[291]. Музэй рэвалюцыі адкрыўся на вуліцы Ўрыцкага 2 траўня 1926 году і тут жа быў дырэктыўна ўключаны ў турыстычныя маршруты па горадзе[292]. Гэты факт яскрава сьведчыць пра ідэалягічную канкурэнцыю паміж камуністычным кіраўніцтвам БССР і нацыянальнымі дзеячамі. Менавіта ідэалягічная канкурэнцыя магла быць прычынай многіх трагічных для менскай даўніны наступных рашэньняў уладаў БССР.

291 Савецкая Беларусь. 27 красавіка 1926.

292 Наш край. 1927. №10. С. 53; Савецкая Беларусь. 27.04.1926. С. 5.

Беларускі актыў, аднак, здавацца не зьбіраўся і памалу работу працягваў. 12 верасьня 1926 году член Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту, дырэктар Беларускага дзяржаўнага музэю Павал Харламповіч паведаміў у друку, што музэй

*«... собирает также материалы по истории г. Минска. Поступило некоторое количество фотографий, карт и планов. Музей, совместно с историко-археологической комиссией Инбелкульта, установил наблюдение над земляными работами на Немигском канале. Предполагается организовать "уголок Старого Минска" и окружной музей краеведения»*[293].

Як бачым, у 1926 годзе музэй гораду Менску зноў трансфармаваўся ў «куток Старога Менску». Яго арганізаваць тады ўдалося, а вось акругові музэй краязнаўства — не.

Вядома толькі, што ў памяшканьні Менскага акруговага таварыства краязнаўства па вуліцы Ракаўскай, №2 разьмяшчалася невялікая музэйная экспазыцыя, прысьвечаная Менску і Меншчыне.

За наступныя некалькі месяцаў зімы-вясны 1926–1927 гадоў ідэя стварэньня «уголка Старого Минска» зноў, ужо трэці раз, трансфармавалася ў стварэньне самастойнага аддзелу Беларускага дзяржаўнага музэю.

Летам 1927 году часопіс «Полымя» ў разьдзеле «Хроніка беларускае культуры» зьмясьціў самае падрабязнае ў тагачасным друку апісаньне таго, што Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту і супра-

293 Звезда. 12 верасьня 1926.

цоўнікам Беларускага дзяржаўнага музэю пасьля шэрагу няўдачаў усё ж удалося стварыць:

*«Пры БДМузэі распачата [з] гэтага лета будаваньне аддзелу "Стары Менск". У аддзел "Старога Менску" выдзяляюцца помнікі менскай мінуўшчыны. Пакуль што аддзел невялікі, але ў ім ужо цяпер знаходзяцца цікавыя для Менску помнікі, як напрыклад:*

*1. 4 шчыты рэчаў, выкапаных у часе рэгуляцыі Нямігі ў 1925 г. Тут маюцца старасьвецкія нажы, відэльцы, лыжкі, падковы, сякеры, замкі, ключы і іншая мэталёвая дробязь гарадзкога быту мінуўшых стагодзьдзяў.*

*2. Вітрына, якая заключае ў сабе пісаныя на беларускай мове граматы на пэргаманце 1593 і 1613 г.г. Абедзьве граматы зьяўляюцца вынятkамі з кніг Трыбуналу вялікага княства Літоўскага (Беларускага) з кадэнцыі, адпраўленай у Менску.*

*3. Булава галавы Менскай рамесьніцкай управы з 1830-х гадоў.*

*4. Менскія цэхавыя харугві: харугвя цэху кравецкага 1830 г. і цэхавыя харугві 1850-х гадоў — шапавалаў, ткачоў, музыкантаў, сталяроў.*

*5. Клявікорд менскай фабрыкі музычных струмантаў першай паловы XIX ст. з надпісам: I. Foth Mińsk»*[294].

Далей сярод экспанатаў аддзелу «Стары Менск» пералічваюцца іканаграфічныя матэрыялы:

*«6. Гравюра 1820-х гадоў, на якой зьнята менская ратуша.*

294 Полымя. 1927. № 7. С. 270.

*7. Акварэль менскага мастака Г. Герасімовіча з 1839 году, дзе намалёван цяперашні Пляц Волі, у той час "Напалеонаўскі Пляц".*

*8. Малюнак на палатне алейнымі фарбамі менскага мастака Богуш-Сестржанцэвіча — "Менскае грамадзянства канца XIX ст." Мастак крыху карыкатурнай замашкай перадаў разнашэрстнасьць тагачаснага Менскага bon-tonu і яго духоўную пустату.*

*9. Каля дзясятка нарысаў алейнымі фарбамі мастака Філіповіча менскіх старых будынкаў.*

*10. Старыя пляны гораду Менску.*

*11. Фатаграфіі і зарысоўкі*»[295].

Тут, як бачым, увага акцэнтуецца і на старой менскай архітэктуры, якая была прадстаўленая алейнымі карцінамі карэннага менчука Міхаіла Філіповіча (1896–1947), а таксама здымкамі і замалёўкамі. Фатаграфіі якіх менавіта будынкаў і месцаў гораду там былі — невядома.

У наступнай публікацыі пра аддзел «Стары Менск» фатаздымкі ня згадваюцца наогул. У кастрычніку 1927 году Вацлаў Ластоўскі ў часопісе «Наш край» зьмясьціў апісаньне экспазыцыі Беларускага дзяржаўнага музэю з нагоды яго пяцігадовага юбілею. Музэй тады займаў будынкі былога Архірэйскага падвор'я разам з царквой на вуліцы Чырвонаармейскай на месцы цяперашняга Дому афіцэраў. Ластоўскі пісаў:

«... *У абсыдзе зьмяшчаецца аддзел "Стары Менск". Тут знойдзем харунгі цэхаў: кравецкага, ткацкага, шапавальнага, шклярскага, маслабойнага, кушнер-*

---

295 Тамсама.

*скага. На сьцяне, у раме, вісяць граматы ў беларускай мове, пісаныя на пэргаміне ў канцы XVI ст. і ў пачатку XVII ст. На 5-ці таблiцах разьмешчаны выкапкі з ракі Нямігі, між якімі маюцца нажы, відэльцы, ці як даўней у нас звалі іх — грабцы, падковы, замкі і інш. Далей ідуць рысаваныя і маляваныя відокі Старога Менску»*[296].

Як бачым, аб старых здымках і здымках сучаснага Менску ў экспазыцыі Ластоўскі не згадаў. Гэта азначае, што задума Харламповіча 1925 году акцэнтаваць экспазыцыю менавіта на старой архітэктуры дзеля нейкіх прычынаў была ажыцьцёўленая толькі часткова.

Аддзел «Стары Менск» у Беларускім дзяржаўным музэі праіснаваў толькі да 1929 году. Яго закрыцьцё было зьвязана з разгортваньнем барацьбы супраць так званых нацдэмаў, якая пачалася летам 1929 году. 1 жніўня 1929 году спэцыяльная камісія Народнага камісарыяту асьветы абсьледавала музэй і, сярод іншага, рэзка скрытыкавала аддзел «Стары Менск» за экспанаваньне партрэтаў менскіх ваяводаў, пасьля чаго аддзел быў закрыты[297].

Але на гэтым пагромшчыкі нацдэмаў не супакоіліся. У 1930–1933 гадах музэй перажыў яшчэ некалькі рэканструкцый экспазыцыі, пасьля чаго канчаткова набыў антынацыянальны вульгарна-сацыялягічны характар. Вось як пра гэта ў 1933 годзе пісаў той, хто схаваўся пад псэўданімам «Выхадцаў

296 Наш край. 1927. №10. С.50–51.
297 Бамбешка І. Вывучэньне дзяржаўнымі музеямі БССР гісторыка-культурнай спадчыны Мінска ў 1919–1941 гг. // Мінск і мінчане. Дзесяць стагоддзяў гісторыі. Менск, 2010. С. 169.

і Касталянскі». Спачатку, як заўсёды, крытыка папярэдняга кіраўніцтва і кірунку яго дзейнасьці:

«*Музэй знаходзіўся ў палоне старых буржуазных навыкаў, аджыўшых мэтадаў і традыцый пакрытых такім жа шматвяковым пылам, як і яго экспанаты. У сувязі з посьпехамі сацыялістычнага будаўніцтва абвастраецца клясавая барацьба. Клясавы вораг ня дрэмле, ён агаляе свае драпежніцкія зубы і ўсялякімі сродкамі імкнецца перашкодзіць справе працоўных, справе будоўлі сацыялізму... У сьцены музэю прасякалі нацдэмаўскія ідэі, у кіраўніцтва яго пралазілі нацыянал-дэмакраты. Апошнія імкнуліся паставіць музэй на службу сваім контррэвалюцыйным замыслам. Прыкрываючыся ідэямі нацыянальнай формы, нацдэмы па сутнасьці справы марылі аб стварэньні нацыянальнай па форме і буржуазнай па зьместу культуры. Гэтай ідэі пачынаў служыць і музэй... У сьценах яго ідэалізавана прадстаўляліся фэўдальная і буржуазная мінуўшчына Беларусі, фэтышызаваліся нацыянальныя матывы, адсутнічалі моманты эксплёатацыі і клясавай барацьбы, падмяняючыся буржуазным нацыяналізмам...*»[298]

Пасьля пра рашучы пералом 1930 году:

*У 1930 г. пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі быў нанесены рашучы ўдар па контррэвалюцыйнаму нацыянал-дэмакратызму. Музэй вызвалены ад нацдэмаў. На чале музэю становіцца партыйнае кіраўніцтва. Пачалася рашучая барацьба з рэшткамі нацыянал-дэмакратызму. Узьніклі шуканьні новых форм работы. Пачаліся першыя спробы на-*

298 Выхадцаў і Касталянскі. Беларускі Дзяржаўны Музэй // Чырвоная Беларусь. 1933. №2–3. С.14–15.

*блізіць музэйную экспазыцыю да задач сучаснасьці. У экспазыцыі адбіваюцца элемэнты клясавай барацьбы, падкрэсьліваецца эксплёататарская сутнасьць пануючай клясы... Адначасна з гэтым праводзілася вялікая работа па зьбіраньню экспанатаў, адбіваючых сучаснасьць, у выніку якой створаны аддзел сацыялістычнага будаўніцтва...*»[299]

І, нарэшце, пра любімы тагачаснымі бальшавікамі «вытворчы ўхіл»:

«*Музэй пачынае наладжваць жывую сувязь з рабочымі прадпрыемствамі, стварае перасоўныя і стацыянарныя выстаўкі на актуальныя тэмы, як у сьценах, так і па-за сьценамі музэю, арганізуе лекцыі і даклады. Пасьля Ўсебеларускага зьезду музэйных працаўнікоў (1932 г.) у працы музэю наступае рашучы пералом. Праца музэю канчаткова накіроўваецца пад сьцяг марксызму і ленінізму*»[300].

Такія самыя пагромныя артыкулы пісаліся ў тыя часы і пра іншыя дзяржаўныя ўстановы, якія нібыта былі захопленыя нацдэмамі ў 1920-я гады для правядзеньня сваёй шкодніцкай работы.

Не пакінулі музэю нават старой назвы. У 1930 годзе Беларускі дзяржаўны музэй, які ад 1928 году называўся Беларускім дзяржаўным культурна-гістарычным музэем, стаў Менскім сацыяльна-гістарычным музэем. Гэта азначала і паніжэньне статусу — з агульнанацыянальнай установа стала проста менскай.

Застаецца дадаць, што ў 1933 годзе, калі быў апублікаваны пагромны тэкст Выхадцава і Касталян-

299 Тамсама.
300 Тамсама. С. 15.

скага, дырэктарам Менскага сацыяльна-гістарычнага музэю быў Сымон Рак-Міхайлоўскі, ляяльнасьці якога савецкім уладам таксама хутка акажацца недастаткова — спачатку для знаходжаньня на волі, а пасьля і на белым сьвеце.

## Зьнікненьне манаграфіі пра Стары Менск

Інэрцыя закладзенага ў 1925 годзе руху дзейнічала і ў пачатку 1926-га. Зразумела, што Камісія гісторыі мастацтва пад кіраўніцтвам Шчакаціхіна каардынавала сваю працу зь дзейнасьцю Камісіі аховы помнікаў і Гісторыка-археалягічнай камісіі Інбелкульту.

І вось якраз пры актыўным удзеле членаў гэтых трох камісіяў у 1926 годзе была падрыхтаваная надзвычай значная калектыўная праца, пра якую сёньня практычна нічога не вядома: ніхто ня бачыў тых матэрыялаў, ніхто іх ніколі не цытаваў і ніхто ня ведае, дзе іх шукаць. Мова ідзе пра поўнае манаграфічнае апісаньне помнікаў культавай і грамадзянскай архітэктуры Менску.

Ідэя падрыхтоўкі такога выданьня належала, натуральна, Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту. Гэта — зыходны пункт усёй наступнай працы па падрыхтоўцы і выданьні той манаграфіі. Яшчэ 10 красавіка 1925 году на сваім шостым пасяджэньні камісія, як памятаем, вырашыла:

«*Зьвярнуць увагу ў першую чаргу на вывучэньне помнікаў Старога Менску і яго акругі, каб можна было ў бягучым годзе прыгатаваць матар'ялы для*

*выданьня зборніку па ўсебаковаму апісаньню Менска і яго акругі*»[301].

Прэзыдыюм Інбелкульту гэтую пастанову Камісіі аховы помнікаў зацьвердзіў 4 траўня 1925 году, і яна такім чынам набыла статус афіцыйнай праграмы і аднаго з кірункаў працы камісіі[302].

У лістападзе 1925 году прэзыдыюм ІБК прыняў пастанову аб помніках гісторыі і культуры, якой яшчэ раз пацьвердзіў пляны камісіі стварыць манаграфію пра Менск. У тым дакумэнце сярод іншага супрацоўнікам Інстытуту загадвалася «прыступіць да манаграфічнага апісаньня помнікаў»[303].

Пра гэты гераічны чын працаўнікоў Інбелкульту (з увагі на абставіны і падзеі 1925–1926 гадоў) засталося толькі некалькі сьведчаньняў у друку. У верасьні 1926 году «Звезда» зьмясьціла кароткую нататку:

«*Комиссия по охране памятников старины выпускает к осени подробное описание памятников старины в гор. Минске. Уже собрано до 300 фотографий гор. Минска и его окрестностей (старинные улицы, здания, сады и т.д.)*»[304].

Відавочна, што «подробное описание памятников старины в гор. Минске» ў 1926 годзе было зроблена ў межах выкананьня пастановаў камісіі і прэзыдыюму Інбелкульту 1925 году.

У 20-я гады інфармацыя аб падзеях такога кшталту давалася ў друку заўсёды зь вялікім спазьненьнем — г. зн. тады, калі справа была ўжо даўно

301 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 78.
302 Тамсама, арк. 94.
303 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 266.
304 Звезда. 7 верасьня 1926.

скончаная, post factum. Так было, як памятаем, і з паведамленьнем аб стварэньні самой Камісіі аховы помнікаў, так было і са сьпісам помнікаў, якія падлягаюць ахове — у друку аб рашэньні прэзыдыюму ІБК скласьці такі сьпіс паведамлялася ў траўні 1926 году[305], хоць насамрэч меўся ён у наяўнасьці ўжо летам 1925 году, а прэзыдыюм Інбелкульту фармальна паставіў такую задачу перад камісіяй у пачатку лістапада 1925 году. Так будзе, як убачым, і далей зь іншымі падзеямі.

Сам зьмест газэтнай нататкі («выпускает к осени подробное описание памятников старины в гор. Минске, уже собрано до 300 фотографий») не пакідае сумненьняў, што тэкст манаграфіі на момант паведамленьня ў друку быў ужо гатовы, як і было ў наяўнасьці прынамсі 300 здымкаў Старога Менску. Атрымліваецца, што цалкам падрыхтаваная да друку манаграфічная праца з трыма сотнямі найкаштоўнейшых фатаздымкаў на момант паведамленьня аб ёй у верасьні 1926 году магла быць ужо ў друкарні.

Улічваючы трывалы інтарэс дзеячоў Інбелкульту менавіта да Старога гораду і Замчышча і той факт, што сярод прыцягнутых камісіямі аховы помнікаў і гісторыі мастацтва спэцыялістаў былі прафэсійныя фатографы, можна толькі здагадвацца, якія там былі здымкі. Але манаграфія тая ў сьвет ня выйшла, а яе матэрыялы разам са здымкамі зьніклі бязь сьледу.

З увагі на падзеі, якія пачаліся вакол Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту ў 1925 годзе, нявыхад

305 Звезда. 19 траўня 1926.

у 1926 годзе кнігі пра Менск выглядае цалкам заканамерным. Магчыма, якраз праца над апісаньнем менскіх помнікаў, якая непазьбежна мусіла быць адлюстраваная ў пратаколах сходаў Камісіі аховы помнікаў, і стала прычынаю зьнікненьня тых пратаколаў у часы, калі ў нашых архівах гаспадарыла НКВД — за 1926–1927 гады ў архіве Інбелкульту яны адсутнічаюць.

Нататка 1926 году ў «Звезде» стала не адзіным сьведчаньнем аб той манаграфіі ў друку. Захавала для нас гісторыя і іншыя дакумэнтальныя сьведчаньні аб гэтай працы Інбелкульту. Як памятаем, яшчэ ў ліпені 1925 году «Звезда» паведамляла, што ў Менску арганізаванае акруговае краязнаўчае таварыства, якое «подготовляет к печати сборник о Минске»[306].

Відавочна, што згаданы «сборник о Минске» — гэта і ёсьць кніга, якую ў наступным годзе тая самая газэта назвала ўжо «подробным описанием памятников старины в гор. Минске», бо Камісія аховы помнікаў Інбелкульту вельмі блізка супрацоўнічала з краязнаўцамі.

Усьлед за верасьнёўскай нататкай «Звезды», пра менскі ілюстраваны даведнік у сваім восьмым нумары паведаміў часопіс «Полымя», які выходзіў тады адзін раз на паўтара месяца:

«*Камісія ІБК па ахове помнікаў старасьветчыны мае намер выпусьціць пад вясну падарожнік па Менску і яго ваколіцах. У гэты падарожнік увойдуць:*

*1. Прырода і помнікі прыроды;*

306 Звезда. 9 ліпеня 1925.

*2. Дагістарычныя часы Менскага раёну на падставе археалягічных даных;*

*3. Менск у старыя часы;*

*4. Менск з XVI да канца XVIII стагодзьдзя;*

*5. Менск у новыя часы. Падарожнік будзе ілюстраваны малюнкамі і фатаграфіямі з дадаткам плянаў і карты*»[307].

Гэта была другая палова 1926 году, і штосьці ўжо ішло ня так. Манаграфія пачынае ператварацца ў «падарожнік», але не канчаткова. У пачатку 1927 году кнігу яшчэ назавуць «манаграфічным апісаньнем».

У самым пачатку 1927 году прэзыдыюм Інбелкульту разгледзеў выдавецкі плян на бягучы год. Сярод некалькіх дзясяткаў заплянаваных да выхаду ў 1927 годзе выданьняў быў згаданы і «Падарожнік па Менску»[308]. Менавіта ў гэтай пастанове прэзыдыюму ІБК упершыню дакладна падаецца ўзятая ў двукосьсе назва кнігі.

Сёньня мы дакладна ведаем, што на пачатак 1927 году манаграфія з апісаньнем помнікаў Менску была скончаная і падрыхтаваная да друку. Вось як пра гэта ў пачатку 1927 году гаварылася ў справаздачы самой Камісіі аховы помнікаў:

«*Камісія па ахове помнікаў паставіла ў задачы сваёй працы кожны год выпускаць манаграфічны зборнік з апісаньнем помнікаў. Прычым у першую чаргу прыгатаван да друку «Зборнік» з апісаньнем г. Менску і яго ваколіцы, з малюнкамі, фатаграфіч-*

307 Полымя. 1926. №8. С. 240.
308 Полымя. 1927. №2. С. 205.

*ымі зьнімкамі, чарцяжамі, плянамі і картамі. У «Зборніку» намечаны разьдзелы:*

*1. Прырода і помнікі прыроды Менску і яго ваколіцы.*

*2. Менск у прагістарычныя часы ўключна да канца XII стагодзьдзя.*

*3. Менск з XIII па XIX стагодзьдзе, на падставе актаў і дакумэнтаў.*

*4. Апісаньне сучаснага Менску і яго ваколіцы справачнага характару.*

*5. Менск у помніках мастацтва і архітэктурнага стылю.*

*6. Менск у помніках старажытнасьці XV–XIX стагодзьдзяў.*

*7. Менск у часы рэвалюцыйнага руху па дакумэнтам і матар'ялам.*

*8. Менск з боку прамысловасьці і гандлю.*

*9. Бібліяграфія*»[309].

Як бачым, кніга была цалкам гатовая да друку, паколькі ў справаздачы была пададзеная дакладная, паводле зьместу, структура зборніка-манаграфіі. Можна толькі здагадвацца, якімі здымкамі былі ілюстраваныя пяты і шосты разьдзелы зборніка.

Адна з апошніх згадак пра гэтую кнігу ў друку датуецца красавіком 1927 году, калі той самы часопіс «Полымя» ў разьдзеле «Хроніка беларускае культуры» паведаміў, што Камісія па ахове помнікаў Інбелкульту робіць ужо апошнія прыгатаваньні да выхаду «апісаньня Менску і яго ваколіц» і што

309 Цыт. паводле кн.: Інстытут беларускай культуры. 1922–1928. С. 182.

«выданьне будзе ілюстравана чарцяжамі, малюнкамі і здымкамі»[310].

Але і гэтым разам «Падарожнік па Менску» ў сьвет ня выйшаў. А ўвосень 1927 году, як убачым далей, Камісія аховы помнікаў Інбелкульту наогул перастане існаваць.

Падрыхтаваныя матэрыялы і здымкі манаграфіі, верагодна, трапілі ў Беларускі дзяржаўны музэй, супрацоўнікі якога таксама спрабавалі выдаць кнігу. У музэі яна трансфармавалася спачатку ў альбом «Стары Менск», што дадаткова сьведчыць пра каштоўнасьць сабраных раней Камісіяй аховы помнікаў Інбелкульту здымкаў, а пасьля ў навуковы ілюстраваны зборнік з той самай назвай. Усё гэта адбылося на працягу 1928 году.

Калі на пачатку году Музэйная рада БДМ пастанаўляла выдаць альбом «Стары Менск», то плянавалася, што ў кнізе будзе апісаная гісторыя Менску да канца XIX стагодзьдзя, а праілюстраваная кніга будзе

«*старадаўнімі плянамі гораду, відамі, гістарычнымі будынкамі, партрэтамі менскіх дзеячоў, пячаткамі і г. д.*»[311].

Нягледзячы на перамяшчэньне цэнтру падрыхтоўкі кнігі з Інбелкульту ў Беларускі дзяржаўны музэй, займаліся ёй, фактычна, тыя самыя людзі. Напісаньне ўступнага артыкулу да музэйнага альбому было даручанае навуковаму сакратару Гісторыка-археалягічнай камісіі Інбелкульту Дзьміт-

310 Полымя. 1927. №3. С. 245.

311 Бамбешка І. Вывучэнне дзяржаўнымі музеямі БССР гісторыка-культурнай спадчыны Мінска ў 1919–1941 гг. // Мінск і мінчане. Дзесяць стагоддзяў гісторыі. С.168–169.

рыю Даўгялу. Гісторык музэйнай справы ў Беларусі І. Бамбешка лічыць, што апублікаваны ў першых трох нумарах часопісу «Наш край» за 1928 год гістарычны нарыс Дз. Даўгялы «Стары Менск» мог быць тым уступным артыкулам да альбому[312]. Сыходзячы з гэтай лёгікі, можна меркаваць, што і нарыс Васіля Дружчыца «Места Менск у канцы XV і пачатку XVI ст.», апублікаваны ў 1926 годзе, мог быць часткай плянаванай раней манаграфіі Інбелкульту пра Менск. Але напэўна гэтага сказаць нельга.

У кожным выпадку абодва згаданыя гісторыкі на працягу некалькіх гадоў былі ўдзельнікамі спробы выданьня навуковага манаграфічнага выданьня помнікаў Старога Менску з сотнямі фатаздымкаў. Калі 13 кастрычніка 1928 году рада Беларускага дзяржаўнага музэю вырашыла выдаваць не альбом, а ўсё ж зборнік «Стары Менск», г. зн. вярнулася да пляну Інбелкульту, у склад рэдакцыйнай калегіі былі ўключаныя і супрацоўнікі Інбелкульту Дз. Даўгяла, В. Дружчыц і М. Шчакаціхін, а таксама супрацоўнікі музэю Л. Барсукова, А. Бурдзейка, В. Ластоўскі, А. Ляўданскі, А. Паноў і іншыя.

Што да здымкаў і працы фатографаў, дык яшчэ 6 сакавіка 1925 году старшыня мастацкай сэкцыі Інбелкульту Язэп Дыла і навуковы сакратар гэтай сэкцыі Мікола Шчакаціхін падпісалі пастанову аб плянах работы сэкцыі, у якой сярод іншага гаварылася аб пачатку збору фатаздымкаў і малюнкаў для «вывучэньня старога і сучаснага беларускага мастацтва»[313].

312 Тамсама. С. 169.
313 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 55.

Праз тры месяцы, 3 чэрвеня 1925 году, прэзыдыюм Інбелкульту заслухаў даклад намесьніка старшыні ІБК і члена Камісіі аховы помнікаў Аркадзя Смоліча, у якім ён агучыў прапановы камісіі аб выдзяленьні сродкаў на фатаграфаваньне помнікаў і забесьпячэньне гэтай справы зь юрыдычнага боку. Прапанову падтрымалі, у пастанове запісалі:

*«Зацьвердзіць і даручыць кіраўніку спраў Чарапніну выясьніць з чыйго дазволу можна фатаграфаваць і здымаць розныя пляны з помнікаў»*[314].

Паколькі амаль уся тэрыторыя БССР была тады памежнай зонай, дык дазвол на фатаграфаваньне будынкаў давала НКВД. Для Інбелкульту ў тагачасных умовах атрымаць такі дазвол было няцяжка, і праца пачалася.

Да гэтага трэба дадаць яшчэ, што ў 1925 годзе фатаграфаваньне менскіх помнікаў і вуліц, як памятаем, арганізоўвала і камісія гарсавету па арганізацыі Музэю Старога Менску.

Бюджэт Камісіі аховы помнікаў быў невялікі, таму яна пачала прасіць дадатковыя сродкі на аплату працы фатографаў. У красавіку 1926 году «Савецкая Беларусь» апублікавала нататку «Вывучэньне помнікаў мінулага»:

«*Прэзыдыюм ІБК вызначыў 200 руб. Камісіі па ахове помнікаў старажытнасьці на фатаграфаваньне гэтых помнікаў і зьбіраньне адпаведных матар'ялаў*»[315].

За летнія месяцы 1926 году помнікі менскай архітэктуры і старыя вуліцы былі сфатаграфа-

314 Тамсама, арк. 131 аб.
315 Савецкая Беларусь. 24 красавіка 1926.

ваныя. У справаздачы Камісіі аховы помнікаў за 1926–1927 гады, падрыхтаванай вясной 1927 году, сьцьвярджалася:

«*Мінулым летам праведзена работа па фатаграфаваньню помнікаў г. Менску і яго ваколіцы. Сфатаграфаваны гістарычныя мясцовасьці, плошчы і вуліцы, гістарычныя ці каштоўныя па свайму архітэктурнаму стылю будынкі, а таксама старажытныя гарадзішчы і замчышчы. Такім чынам сабрана каля 200 фатаграфічных картак па старому гораду на Нямізе і па новаму гораду і яго ваколіцы*»[316].

Тут ужо называецца лічба 200 замест 300, пра якія ішла гаворка раней. Але гэта азначае толькі тое, што 200 здымкаў маглі трапіць у канчатковы варыянт манаграфіі Інбелкульту пра Менск. Затое ў гэтай цытаце маецца дакладнае пацьверджаньне, што камісія сфатаграфавала Замчышча і Стары горад. Ну а «новым горадам» у гэтым дакумэнце, зразумела, названы Верхні горад і ваколіцы Дамініканскага кляштару — гэта значыць, што быў сфатаграфаваны ўвесь гістарычны цэнтар Менску, прычым ня толькі асобныя будынкі, але і вуліцы, і пляцы.

Сёньня гісторыкі менскай архітэктуры былі б радыя мець ня тое што трыста або дзьвесьце здымкаў 20-х гадоў з выявамі «замчышча» і «старога гораду на Нямізе». Яны былі б шчасьлівыя мець хаця б 10–15 такіх здымкаў. Але ўсе гэтыя сотні найкаштоўнейшых «фатаграфічных картак» разам з тэкстам манаграфіі пра Менск зьніклі бязь сьледу.

316 Цыт. паводле кн.: Інстытут беларускай культуры. 1922–1928. С. 181.

Апошняя па часе згадка пра зборнік «Стары Менск» у друку датуецца траўнем 1929 году, калі часопіс «Наш край» у нататцы «Беларускі дзяржаўны культурна-гістарычны музэй у Менску» пісаў:

«*Падрыхтоўваецца да выданьня зборнік "Стары Менск*"»[317].

Тым ня менш кніга, якую называлі то «манаграфічным зборнікам», то «зборнікам з апісаньнем г. Менску і яго ваколіц», то «падарожнікам па Менску», то «зборнікам "Стары Менск"», у сьвет так і ня выйшла.

У тым самым траўні 1929 году ў Менск прыбыла камісія Цэнтральнай кантрольнай камісіі ВКП(б) на чале з Уладзімірам Затонскім для праверкі ходу беларусізацыі ў БССР. Яшчэ праз месяц, 27 чэрвеня, Затонскі выступіў на пасяджэньні ЦК КП(б)Б з разгромным дакладам, у якім рэзка крытыкаваў нацыянальную палітыку ў БССР, абураўся разгулам беларускага нацыяналізму і дзейнасьцю беларускай «нацыяналістычнай» інтэлігенцыі.

Пасьля гэтага, у ліпені 1929 году, Камуністычная партыя Беларусі абвясьціла нацыянал-дэмакратызм галоўнай небясьпекай у палітыцы, навуцы і культуры і заклікала

«*асноўны агонь накіраваць на беларускі наступальны шавінізм і нацыянал-дэмакратызм*»[318].

Пачаліся першыя звальненьні, а вясной наступнага 1930 году — арышты выдатных дзеячоў беларускай навукі і культуры. Гэтак скончылася

317 Наш край. 1929. №5. С. 53.

318 Зьвязда. 27 ліпеня 1929. — Цыт. паводле: Маркава А. Шлях да савецкай нацыі. Палітыка беларусізацыі (1924–1929). Менск, 2016. С. 255.

беларусізацыя і на паверхню выйшла тое, што, як мы бачылі, пакрыёма жыло і давала аб сабе знаць у кіраўніцтве ЦК КП(б)Б і АГПУ па Заходнім краі ўжо ў 1925–1926 гадах — расейскі вялікадзяржаўны шавінізм.

Апынуліся за кратамі і практычна ўсе ўдзельнікі спробы выдаць манаграфічнае апісаньне помнікаў Старога Менску.

Вельмі верагодна, што большасьць падрыхтаваных для манаграфіі «Стары Менск» здымкаў страчана назаўсёды падчас рэпрэсіяў 30-х гадоў. Успомнім сьведчаньне паэта Сяргея Грахоўскага, якога у 1936–1937 гадах вадзілі на допыты па ўнутраным двары НКВД БССР з «Амэрыканкі» ў будынак па вуліцы Рэспубліканскай:

«*У канцы двара ляжаць стосы папер, папак, канвэртаў зь лістамі і здымкамі. Іх кідае ў спэцыяльную печ невысокі вайсковец, а другі доўгаю качаргою варочае і разьбівае попел. Колькі там згарэла рукапісаў, дакумэнтаў, дысэртацый, здымкаў, дзёньнікаў і лістоў! Год, пакуль я быў пад сьледзтвам, не патухала тая страшная печ. А колькі яна палілася да мяне і пасьля мяне?*»[319]

У тых канвэртах са здымкамі маглі быць і фатаграфіі Старога гораду. Практычна сто працэнтаў людзей, якія маглі імі валодаць, у 30-я гады былі арыштаваныя і высланыя або расстраляныя. Іх архівы, натуральна, былі спаленыя.

319 Грахоўскі С. Зона маўчання // Выбраныя творы. У 2 т. Т. 2. Крыжавы шлях. Менск, 1994. С. 39.

## Спроба перайменаваньня вуліц у Старым горадзе

Праявілася ў той час і схаваная ідэалягічная барацьба беларусаў з ВКП(б) і ГПУ у галіне header нематэрыяльных сымбаляў, у прыватнасьці, у тапаніміцы.

Новыя валадары надавалі велізарнае значэньне назвам вуліц. Старое і аўтэнтычнае ў Менску (гістарызм БНР) мусіла саступіць месца прышламу ідэалягізму. Усе памяталі пра перайменаваньне вуліц у горадзе ў 1918 і 1919 гадах. У кастрычніку 1922 году ЦК КП(б)Б прыняў пастанову «О переименовании улиц и фабрик в честь революции»[320]. Паводле гэтай пастановы да 1932 году ў Менску розныя камуністычныя назвы і імёны Валадарскага, Дзяржынскага, Леніна, Сьвярдлова, Урыцкага ды іншых атрымалі 44 вуліцы.

У пачатку 1926 году — г. зн. у часе наступу на Камісію аховы помнікаў Інбелкульту і гвалтоўнай пераарыентацыі краязнаўчага руху на вывучэньне прыроды і гаспадаркі — тапанімічная сытуацыя ў Менску была ўжо цалкам пад кантролем камуністычнага кіраўніцтва і вызнаваных ім ідэяў. Добра яе ілюструе наступнае газэтнае паведамленьне ў студзені 1926 году:

*«У пабудаваным новым пасёлку “Камінтэрн” адчынены тры новыя вуліцы. Прэзыдыюм АВК пастанавіў назваць вуліцы гэткімі імёнамі: “Рабочая”, “Фабрычная”, “Заводзкая”»*[321].

---

320 Протько Т. Становление советской тоталитарной системы в Беларуси (1917–1941 гг.). С. 87.

321 Савецкая Беларусь. 10 студзеня 1926.

Тым больш дзіўна на гэтым тле выглядае гэткая гісторыя.

У 1926 годзе ў Менску нарадзілася ідэя надаць дзьвюм вуліцам Старога гораду імёны галоўных герояў беларускай гісторыі, каб такім чынам падкрэсьліць значнасьць старога гістарычнага цэнтру.

У 30-я гады цэнтар гораду паступова перамясьціўся на вуліцу Савецкую і яе ваколіцы, а Няміга, Нізкі рынак і Замчышча пачалі паступова ўважацца за ўскраіну. Але ў 1926 годзе многія дзяржаўныя ўстановы (ЦВК, ВСНГ і інш.) былі разьмешчаныя на Пляцы Волі (былым Саборным). Адпаведна, Пляц Волі і суседнія зь ім вуліцы яшчэ лічыліся цэнтрам гораду. І вось у пачатку верасьня 1926 году газэты паведамілі, што:

«*Коммунальная секция горсовета постановила присвоить Козьмо-Демьяновской улице имя Ф. Скорины и Екатерининской — К. Калиновского... Постановление передано на утверждение горсовета*»[322].

Імёны ініцыятараў гэтага перайменаваньня ў архіўных крыніцах адсутнічаюць, аднак зь вялікай доляй верагоднасьці можна меркаваць, што да гэтага прыклалі руку тыя самыя дэпутаты гарсавету, якія паўтара года перад гэтым выступілі з ініцыятывай стварыць музэй Старога Менску і пазьней пачалі шчыльна супрацоўнічаць з Інбелкультам — гэта дэпутаты гарсавету і члены яго камунальнай сэкцыі Аўгулевіч, Мярло і Шманай. Таксама можна меркаваць, што да нараджэньня гэтай прапановы мелі дачыненьне і іншыя героі нашага аповеду зь ліку ўдзельнікаў трох камісіяў Інбелкульту — ахо-

322 Звезда. 8 верасьня 1926.

вы помнікаў, гісторыка-археалягічнай і гісторыі мастацтва.

І вось дзьве самыя вузкія і крывыя вуліцы ў старой частцы гораду, якая паступова маргіналізуецца, было вырашана назваць імёнамі Францішка Скарыны і Кастуся Каліноўскага — г. зн. двух ключавых пэрсанажаў беларускай гісторыі. Факт гэты цяжка пераацаніць — ён яскрава сьведчыць, што ў тагачасных ужо даволі складаных умовах «дыктатуры пралетарыяту» беларускія дзеячы памяталі і пра падзеі 1919–1920 гадоў у Менску, і пра ідэі Рамуальда Зямкевіча. Разумеючы значнасьць Замчышча і Старога гораду для беларускай культуры, яны хацелі ўзьняць іх статус і значэньне праз ганаровае перайменаваньне дзьвюх ключавых вуліц Старога гораду.

У тыя часы ў склад камунальнай сэкцыі ўваходзілі «235 сяброў і кандыдатаў гарсавету»[323]. Пасяджэньне сэкцыі, на якім было прынятае рашэньне аб перайменаваньні вуліц, адбылося 6 верасьня 1926 году.

Даклад з прапановай перайменаваць каля трох дзясяткаў вуліц і завулкаў зрабіў старшыня камунальнай сэкцыі П. Вольскі. У пастанове не было і намёку на нейкія высокія матывы. У ёй, паводле захаванага пратаколу, які, вядома ж, не фіксуе ўсіх дэталяў абмеркаваньня, гаварылася:

*«Дзеля таго, што многія вуліцы і завулкі акраін гораду ня маюць азначаных названьняў і гэта ўносіць путаніцу і немажлівасьць знайсьці адрасатаў, перайменаваць ніжэйнаступныя вуліцы і завулкі*

323 ДАМн, ф. 6, воп. 1, спр. 95, арк. 31.

*наступным вобразам (см. дакладаемы да гэтага сьпісак)»*[324].

А ў сьпісе якраз і аказаліся зусім не «акраінныя» вуліцы Казьмадзям'янаўская і Кацярынінская. І, што дзіўна, праз два дні, 8 верасьня, менавіта аб іх перайменаваньні паведаміла «Звезда». Было гэта наіўнасьцю рэдакцыі або завуаляваным даносам — сказаць цяжка. Затое дакладна можна сказаць, што наступнае пасяджэньне прэзыдыюму гарсавету адбылося ўжо 9 верасьня. На ім было разгледжана 24 пытаньні, многія былі ўхваленыя аўтаматычна, без абмеркаваньня, але пра перайменаваньне вуліц не было сказана ні слова[325].

Ня згадвалі пра гэтыя вуліцы і на наступных пасяджэньнях у тую восень. І гэта ня дзіўна, бо пытаньні перайменаваньня вуліц у Менску разглядаліся на больш высокім узроўні. Рашэньня камунальнай сэкцыі гарсавету для зьмены назваў вуліц было недастаткова. У кожным выпадку, працэс перайменаваньня ня быў завершаны ў адміністрацыйным сэнсе, і зьмены назваў вуліц не адбылося.

Цікава, што паведамленьні друку пра перайменаваньне не прайшлі дарэмна. У той час, ва ўмовах адноснай свабоды часоў НЭПу, шмат у каго былі яшчэ ілюзіі наконт вяршэнства ўлады ў СССР — многія ўспрымалі Саветы ня як фармальны дадатак да партыйнай і выканаўчай улады, але, у адпаведнасьці з камуністычнай прапагандай, як галоўныя кіруючыя органы. Таму паведамленьне друку пра пастанову камунальнай сэкцыі гарсавету нехта мог

324 Тамсама, арк. 17.
325 ДАМн, ф. 6, воп. 1, спр. 110, арк. 32–34.

успрыняць як канчатковае рашэньне. Магчыма, гэтым тлумачыцца той факт, што ў тэлефонных даведніках Менску за 1928 і 1929 гады можна сустрэць і вуліцу Кацярынінскую, і вуліцу Каліноўскага[326]. Часам там на адной старонцы трапляюцца вось такія пункты:

*«12-95. Фабрыка Меншвэй №3 — фабком. Рог Ніжн. Рынку і Кацярынінскай.*

*12-97. Фабрыка Шчацінавая — Бухгальтэрыя. Рог Каліноўскага і Біржавога зав.14/2»*[327].

Відавочна, што зьвесткі пра свае адрасы складальнікам тэлефонных даведнікаў падавалі самі ўладальнікі нумароў. Пра гэта сьведчыць вялікі разнабой у назвах тых самых вуліц. Напрыклад, вуліца Няміская на той самай старонцы або на суседніх магла называцца і Нямігай, і Няміскай, і Няміжскай, вуліца Казьмадзям'янаўская называлася Казьма-Дзямянаўскай, Казьма-Дземьянаўскай і Казьма-Дзямьянаўскай, а вуліца Кацярынінская называлася і Катарынінскай, і Кацярынінскай, і Каліноўскага, і Каліноўскаю.

Цікава таксама, што, як сьведчаць даведнікі, на вуліцы Кацярынінскай знайшліся тыя, хто ў верасьні 1926 году даверыўся паведамленьням друку пра перайменаваньне, а вось на Казьмадзям'янаўскай такіх не аказалася — ніхто зь іх не падаў свой адрас як «вуліца Скарыны».

---

326 Гл.: Сьпіс абанэнтаў гарадзкіх тэлефонных сетак Менскай акругі сувязі. Менск, 1928. С. 63, 91 і іншыя; Сьпіс абанэнтаў гарадзкіх тэлефонных сетак Менскай акругі сувязі. Менск, 1929. С. 46, 155 і іншыя.

327 Сьпіс абанэнтаў гарадзкіх тэлефонных сетак Менскай акругі сувязі. 1929. С. 155.

У прыведзенай цытаце з тэлефоннага даведніка за 1929 год вельмі дарэчы згаданы Біржавы завулак. Гэтая назва лішні раз пацьвярджае ўсё вышэйсказанае. Біржавым завулкам ад 1926 году называўся Рыбны рынак. Пастанову аб яго перайменаваньні ў Біржавы завулак 14 студзеня 1926 году прымаў на сваім пасяджэньні аж прэзыдыюм Менскага акруговага выканкаму паводле прадстаўленьня камгасу НКВД[328].

Як памятаем, у тым самым студзені 1926 году таксама згодна з пастановай прэзыдыюму акруговага выканкаму ў менскім пасёлку «Камінтэрн» зьявіліся тры новыя назвы вуліц — Рабочая, Фабрычная і Заводзкая. Пратаколы пасяджэньняў прэзыдыюму акруговага выканкаму за 1925–1929 гады захаваліся добра, і яны сьведчаць, што пытаньня пра наданьне дзьвюм вуліцам Старога гораду імёнаў Скарыны і Каліноўскага гэты ўладны орган не разглядаў. А зрабіць гэта ён мог толькі на прадстаўленьне камгасу НКВД — значыць, справа перайменаваньня была спыненая на ўзроўні гэтага ўладнага органу.

З прычыны асаблівасьцяў тагачаснай дзяржаўна-палітычнай сыстэмы БССР пасяджэньнямі камунальнай сэкцыі гарсавету кіраваў сам загадчык менскага камгасу НКВД П. Вольскі — ён таксама быў дэпутатам. Чаму ён не прадставіў праект перайменаваньня вуліц Старога гораду ў прэзыдыюм АВК? Пра гэта захаваныя архіўныя дакумэнты маўчаць. Магчыма, гэта была парада аднаго з партыйных органаў ці «сумежнікаў» з ГПУ або

328 НАРБ, ф. 6, воп. 1, спр. 899, арк. 31.

і праява ўласнай ідэалягічнай пазыцыі гаспадарнікаў з НКВД. У кожным выпадку, ініцыятыва зь перайменаваньнем вуліц скончылася на ўзроўні камгасу НКВД.

Паступова пра гэты намер менскіх дэпутатаў у горадзе забыліся[329].

Да гэтага варта дадаць, што Інбелкульт і яго камісіі ў сярэдзіне 20-х гадоў стараліся ўсяляк пашыраць спадчыну і імя Скарыны якраз праз наданьне яго імя розным установам. Напрыклад, у красавіку 1925 году прэзыдыюм Інбелкульту прыняў рашэньне «назваць імем Скарыны адну зь лепшых друкарань Полацку» і «адліць скарынінскі беларускі шрыфт для друку беларускіх выданьняў»[330].

Якраз гэтыя акалічнасьці прымушаюць лічыць справу няўдалага перайменаваньня дзьвюх старажытных і вельмі характэрных для эўрапейскага Менску вуліц здарэньнем палітычным. Ішоў 1926 год, і ГПУ, відаць, спрацавала своечасова.

Якраз у тыя дні Менск пад націскам ГПУ пакідаў вэтэран беларускага адраджэньня, кіраўнік Гісторыка-археалягічнай камісіі і ўдзельнік пасяджэньняў Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту прафэсар Мітрафан Доўнар-Запольскі. Яму толькі «ласкава» дазволілі перадаць сваю шматтысячную бібліятэку ўнівэрсытэту. З кнігамі, аднак, нешта не заладзілася, і 10 верасьня 1926 году газэты паведамілі, што бібліятэку Доўнар-Запольскага набыў Інбел-

329 У 1933 годзе згаданыя вуліцы былі ўсё ж перайменаваныя і атрымалі імёны Дзям’яна Беднага (Казьмадзям’янаўская) і Міхаіла Калініна (Кацярынінская).

330 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 40 аб.

культ[331]. Магчыма, Доўнар-Запольскі таксама меў дачыненьне да няўдалага перайменаваньня вуліц у Старым горадзе, што яго высылку паскорыла.

## Менская сага паэта Міколы Шчакаціхіна

Пасьля раптоўнага ад'езду зь Беларусі С. Кацэнбогена дзейнасьць Камісіі аховы помнікаў у значнай ступені заняпала. У пачатку 1926 году яе старшынём становіцца былы дыплямат і выдавец Міхаіл Мароз, які гэтую пасаду сумяшчае зь іншай, значна больш сур'ёзнай — ён працуе кіраўніком справаў СНК БССР.

У пачатку 1926 году, у часы кіраваньня Мароза, мы ўжо сустракаемся з прызнаньнем марнасьці ахоўных высілкаў камісіі з боку саміх інбелкультаўцаў.

Энтузіязм, рашучасьць і настойлівасьць вясны-лета 1925 году к пачатку 1926 году значна зьменшыліся. У 1925 годзе Камісія аховы помнікаў *патрабавала* ад чыноўнікаў выкананьня заканадаўства аб ахове помнікаў, у 1926 — *прасіла*. У лютым 1926 году ў друку можна было сустрэць, напрыклад, такую нататку:

«*У Інбелкульце. Ахова помнікаў старажытнасьці. Камісія па ахове помнікаў пры Інбелкульце склала сьпісы манумэнтальных помнікаў па старажытных гарадох Беларусі. Сьпісы зьмяшчаюць больш 60 нумароў — рэчаў вялікага гістарычнага і архітэктурнага значэньня. Ёсьць намер* ***прасіць*** (вылучэньне

331 Звезда. 10 верасьня 1926.

маё — С. А.) *вышэйшыя дзяржаўныя ўстановы аб зацьверджаньні іх дзяржаўнай уласнасьцю і аб належнай ахове*»[332].

Ад пачатку 1926 году з увагі на сытуацыю, якая склалася вакол Камісіі аховы помнікаў і краязнаўчага руху, актывісты Інбелкульту вырашаюць перанесьці працу па ахове і вывучэньні помнікаў у мастацкую сэкцыю, якая раней і так шчыльна супрацоўнічала з Камісіяй аховы помнікаў. Гэта было няцяжка, бо асноўныя ўдзельнікі камісіі — Кацэнбоген, Грамыка, Дыла, Сербаў, Шчакаціхін — ад самага пачатку былі супрацоўнікамі і мастацкай сэкцыі Інбелкульту.

Фактычна ад пачатку 1926 году ідэйнае кіраўніцтва справаю аховы і прапаганды помнікаў архітэктуры і мастацтва ў Беларусі пераняў Мікола Шчакаціхін (1896–1940). Гэты выдатны чалавек, ураджэнец Масквы, выпускнік Маскоўскага ўнівэрсытэту і выхаванец вядомага расейскага навукоўца А. Сідарава, прыехаў у 1922 годзе ў Беларусь вывучаць гісторыю беларускага народу. У выніку ён застаўся ў Менску, вывучыў беларускую мову, абараніў дысэртацыю па гісторыі беларускага мастацтва, стаў адным з заснавальнікаў музэйнай справы ў Беларусі, стварыў канцэпцыю гісторыі разьвіцьця беларускага мастацтва і архітэктуры, выдаў першыя манаграфічныя працы ў гэтай галіне, паклаў адчайныя намаганьні на вывучэньне і захаваньне помнікаў беларускай архітэктуры, асабліва ў гарадах, быў за ўсё гэта рэпрэсаваны і загінуў. Але ў 1926 годзе да высылкі ў 1931 годзе і

332 Савецкая Беларусь. 26 лютага 1926.

сьмерці ў 1940-м Шчакаціхіну было яшчэ далёка, і ён самааддана працаваў.

У 1925–1926 гадах асноўнымі структурнымі адзінкамі Інбелкульту былі сэкцыі і камісіі, якія арганізоўваліся ў аддзелы. Сэкцыі мелі навукова-арганізацыйную функцыю: яны выконвалі ролю навуковых таварыстваў, заслухоўвалі і абмяркоўвалі даклады. Камісіі ж былі больш практычнымі навуковымі установамі, многія зь якіх у наступныя гады былі ператвораныя ў катэдры.

І вось на фоне націску на Камісію аховы помнікаў і блякаваньня яе работы ў пачатку 1926 году 29-гадовы Мікола Шчакаціхін, спасылаючыся на параду ЦК «узяць болей акадэмічны напрамак», ініцыюе стварэньне ў Інбелкульце Камісіі гісторыі мастацтва. Фармальна камісія мела больш шырокія задачы і функцыі, але на практыцы яна як бы працягвала выконваць задачы Камісіі аховы помнікаў.

Старшынём камісіі быў абраны М. Шчакаціхін, сакратаром — А. Шлюбскі. У склад камісіі ўвайшлі і пачалі браць актыўны ўдзел у пасяджэньнях людзі, якія раней так ці іначай выказалі сваю цікавасьць да помнікаў менскай архітэктуры і іх захаваньня, многіх зь іх мы ўжо бачылі на пасяджэньнях Камісіі аховы помнікаў: Дз. Даўгяла, М. Доўнар-Запольскі, В. Дружчыц, Я. Дыла, А. Паноў, І. Сербаў, М. Касьпяровіч. Сярод іншых удзельнікаў камісіі — П. Красавіцкі (Масква), І. Хозераў (Смаленск), І. Фурман (Віцебск), прафэсар БДУ Д. Жарынаў, Б. Эпімах-Шыпіла, музэйныя працаўнікі В. Красьнянскі і В. Дабравольскі, мастакі М. Станюта і А. Тычына[333].

333 Інстытут беларускай культуры. 1922–1928. С. 169.

Мікола Шчакаціхін быў рухавіком усёй справы. Ён і схіліў дзейнасьць Камісіі гісторыі мастацтва найперш на вывучэньне і захаваньне помнікаў архітэктуры. Гэта канстатуюць і аўтары сучаснай манаграфіі пра Інбелкульт:

«*У задачы камісіі ўвайшло аб'яднаньне ўсіх творчых сіл рэспублікі для навуковай сыстэматызацыі помнікаў гісторыі і культуры... М. М. Шчакаціхін кіраваў амаль усімі справамі... Непасрэдная дзейнасьць у якасьці вучонага-краязнаўца накіроўвала цікавасьць М. М. Шчакаціхіна да работы па захаваньню і зьберажэньню каштоўных помнікаў культуры*»[334].

Камісія Шчакаціхіна займалася рознымі галінамі беларускага мастацтва: драўляным дойлідзтвам, батлейкай, жывапісам і манумэнтальнымі росьпісамі, эксьлібрысам, набойкай. Але галоўным яе клопатам стала мураваная і, найперш, гарадзкая архітэктура Беларусі. Цікава, што член камісіі мастак Анатоль Тычына, які выжыў пасьля разгрому беларускага руху ў 30-я гады, усё жыцьцё маляваў старыя менскія куточкі.

Агулам у 1926–1927 гадах Камісіі гісторыі мастацтва ўдалося правесьці 11 пасяджэньняў, большасьць зь якіх якраз былі прысьвечаныя праблемам беларускай архітэктуры.

За два-тры наступныя гады члены камісіі напісалі дзясяткі працаў па гісторыі беларускай архітэктуры і гісторыі беларускіх гарадоў. У тым ліку зьявіліся працы па гісторыі архітэктурных помнікаў Горадні, Віцебску, Магілёва, Полацку,

334 Тамсама. С. 169–173.

Рагачова, Слуцку, Смаленску. І менавіта ў часы працы Камісіі гісторыі мастацтва яе ўдзельнікамі былі створаныя ключавыя тагачасныя тэксты пра Менск — і ня толькі мастацтвазнаўчыя. Славуты археограф царскай Расеі, кіраўнік Віленскай археаграфічнай камісіі і ўдзельнік Усебеларускага зьезду 1917 году Дзьмітры Даўгяла напісаў працу «Стары Менск (Нарысы з гісторыі і эканамічнага жыцьця места)»[335]. Яго маладзейшы калега Васіль Дружчыц выдаў нарыс «Места Менск у канцы XV і пачатку XVI ст.»[336].

Але галоўным прамотарам і апекуном старых менскіх камянёў і Замкавай гары стаў Мікола Шчакаціхін. Роля, якую ў прапагандзе і папулярызацыі помнікаў менскай архітэктуры адыграў у сярэдзіне 20-х гадоў Мікола Шчакаціхін, дагэтуль належным чынам не ацэненая і не асэнсаваная. Яго публікацыі далі ГПУ дастаткова падставаў для будучага арышту выдатнага мастацтвазнаўцы. Наогул усе тры вышэйназваныя навукоўцы-падзьвіжнікі, якія прычыніліся да прапаганды менскай даўніны, неўзабаве былі арыштаваныя і загінулі.

У 1926 годзе Мікола Шчакаціхін напісаў нарыс «Помнікі старадаўняе архітэктуры XVII–XVIII сталецьцяў у Менску», дзе пераканаўча паказаў вялікае мастацкае і гістарычнае значэньне помнікаў менскай культавай і грамадзянскай архітэктуры і Замчышча[337]. Тэкст гэты стаў ня толькі вяршыняй беларускага навуковага мастацтвазнаўства, але і

335 Гл.: Наш край. 1928. № 1–3.
336 Гл.: Працы БДУ. Менск, 1926. №12.
337 Гл.: Запіскі Аддзелу гуманітарных навук. Працы камісіі гісторыі мастацтва, Менск, 1928. Т. 1. Кн. 6.

адным з шэдэўраў паэтычнага апяваньня Старога гораду і менскай даўніны наогул.

Апрача Шчакаціхіна і, хіба, яшчэ Ўладзімера Дубоўкі так пра Стары Менск не пісаў ніхто. Ніжэйпрыведзеныя цытаты з твору Шчакаціхіна, адлітыя ў выглядзе бронзавых дошак, заслугоўваюць быць усталяванымі ў гістарычным цэнтры Менску ў нашы дні.

У 1926 годзе, у часы дзяржаўнага сабатажу высілкаў Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту, Мікола Шчакаціхін бескампрамісна пісаў аб згубным расейскім уплыве на беларускую архітэктуру:

«... *Канец XVIII сталецьця зьяўляецца для ўсёй Беларусі пачаткам эпохі архітэктурнага заняпаду, калі ў мескім будаўніцтве паступова зьнікалі характэрныя, арыгінальныя формы і падмяняліся архітэктурнымі тыпамі агульнага характару з адзнакамі пэўнага правінцыялізму ў трактоўцы пашыраных у тыя часы архітэктурных стылей, г. зн. спачатку клясыцызму, а крыху пазьней — ампіру. Часткова... гэта тлумачыцца некаторымі спэцыяльнымі ўрадавымі мерапрыемствамі пасьля далучэньня Беларусі да складу б. Расейскай Імпэрыі. Нам вядомы, напрыклад, спэцыяльныя губэрнатарскія загады канца XVIII сталецьця, згодна якіх ніякія новыя пабудовы або перабудоўкі старых будынкаў у далучаных да Расіі беларускіх местах не маглі адбывацца без "папярэдняй цэнзуры", г. зн. без папярэдняга разгляду і зацьвярджэньня адпаведных плянаў у губэрнатарскай канцылярыі. Мэтай такіх загадаў зьяўлялася фактычнае зьнішчэньне ўсялякіх арыгінальных і самастойных рыс у нашым будаўніцтве і падвядзеньне яго пад адзін агульны, прыняты*

*па ўсёй імпэрыі ранжыр, што асабліва выразна выяўлялася ў часы панаваньня Мікалая I, але пачатак чаму быў пакладзены яшчэ значна раней, з самых часоў Кацярыны»*[338].

Як сапраўдны мастацтвазнавец Мікола Шчакаціхін у сваім тэксьце пісаў пра Менск вельмі паэтычна і захоплена. Сіла яго мастацкага перакананьня добра характарызуе псыхалягічную атмасфэру і тыя падзеі вакол Старога гораду ў Менску, аб якіх гаворка пойдзе далей і ў якіх бралі ўдзел ня толькі супрацоўнікі Інбелкульту, але і шырэйшае кола тагачаснага беларускага актыву.

«*Калі не раўнаць Менску зь Вільняй — местам зусім выключным па характве свайго старажытнага архітэктурнага пэйзажу, — дык можна, бадай, лічыць, што сярод усіх беларускіх местаў Менск можа заняць далёка не апошняе месца ў сэнсе прыгажосьці і цікаўнасьці сваіх архітэктурных ансамбляў. У той час, як у іншых местах старадаўнія будынкі захаваліся ў большасьці разрозьнена і адасоблена, часта нават зацёрты навейшымі, стылістычна зусім супярэчнымі ім мурамі, — у Менску ўсё ж захавалася некалькі прыгожых архітэктурных груп, у якіх пануе поўная стылістычная суцэльнасьць, і ёсьць апроч таго некаторыя такія назіральныя пункты, адкуль і не сумежныя нават між сабою будынкі ўсё ж неяк згарманізоўваюцца і скампаноўваюцца, ствараючы агульны архітэктурны эфэкт. Такія пункты ёсьць, праўда, і ў некаторых іншых мясцох, як напрыклад у Віцебску, — але трэба*

338 Запіскі Аддзелу гуманітарных навук. Працы камісіі гісторыі мастацтва, Менск, 1928. Т. 1. Кн. 6. С. 34.

*сказаць, што менскія эфэкты такога характару — значна больш суцэльныя і вострыя»*[339].

І яшчэ адзін кавалак, які ўжо можна назваць чыстай паэзіяй:

*«Найлепшыя архітэктурныя краявіды разгортваюцца тут перад нашымі вачыма, калі глядзець на будынкі так званага "Высокага рынку" (каля цяперашняга Пляцу Волі) з боку Траецкае гары, або зь некаторых пунктаў каля Юбілейнага пляцу: над зграмаджэньнем стракатых рознакаляровых дахаў, зьбітых у кучу ў нейкай сярэднявечнай маляўнічай бессыстэмнасьці, на сьветлым фоне неба, чытэльна вырэзваюцца важкія масівы старадаўніх муроў і строгія падвойныя вежы касьцёлаў, абрысаваныя лёгкімі і стройнымі сілюэтамі»*[340].

У сучасным яму Менску Мікола Шчакаціхін шукае і знаходзіць рэшткі таго, што раней тут было названа «шараговым гарадзкім асяродзьдзем». Непрыкметная гарадзкая даўніна Шчакаціхіна таксама замілоўвала:

*«На самым гэтым рогу апошняя брама па Школьнай з левага боку ўводзіць нас у так званы "Школьны двор", абкружаны з усіх бакоў старадаўнімі камяніцамі, дзе разьмяшчаюцца цяпер яўрэйскія сінагогі – "школы". Але толькі самая рагавая будыніна, якая належыць да XVIII сталецьця, зьяўляецца тут спэцыяльным сінагагальным будынкам; іншыя, трэба лічыць, зьяўляюцца рэшткамі прыватных і часткова, магчыма, манастырскіх будынкаў, важкаватыя формы якіх, з сваімі гладкімі роўніцамі*

339 Тамсама. С. 6–7.
340 Тамсама.

*затынкаваных муроў і характэрнымі рагавымі кантрфорсамі яшчэ захаваліся маленькім кавалачкам старога Менску сярод пазьнейшых, раскінутых навакол дабудовак*»[341].

Побач з апяваньнем сярэднявечнага аблічча Менску Шчакаціхін ганьбіць расейскія пераробкі менскіх помнікаў, у прыватнасьці колішнюю рэнэсансна-гатычную ўніяцкую царкву Сьвятога Духу, перарobленую ў XIX стагодзьдзі на праваслаўны Петрапаўлаўскі сабор:

«*Поўнай суцэльнасьці архітэктурнага ўражаньня, асабліва з боку Траецкае гары, перашкаджае тут толькі прэтэнцыёзны і нязграбны будынак навейшага праваслаўнага сабору зь яго казённым "рускім стылем" шатровае званіцы і бессэнсоўных дробных кумпалочкаў, які ўразаецца нейкім абразьлівым дысанансам у крыху суровую гармонію тыповых беларускіх камяніц; але трэба знайсьці такі пункт назіраньня, зь якога сабор засланяўся б якім-колечы бліжэйшым будынкам, — і тады ўвесь агульны архітэктурны пэйзаж выяўляецца ў поўнай сваёй закончанасьці*»[342].

Але найболей паэтычна і захоплена ў сваім усё ж навуковым мастацтвазнаўчым тэксьце Шчакаціхін пісаў аб Старым горадзе:

«*Крыху іншае, але ня меней інтэнсіўнае ўражаньне робяць тыя ж будынкі ў выпадковых ракурсах зь некаторых вузенькіх вулачак "Старога места" ў раёне Нізкага рынку, калі нечакана за якім-колечы стромкім заваротам, над брудна-чырвонымі, часта*

341 Тамсама. С.8
342 Тамсама. С. 7.

*напаўзруйнаванымі, плямістымі мурамі старых дамоў, раптам уздымуцца нейкія магутныя вежы, зьніклыя ў сівым тумане або спавітыя празрыстым вэлюмам дажджу, у вострым і рэзкім кантрасьце сваіх гарманічных ураўнаважаных ліній з трывожнай і сумнай рознагалосіцай бліжэйшых пахмурных і бедных будынкаў…»*[343]

Гэта амаль мастацкая літаратура. Больш паэтычна і захоплена, з поўным разуменьнем культурнага і цывілізацыйнага кантэксту пра Стары горад і яго ваколіцы ў беларускай літаратуры і навуцы не пісаў ніхто. І, верагодна, ніхто і не даваў большых падставаў прыхільнікам пабудовы «нового мира» апасацца такой ідэалізацыі помнікаў мінулага і змагацца зь ёй.

І вось тут надышоў час вярнуцца да падзеяў 1925 году.

343 Тамсама.

## Прапаганда Старога Менску летам 1925 году

З пачатку лета 1925 году — калі над галавой Кацэнбогена пачалі зьбірацца хмары — Камісія аховы помнікаў, мяркуючы па архіўных дакумэнтах, перастала праводзіць рэгулярныя пасяджэньні. Толькі аднойчы ў другой палове 1925 году архівы Інстытуту беларускай культуры згадваюць пра Камісію аховы помнікаў — менавіта тады, калі ў лістападзе 1925 году ёй было даручана скласьці сьпіс помнікаў БССР.

З лістапада, падчас побыту Саламона Кацэнбогена ў Маскве, адбылося пасяджэньне прэзыдыюму Інбелкульту, на якім ад імя мастацкай сэкцыі ІБК выступіў Ісак Сербаў. Ён заявіў, што «Сэкцыя пастанавіла выявіць усе помнікі Беларусі, вывучыць іх і ўзяць на ўчот»[344].

Выслухаўшы Сербава і абмеркаваўшы гэтае пытаньне, прэзыдыюм даручыў Камісіі аховы помнікаў:

*«Прыцягнуць да справы аховы помнікаў Краязнаўчае таварыства, зрабіць поўныя сьпісы помнікаў і прыступіць да манаграфічнага апісаньня помнікаў»*[345].

344 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 266.
345 Тамсама.

Тут, на першы погляд, суцэльныя загадкі. Навуковы сакратар Камісіі аховы помнікаў Сербаў выступае чамусьці ад мастацкай сэкцыі і ўносіць прапанову тыповага для Камісіі аховы помнікаў характару. А ў адказ прэзыдыюм абавязвае менавіта Камісію аховы помнікаў скласьці сьпісы помнікаў і пачаць іх манаграфічнае апісаньне.

Бязь веданьня кантэксту тых падзеяў, гэтую пастанову нельга зразумець і ацаніць. Як мы ўжо ведаем, і Краязнаўчае таварыства на той час даўно і плённа займалася аховай помнікаў, іх вывучэньнем і апісаньнем, і сьпісы помнікаў камісія пачала складаць яшчэ летам таго году, за 5–6 месяцаў да рашэньня прэзыдыюму. Што ж прымусіла кіраўніцтва Інбелкульту прыняць такую запозьненую пастанову?

Магчыма, прэзыдыюм такім чынам, (фармальна на ініцыятыву мастацкай сэкцыі, супрацоўнікамі якой ад самага пачатку былі Сербаў і Шчакаціхін) насьмеліўся рэанімаваць (або актывізаваць) разгубленую наступам на Кацэнбогена Камісію аховы помнікаў хаця б для іх вывучэньня і апісаньня. А можа тая пастанова прымалася дзеля яе апошняй фразы («прыступіць да манаграфічнага апісаньня помнікаў»). Мы ўжо ведаем, што менш чым праз год поўнае манаграфічнае апісаньне помнікаў Менску было падрыхтаванае да друку.

Заклік прыцягнуць да аховы помнікаў Краязнаўчае таварыства мог таксама быць прызнаньнем няўдачы ранейшых «ахоўных» высілкаў камісіі. А той факт, што ініцыятыва сыходзіла ад мастацкай сэкцыі, вельмі красамоўны — ён сьведчыць, што нягледзячы на раздражненьне ўладаў і наступ на

Кацэнбогена энтузіясты справы аховы помнікаў не спыніліся і вырашылі скарыстаць іншыя легальныя структуры і спосабы.

Летам 1925 году кіраўніцтва Камісіі аховы помнікаў часткова перанесла ўвагу на выкананьне іншых сваіх абавязкаў. У прыватнасьці Ісак Сербаў заняўся археалягічнымі раскопкамі ў ваколіцах Менску, а Саламон Кацэнбоген як намесьнік рэктара Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту выехаў у Нямеччыну для закупу абсталяваньня і музэйных экспанатаў.

Тым ня менш справа працягвалася. Працуючы з пачатку лета 1925 году без рэгулярных пасяджэньняў, члены камісіі актыўна рабілі сваю справу. Якраз тым летам супрацоўніцтва камісіі з краязнаўчым рухам у галіне аховы помнікаў і іх папулярызацыі было вельмі плённым. Менавіта краязнаўцы сабралі асноўны ілюстрацыйны матэрыял да ўжо згаданага манаграфічнага апісаньня помнікаў культавай і грамадзянскай архітэктуры Старога Менску.

Са свайго боку члены Камісіі аховы помнікаў актыўна апекаваліся асобнымі першаснымі структурамі Таварыства краязнаўства і прапагандавалі там помнікі Старога Менску. Адной з такіх пляцовак стаў краязнаўчы гурток пры менскім Белпэдтэхнікуме, які налічваў у 1925 годзе 80 членаў, што складала больш за палову ўсіх студэнтаў тэхнікуму[346]. Улетку таго году І. Сербаў прачытаў гурткоўцам цыкль лекцыяў «Матэрыялы краязнаўства», дзе, вядома ж, не абмінуў увагай і менскія

346 Наш край. 1925. №2. С. 59.

старажытнасьці[347]. Пасьля Сербава з двума дакладамі ў Белпэдтэхнікуме выступіў член Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту, прафэсар Мікола Азбукін. Адзін з дакладаў быў прысьвечаны мэтодыцы краязнаўчай працы наогул, а другі — вывучэньню Старога Менску[348]. Часопіс «Наш край» паведамляў у лістападзе 1925 году:

«*Члены гуртка працуюць цяпер над вывучэньнем Менску і зьбіраюць словы для слоўніка. Пры адʼезьдзе на канікулы будзе дадзена кожнаму члену гуртка пэўнае заданьне*»[349].

Словы для слоўніка гурткоўцы зьбіралі на заданьне правадзейнага члена Інбелкульту Сьцяпана Некрашэвіча, які таксама выступаў у іх зь лекцыяй аб складаньні слоўніка жывой беларускай мовы.

Выкарыстоўвала камісія і іншыя пляцоўкі для прапаганды менскай даўніны, напрыклад, «Дом Рабпроса». Гэтая установа, як і Інбелкульт, належала да Народнага камісарыяту асьветы — а гэта значыць, што рабілася ўсё пад наглядам Усевалада Ігнатоўскага. Наогул, гэты камісарыят быў адной з асноўных пляцовак у дзейнасьці Інбелкульту наогул і Камісіі аховы помнікаў у прыватнасьці.

Важна было пазнаёміць зь менскай даўнінай і далучыць да справы аховы помнікаў настаўнікаў, якія мелі натуральныя магчымасьці для ўплыву на маладое пакаленьне. З гэтай мэтай летам 1925 году праз Дом Рабпроса былі арганізаваныя экскурсіі па Менску:

---

347 Тамсама.

348 Тамсама.

349 Тамсама.

*«Домом Рабпроса намечен целый ряд экскурсий работников просвещения по Минску... Экскурсии делятся на три типа — экскурсии производственные, культурно-просветительские и бытовые»*[350].

Натуральна, што культурна-асьветныя экскурсіі ўключалі ў сябе наведаньне Замчышча і Пляцу Волі. Аналягічныя экскурсіі, як памятаем, былі наладжаныя і ў Магілёве. Як і ў Магілёве, па Старым Менску настаўнікаў вадзілі супрацоўнікі Дзяржаўнага музэю, а таксама актывісты акруговага таварыства краязнаўства.

Побач з гэтым Менскі акруговы аддзел народнай адукацыі арганізаваў на летнія канікулы 1925 і 1926 гадоў культурна-асьветныя экскурсіі па Менску для школьнікаў з правінцыі. Экскурсіі пачыналіся ў траўні і цягнуліся ўсё лета — вучні прыяжджалі ў сталіцу невялікімі групамі на некалькі дзён. Пра гэты экскурсійны рух пісалі газэты:

*«У Менск прыехалі першыя экскурсійныя групы вясковага вучнёўства. У працягу 1½ месяца Акрана мяркуе прапусьціць да 600 вучняў. Для экскурсантаў адчынен спэцыяльны інтэрнат»*[351].

Вялікую ролю ў прапагандзе Старога Менску адыгрывалі супрацоўнікі Беларускага дзяржаўнага музэю, многія зь якіх былі ўдзельнікамі пасяджэньняў Камісіі аховы помнікаў і акруговага таварыства краязнаўства. Наведаньне музэю і агляд яго экспазыцыі было адным з пунктаў пазнавальных экскурсіяў настаўнікаў і школьнікаў па Менску — гасьцей спачатку вялі ў Стары горад і на Пляц Волі,

350 Звезда. 5 ліпеня 1925.
351 Савецкая Беларусь. 13 траўня 1926.

а пасьля — у музэй. Для большай даступнасьці кіраўніцтва Белдзяржмузэю завяло парадак, паводле якога плаціць за наведаньне музэю павінны былі толькі індывідуальныя наведнікі — для арганізаваных груп уваход і суправаджальная лекцыя супрацоўніка былі бясплатныя. У красавіку 1926 году Белдзяржмузэй падвёў вынікі зімовага сэзону:

*«За час з 1 кастрычніка 1925 году да 1 красавіка сёлетняга году Бел. Дзярж. Музэй адведала 180 экскурсій, у якіх бралі ўдзел да 6000 чалавек. У Бел. Дзярж. Музэі могуць дарэмна аглядаць экспанаты ўсе рабочыя і чырвонаармейцы, якія прыходзяць арганізаваным парадкам. Для асоб, якія хочуць аглядаць музэй у паасобку, устаноўлена такая плата: чырвонаармейцы і вучні — 5 кап., члены прафсаюзаў — 10 кап., усе іншыя — 20 кап.»*[352].

Экскурсіі па гістарычным Менску карысталіся такім попытам, што ў наступным 1926 годзе было вырашана павялічыць іх колькасьць. У Цэнтральным бюро краязнаўства яшчэ да звальненьня адтуль навуковага сакратара Міколы Азбукіна была створаная Падарожніцкая камісія, якая распрацавала яшчэ некалькі маршрутаў «гістарычна-мастацкіх экскурсій па Менску»[353]. Зразумела, што «гістарычна-мастацкая» экскурсія не магла не ахопліваць раён Замчышча і Верхняга гораду — інакш экскурсаводу ў 1925–1926 гадах не было б пра што расказваць і што паказваць экскурсантам.

Вось як апісваў распрацаваны Падарожніцкай камісіяй маршрут экскурсіі па Старым горадзе

352 Савецкая Беларусь. 21 красавіка 1926.
353 Полымя. 1927. №2. С. 205.

Мікалай Касьпяровіч. Пачыналася экскурсія зь Нямігі і Ракаўскага прадмесьця:

«*Спушчаючыся з Пляцу Волі ўніз па Школьнай вул. праз апошнія вароты першага кварталу яе на левым баку, экскурсант пападае на так званы Школьны двор, шэраг будынкаў на якім, разам з Халоднаю сынагогаю, дэталямі сваімі нагадвае некаторыя асаблівасьці познай беларускай грамадзянскай і фартыфікацыйнай готыкі а таксама беларускага драўлянага будаўніцтва XVII–XVIII стагодзьдзя. Цераз другія вароты гэтага двара выхад на Нямiскую вул., у раён так званай Чорнай біржы. Насупраць, на пачатку Ракаўскай вул. знаходзіцца так званая Жоўтая царква XVII стагодзьдзя, значна зьмененая пазьнейшымі пераробкамі. За ёю (№2) — Менскае акруговае таварыства краязнаўства зь невялікімі калекцыямі па гор. Менску і Меншчыне*»[354].

Далей экскурсанты траплялі на Замчышча:

«*На завулку Вызваленьня (№26, тэл. № 335) трэба агледзець шпалерную фабрыку, заснаваную ў 1923 годзе ў 7 аддзелаў. На рагу Замкавай пачынаецца замчышча, на якім ёсьць старасьвецкі так званы дом гродзкага суда, пабудаваны быццам з рэштак менскага замку пасьля пажару яго ў 1778 годзе; аб доме існуе легенда як аб месцы пасяджэньняў Беларуска-літоўскага трыбуналу.*

*З замчышча, якое абмываецца зараз толькі Сьвіслаччу, бо невялічкі ручай былой Нямігі, якая ўспамінаецца ў слове аб палку Ігаравым і некалі аб-*

354 Касьпяровіч М. Куды і як вадзіць экскурсіі // Наш край. 1929. №4. С. 10.

*мывала замак з другога боку, пушчаны па падземным штучным карыце, відаць вельмі прыгожыя краявіды на розныя бакі Менску»*[355].

Пабываўшы на самым высокім месцы Замчышча — на перасячэньні вуліц Падзамкавай і Стара-Мясьніцкай, ідучы па апошняй, экскурсанты траплялі на Нізкі рынак:

*«Адсюль (з Замчышча — С. А.) лёгка прайсьці на Нізкі рынак, куткі якога, калі зьняць сучасныя шыльды, зьяўляюцца найтыповымі прадстаўнікамі гэтага XVI–XVII стагодзьдзя. На ім можна наглядаць надзвычайна цікавыя рысы быту дробных гандляроў і рамясьнікоў.*

*Зь Нізкага рынку цераз драўляны мост на Сьвіслачы, па Камунальнай вул., міма дому па левым баку яе, у якім жыў выдатны беларускі пісьменьнік Максім Багдановіч, аб чым сьведчыць мэмарыяльная дошка на доме, — выхад на пляц Парыскай Камуны...»*[356]

Размах экскурсійнай працы, арганізаванай Інбелкультам і Народным камісарыятам асьветы, не застаўся незаўважаным і тымі, хто каштоўнасьці беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі не падзяляў. Ужо ў красавіку 1926 году Менскі акруговы камітэт КП(б)Б арганізаваў контрэкскурсіі. Вось паведамленьне «Савецкай Беларусі» пад назвай «У Менскім акружкоме КПБ. Экскурсіі ў Менску і яго ваколіцах»:

«*Бюро па самаадукацыі распрацоўвае пытаньне аб правядзеньні з мэтай самаадукацыі ў Менску і яго*

355 Тамсама.
356 Тамсама.

*ваколіцах экскурсіі для т.т. займаючыхся самаадукацыяй. Экскурсіі будуць праводзіцца па вывучэньню грамадзкасьці (музэй рэвалюцыі, дом 1-га зьезду кампартыі і т. д.), таксама адбудуцца агульныя экскурсіі (музэй, бібліятэкі, заводы, фабрыкі і інш.)*»[357].

Тут ужо, як бачым, у адрозьненьне ад экскурсіяў Наркамасьветы, акцэнт рабіўся на рэвалюцыі і рэвалюцыйным руху, на «вывучэньні грамадзкасьці».

Тым ня менш Стары Менск тады быў на вуснах вельмі многіх беларускіх працаўнікоў. Дзякуючы высілкам членаў Камісіі аховы помнікаў Стары горад рабіўся аб'ектам вывучэньня і клопатам новых навуковых структураў, якія тады ўзьнікалі.

У кастрычніку 1925 году ў Інбелкульце была створаная Гісторыка-археалягічная камісія, старшынём якой стаў М. Доўнар-Запольскі, а навуковым сакратаром — Дз. Даўгяла. У склад камісіі ўвайшлі У. Пічэта, В. Дружчыц, М. Мялешка, І. Сербаў, П. Харламповіч, А. Ляўданскі. А ўжо празь месяц у дзейнасьці гэтай камісіі адбылася важная падзея, якая зноў жа сьведчыць пра эпіцэнтар тагачаснай навуковай і грамадзкай увагі дзеячоў Інбелкульту. Вось як пра тую падзею ў 1926 годзе пісаў сам Дзьмітры Даўгяла:

«*З паловы лістапада пры камісіі ўтворана падкамісія па вывучэньні Старога Менску з запрашэньнем у яе склад т.т. А. М. Панова, А. А. Сьцепуржынскага, П. К. Маразэвіча, А. Л. Аніхоўскага... Падкамісіяй па Старому Менску высьветлены крыніцы, якія падлягаюць вывучэньню, прагледжаны друкаваныя матар'ялы да гісторыі Менску*

357 Савецкая Беларусь. 27 красавіка 1926.

*(Паноў, Сьцепуржынскі, Маразэвіч) і зроблены плян Старога Менску (Аніхоўскі); ... прагледжана частка рукапіснага матар'ялу ў Менскім цэнтрархіве і зроблены выпіскі па тапаграфіі і гісторыі Менску (Даўгяла); кожнаму члену падкамісіі па вывучэньні Старога Менску вызначана асобная тэма з мэтаю ўсебаковае распрацоўкі*»[358].

І заснаваная ў кастрычніку 1925 году Гісторыка-археалягічная камісія, і заснаваная ў лістападзе ў яе складзе Падкамісія па вывучэньні Старога Менску, дзейнічалі пад парасонам Гісторыка-археалягічнай сэкцыі Інбелкульту. Летам 1925 году ўся гэтая структура сканцэнтравала сваю ўвагу на менскай даўніне. У справаздачы аб праведзенай за лета сэкцыяй працы пісалася:

«... *Сэкцыя займалася вывучэньнем гісторыі беларускіх гарадоў, зрабіла плян і апісаньне Нямігі, Замчышча, будынка «Гродзкага суду» і інш.*»[359].

Хваля ўвагі да Старога гораду нарастала ў тыя месяцы як лявіна.

У сьнежні 1925-га — студзені 1926 году ў Менску адбылася наладжаная Інбелкультам Першая ўсебеларуская мастацкая выстаўка. А ўжо празь месяц Мікола Шчакаціхін выступіў у друку з артыкулам «Матывы краязнаўства ў нашым сучасным мастацтве. (З вынікаў Усебеларускай выстаўкі)». Гэты артыкул стаў другім (а паводле часу напісаньня — першым) выбітным тэкстам Шчакаціхіна, дзе ён даў вартыя зьдзіўленьня і памяці нашчадкаў прыклады захопленай апалёгіі Старога гораду ў Менску.

358 Наш край. 1926. №1. С.54–55.
359 Наш край. 1925. №1. С. 59.

Шчакаціхін пісаў, што галоўнай задачай беларускага мастацтва павінен быць яго ўдзел у «нашым культурным будаўніцтве», а сярод тэмаў — побыт насельніцтва краіны, яе гістарычнае мінулае і яе культура. Ён верыў, што ўвага да помнікаў гісторыі стане галоўнай тэмай беларускага мастацтва, прынамсі, на бліжэйшую пэрспэктыву:

«... *Пры выкананьні гэтых задач павінна атрымацца тое, што можна было б зваць "краязнаўчым ухілам" у мастацтве, прычым ухілу гэтаму, бясспрэчна, належыць будучыня, ува ўсякім выпадку ў бліжэйшыя гады нашае працы ў даным кірунку*»[360].

Шчакаціхін уважліва прааналізаваў экспанаты выставы на прадмет іх адпаведнасьці важным, на ягоную думку, задачам і прынцыпам. Ён падлічыў, што з 877 экспанатаў у першым, мастацкім аддзеле выставы (жывапіс, графіка, скульптура) Беларусі было прысьвечана 414 або 47,2%. Калі ж ён зрабіў пэрсанальны аналіз аўтараў, дык атрымалася, што зь ліку 104 аўтараў першага аддзелу выстаўкі «краязнаўчыя матывы сустракаюцца ў працах 62 аўтараў, г. зн. болей, як паловы ўсіх удзельнікаў (59,6 прац.)»[361].

Як мы ведаем, гарадзкая архітэктура і яе помнікі былі адным з галоўных навуковых інтарэсаў Шчакаціхіна. Праявілася гэта і ў яго аналізе экспанатаў Першай усебеларускай выстаўкі. Ён падлічыў, што віды беларускіх гарадоў і асобныя гарадзкія гістарычныя будынкі прадстаўлены на 96 карцінах і малюнках — што, паводле мастацтвазнаўцы, складала

360 Наш край. 1926. №2–3. С. 17.
361 Тамсама. С. 18.

23,2% ад усіх краязнаўчых матываў на выстаўцы. Не без задавальненьня Шчакаціхін адзначыў, што гэта самы важны матыў для тагачасных беларускіх мастакоў. Сярод іншых матываў — народныя беларускія тыпы (55 работ, 13,5%), беларускі народны быт (29 работ, 7%), гісторыя Беларусі (13 малюнкаў, 3,1%), габрэйскія тыпы (48 работ, 11,5%) і інш.[362]

Калі ж Шчакаціхін узяўся аналізаваць прадстаўленыя на выставе работы, дык якраз тут ён і ня змог схаваць свайго захапленьня і замілаваньня да старых куточкаў беларускага гораду. Ён падзяліў удзельнікаў выставы на дзьве групы. Мастакі першай групы канцэнтраваліся на гарадзкім жыцьці без увагі да помнікаў архітэктуры:

«*Першае месца па колькасьці, як мы ўжо заўважылі, займаюць гарадзкія пэйзажы, галоўным чынам, віцебскія і менскія, што зразумела, бо ў гэтых асяродках згуртавана большасьць нашых мастакоў; часткова да іх далучаюцца і іншыя беларускія месты, як Бабруйск, Магілеў, Заслаўе, Гомель і Вяліж. У трактаваньні тэм магчыма вызначыць два асноўныя падыходы: адных мастакоў цікавіць гарадзкі пэйзаж наагул як адзін з пэйзажных сюжэтаў чыста фармальнага значэньня; яны бяруць або агульныя яго пэрспэктывы, або паасобныя куткі, вуліцы, рынкі, часта ўводзячы ў іх кавалкі разнастайнага гарадзкога быту; такі падыход мы знаходзім, напрыклад, у працах: Волкава, Кругера, Лебедзевай, Пархоменкі, Пэна, Сьляпяна, Эндэ і некаторых іншых*»[363].

362 Тамсама.
363 Тамсама. С.19–20.

А вось як Шчакаціхін кажа пра творчасьць мастакоў, якіх ён аднёс да другой групы:

*«Другія мастакі пераносяць цэнтр увагі на тыя спэцыфічныя асаблівасьці нашых беларускіх гарадоў, якія выяўляюцца ў іх маляўнічых старажытных будынках, у гэтых часта напаўзруйнаваных маўклівых сьведках мінулага, важкія муры якіх утвараюць у той жа час такія эфэктоўныя дэкарацыйныя плямы; гэтыя мастакі выабражаюць то паасобныя гмахі ўва ўсёй урачыстай скончанасьці іх характэрных форм, то агульныя краявіды гораду, на заднім пляне якіх дамінуюць усё тыя ж паважныя старажытныя масівы»*[364].

І, нарэшце, некалькі імёнаў, чые творы Міколу Шчакаціхіну спадабаліся асабліва:

*«Сярод прац апошняе катэгорыі асабліва цікавыя рысункі Мільчына, дзе асабліва кантрастна падкрэсьлены характэрны эфэкт драўляных хатак менскіх аколіц на фоне высокіх, зьнікшых у тумане касьцёлаў; навеяныя Менскам эскізы алоўкам Пернікава, на якіх знаёмыя нам так добра менскія архітэктурныя формы ўспрымаюцца, быццам нанова праведзеныя праз прызму стылізацыі; моцная гравюра на дрэве Аксэльрода, дзе стылізацыя таго ж Менску даведзена да манумэнтальнага канца ў кампактнай, упрошчанай кампазыцыі…»*[365]

Гэты тэкст, побач зь якім быў зьмешчаны малюнак вуліцы Казьмадзям’янаўскай Майсея Сьляпяна — адна зь вяршыняў тагачаснай апалёгіі старой гарадзкой архітэктуры і Старога Менску ў прыватнасьці.

---

364 Тамсама.
365 Тамсама. С. 20.

Цікава таксама, што ў той час увага беларускага грамадзтва да архітэктурных помнікаў Менску праяўлялася і ў даволі нечаканых формах і сфэрах. Адной з такіх сфэраў стала мастацтва эксьлібрысу. У 1926 годзе навуковы сакратар ЦБК і член Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту Мікалай Касьпяровіч выступіў у друку з артыкулам «Краязнаўства ў сучаснай графіцы».

Касьпяровіч пісаў, што тагачасная беларуская графіка сканцэнтравалася найперш у мастацтве афармленьня кніг і часопісаў, а сярод сюжэтаў амаль спрэс пераважаюць краязнаўчыя:

«*... Амаль што заўсёды новая беларуская кніжка, часопіс аздабляецца ілюстрацыямі, застаўкамі, канцоўкамі, пачатковымі літарамі і да т. п. Большасьць гэтых кніжных аздоб, і бадай самыя лепшыя, маюць краязнаўчы характар... Да апошніх належыць і адна з кніжных аздоб — ex libris, або кніжны знак, што адрадзіўся бадай што ў самыя апошнія часы на Беларусі... Эксьлібрысы бываюць геральдычнымі, партрэтнымі, краявіднымі і інш. Пэўная частка сучасных беларускіх эксьлібрысаў мае краязнаўчы характар, адбіваючы тыя або іншыя дэталі мясцовага краю… Зважаючы на краязнаўчы характар сучаснай графікі, нашы краязнаўчыя арганізацыі павінны распачаць яе калекцыянаваньне, клясыфікацыю і апрацоўку. У іншых старонках існуюць цэлыя музэі графікі і паасобных відаў яе, як эксьлібрысу, робяцца выстаўкі, выдаюцца часопісы, як “Труды Ленинградского О-ва экслибрисистов” і г. д.*»[366].

366 Наш край. 1926. №12. С. 36–38.

Далей у сваім артыкуле Касьпяровіч падаў інструкцыі са схемамі апісаньня графічных краязнаўчых прац і ўзоры апісаньня краязнаўчых эксьлібрысаў. Сярод прыведзеных прыкладаў ён падаў выяву свайго эксьлібрысу 1925 году з выяваю, сярод іншага, помнікаў архітэктуры Віцебскага рынку — тады Касьпяровіч працаваў у Віцебскім аддзеле народнай асьветы.

Але ў нашым кантэксьце найбольш цікавыя два наступныя прыклады, якія прывёў Касьпяровіч. Гэта два менскія эксьлібрысы — Міколы Шчакаціхіна і Цэнтральнага бюро краязнаўства. На абодвух апошніх была выяўленая Менская вежа з гадзіньнікам на Пляцы Волі. Эксьлібрыс для Шчакаціхіна ў 1925 годзе выканаў Анатоль Тычына, а для ЦБК у пачатку 1926 году — Павал Гуткоўскі. Прысутнасьць вежы на кніжных знаках працаўнікоў Інбелкульту — канечне, знак іх гонару і замілаваньня да менскіх помнікаў даўніны.

Езуіцкая вежа з гадзіньнікам у 20-я гады была агульнапрызнаным сымбалем Менску. У 1928–1929 гадах малюнак езуіцкай вежы быў часткай лягатыпу галоўнага гістарычнага часопісу рэспублікі — органу Цэнтральнага бюро краязнаўства «Наш край».

Увага, нададзеная менскай Замкавай гары і яе забудове, а таксама ўсёй старой частцы гораду ў 1919–1926 гадах, заклала трывалы інтарэс і трывалую павагу да гэтага месца ў беларускіх галовах у наступныя дзесяцігодзьдзі. Калі пасьля прыходу немцаў у 1941 годзе ў Менску зноў сабралася пэўная колькасьць беларускіх дзеячоў, дык выявы Замчышча і старых будынкаў на ім пачалі выкары-

стоўваць у візуальнай прапагандзе і афармленьні органаў друку.

Адным з мастакоў, якія ў часе вайны жылі ў Менску і працягвалі закладзеныя ў 20-я гады традыцыі павагі да Старога гораду, быў графік Павал Гуткоўскі — аўтар эксьлібрысу Цэнтральнага бюро краязнаўства (1926 год) з выяваю езуіцкай вежы. Гуткоўскі дапамагаў афармляць беларускія выданьні ў часе акупацыі, пасьля вайны быў асуджаны да 10 гадоў лягероў і адбыў поўны тэрмін зьняволеньня.

У лютым 1944 году ў Менску была выдадзеная лісток-газэта «Весткі з вызваленай Беларускай Радзімы». У яе лягатып былі закампанаваныя вежа менскага калегіюму езуітаў, герб Пагоня і менскае Замчышча з будынкам Гродзкага суду на ім.

Таксама выявы гарадзкой вежы і менскага Замчышча друкаваліся ў гады вайны на многіх улётках і агітацыйных плякатах СБМ і іншых беларускіх арганізацый.

Зразумела, што гэта не магло застацца незаўважаным у ведамстве, якое і да вайны, і пасьля яе старанна і жорстка дапільноўвала ідэалягічную чысьціню беларусаў — ГПУ-НКВД-МГБ СССР.

## Складаньне пляну рэстаўрацыі

Вось на такім фоне ў 1925 годзе члены Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту стварылі праект рэстаўрацыі Замкавай гары і дамагліся ад уладаў уключэньня гэтага праекту ў афіцыйны плян Аддзелу камунальнай гаспадаркі.

Як памятаем, 10 красавіка 1925 году Камісія аховы помнікаў вырашыла ўтварыць з навукоўцаў і прадстаўнікоў грамадзкасьці камісію для агляду Замкавай гары, каб «на месцы выявіць, якія там патрэбна правесьці работы па рэстаўрыраваньню помнікаў старажытнасьці»[367].

З гэтага адназначна вынікае, што мова вялася менавіта пра рэстаўрацыю «помнікаў старажытнасьці» на Замчышчы.

У кастрычніку 1925 году часопіс «Наш край» апублікаваў справаздачу аб дзейнасьці Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту, дзе згадвалася і пра праект аднаўленьня Замкавай гары ў Менску:

«*... Камісія апрацавала плян аднаўленьня напалову зруйнаваных помнікаў, у першую чаргу полацкіх і менскіх*»[368].

Сумненьняў у тым, што такі плян быў створаны і што гэта быў менавіта плян рэстаўрацыі Замчышча і іншай забудовы Старога гораду, быць ня можа. У гэтым нас пераконвае справаздача аб дзейнасьці Інбелкульту, якую ў выглядзе брашуры апублікаваў у 1926 годзе навуковы сакратар ІБК Аляксандар Цьвікевіч.

У разьдзеле «Ахова помнікаў», якая была фактычнай справаздачай аб дзейнасьці Камісіі аховы помнікаў за 1925 год, Цьвікевіч пісаў:

«*Да заслуг камісіі трэба залічыць тое, што яна спыніла руйнаваньне полацкіх помнікаў каменнага будаўніцтва XI–XII веку — адзіных на Беларусі і вельмі цікавых сваімі фрэскавымі росьпісамі... і*

367 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 78.
368 Наш край. 1925. №1. С. 64.

*злажыла плян рэстаўрацыі і аховы Менскага Замчышча...*»[369]

Усё гэта рабілася, як памятаем, у адпаведнасьці з травеньскім рашэньнем прэзыдыюму ІБК, калі ён вырашыў:

«*Прапанаваць камісіі паразумецца з Горіспалкомам аб упарадкаваньні Замкавае гары ў Менску*»[370].

Такім чынам, мы дакладна ведаем, што дзеячы Інбелкульту разумелі і ўсьведамлялі значнасьць Замчышча і Старога гораду, дбалі пра яго, вырашылі стварыць плян яго рэстаўрацыі (аднаўленьня) і зрабілі гэта.

Знайсьці гэты плян пакуль не ўдалося. Ён або страчаны з увагі на раней апісаныя праблемы зь беларускімі архівамі, або яшчэ будзе некалі знойдзены. Таму мы можам толькі паспрабаваць рэканструяваць яго палажэньні на падставе некаторых ускосных сьведчаньняў.

Раней тут ужо скарочана цытавалася пастанова камісіі па «абглядзе Замкавай гары». Вось яе фрагмэнт:

«*1) Прывесьці Замкавую гару ў належны від, абчысьціць яе ад мусару... закрапіць апоўзьні насыпаў...*

*2) Узяць Дом гродзкага суда на ўчот па ахове помнікаў і прымусіць гаспадара гэтага будынку зрабіць належны рамонт, а таксама выселіць адтуль кузьню.*

369 Інстытут беларускае культуры. Гісторыя ўзьнікненьня. Сучасная структура. Навукова-дасьледчая дзейнасьць / Апрац. А. І. Цьвікевіч. С. 48.

370 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 94.

*3) Камісіі па ахове помнікаў злажыць пляны і каштарысы на прывядзеньне менскага Замчышча ў належны від і прадставіць усе матар'ялы па гэтых пытаньнях у Прэзыдыюм ІБК»*[371].

У гэтай цытаце быў скарочаны першы пункт. Вось яго больш поўная вэрсія:

«*Прывесьці Замкавую гару ў належны від, абчысьціць яе ад мусару... закрапіць апоўзьні насыпаў, зьнесьці драўляныя халупы і разьбіць на самай гары сад і дзіцячую пляцоўку*»[372].

Складзены Камісіяй аховы помнікаў да восені 1925 году плян упарадкаваньня Замкавай гары і аднаўленьня яе помнікаў якраз і павінен быў прадугледжваць выкананьне ўсіх гэтых трох пунктаў.

На самай высокай частцы Замчышча разьмяшчалася вуліца Падзамкавая. Якраз туды, на перасячэньне яе са Стара-Мясьніцкай і скіроўвалася ўвага экскурсантаў, якія ў той час наведвалі Стары горад. Менавіта адтуль, як пісаў Касьпяровіч, былі «відаць вельмі прыгожыя краявіды на розныя бакі Менску». Пасьля экскурсантам паказвалі так званы Дом гродзкага суду і руіны старажытных дамоў вакол яго — у дварах на бліжэйшай да Сьвіслачы правай (цотнай) частцы Стара-Мясьніцкай, а таксама будынкі былой сынагогі цэху мясьнікоў — у дварах на яе левым баку. Далей шлях экскурсіі кіраваўся на Нізкі рынак.

Сам Стары горад у той час быў вельмі занядбаны і засьмечаны. Паколькі за саветамі Замчышча канчаткова пачало лічыцца ўскраінай, дык яно і

371 Тамсама, арк. 99.
372 Тамсама.

набыло некаторыя прыкметы гарадзкой ускраіны. Як памятаем, у пратаколе «абгляду Замкавай гары» ад 12 красавіка 1925 году канстатавалася, што «ўся мясцовасьць Замчышча знаходзіцца ў самым антысанітарным становішчы». Да гэтага варта дадаць, што на вуліцы Падзамкавай — самым верхнім пункце Замчышча — у той час знаходзіўся склад «утиля» — яго арганізавалі на месцы раней узьніклай там звалкі сьмецьця.

Таму ў складзеным Камісіяй аховы помнікаў пляне рэстаўрацыі Замкавай гары адным з ключавых пунктаў павінна было стаць якраз упарадкаваньне вуліцы Падзамкавай са зносам старых драўляных хатак з боку татарскіх агародаў, вынясеньнем адтуль звалкі і будаўніцтвам на сутыку са Стара-Мясьніцкай бульвару з добрым брукам, ходнікамі, клюмбамі, лаўкамі для наведнікаў-экскурсантаў і г. д. Адтуль, з самай высокай часткі Замчышча, адкрываўся выдатны выгляд на Верхні горад, Нямігу, Траецкае прадмесьце і ўсю Траецкую гару, на Ракаўскае прадмесьце, а таксама на Татарскія агароды і Пярэспу.

У адным з пазьнейшых афіцыйных дакумэнтаў камгасу НКВД той плянаваны Камісіяй аховы помнікаў бульвар назвалі так:

*«... Бульвар на месте бывшего Литовского замка (Подзамковая ул.)»*[373].

Тое, што чыноўнікі камгасу назвалі былы Менскі замак Літоўскім — ускосна сьведчыць аб аргумэнтацыі, пры дапамозе якой Камісія аховы помнікаў Інбелкульту дамагалася выдаткаваньня сродкаў

373 ДАМн, ф. 284, воп. 1, спр. 8, арк. 15.

на рэстаўрацыю Замкавай гары. І аргумэнтацыя гэтая зусім адназначна адсылае нас да публіцыстыкі Рамуальда Зямкевіча часоў БНР — менавіта Зямкевіч падкрэсьліваў значэньне Менскага замку як сядзібы каралёў і вялікіх князёў літоўскіх, а росквіт самога Менску адносіў да часоў ВКЛ. Таксама і іншыя публіцысты 1918–1920 гадоў (Лёсік, Карскі і інш.) абгрунтавалі пераемнасьць Беларусі з гістарычнай Літвой і права беларускага народу на гісторыю і спадчыну Вялікага Княства Літоўскага. Гэта — відавочная сувязь і пераемнасьць у ідэалёгіі інбелкультаўцаў 1925–1926 гадоў з гістарызмам БНР 1918–1920 гадоў.

У адпаведнасьці з пастановай камісіі, плян рэстаўрацыі Замчышча павінен быў прадугледжваць і рамонт будынку Гродзкага суду з высяленьнем адтуль кузьні.

Магчыма таксама (калі браць пад увагу паведамленьне «Нашага краю» аб «пляне аднаўленьня напалову зруйнаваных» менскіх помнікаў), што плян прадугледжваў і аднаўленьне суседніх з будынкам Гродзкага суду старасьвецкіх камяніцаў, якія ў свой час Язэп Драздовіч назваў «крушнямі дамоў Маньковіча». Хутчэй за ўсё менавіта на руіны камяніцаў Маньковіча ўказвае часопісная фраза аб «пляне аднаўленьня напалову зруйнаваных» менскіх помнікаў — менавіта так, напалову разбуранымі, яны выглядаюць на малюнку Драздовіча 1920 году.

Зрэшты, у тым, што гэта менавіта так і што працаўнікі Камісіі аховы помнікаў прадугледжвалі рэстаўрацыю менавіта напаўразбураных камяніцаў Замчышча, пераконвае і наступны фрагмэнт

прыведзенай раней пастановы Камісіі ад 10 красавіка:

*«Трэба пасьпяшыць з вывучэньнем усёй плошчы старога замку і горада, якія існавалі на Нямізе, гдзе да гэтай пары яшчэ захаваліся насыпы, равы і валы, а таксама і некаторыя руіны старых будынкаў. Даручаецца т. Сербаву 12/IV з'арганізаваць камісію зь мясцовых навуковых сіл і грамадзкіх прадстаўнікоў для абгляду Старога Менску і Замкавай гары, каб на месьце выявіць, якія там патрэбна правесьці работы па рэстаўрываньню помнікаў старажытнасьці»*[374].

Гэта ўжо недвухсэнсоўнае ўказаньне на «крушні дамоў Маньковіча» («некаторыя руіны старых будынкаў»). Калі б гэтыя «руіны» тады належным чынам дасьледавалі, сёньня гісторыкі маглі б ведаць пра камяніцы менскага замку значна больш.

Важна таксама, што ў гэтай цытаце мова ідзе ня толькі пра Замчышча, але і пра ўвесь Стары горад зь яго вузкімі вулкамі і двума рынкамі — Нізкім і Рыбным («Трэба пасьпяшыць з вывучэньнем усёй плошчы старога замку і горада, якія існавалі на Нямізе»). Гэта — важны доказ разуменьня членамі Камісіі аховы помнікаў значнасьці ўсяго Старога гораду для беларускай культуры і важнасьці яго захаваньня.

Пастанова камісіі ад 10 красавіка лякалізуе Стары горад раёнам Нямігі, што і ня дзіўна — перад вайной менскія мікратапонімы «Стары горад» і «Няміга» былі сынонімамі, бо вуліца Няміская (або Няміга) даходзіла да самай Сьвіслачы праз Рыбны

374 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 78.

і Нізкі рынкі — фактычна, Стары горад быў яе ваколіцамі[375].

Таму можна меркаваць, што плян рэстаўрацыі прадугледжваў рамонт і захаваньне камяніц Нізкага рынку і прылеглых да яго вулак і кварталаў. Успомнім цытату з экскурсіі Касьяровіча:

«...*Нізкі рынак, куткі якога, калі зьняць сучасныя шыльды, зьяўляюцца найтыповымі прадстаўнікамі гэтага XVI–XVII стагодзьдзя*».

Забягаючы наперад, прывядзем тут радкі з генэральнага пляну сацыялістычнай рэканструкцыі Менску 1936 году, у аснову якога (як убачым далей) былі пакладзеныя пляны менскага камгасу ад 1926 году:

«*Особенно активно должна производиться реконструкция района Немиги — во 2-м этапе полностью ликвидируемого*»[376].

Гісторыя не данесла да нас аўтараў пляну рэстаўрацыі Замкавай гары 1925 году ў Менску. Мы, напрыклад, дакладна ведаем, што ў тым самым часе плян аднаўленьня напаўразбураных храмаў Бельчыцкага манастыра ў Полацку быў распрацаваны тамтэйшым краязнаўцам, членам-карэспандэнтам Інбелкульту Пятром Дэйнісам. У чэрвені 1925 году прэзыдыюм Інстытуту беларускай культуры пастанавіў:

«*Нагляд за сваячасным выкананьнем рамонтных работ па праекту П. Дэйніса даручыць Полацкаму акруговаму т-ву краязнаўства*»[377].

375 Частка Нямiскай вуліцы паміж Рыбным і Нізкім рынкамі ад 1866 году называлася Кацярынінскай.

376 БДАНТД, ф. 6, воп. 2, спр. 19, арк. 132.

377 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 169.

Адносна менскага праекту такіх сьведчаньняў, на жаль, не захавалася. Але, грунтуючыся на ўскосных зьвестках, зь вялікай доляй верагоднасьці можна меркаваць, што аўтарамі пляну аднаўленьня і ўпарадкаваньня Замкавай гары і яе помнікаў былі тыя самыя асобы, якія ў раней цытаваных тут дакумэнтах згадваліся як галоўныя спэцыялісты па менскіх помніках архітэктуры — гэта менскія гісторыкі-краязнаўцы Сокалаў і Сьцепуржынскі. Як памятаем, менавіта іх у сакавіку 1925 году Камісія аховы помнікаў прасіла скласьці сьпіс менскіх помнікаў, наладзіць іх агляд і вывучэньне, а таксама арганізаваць ім належную ахову[378].

Адносна Аляксандра (Алеся) Сьцепуржынскага біяграфічныя зьвесткі існуюць. У той час ён быў актывістам Менскага акруговага таварыства краязнаўства і супрацоўнікам Дзяржаўнага музэю, а да таго працаваў дырэктарам Менскага пэдагагічнага тэхнікуму. Адносна ж Сокалава (паводле іншых згадак — Сакалова) такіх зьвестак няма. Магчыма, гэта быў ужо вельмі немалады выкладчык музыкі — вядома, што ў 80-я гады XIX стагодзьдзя нехта А. Сокалаў узначальваў Музычнае таварыства ў Менску. Магчыма, таксама, што Сокалаў 20-х гадоў быў сваяком таго А. Сокалава.

Ня выключана таксама, што Сьцепуржынскаму і Сокалаву дапамагаў і Аляксандар Паноў — былы інспэктар Менскай духоўнай сэмінарыі і заснавальнік царкоўна-археалягічнага камітэту ў Менску, які ў 1925 годзе актыўна ўдзельнічаў у працы Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту. Паноў у 1919 годзе ра-

378 Тамсама, арк. 74.

зам са Сьцепуржынскім уваходзіў у лік актывістаў Менскага таварыства гісторыі і старажытнасьці.

Мог браць удзел у складаньні праекту рэстаўрацыі помнікаў Замкавай гары і член інбелкультаўскай Падкамісіі па вывучэньні Старога Менску Аляксандар (Алесь) Аніхоўскі, які ўвосень 1925 году стварыў дакладны плян Старога гораду. Ад 1927 да 1930 году ён працаваў інспэктарам пэдагагічных тэхнікумаў Наркамасьветы БССР.

Праз поўную адсутнасьць у архівах папераў менскага гарадзкога камгасу за 1925–1926 гады мы ня ведаем як і якія канкрэтна рашэньні прымаліся адносна інбелкультаўскага пляну рэстаўрацыі Замчышча. Затое з публікацыяў тагачаснага друку вынікае, што ў плянах на 1926 год бульвару («саду») для турыстаў на Падзамкавай вуліцы не было.

У лютым 1926 году газэта «Савецкая Беларусь» са спасылкай на Менскі аддзел камунальнай гаспадаркі паведаміла, што ў 1926 годзе ў сталіцы БССР закладуць тры новыя сквэры:

*«... на Сьвярдлоўскай вул., на Юбілейнай плошчы і пры вакзале МББ чыгункі»*[379].

Ідэя рэстаўрацыі Замчышча і захаваньня Старога гораду ў Менску, народжаная ў 10–20-я гады XX стагодзьдзя, робіць гонар тагачаснаму беларускаму актыву. Гэта паказвае, што найлепшыя людзі Беларусі ўжо ў той час былі абазнаныя ў культурных трэндах старой Эўропы. Агульнанацыянальнае таварыства аховы і рэстаўрацыі помнікаў зьявілася ў Францыі ў 1874 годзе. У Аўстра-Вугоршчыне гэтым пачалі займацца яшчэ на 100 гадоў раней.

379 Савецкая Беларусь. 14 лютага 1926.

У сярэдзіне XIX стагодзьдзя ў Вене ўжо існавалі прафэсійныя школы архітэктараў-рэстаўратараў. У Празе ў 50-я гады XIX стагодзьдзя ствараліся пляны ня толькі рэстаўрацыі, але і рэгенэрацыі страчаных помнікаў.

Прапанова Рамуальда Зямкевіча 1919 году аб рэстаўрацыі помнікаў Замчышча і наступная ўвага дзеячоў Інбелкульту да Старога гораду былі натуральнай праявай культурнага сталеньня і высьпяваньня беларускай нацыі.

## Спроба «нізавой» рэстаўрацыі будынку Гродзкага суду

У 1926–1927 гадах адбылася яшчэ адна прыгожая гісторыя з дэтэктыўным адценьнем, якая сьведчыць, што беларускія дзеячы нягледзячы на няўдачы спрабавалі розныя спосабы і нават хітрыкі, каб захаваць галоўны прадмет клопату Камісіі аховы помнікаў — Стары горад у Менску.

Грошай на рэалізацыю створанага ў другой палове 1925 году пляну рэстаўрацыі Замкавай гары ўлады, як вядома, не далі. Тады, відаць, Камісія вырашыла ратаваць асобныя помнікі, унесеныя ў дзяржаўны сьпіс.

3 сьнежня 1926 году адзін з жыхароў Менску зьвярнуўся ў Інбелкульт з наступнай заявай:

«*В Инбелкульт*

*Исаака Моисеева Минковскаго*

*Заявление*

*Предоставляя при сем смету на восстановление принадлежащего мне смешанного флигеля во дворе*

*моем на Старо-Мясницкой ул. №8, прошу выдать мне охранную грамоту и поддержать мое ходатайство пред Комхозом о предоставлении мне льгот по перестройкам и достройкам упомянутого флигеля, к ремонту которого я приступлю весною будущего 1927 года.*

*И. М. Минковский*
*Жительство мое по*
*Комсомольской ул.*
*д. №38 кв. 6*»[380].

Дом №8 па Стара-Мясьніцкай вуліцы — гэта, як вядома, будынак Гродзкага суду, які яшчэ называюць Трыбуналам Вялікага Княства Літоўскага. Другі яго паверх быў драўляны, таму Ісак Мінкоўскі называе свой «флігель» зьмешаным.

Да заявы прыкладалася «Смета на возобновление смешаннаго флигеля, принадлежащаго гр. Исааку Моисееву Минковскому, расположенного по Старо-Мясницкой ул. д. №8», складзеная на шасьці вялікіх, нестандартнага памеру аркушах паперы на агульную суму 3723 рублі 14 капеек[381].

Мяркуючы па дэталізацыі ўсяго працэсу аднаўленьня будынку, які прапісаны ў каштарысе — а гэта 36 пунктаў з адсылкамі на адпаведныя артыкулы і параграфы тагачаснага Закону аб парадку аховы помнікаў старажытнасьці, мастацтва і прыроды — гэты дакумэнт быў складзены зусім ня аўтарам заявы. Яго маглі скласьці толькі спэцыялісты Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту. Верагодна, такім чынам, ад імя гаспадара будынку, яны

380 НАРБ, ф. 42, воп. 1, спр. 1926, арк. 96–96 аб.
381 Тамсама, арк. 97, 97 аб., 98, 98 аб., 99, 100, 101, 101 аб.

імкнуліся здабыць сродкі на рэстаўрацыю помніка і захаваць яго ад разбурэньня — у тыя гады там разьмяшчалася кузьня.

Дакумэнтальнага працягу гэтай гісторыі знайсьці не ўдалося, але аб тым, што ў выдаткаваньні грошай на рэстаўрацыю будынку Гродзкага суду камгас НКВД Інбелкульту адмовіў, можна меркаваць паводле наступных дэталяў.

У заяве Мінкоўскага ў Інбелкульт у подпісе пазьней нехта зьмяніў дату, перарабіўшы шасьцёрку на сямёрку — было 3 сьнежня 1926 году, стала 3 сьнежня 1927 году. А пад назвай каштарысу пазьней таксама сінім атрамантам, але троху іншага адценьня і іншым почыркам дапісалі «1928». Гэта дакладнае дакумэнтальнае пацьверджаньне таго факту, што ў 1927 годзе грошай атрымаць не ўдалося або заява не была пушчана ў ход наогул. Таму праз год пры дапамозе такой няхітрай маніпуляцыі зь лічбамі была зробленая другая спроба. Дадаткова нас у гэтым пераконвае і той факт, што ў самім тэксьце заявы Мінкоўскага фраза «к ремонту которого я приступлю весною будущего 1927 года» засталася нязьменнай.

Саму заяву і каштарыс з графічнай выявай пляніроўкі абодвух паверхаў будынку Гродзкага суду мне ўдалося знайсьці зусім не ў дакумэнтах камгасу НКВД або ў паперах Інбелкульту, але сярод папераў Беларускага дзяржаўнага музэю. У тыя гады некалькі супрацоўнікаў гэтай установы былі ўдзельнікамі пасяджэньня Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту, але два зь іх у справу захаваньня Старога гораду ў Менску ангажаваліся асабліва актыўна. Гэта — А. Паноў і А. Сьцепуржынскі.

А. Сьцепуржынскі ў той час быў актывістам Менскага акруговага таварыства краязнаўства і, адначасова, працаваў у Дзяржаўным музэі. Як памятаем, паводле ўскосных сьведчаньняў, ён мог мець дачыненьне і да складаньня пляну рэстаўрацыі Замчышча. Прынамсі, у дакумэнтах Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту яго называлі адным з галоўных спэцыялістаў па менскіх помніках архітэктуры.

Таксама да стварэньня праекту рэстаўрацыі Старога гораду мог мець дачыненьне і А. Паноў. У 1927 годзе, калі рабілася спроба адрэстаўраваць хаця б будынак Трыбуналу ВКЛ, А. Паноў дакладна быў супрацоўнікам музэю. Ад 10 красавіка да 10 траўня 1927 году ў Белдзяржмузэі экспанавалася выстава слуцкіх паясоў. У пастанове Музэйнай рады БДМ аб адкрыцьці экспазыцыі пісалася:

«*Выставе ў вялікай залі Мастацкага аддзелу адвесьці частку пакою, дзе знаходзіцца італьянская жывапісь*»[382].

У экспазыцыю адабралі 18 слуцкіх паясоў, а ўсяго іх у музэі было 21. Да адкрыцьця выставы быў падрыхтаваны і выдадзены каталёг з выявай усіх наяўных паясоў і нарысам па гісторыі слуцкага пояса. А яшчэ да адкрыцьця выставы, у канцы сакавіка, музэйная рада выказала падзяку складальніку каталёгу:

«*Адзначыць працу т. Панова за складаньне нарысу па гісторыі Слуцкага пояса*»[383].

Такім чынам, перад намі хутчэй за ўсё найбольш верагодны арганізатар (або адзін зь іх) спробы ад-

382 НАРБ, ф. 42, воп. 1, спр. 1927, арк. 200.
383 Тамсама.

рэстаўраваць ў 1927–1928 гадах калі ня ўсю забудову Замчышча, то хаця б будынак Гродзкага суду. І, мяркуючы па тым, што арыгіналы папераў захаваліся па месцы ягонай працы, спробы няўдалай.

Плян рэстаўрацыі Замкавай гары і аднаўленьня яе помнікаў ніколі ажыцьцёўлены ня быў. Дамагаючыся яго рэалізацыі, Камісія аховы помнікаў Інбелкульту і актывісты іншых камісіяў сутыкнуліся зь ведамствам, назва якога ўсяго праз некалькі гадоў стане выклікаць у сучасьнікаў жах. Пра гэта пагаворым крыху пазьней.

## Працяг барацьбы і яе канец

Пасьля ад'езду прафэсара С. Кацэнбогена ўвосень 1925 году Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту было недвухсэнсоўна паказана на тое месца, якое ёй рэальна адводзіла савецкая ўлада. Камісія не магла амаль нічога — ні рассылаць інструкцыі-напаміны для мясцовых уладаў, ні дамагацца прыцягненьня да адказнасьці вінаватых у разбурэньні або пашкоджаньні помнікаў, ёй не выдзялялі ніякіх сродкаў для рэстаўрацыі або музэіфікацыі каштоўных будынкаў і экспанатаў.

У зацьверджаных прэзыдыюмам Інбелкульту правілах працы камісіі гаварылася, што яна

*«сочыць за выкананьнем законаў па ахове помнікаў. Яна ж састаўляе пляны і каштарысы па ахове помнікаў і праводзіць гэтыя пляны ў жыцьцё»*[384].

384 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 29.

Замест гэтага, як памятаем, у лістападзе 1925 году ёй дазволілі толькі складаць сьпісы помнікаў. Падзеі восені 1925 году наклалі адбітак і на паводзіны членаў камісіі — людзі, натуральна, былі вымушаныя захоўвацца асьцярожна і не ўваходзіць у адкрытыя сутыкненьні з уладамі. Ніхто не хацеў паехаць на Ўсход.

Прэзыдыюм Інбелкульту, адказваючы на просьбы і заклікі камісіі, вымушаны быў асьцярожна турбаваць улады. Але формы, у якіх гэта рабілася, паказваюць, што ад'езды Кацэнбогена і Доўнар-Запольскага зрабілі сваю справу. Ніхто ўжо нічога не патрабаваў — усе толькі прасілі.

Вось характэрны прыклад. 16 траўня 1927 году сакратарыят Інбелкульту зьвярнуўся ў Кіраўніцтва справаў СНК БССР зь вельмі асьцярожнай просьбай:

«*На падставе арт. 9 Закону аб парадку аховы помнікаў старажытнасьці, мастацтва і прыроды — усе выдаткі на ўтрыманьне ідуць па каштарысу акруговых выканаўчых камітэтаў. Прымаючы пад увагу, што большасьць помнікаў, абвешчаных дзяржаўнай уласнасьцю, патрабуюць некаторых выдаткаў на сваё ўтрыманьне, — Сакратарыят Інбелкульту просіць напомніць акруговым выканаўчым камітэтам, каб яны ўнясьлі адпаведныя сумы на ўтрыманьне помнікаў па сваім акругам*»[385].

Што ў адказ робіць Кіраўніцтва справаў СНК БССР? Ініцыюе адпаведную пастанову або разгляд на прэзыдыюме ўраду? Арганізоўвае рэакцыю

385 НАРБ, ф. 7, воп. 1, спр. 453, арк. 22.

або рэзалюцыю на звароце галіновага намесьніка старшыні СНК або кіраўніка Наркамасьветы, у структуру якога ўваходзіў Інбелкульт? А можа, яно загадвае акруговым выканаўчым камітэтам прадугледзець неабходныя выдаткі на ахову і рэстаўрацыю помнікаў і патрабуе ад акруговых выканкамаў элемэнтарна выконваць закон? Не. Праз два з паловай тыдні, 4 чэрвеня 1927 году, Кіраўніцтва справаў СНК БССР зьвяртаецца да акруговых выканкамаў з наступным лістом:

*«Усім акруговым выканаўчым камітэтам БССР. Кіраўніцтва спраў СНК просіць зрабіць захады да таго, каб у акруговых каштарысах на 1927/1928 г. прадугледзець некаторыя, хоць невялікія, выдаткі на справу аховы помнікаў старажытнасьці, мастацтва, быту і прыроды. Становішча гэтае справы ў БССР на сёньняшні дзень такое, што далей захоўваць вельмі каштоўныя помнікі безь некаторых асыгнаваньняў больш немагчыма. У бягучым годзе нягледзячы на аналягічную просьбу нашу ў пачатку году ніякіх асыгнаваньняў па бюджэтах не было прадугледжана і мелі мейсца такія прыкрыя выпадкі, калі з-за недастачы якіх-небудзь 200–300 р. нельга было захаваць некаторыя вельмі каштоўныя помнікі ад канчатковага зьнішчэньня. Нягледзячы на нашу агульную беднасьць усё ж нельга дапусьціць, каб гінулі і нішчыліся каштоўныя помнікі. Пасылаючы пры гэтым адносіну ў СНК Сакратарыяту Інстытуту беларускае культуры, Кіраўніцтва спраў СНК просіць Вас даць належныя дырэктывы па сутнасьці хадайніцтва Інстытуту беларускае*

*культуры па В/акрузе пры складаньні бюджэту на 1927/28 г. Кіраўнік спраў СНК М. Мароз»*[386].

З пункту гледжаньня апаратна-бюракратычнай працэдуры абодва гэтыя дакумэнты выклікаюць пытаньні. Сапраўды, чаму зварот Інбелкульту ня быў разгледжаны ў адпаведнай структуры ўраду, чаму на яго не была накладзеная хаця б рэзалюцыя адказнага чыноўніка? Нарэшце, чаму зварот накіраваны менавіта ў Кіраўніцтва справаў СНК, а не ў Наркамасьветы або да галіновага намесьніка старшыні СНК, адказнага за сфэру дзейнасьці Інбелкульту і яго камісіяў?

Насамрэч перад намі яшчэ адзін доказ адданасьці беларускай справе тагачасных працаўнікоў Інбелкульту і яго Камісіі аховы помнікаў. Нават высылкі і пагроза страціць працу і свабоду іх не спынялі. Як чытач ужо ведае, кіраўнік справаў СНК БССР і член ЦВК БССР М. Мароз, які падпісаў зварот да акруговых выканкамаў — гэта адначасова і член прэзыдыюму Гісторыка-археалягічнай сэкцыі і старшыня Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту Міхаіл Мароз.

Пасьля высылкі С. Кацэнбогена, калі праца камісіі была фактычна паралізаваная, менавіта Міхаіл Мароз, як мы ўжо ведаем, стаў у 1926 годзе яе новым старшынём. Гэта адзін зь беларускіх нацыянал-камуністаў, паплечнік Чарвякова, Ігнатоўскага і Жылуновіча. Ураджэнец Капыля, выпускнік Нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі, у гады рэвалюцыі і грамадзянскай вайны ў Расеі ён быў актывістам бежанскага руху і супрацоўнікам маскоўскага

386 Тамсама, арк. 23.

Белнацкаму. У 1922–1924 гадах быў паўнамоцным прадстаўнікам БССР у РСФСР, пасьля быў загадчыкам Беларускага дзяржаўнага выдавецтва ў Менску. Менавіта ў 1926 годзе, з прызначэньнем на пасаду кіраўніка справаў СНК БССР, ён як член Інбелкульту наважваецца ўзяць у свае рукі і кіраваньне Камісіяй аховы помнікаў. Магчыма, гэта была спроба Ігнатоўскага неяк уратаваць справу пасьля разгрому 1925 году. І гэта быў сапраўды разумны крок тагачасных беларускіх актывістаў — аддаць справу ў рукі фармальна добранадзейнага камуніста-чыноўніка.

І вось мы бачым, як увесну 1927 году Міхаіл Мароз сам сабе з Інбелкульту ў СНК даслаў ліст з просьбай паруліцца пра выдаткаваньне сродкаў на ахову помнікаў. Менавіта гэтым тлумачыцца зварот у Кіраўніцтва справаў СНК, а не ў галіновае ведамства або да адпаведнага намесьніка старшыні ўраду, а таксама і той факт, што на звароце сакратарыяту Інбелкульту адсутнічаюць рэзалюцыі вышэйшых чыноўнікаў і ведамстваў. Магчыма, Мароз той зварот нікому і не паказваў — у 1927 годзе ўжо вельмі моцна адчувалася тая сьцяна варожасьці і неразуменьня вакол справы аховы помнікаў.

Гаворка ў звароце Інбелкульту вялася пра невыкананьне акруговымі выканкамамі 9-га артыкулу Закону аб парадку аховы помнікаў старажытнасьці, мастацтва і прыроды і патрэбу асыгнаваньня грошай на іх ахову. Такія справы ў той час абавязкова меліся быць разгледжаныя ў адпаведных структурах і на адпаведным узроўні. Вось прыклад. У жніўні 1927 году Інбелкульт зьвярнуўся ў СНК з

просьбай падвысіць стаўку правадзейнага члена ІБК, якая на той час складала 200 рублёў у месяц:

*«Бо цяпер, падчас разгортваньня рэарганізацыі, перад ІБК паўстаюць новыя задачы і шырокае поле дзейнасьці. У БДУ і НДІ імя У. Леніна месячныя аклады высокакваліфікаваных супрацоўнікаў 250 р. у месяц»*[387].

У адказ на гэты зварот 20 верасьня 1927 году Інбелкульт атрымаў ліст ад сакратара СНК БССР Н. Угарава:

*«У адказ на хадайніцтва Ваша аб павелічэньні ставак зарплаты правадзейным членам Інбелкульту, Нам. Старшыні СНК наложана рэзалюцыя наступнага зьместу: "Считать второе решение по госнормированию не требующим пересмотрения"»*[388].

Нягледзячы на тое, што ў прыведзенай цытаце імя намесьніка старшыні Савету Народных Камісараў БССР, які наклаў адмоўную рэзалюцыю, ня згадваецца, вядома што ім быў Стэфан Гельтман, дарэвалюцыйны польскі сацыялістычны дзяяч, які ў 1920-я гады быў партыйным і дзяржаўным функцыянэрам БССР і ў канцы таго самага 1927 году сам узначаліў польскі сэктар Інбелкульту[389]. Менавіта гэты чыноўнік адказваў у СНК за так званае дзяржаўнае нармаваньне, інакш кажучы, за «кадры і штаты»[390].

У дадатку да ліста Н. Угарава ў Інбелкульт была прыкладзеная выпіска з пратаколу №12 пасяджэнь-

---

387 Тамсама, арк. 60.
388 Тамсама, арк. 58.
389 Возвращенные имена. Сотрудники АН Беларуси, пострадавшие в период сталинских репрессий. Менск, 1992. С. 29.
390 Гл.: НАРБ, ф. 31, воп. 1, спр. 101, арк. 11.

ня камісіі па дзяржаўным нармаваньні ад 25 жніўня 1927 году:

*«Слухалі: Адносіна ІБК... аб павелічэньні акладу правадзейнага члена да 250 р. замест 200 р. Пастанавілі: У хадайніцтве адмовіць»*[391].

Як бачым, усё разгледжана, вырашана, рэзалюцыя накладзена, адказ з копіяй рашэньня дасланы заяўніку — нармальная бюракратычная працэдура. А ў выпадку з аховай помнікаў М. Мароз «адносіну Інбелкульту» нікому не паказвае і ні з кім не абмяркоўвае. Ён добра ведае стаўленьне ва ўрадзе і ў ГПУ да гэтай справы і стараецца зрабіць тое, што ў яго кампэтэнцыі і ў яго сілах[392].

Тон ліста, у якім М. Мароз сьціпла наракае на адсутнасьць рэакцыі на яго папярэднія звароты, інфармуе выканкамы аб новай просьбе Інбелкульту і са свайго боку таксама сьціпла просіць прадугледзець хаця б невялікія сумы на ахову помнікаў, таксама сьведчыць пра кан'юнктуру, якая ўжо на той момант склалася і вакол камісіі, і вакол справы аховы помнікаў. І тым ня менш, Міхаіл Мароз гэта робіць.

Такой была іх барацьба. І за гэта амаль ніхто зь іх ня выжыў. З членаў і ўдзельнікаў пасяджэньняў Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту пасьля пагрому

---

391 НАРБ, ф. 7, воп. 1, спр. 453, арк. 59.

392 Ніякія сумненьні або развагі пра неэтычнасьць справы (маўляў, Мароз ня мог даць ход такой паперы, бо стала б вядома пра яго ролю ў падрыхтоўцы такіх зваротаў у Камісіі аховы помнікаў) тут не спрацоўваюць. Вопытны чыноўнік заўсёды знойдзе магчымасьць як вырашыць гэтую сытуацыю — напрыклад, накіраваць зварот непасрэдна ў СНК, а не ў кіраўніцтва справаў. Тым ня менш ён дасылае ліст сам сабе і піша ліст у акруговыя выканкамы.

30-х гадоў у Беларусі застаўся толькі Ісак Сербаў. Астатнія былі высланыя, асуджаныя, забітыя. У 1927 годзе (годзе ліквідацыі Камісіі) Міхаіла Мароза перавялі з членаў Цэнтральнага выканаўчага камітэту БССР у кандыдаты, а ў 1929 — наогул вывелі са складу ЦВК. У 1937 годзе яго арыштавалі і асудзілі на доўгі тэрмін зьняволеньня ў лягерах, дзе ён і памёр.

1927 год — апошні год існаваньня Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту. Мікола Шчакаціхін увосень таго году, разважаючы пра дзейнасьць камісіі, сумна канстатаваў:

«... *Калі самыя ўмовы працы робяць яе фактычна немагчымай, калі інстытуцыя ня мае ніякае рэальнае моцы, калі яе роля зводзіцца толькі да складаньня паперак, якія ніхто ня лічыць для сябе абавязковым выконваць, — дык тут пытаньне аб плённасьці працы такой інстытуцыі робіцца значна болей цяжкім. Ласьне ў такіх умовах, аднак, працавала камісія па ахове помнікаў пры Інстытуце беларускае культуры. А помнікі старасьветчыны за гэты час запраўды "ліквідаваліся", г. зн. руйнаваліся, разбураліся і разбураюцца*»[393].

Гэта — словы з артыкулу Міколы Шчакаціхіна «Ахова ці "ліквідацыя" помнікаў», зь якім ён выступіў 2 кастрычніка 1927 году ў «Звездe». Шмат месца ў артыкуле ён прысьвяціў лёсу бельчыцкіх храмаў, зьнесеных у 1925 годзе. Якраз ад 1925 году ў СССР дзейнічаў «Союз безбожников» (ад 1929 году «Союз воинствующих безбожников»). Яго актывісты бурылі цэрквы і манастыры, ператваралі іх у

393 Звезда. 2 кастрычніка 1927.

склады, клюбы і майстэрні. Аднак у краіне дзейнічаў Дэкрэт аб ахове помнікаў, і храмы XII стагодзьдзя ўсё ж не чапалі. Улада бальшавікоў на той час была ўжо абсалютнаю, усё навокал кантралявала ГПУ, і пры гэтым у Беларусі ў выпадку бельчыцкіх храмаў дэкрэт не спрацаваў.

Прайшло яшчэ тры гады, і ў першай палове 30-х гадоў «нехта нябачны» «ацаніў» актыўную дзейнасьць і самога Міколы Шчакаціхіна, і ўстановы, якую ён прадстаўляў, і помнікаў, якія ён бараніў. У 1931 годзе выдатны беларускі мастацтвазнавец «пераехаў» у Башкірскую АССР, а да бельчыцкіх храмаў яшчэ двойчы пасылаліся брыгады рабочых, якія нягледзячы на «недапасаванасьць цэглы», на захаваны найкаштоўнейшы жывапіс XII стагодзьдзя, на складзеныя некалі акты і менскія пратэсты зьнесьлі храмы цалкам. Цяпер там полацкі завулак Юбілейны, і нішто не нагадвае як пра князёў-заснавальнікаў беларускай дзяржавы, так і пра абаронцу іх храмаў — выдатнага мастацтвазнаўцу, супрацоўніка Інбелкульту Міколу Шчакаціхіна, замучанага НКВД.

Тую нябачную сьцяну, якая сьціскалася вакол Камісіі аховы помнікаў, зусім невыпадковую абыякавасьць дзяржавы і яе рэальны ўдзел у зносах і разбурэньнях ужо тады бачылі і адчувалі самі абаронцы Старога гораду ў Менску і іншых помнікаў. Яны не маглі толькі сказаць пра гэта адкрыта.

Зрэшты, вось завуаляванае (і ашаламляльнае для нас сёньняшніх) прызнаньне самога Шчакаціхіна ў тым, што ён усё бачыў і разумеў:

«*... Я добра ведаю тыя ўмовы, у якіх працавала гэтая камісія, ведаю яе погляды і аб'ектыўныя магчы-*

*масьці правядзеньня гэтых поглядаў у жыцьцё, — на грунце чаго прыходжу да пераконаньня, што справа тут значна болей сур'ёзная»*[394].

Яны ўсё бачылі, разумелі, але гонар, прыстойнасьць і любоў да Айчыны не дазвалялі ім спыніцца.

Апошняя фраза Шчакаціхіна з вышэйпрыведзенай цытаты («справа тут значна болей сур'ёзная») — гэта важкае гістарычнае сьведчаньне ўдзельніка тых падзеяў аб невыпадковым характары разгрому справы аховы помнікаў і аб наўмысным характары замены рэстаўрацыі на сацыялістычную рэканструкцыю, у выніку якой Менск страціў Стары горад. Гэта адбылося ў выніку ідэалягічнай канкурэнцыі камуністычных уладаў БССР з нацыянальнай інтэлігенцыяй.

Артыкул Шчакаціхіна стаў фактычна нэкралёгам па Камісіі аховы помнікаў. А сам аўтар тады яшчэ ня ведаў, што за год да яго публікацыі на гэтую тэму лёс Старога гораду ў Менску ўжо быў вырашаны.

У 1927 годзе Камісія аховы помнікаў Інбелкульту перастала існаваць. У бюджэце Інбелкульту на 1928 год у пераліку камісій, сэкцыяў і катэдраў гэтая камісія ўжо адсутнічае[395]. Для яе ліквідацыі была выкарыстаная стандартная бюракратычная працэдура рэарганізацыі. Фармальна ўвосень 1927 году Камісія аховы помнікаў была перададзеная ў склад Галоўнавукі Народнага камісарыяту асьветы[396]. У нетрах гэтага ведамства яна і паступова

394 Тамсама.
395 НАРБ, ф. 7, воп. 1, спр. 548, арк. 12–12 аб.
396 Шчакаціхін М. Ахова ці «ліквідацыя» помнікаў // Звезда. 2 кастрычніка 1927.

зьнікла[397]. На працягу 1928 году было праведзена 2–3 пасяджэньні, на якіх гаворка ішла ўжо пра помнікі рэвалюцыі і прыроды.

Пра рэарганізацыю 1927 году, якая прывяла да зьнішчэньня камісіі і зьнікненьня яе з грамадзкага небасхілу, сьведка тых падзеяў, супрацоўнік Інбелкульту Яўхім Кіпель гэтак напісаў у сваіх успамінах:

«*Па нейкім часе праз Саўнаркам з Масквы прыйшоў загад працу сэкцыі спыніць і гістарычнымі помнікамі не займацца*»[398].

І тут самы час расказаць пра ведамства, якому Камісія аховы помнікаў Інбелкульту нарабіла найболей клопату.

397 Галоўнай мэтай бюракратычнай працэдуры 1927 году было, як вынікае, паступовае адхіленьне канкрэтных асобаў ад справы аховы помнікаў. А сама ахоўная структура ў сыстэме дзяржаўных органаў захоўвалася заўсёды. У 1930–40-я гады ў БССР, напрыклад, існавала Дзяржаўная інспэкцыя аховы помнікаў архітэктуры, але яна ня мела рэальных паўнамоцтваў, і сёньня цяжка прывесьці прыклады, каб хоць нейкі помнік архітэктуры быў у тыя гады ўратаваны ад зьнішчэньня — што якраз і пераконвае ў мэтанакіраваным характары рэарганізацыі Камісіі аховы помнікаў.

398 Кіпель Я. Эпізоды. С. 104.

## Каму камісія перайшла дарогу ў 1925 годзе

Паводле ўспамінаў сучасьнікаў, Інбелкульт і іншыя дзяржаўныя ўстановы БССР, якія ў сярэдзіне 20-х гадоў займаліся адукацыяй, навукай і культурай, былі полем актыўных сутыкненьняў паміж прыхільнікамі беларускай і расейскай мовы і культуры. Там працавала шмат сакрэтных супрацоўнікаў ГПУ, якія дапільноўвалі вялікадзяржаўныя інтарэсы Масквы і займаліся актыўным процідзеяньнем беларускім дзеячам ва ўсіх галінах[399].

Напрыклад, ужо ў першыя гады працы Тэрміналягічнай камісіі і Інбелкульту, ГПУ актыўна ўмешвалася ў працу лексыкографаў: была канфіскаваная і загінула картатэка першага фундамэнтальнага слоўніка жывой беларускай мовы, такі самы лёс спасьціг і падрыхтаваны прафэсарам М. Азбукіным слоўнік геаграфічных назваў сьвету[400].

Змагалася ГПУ нават з асобнымі беларускімі словамі. Калі замест расейскага тэрміну «кісларод» навукоўцы Інбелкульту прапанавалі беларускія адпаведнікі «тлен» або «кісьлень», ГПУ ўмяшалася і загадала пакінуць «кіслярод»; тое самае адбылося

399 Тамсама. С. 97–111.
400 Тамсама. С. 101.

з тэрмінамі «шчолак» і «шчолакавы» — на загад уладаў складальнікі былі вымушаныя пакінуць у слоўніку галіновай тэрміналёгіі «шчолач» і «шчолачны»[401].

У жніўні 1925 году сакрэтным цыркулярам цэнзурнай структуры ГПУ — Галоўліту было забаронена традыцыйнае для Беларусі нэўтральнае слова «жыд» і загадана ва ўсіх выданьнях на беларускай мове ўжываць слова «яўрэй»[402].

Але вельмі актыўную ролю ў грамадзка-палітычным жыцьці БССР адыгрываў і малодшы брат АГПУ — Народны камісарыят унутраных справаў (НКВД паводле агульнапрынятай расейскай абрэвіятуры).

2 кастрычніка 1927 году Мікола Шчакаціхін выступіў у дзьвюхмоўнай тады «Звезде» з артыкулам «Ахова ці "ліквідацыя" помнікаў». Гісторыя наступных дзесяцігодзьдзяў паказала, што выдатны беларускі навуковец, аўтар славутых «Нарысаў з гісторыі беларускага мастацтва» дарэмна ўзяў у двукосьсе слова «ліквідацыя»:

«*Яшчэ ў пачатку 1925 году Полацкі аддзел камунальнае гаспадаркі вырашыў разабраць на цэглу будынкі б. Бельчыцкага манастыра ў Полацку, якія зьяўляюцца надзвычайна каштоўнымі помнікамі нашай старадаўняй архітэктуры XII сталецьця. Разбурэньне будынкаў адразу ж было распачата, але тут выйшаў маленькі канфуз: "спэцыялістыя" з полацкага камгасу, зразумела, ня ведалі, што*

401 Тамсама. С. 103.

402 Протько Т. Становление советской тоталитарной системы в Беларуси (1917–1941 гг.). С. 230.

*цэгла XII сталецьця па сваіх памерах і форме не дапасавана да сучасных норм і з гэтае прычыны для сучаснага будаўніцтва не падыходзіць; апроч таго, справай зацікавіліся мясцовае таварыства краязнаўства, а таксама Інстытут беларускае культуры, і зьнішчэньне помнікаў старасьветчыны было спынена*»[403].

«Разбор на цэглу» — гэта была афіцыйная прычына разбурэньня полацкім камгасам двух старажытных храмаў і прычына даволі дзіўная. Тут шмат пытаньняў.

Ці ня робіцца зразумелым кожнаму работніку-муляру пасьля некалькіх удараў ломам і адбіцьця некалькіх кавалкаў тынку, што плінфа XII стагодзьдзя адрозьніваецца ад цэглы XX стагодзьдзя? І ці трэба для таго, каб гэта зразумець, дашчэнту зносіць абодва цалкам захаваныя старажытныя храмы?

Ці не маглі ў факце разбурэньня бельчыцкіх храмаў праявіцца іншыя матывы — напрыклад, простае і ўпартае процідзеяньне «шавіністам», маўляў, «яны» ахоўваюць, а мы разбурым — з аднаго боку, і жаданьне праверыць рэальную сілу Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту і яе рэальны ўплыў на органы ўлады — з другога боку. Магчыма так, магчыма не.

У 1927 годзе Шчакаціхін ня мог напісаць адкрыта пра тое, што ведаў, бо жыў у тым часе і быў яго часткай — ён не чытаў сакрэтных справаздачаў ГПУ НКВД аб беларускіх шавіністах і нацыяналістах і ня бачыў сакрэтных рэзалюцыяў «подлежит высылке

403 Звезда. 2 кастрычніка 1927.

из пределов Белоруссии на восток»[404]. Іх чытаюць сёньняшнія гісторыкі.

Зрэшты, выдатны беларускі мастацтвазнавец, як мы ўжо ведаем, пакінуў у сваім артыкуле яскравае і недвухсэнсоўнае сьведчаньне пра тое, што ён ведаў нешта пра сапраўдныя прычыны наступу на Камісію аховы помнікаў і нежаданьня ўладаў помнікі культуры рэальна ахоўваць і захоўваць. Вось што можа стаяць за яго фразай «справа тут значна болей сур'ёзная»[405].

Пішучы «Полацкі аддзел камунальнае гаспадаркі», Мікола Шчакаціхін не дапісаў адну важную абрэвіятуру, якая сьведчыла пра ведамасную прыналежнасьць усіх «камгасаў» на тэрыторыі Савецкага Саюзу. Поўная назва гэтага ўладнага органу пісалася так: «Полацкі аддзел камунальнае гаспадаркі НКВД БССР». Вось жа, з 1917 па 1930 год аддзелы камунальнай гаспадаркі ў складзе мясцовых органаў улады былі структурнымі падразьдзяленьнямі НКВД.

Гэтую старую расейскую традыцыю бальшавікі пераянялі з царскіх часоў — у Расейскай імпэрыі, як вядома, найніжэйшым паліцэйскім чынам быў дворнік. Бальшавікі ўжо зь першых гадоў савецкай улады надавалі вялікае значэньне як пытаньням разьмеркаваньня наяўнага жыльлёвага фонду, так і кантролю за настроямі грамадзтва.

404 Гл.: Гесь А. Выслаць за межы Беларусі // Палітычныя рэпрэсіі на Беларусі ў XX стагоддзі: Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 27–28 лютага 1998 г.). Менск, 1998 — http://belwl.org/ru/activities/books/politicheskie_repressii/a_ges/data/tpl-ru_print/

405 Звезда. 2 кастрычніка 1927.

Так што высокі вусаты дзядзька ў ботах, які ў 20-х гадах з раніцы да вечара хадзіў па вуліцы Замкавай і яе ваколіцах, зазіраў у кожны двор і размаўляў з жыхарамі на ўсе магчымыя тэмы, быў ня проста старшынём менскага ЖАКТу №5 Лушчыкам, у тэрыторыю якога ўваходзіла Замкавая гара і ўвесь Стары горад. Ён быў штатным супрацоўнікам НКВД БССР і займаўся ня толькі рамонтам дамоў, але і кантролем за настроямі насельніцтва — мог, як згадвае ўраджэнец Замчышча А. Капілаў, і на допыт выклікаць:

«... *Ну и, конечно же, председателя жакта товарища Лущика. От него зависит многое в нашей жизни: пришлет техника, чтобы составить смету, — жди ремонтную бригаду, а может пригласить на неприятную беседу...*» [406]

У Беларусі, такім чынам, са сьнежня 1920 году да сьнежня 1930 году НКВД БССР ня толькі ажыцьцяўляў палітычны і крымінальны вышук. Калі ў 1917 годзе бальшавікі скасавалі Міністэрства ўнутраных справаў Расейскай імпэрыі і стварылі замест яго НКВД, яны захавалі за новай структурай функцыі старой, у тым ліку, нагляд за органамі мясцовай улады, пажарную ахову ды іншыя.

У першае дзесяцігодзьдзе існаваньня ў Беларусі саюзна-рэспубліканскага НКВД у яго функцыі, апрача вышуку, уваходзіла арганізацыя, падбор кадраў і кантроль за дзейнасьцю мясцовых Саветаў, кантроль за выкананьнем распараджэньняў цэнтральнай улады на месцах і кіраваньне камунальнай гаспадаркай. У 30-я гады НКВД пераняў

406 Капилов А. Замковая 2/7. С. 18.

кантроль над шасэйнымі дарогамі, транспартам, будаўніцтвам і многімі іншымі сфэрамі эканомікі — для ажыцьцяўленьня кожнай з гэтых функцыяў былі створаныя адпаведныя «галоўныя ўправы», «главки».

У канцы 1923 году Дзяржаўную палітычную ўправу (ГПУ, паводле расейскай абрэвіятуры) пастановай ЦВК СССР вылучылі са складу НКВД і ператварылі ў Аб'яднаную палітычную ўправу пры СНК СССР. У Беларусі гэты падзел рэальна адбыўся толькі ў 1924 годзе, але, несумненна, шчыльная сувязь і супрацоўніцтва паміж дзьвюма роднаснымі структурамі захавалася на працягу нядоўгіх шасьці гадоў разьяднаньня. Як захавалася і самапачуваньне супрацоўнікаў НКВД як рэальных гаспадароў краіны, яшчэ год-два да таго — падначаленых «жалезнага Фэлікса», яго вучняў і пасьлядоўнікаў, аб чым сьведчылі яго шматлікія партрэты ў кабінэтах ведамства.

Дзейнасьць НКВД у 20-я гады, у пэрыяд асобнага ад ГПУ існаваньня, зьяўляецца адной з найменш дасьледаваных старонак беларускай гісторыі. Таму тут дарэчы будзе падаць колькі фактаў аб месцы і ролі гэтага ўладнага органу ў структуры палітычнай улады БССР і яго ўдзеле ў вырашэньні важных палітычных спраў.

Найперш, гэта функцыя арганізацыі, падбору кадраў і кантроль за дзейнасьцю мясцовых Саветаў, а таксама кантроль за выкананьнем распараджэньняў цэнтральнай улады на месцах. Гэта выключна палітычная сфэра дзейнасьці НКВД. У афіцыйным лісьце наркама НКВД РСФСР Белабародава да наркама НКВД БССР Хацкевіча ў студзені 1926 году з запрашэньнем прыбыць на нараду наркамаў у

Маскву 10 лютага гэтая сфэра дзейнасьці НКВД вызначалася так:

«*Осуществление революционной законности в области административной деятельности*»[407].

Гэта азначае, што ўжо ў палове 20-х гадоў нягледзячы на разьдзяленьне з ГПУ менавіта НКВД ажыцьцяўляў кантроль за кадравай палітыкай савецкай улады. Натуральна, тады яшчэ ў супрацоўніцтве з партыйнымі органамі і пры кантакце з ГПУ. Пройдзе ўсяго некалькі гадоў, і ўжо аб'яднаны НКВД пачне кантраляваць і самі партыйныя кадры, іх падбор і расстаноўку. Але для нас тут важны сам статус НКВД у палове 20-х гадоў як у пэўнай ступені надуладнай структуры, самапачуваньне яго супрацоўнікаў як членаў пэўнай карнай касты, заснаванай Дзяржынскім.

Для ажыцьцяўленьня «революционной законности в области административной деятельности» ў складзе НКВД існавала так званая Адміністрацыйная камісія ЦВК і спэцыяльная адміністрацыйная ўправа са штатам інспэктараў[408].

А вось доказ непасрэднага ўдзелу НКВД БССР у прыняцьці чыста палітычных рашэньняў. 2 сакавіка 1927 году адбылося закрытае пасяджэньне бюро Менскага акруговага камітэту КП(б)Б з адным пытаньнем у парадку дня:

«*Аб перадачы кафэдральнага сабору ад старацаркоўнікаў новацаркоўнікам (т.т. Апанскі і Блізьнюк)*»[409].

Апанскі дакладаў ад ГПУ, Блізьнюк — ад НКВД. Пасьля абмеркаваньня была прынятая пастанова:

---

407 НАРБ, ф. 691, воп. 1, спр. 82, арк. 33.
408 http://www.memo.ru/HISTORY/NKVD/STRU/by_year.htm
409 ДАМн, ф. 12-п, воп. 1, спр. 421, арк. 8.

*«а) Згадзіцца з прапановамі ДПУ Бел. і НКУСпраў аб неабходнасьці перадачы кафэдральнага сабору новацаркоўнікам.*

*б) Паколькі работа па гэтай справе ўжо пачата Цэнтральнай камісіяй па аддзяленьні царквы ад Дзяржавы, адказнасьць за ўсю працу па перадачы ўскласьці на апошнюю, з прыцягненьнем адпаведных акруговых органаў»*[410].

Рашэньне падпісаў першы сакратар Менскага камітэту партыі Акулік. Як бачым, ГПУ і НКВД рабілі раўнацэнныя прапановы па гэтым выключна палітычным пытаньні.

У 1925–1926 гадах не існавала адзінага НКВД СССР. Фармальна наркаматы ўнутраных справаў РСФСР і БССР мелі роўныя правы як органы саюзных рэспублік. Рэальная сытуацыя, аднак, была іншаю. Функцыі Наркамату ўнутраных справаў СССР узяў на сябе НКВД РСФСР. Беларускі НКВД толькі выконваў загады з Масквы. Вось прыклады, якія для нас захавалі нешматлікія паперы Галоўнай управы камунальнай гаспадаркі НКВД БССР. Афіцыйныя дакумэнты і пастановы НКВД БССР практычна заўсёды капіявалі аналягічныя пастановы НКВД РСФСР. Вясной 1925 году зь беларускага НКВД у Маскву быў накіраваны гэткі ліст:

«*В Народный комиссариат внутренних дел РСФСР,*

*Главное управление коммунального хозяйства.*

*Управление коммунального хозяйства НКВД БССР просит выслать весь имеющийся матери-*

410 Тамсама.

*ал и новый проект о квартирной плате согласно опубликованного в Известиях ЦИК от 8/III-25 г. за №56 сообщения.*

*Настоящий материал необходим для ознакомления при составлении проекта постановления о квартирной плате по БССР*»[411].

Гэтую «ніжайшую» просьбу падпісалі аж тры чыноўнікі: начальнік Галоўкамгасу НКВД БССР Васкабойнікаў, загадчык жыльлёва-зямельнага аддзелу Галоўкамгасу Гальперын-Булатоўскі і сакратар Галоўкамгасу Гальдштэйн. Натуральна, што начальнік Галоўкамгасу НКВД РСФСР Земблюхцер тут жа адгукнуўся на іх просьбу.

А вось яшчэ больш красамоўныя архіўныя сьведчаньні. 16 сакавіка 1926 году ўжо згаданы таварыш Земблюхцер рассылае па ўсім Савецкім Саюзе Цыркуляр №155:

«*Всем органам коммунального хозяйства РСФСР, имеющим водопроводы*

*Копии: НКВД Союзных Республик и НКВД Автономных республик Р.С.Ф.С.Р.*

*Ввиду назревшей необходимости иметь подробные и точные сведения об оборудовании и состоянии водопроводов Республики, Главное Управление Коммунального Хозяйства НКВД РСФСР предлагает заполнить прилагаемую при сем анкету и в 10-ти дневный срок со дня получения отправить по указанному на анкете адресу. Заполнение анкеты надлежит поручить лицу наиболее знающему водопроводы*»[412].

---

411 НАРБ, ф. 691, воп. 1, спр. 61, арк. 10.
412 Тамсама, арк. 28.

Здавалася б, перад намі цыркуляр да ўладных органаў РСФСР, а саюзным рэспублікам дасылаюцца толькі копіі для азнаямленьня. Але — не. Вось які дакумэнт захоўваецца ў гэтай архіўнай справе далей:

«*Минскому, Могилевскому, Витебскому, Мозырскому окркоммунотделам и Горецкому райкоммунотделу.*

*Настоящим предлагается заполнить и в срочном порядке прислать в УКХ НКВД Бел. прилагаемую при сем анкету в 2-х экз. о городских водопроводах, которую через Белгосплан затребовало Постоянное Бюро Всесоюзных Водопроводных и Санитарно-Технических Съездов при ГУКХ НКВД РСФСР*»[413].

Гэты ліст 7 красавіка 1926 году па Беларусі разаслаў часовы выканаўца абавязкаў начальніка Галоўкамгасу Беларусі Новік. Тут ужо гаворка ідзе аб выкананьні маскоўскага загаду ў «тэрміновым парадку» — аказваецца НКВД РСФСР можа «затребовать» ад уладных органаў БССР любую справаздачу.

І, нарэшце, праз невялікі час іншы выканаўца абавязкаў начальніка Галоўкамгасу БССР — Стэкель — дасылае ў НКВД РСФСР пакет запоўненых анкетаў, далучыўшы да яго наступны суправаджальны ліст:

«*В Народный комиссариат внутренних дел РСФСР (Статистическое Бюро)*

*гор. Москва Ильинка 21 а.*

*При сем препровождаются анкетные заполнения по оборудованию водопроводов в городах Белоруссии,*

---

413 Тамсама, арк. 29.

*а именно: в г. Минске, Могилеве, Витебске, Мозыре и Горках*»[414].

Такімі былі дачыненьні наркаматаў унутраных справаў РСФСР і БССР і іх управаў камунальнай гаспадаркі ў 20-я гады. Гэтая мадэль і герархічны парадак датрымліваліся няўхільна. Аб ніякай самастойнасьці ў прыняцьці рашэньняў і мовы быць не магло.

«Камунальнікі» НКВД у 1925 годзе былі амаль ваенізаванай структурай — яны хадзілі па горадзе ў «кожанках» і партупеях і зносіліся з начальствам выключна з дапамогай рапартаў. Такія формы цывільнага справаводзтва, як справаздача або дакладная запіска (калі меркаваць па нешматлікіх захаваных архівах камгасу), былі ім абсалютна невядомыя. Любую, нават самую дробную і нязначную справу яны вырашалі, як сапраўдныя вайскоўцы — праз падачу рапарту непасрэднаму начальніку (камандзіру).

Напрыклад, 6 лістапада 1925 году загадчык дарожнага пададдзелу менскага камгасу НКВД І. Даўдыш накіраваў да загадчыка камгасу рапарт з просьбай не пераводзіць адну зь яго супрацоўніц у іншы пададдзел, бо яна, маўляў, добра абазналася з працай і ведае ўсіх супрацоўнікаў:

«*...Ходатайствую об оставлении тов. Розенталь в Дорожном п/отделе*»[415].

Архіўныя справы поўняцца такім рапартамі.

Да нашых дзён архіўныя справы трэцяга вопісу 354-га фонду Дзяржаўнага архіву Менскай вобласьці, дзе захоўваюцца асабістыя справы супрацоўнікаў менскага гарадзкога камгасу 1920-х

414 Тамсама, арк. 30.
415 ДАМн, ф. 1315, воп. 1, спр. 12, арк. 7.

гадоў, называюцца «Документы по личному составу». «Личный состав», як вядома, гэта тэрмін з арсэналу вайскоўцаў, усе астатнія ўстановы сваіх супрацоўнікаў называюць «штатам», «кадрамі» і да т. п. Супрацоўнікі камгасу НКВД мелі спэцыфічнае самапачуваньне прыналежнасьці да карнага, ахоўнага органу. І вырастала яно ня толькі з гісторыі ведамства — з часоў супольнага існаваньня ў адной структуры з ЧК-ГПУ, але і з сучаснасьці. Камгас, напрыклад, шчыльна супрацоўнічаў зь міліцыяй — таксама часткай НКВД. Вось характэрны прыклад.

У траўні 1925 году ў Менску праводзіўся VII Усебеларускі зьезд Саветаў. 3 траўня прэзыдыюм ЦВК БССР разглядаў арганізацыйныя пытаньні, зьвязаныя з правядзеньнем зьезду. У пастанове запісалі:

«*8 п. в) Комендантом Съезда назначить т. Кроля (Нач. Глав. Милиции).*

*8 п. г) Руководителем по Дому культуры во время заседаний Съезда назначить тов. Воскобойникова (Нач. Главкомхоза)*»[416].

Як бачым, камгасаўцы былі «гаспадарнікамі ў партупеях», якія разам зь міліцыяй забясьпечвалі правядзеньне важных дзяржаўных мерапрыемстваў.

Часам камгас выступаў з ініцыятывамі фіскальна-палітычнага характару, якія адпавядалі інтарэсам міліцыі і ГПУ і былі распрацаваныя разам зь імі.

Такой ініцыятывай, стала, напрыклад, прапанова аб завядзеньні ў Менску ўліковых дошак пры дамах і пад'ездах. У студзені 1925 году прэзыдыюм Менскага акруговага выканкаму заслухаў унесены камгасам НКВД праект абавязковай пастановы

416 НАРБ, ф. 6, воп. 1, спр. 354, арк. 4.

*«О введении при домах в гор. Минске специальных учетных досок, указывающих проживающих в этих домах жильцов»*

і вырашыў:

«*Указанный проект утвердить и издать обязательное постановление по гор. Минску*»[417].

І яшчэ адна рыса, што яскрава характарызуе месца, ролю і самапачуваньне супрацоўнікаў камгасу НКВД у тыя гады — шырокае выкарыстаньне працы вязьняў. 27 жніўня 1925 году Бюро ЦК КП(б)Б вызваліла Васкабойнікава ад абавязкаў начальніка Галоўнай управы камунальнай гаспадаркі НКВД (ён узначаліў Белкамунбанк) і прызначыла на яго месца Генрыха Рубінштэйна[418]. І вось якраз архівы захавалі дакумэнты аб сварках Рубінштэйна з начальнікам Управы месцаў зьняволеньня НКВД БССР Якубчыкам. Камгас, як і належыцца структуры НКВД, выкарыстоўваў працу вязьняў, а Якубчык не заўсёды іх даваў. 2 лістапада 1926 году Рубінштэйн скардзіўся наркаму ўнутраных справаў БССР Сташэўскаму:

*«Згодна Вашага загаду Кіраўніцтва месцамі зьняволеньня павінна было накіраваць у Кіраўніцтва Камунальнай Гаспадаркі двух зьняволеных для скарыстаньня іх у дзелаводзтве, але да гэтага часу яны не прысланы, і толькі ўчора т. Якубчык заявіў, што ў яго веданьні гэтакіх зьняволеных няма»*[419].

У адказ наркам, натуральна, даваў разнос Якубчыку, які раней яму асабіста абяцаў даць у распараджэньне камгасу чарговых вязьняў.

417 НАРБ, ф. 6, воп. 1, спр. 540, арк. 31.
418 НАРБ, ф. 4-п, воп. 1, спр. 2003, арк. 141.
419 НАРБ, ф. 691, воп. 1, спр. 82, арк. 332.

Вось з такім уладным органам сутыкнулася Камісія аховы помнікаў Інбелкульту ў сваім клопаце захаваць помнікі Менску і Полацку.

У 1930 годзе ГПУ і НКВД зноў узьяднալі, што толькі пацьвердзіла іх шчыльную лучнасьць у гады «вымушанага разьдзяленьня». Так што, запатрабаваўшы суду над полацкім камгасам, Камісія аховы помнікаў Інбелкульту запатрабавала суду над адным з аддзелаў НКВД. Гэтага ёй дазволіць не маглі. І не дазволілі. Як не дазволілі захаваць і старасьвецкае аблічча старога эўрапейскага Менску.

Паралельна з барацьбой беларускіх нацыянальных дзеячоў за захаваньне і рэстаўрацыю помнікаў даўніны з патрабаваньнем судзіць вінаватых у іх пашкоджаньні камгас НКВД у 1925 годзе пачаў плянаваць сацыялістычную рэканструкцыю Менску. Пры выкананьні гэтых грандыёзных плянаў не засталося месца ня толькі рэстаўрацыі старых менскіх будынкаў, але і самому Старому гораду і Замкавай гары. А ў гэтых плянаў былі канкрэтныя ініцыятары, аўтары і выканаўцы, пра якіх тут і вядзецца гаворка.

## Загадкавыя архівы камгасу

Тут надышла чарга неабходнага адступленьня ад нашага асноўнага аповеду. Але насамрэч гэтае кароткае адхіленьне зьяўляецца ўсё ж неад'емнай часткай гісторыі, пра якую тут вядзецца гаворка. Таксама яно тлумачыць, чаму гісторыку для таго, каб расказаць пра апісаныя тут падзеі, замест клясычнай працы ў архівах з патрэбнымі дакумэнтамі

трэба займацца фактычна архіўна-дакумэнтальнай археалёгіяй, каб сабраць цудам захаваныя драбкі інфармацыі і на падставе іх пастарацца рэканструяваць гістарычныя падзеі.

У Дзяржаўным архіве Менскай вобласьці захаваліся некаторыя паперы перадваеннага і пасьляваеннага камгасаў. Засяроджаныя яны ў двух фондах. Фонд №1315 называецца «Коммунальный отдел Минского окружного исполнительного комитета Совета рабочих, крестьянских и красноармейских депутатов. 1924–1927». Другі фонд — №354 — мае загаловак «Отдел коммунального хозяйства исполнительного комитета Минского городского Совета рабочих, крестьянских и красноармейских депутатов». У гэтым другім фондзе ўтрымліваюцца як даваенныя, так і пасьляваенныя паперы.

Адносна сярэдзіны 20-х гадоў падзел архіўных справаў на акруговыя і гарадзкія ня мае сэнсу, бо тады не існавала падзелу паміж менскімі акруговымі і гарадзкімі ўладамі. Савет дэпутатаў абіраўся ў Менску і называўся гарсаветам, але яго выканкам зваўся акруговым і кіраваў і горадам, і ўсёй акругай. У выніку акруговыя чыноўнікі мелі як бы падвойныя пасады і тытулы. Згаданы вышэй старшыня Камунальнай сэкцыі гарсавету П. Вольскі быў таксама і начальнікам акруговага камгасу НКВД. Намесьнік старшыні гарсавету М. Рабіновіч быў і намесьнікам старшыні Менскага акруговага выканкаму. І, адпаведна, старшыня гарсавету С. Яцкевіч зьяўляўся ў сапраўднасьці старшынём (выкарыстаем тагачасны тэрмін) Менакрвыканкаму.

Адпаведна, акруговы камгас быў адначасова і менскім гарадзкім. Рашэньне падзяліць аддзел камуналь-

ней гаспадаркі на акруговы і гарадзкі было прынята выканкамам Менскай акругі 20 ліпеня 1926 году:

*«Даручыць Акрплянкамісіі ў двухтыднёвы тэрмін прадставіць праект, узгоднены з галоўкамгасам... аб арганізацыі Аддзелу камгаспадаркі пры гарсавеце і Акруговага аддзелу мясцовай гаспадаркі, разьмежаваўшы функцыі паміж Гар. ад. камгаса і Акр. ад. мясц. гаспад., адначасова распрацаваць штаты гэтых аддзелаў»*[420].

Справа з падзелам, аднак, зацягнулася, і рэальна ён адбыўся ў 1927 годзе.

Што ж за паперы захоўваюцца ў гэтых двух фондах камунальнікаў НКВД?

Пагаворым спачатку пра даваенны пэрыяд. У фондзе акруговага камгасу (№1315) захоўваецца ўсяго 55 справаў — вопіс фонду зьмяшчаецца на 5 аркушах. Больш за 90% дакумэнтаў у гэтых 55 справах — паперы па дарожным будаўніцтве ў Менскай акрузе, прычым 47 справаў утрымліваюць толькі каштарысы аб рамонце таго або іншага сельскага тракту, а астатнія — перапіску з акруговым выканкамам па дарожным будаўніцтве, ведамасьці і «вопісы выканаўчых прац».

Фонд №354 значна багацейшы — больш за тысячу справаў. Першы, другі і трэці вопісы гэтага фонду ўтрымліваюць дакумэнты за 1918–1937 гады. Але і тут дасьледчыка падзеяў 1925–1926 гадоў вакол Старога гораду ў Менску будзе чакаць вялікае расчараваньне. Дакумэнты ад 1918-га да 1925 году сабраныя ў 141 справу першага вопісу і па гадах разьмяркоўваюцца наступным чынам:

420 ДАМн, ф. 284, воп. 1, спр. 17, арк. 2.

1918 год — справы 1–5
1919 год — справы 6–9
1920 год — справы 10–45
1921 год — справы 46–97
1922 год — справы 98–125
1923 год — справы 126–135
1924 год — справы 136–139
1925 год — справы 140–141

Далей у фондзе толькі справы 1937 году. Як бачым, па меры набліжэньня да 1925 году — ключавога году нашага аповеду, колькасьць справаў меншае. Калі ў 1921–1922 гадах справаў па некалькі дзясяткаў, то ў 1923-м іх ужо адзін дзясятак. У 1924 годзе — усяго тры справы, а ў 1925-м — дзьве. Справа №140 1925 году называецца «Смета расходов по дорожному строительству и производственный план работ в округе на 1925–26 гг.», а справа №141 таго самага году ўтрымлівае некалькі паперак зь перапіскай гарсавету і Белдзяржмузэю.

Знаходжаньне апошняй справы ў фондзе камгасу НКВД можа тлумачыцца тым, што ў ёй гаворка ідзе пра спробу стварэньня музэю Старога Менску, якую ініцыявалі, як памятаем, некалькі дэпутатаў — членаў Камунальнай сэкцыі гарсавету. Магчыма, музэй Старога Менску не ўдалося адкрыць менавіта таму, што гэтыя паперы засталіся ў архіве камгасу і ня трапілі на разгляд прэзыдыюму акругавага выканкаму — ім проста ня даў ходу П. Вольскі, які кіраваў і Камунальнай сэкцыяй гарсавету, і камгасам НКВД. У такім выпадку перад намі — архіўна-дакумэнтальнае пацьверджаньне ўдзелу камгасу НКВД у ідэалягічнай барацьбе зь «беларускімі шавіністамі».

Зразумела, што ніякіх згадак пра рэстаўрацыю Старога гораду і Замчышча і пляны сацыялістычнай рэканструкцыі Менску ў захаваных паперах гаспадарнікаў НКВД знайсьці немагчыма — іх там папросту няма. Дзіўная выбарачная камплектнасьць фондаў камгасу пачатку і сярэдзіны 20-х гадоў. Пра тое ж, калі і куды зьніклі архіўныя паперы за іншыя гады, можна меркаваць, абапіраючыся на захады новай савецкай улады адносна архіўнага фонду краіны.

Ад жніўня 1919 году на ўсёй тэрыторыі будучага СССР, у тым ліку ў БССР (ад 1920 году) і РСФСР, адбывалася дзейства, якое ў гістарычнай літаратуры атрымала назву «макулятурныя кампаніі». Пад гэтым тэрмінам хаваецца масавая здача архіўных дакумэнтаў у макулятуру для патрэб савецкай папяровай прамысловасьці. У гэта цяжка паверыць, але аб'ём здадзеных у макулятуру архіўных дакумэнтаў на працягу 20–30 гадоў XX стагодзьдзя дасягае многіх дзясяткаў мільёнаў тон.

Спачатку лік «архіўнай макулятуры» ішоў на пуды, а пасьля пераходу на мэтрычную сыстэму ў 1925 годзе — на тоны. Ужо ў 1920–1923 гадах з архіваў Віцебскай губэрні было здадзена на перапрацоўку 2687 пудоў «архіўнай паперы», а з архіваў Магілёўскай губэрні за 1919–1923 гады — 8357 пудоў[421].

У траўні 1923 году Савет народнай гаспадаркі БССР зьвярнуўся ў Цэнтрархіў БССР з запытам аб продажы «архіўнай паперы» для патрэб мясцовай прамысловасьці. Загадчык Цэнтрархіву З. Жылу-

421 Гужалоўскі А. Чырвоны аловак. Нарысы з гісторыі цэнзуры ў БССР. Кн. 1. 1919–1941 гг. Менск, 2012. С. 229.

новіч (Цішка Гартны) у адказ паабяцаў адабраць некалькі тысяч пудоў, і справа пачалася: у ліпені 1923 году на адрас Савету народнай гаспадаркі адгрузілі 227 пудоў архіўных дакумэнтаў, у жніўні — 128, у верасьні — 75, у кастрычніку — 200, у лістападзе — 260, у сьнежні — 167 пудоў[422].

У тым самым 1923 годзе Цэнтрархіў БССР перадаў тысячы пудоў архіўных дакумэнтаў розным гаспадарчым арганізацыям непасрэдна. У наступныя гады рэгулярныя здачы архіўных дакумэнтаў працягваліся з нарастаньнем аб'ёму. Пад нож пайшлі дарэвалюцыйныя паперы Менскага і Віцебскага губэрнскіх праўленьняў, Менскай кантрольнай палаты, пракурорскага нагляду, Таварыства ўзаемнага крэдытаваньня землеўласьнікаў, Менскай духоўнай кансысторыі, Менскай казённай палаты, Менскай паштова-тэлеграфнай канторы і многіх іншых установаў[423].

Але неўзабаве справа дайшла і да дакумэнтаў ужо савецкага пэрыяду. Пачатак зьнішчэньня савецкіх дакумэнтаў дзіўным чынам сынхранізуецца з разгромам беларусізацыі ў 1929 годзе. Новы этап нарыхтоўкі макулятуры ў архівах БССР пачаўся пасьля дзьвюх пастановаў. Першую прыняла Эканамічная нарада пры СНК БССР 1 лютага 1930 году, другую — Савет працы і абароны 27 сакавіка 1931 году[424].

І вось ужо ў красавіку 1930 году ў ліку прапанаваных Цэнтральным архіўным кіраўніцтвам БССР

422 Тамсама. С. 230.
423 Тамсама.
424 Тамсама. С. 232.

да здачы ў макулятуру мы бачым архівы Чашніцкага райвыканкаму (1924–1928), Белдзяржснабзбыту (1922–1929), Белкаапсаюзу (1924–1930) і інш.[425]

Як піша беларускі гісторык Аляксандар Гужалоўскі, які спэцыяльна займаўся тэмай зьнішчэньня архіўных дакумэнтаў, наяўныя крыніцы толькі часткова дазваляюць высьветліць, якія менавіта дакумэнты былі здадзеныя на макулятуру[426]. Каб праілюстраваць маштаб стратаў, гісторык прыводзіць лічбы па РСФСР. Там, паводле стану на 1933 год, дзяржаўныя архівы здалі на макулятуру 28 мільёнаў тон архіўных справаў[427].

Фонды камгасу НКВД з усімі рашэньнямі аб складаньні плянаў рэканструкцыі Менску ў 1925–1926 гадах, аплаце працы архітэктараў, іх праектамі і прапановамі, заключанымі дамовамі, пратаколамі праведзеных нарадаў і самі зацьверджаныя пляны таксама маглі трапіць пад нож падчас макулятурных кампаній.

Іншае пытаньне, ці было гэта зроблена наўмысна. Непасрэдных доказаў сьвядомага зьнішчэньня важных архіўных фондаў пакуль ня знойдзена. Але кожны гісторык, які працуе ў беларускіх архівах з дакумэнтамі савецкага часу (у тым ліку і аўтар гэтых радкоў), ня можа пазбыцца ад навязьлівага ўражаньня, што пэўныя архіўныя справы і фонды прарэджаныя наўмысна і сьвядома.

Выказвае такія самыя думкі і прафэсар Аляксандар Гужалоўскі. Ён прызнае факт зьнішчэньня

425 Тамсама. С. 236.
426 Тамсама.
427 Тамсама. С. 239.

архіўных дакумэнтаў «па палітыка-ідэалягічных матывах», нават называе гэта даўняй традыцыяй на беларускіх землях, і робіць выснову, што ў 1920–30 гг.

«*у выбары дзяржаўнага архіўнага фонду ў якасьці сыравіны для папяровай прамысловасьці праглядалася нешта больш злавеснае, а менавіта імкненьне маніпуліраваць гістарычнымі першакрыніцамі, дакумэнтамі з мэтай прымусіць дасьледчыкаў, а праз іх — шырокае грамадзтва рабіць патрэбныя ўладзе высновы пра сваё гістарычнае мінулае*»[428].

Але макулятурнымі кампаніямі 20–30 гадоў XX стагодзьдзя справа зьнішчэньня савецкага архіўнага фонду не абмяжоўваецца. Зьнішчаліся архівы і адразу пасьля нападу фашыстоўскай Нямеччыны на СССР у чэрвені 1941 году, каб не пакідаць тое, што не пасьпелі вывезьці, ворагу.

З адпаведных публікацый архівазнаўцаў вядома, што НКВД СССР (у склад якога беларускія архівы ўвайшлі ў 1938 годзе і заставаліся там да 1960 году) перад прыходам немцаў зьнішчаў архіўныя дакумэнты, і сярод іх — архівы камунальных аддзелаў НКВД[429]. Вось як адзін з гісторыкаў апісвае тыя падзеі ў Стаўрапольскім краі:

«*Следует особо отметить, что большой урон архивному фонду края был нанесен еще до оккупации территории края, когда документы уничтожались из опасения использования их немецкими войсками*

428 Тамсама. С. 227, 239

429 Белоконь В.В. К проблеме создания каталога архивных документов и фондов, утраченных на Ставрополье в годы Великой Отечественной Войны 1941–1945 гг. — Гл.: http://www.rusarchives.ru/state/stavr_kr/belokon.shtml

*и властями. Например, известно, что представителями местных органов НКВД было сожжено огромное количество документов государственных архивов Черкесской автономной области, Кизлярского округа, районных и городских архивов. С санкции начальника милиции Карачаевской области были уничтожены все остававшиеся в Микоян-Шахаре документы областного архива. Большая часть документов ведомственных архивов края также была сожжена. Так, перед вступлением немецких войск уничтожили все документы Ставропольского горстройтреста, горземлесхоза, частично сожжены материалы ВНИИОКа, крайсельхозснаба, крайпроекта и др. Заметим, что уничтожались документы либо непосредственно представителями местных органов НКВД, милиции, либо по их требованию или с их согласия*»[430].

Але гаворка тут ідзе аб тым пэрыядзе вайны і аб тых тэрыторыях СССР, дзе супрацоўнікі НКВД мелі час на зьнішчэньне архіваў. У Менску такога часу ў іх не было — нямецкі наступ адбываўся занадта хутка.

Супрацоўнікі беларускіх архіваў зь цяжкасьцю прыгадваюць толькі адно неапублікаванае сьведчаньне архіўнага супрацоўніка з Магілёва, які расказваў пра зьнішчэньне нейкіх фондаў абласнога архіву перад прыходам немцаў. Таксама зь неапублікаваных сьведчаньняў беларускіх архівістаў вядома, што перад прыходам немцаў у Менску пасьпелі часткова спаліць архівы некаторых дзяржаўных установаў. Адносна ж менскіх архіўных

430 Тамсама.

збораў як такіх адназначна сьцьвярджаецца, што нічога не зьнішчалася.

У кожным выпадку ў архівах камгасу сёньня адсутнічаюць менавіта фонды за 1926–1937 гады, а паперы за 1924–1925 — прарэджаныя да такой ступені, што таксама могуць лічыцца страчанымі. Гэта менавіта тыя гады (1925, 1926 і наступныя гады), калі маглі быць прынятыя ўсе згубныя рашэньні адносна гістарычнай часткі Менску — Замчышча і Старога гораду.

І яшчэ адзін варыянт адказу на пытаньне, калі і куды зьніклі паперы камгасу НКВД — ліквідацыя гэтых фондаў пасьля вайны. У прадмове да фонду №354 загадчыца аддзелу абласнога архіву Н. Быкава ў 1983 годзе пісала, што ў 1951 і 1967 гадах праводзілася экспэртыза каштоўнасьці дакумэнтаў фонду. Прызнаныя «утратившими ценность» дакумэнты былі зьнішчаныя.

У 1951 годзе, падчас правядзеньня першай экспэртызы, Менскі абласны архіў, як і ўсе астатнія, яшчэ ўваходзіў у склад НКВД. Зь дзевяці вопісаў фонду восем утрымлівалі даваенныя дакумэнты, а дзявяты — паваенныя. Пасьля правядзеньня экспэртызаў даваенны корпус дакумэнтаў быў прарэджаны і зьменшаны настолькі, што неабходнасьць аб'ядноўваць яго ў восем вопісаў адпала сама сабой. Бюракратычная машына працавала паволі, і фонд унесьлі ў «план усовершенствования» на 1978 год. У выніку было складзена ўсяго тры вопісы даваеннай часткі фонду з васьмі ранейшых — першы, другі і трэці.

Першы вопіс з 141 справай ужо апісаны вышэй. У другі вопіс унесьлі 448 справаў — гэта так званыя

«документы о домовладениях», папросту кажучы, паперы на права валоданьня тым або іншым домам у Менску. Гэтыя дакумэнты маюць выключна бытавое і маёмаснае значэньне, напрыклад, для выпадкаў спадкаваньня. І, нарэшце, трэці вопіс зьмяшчае 340 асабістых справаў супрацоўнікаў менскага камгасу НКВД — варта падкрэсьліць, што асабістых справаў фігурантаў нашага аповеду, напрыклад, загадчыка менскага камгасу П. Вольскага — у фондзе няма. Там пераважна справы сакратарак, сьлесараў, інжынэраў і вартаўнікоў.

Але, у які б час самыя важныя паперы ні былі зьнішчаныя — да вайны, перад прыходам немцаў ці пасьля вайны, падчас «усовершенствования» — выбар папераў для зьнішчэньня, сама тэндэнцыя — вельмі яскравыя і красамоўныя.

Але і гэта яшчэ ня ўсе загадкі.

Пасьляваенныя паперы фонду №354 пасьля «усовершенствования» засталіся сабраныя ў дзявятым вопісе. І якраз тут нас сустракаюць яшчэ большыя загадкі. Вопіс мае загаловак «Управление коммунального хозяйства и благоустройства Мингорисполкома. 1944–1973». Такія часавыя рамкі тлумачацца тым, што ў 1944 годзе Аддзел камунальнай гаспадаркі гарсавету пачаў функцыянаваць пасьля вяртаньня савецкай улады ў Менск, а ў 1973 годзе ўжо Ўправа камунальнай гаспадаркі і добраўпарадкаваньня была ліквідаваная рашэньнем Менгарвыканкаму ад 4 верасьня 1973 году, а яе функцыі былі перададзеныя Ўправе дарожна-маставога будаўніцтва і добраўпарадкаваньня.

Што ж сустракае гісторыка, які пачынае працу зь дзявятым вопісам фонду №354 і які шукае зьвест-

кі пра зносы і разбурэньні ў гістарычнай частцы Менску адразу пасьля вайны і ў наступныя гады? Гісторыка сустракаюць (уявіце сабе) шматлікія штампы «Выбыло» насупраць самых важных архіўных справаў.

Пачынаецца гэта ў 1944 годзе. Штамп «Выбыло» стаіць насупраць двух ключавых і самых важных для дасьледчыка гісторыі менскай архітэктуры справаў. Гэта «Приказы по отделу. 22.VI.44 — 6.II.45» і «Приказы по отделу. 11.VIII.44 — 13.XII.44». Гэта азначае, што ў архіве адсутнічаюць дакумэнты якраз за ключавыя месяцы 1944 году, калі ў Старым горадзе і на Замчышчы ўжо пачыналі грымець сапёрныя выбухі і зьнікалі рэшткі самай старой менскай забудовы. Хто, калі і чаму аддаваў загады на зносы — усё гэта з архіву «выбыло».

Такая самая сытуацыя паўтараецца і ў наступныя гады. І ў 1945-м, 1946-м і ў далейшых гадах насупраць ключавых справаў — загадаў па аддзеле, а пасьля па Ўправе камунальнай гаспадаркі Менгарвыканкаму — стаіць штамп «Выбыло». У канцы вопісу знаходзіцца запіс аб тым, што

«*Дела №№...* (тут ідуць нумары 33 справаў ад 1944 да 1965 году з нумарамі ад 1-га да 379-га — С. А.) *переданы управлению по акту от 2.11.78 г.*»[431]

Аднак, штамп «Выбыло» мы знаходзім і насупраць далейшых загадаў па Ўправе камунальнай гаспадаркі за 1966–1971 гады, г. зн. насупраць яшчэ шасьці справаў. На апошнім аркушы дзявятага вопісу знаходзіцца дадатковы запіс пра гэтую шасьцёрку:

431 ДАМн, ф. 354, воп. 9, арк. 27.

*«Дела №№398, 401, 405, 411, 420, 431 — в архив не поступали»*[432].

Тут цэлы шэраг загадак:

- што за «управление», якому справы былі перададзеныя паводле акту ад 2 лістапада 1978 году,

- чаму яны гэтай установе спатрэбіліся — асабліва тыя зь іх, што адносяцца да дакумэнтаў 34-гадовай даўніны,

- чаму ў вопіс былі ўнесеныя шэсьць справаў за 1965–1971 гады, якія ў архіў нават не паступалі,

- чаму з фонду былі забраныя менавіта загады начальнікаў, зь якіх толькі і можна зразумець, чым Аддзел камунальнай гаспадаркі займаўся,

- і чаму, нарэшце, загады начальніка па ўправе за 1972 і 1973 гады ў архіве засталіся і не спатрэбіліся загадкавай установе пад назвай «управление»?

Усе гэтыя пытаньні аўтар кнігі, натуральна, задаў супрацоўнікам архіву і, натуральна, не атрымаў на іх уцямных адказаў. Адна супрацоўніца доўга хадзіла па аддзелах архіву, пытаючыся, якому ж «управлению» былі перададзеныя справы, і прынесла ўпэўнены адказ — «Управлению коммунального хозяйства Мингорисполкома». Тым часам, як мы ўжо ведаем, гэтая ўстанова была ліквідаваная ў 1973 годзе, а акт аб перадачы быў складзены 2 лістапада 1978-га. Дарэчы, у вопісе захаваўся і запіс аб тым, што сама перадача адбылася 21 лістапада 1978 году. А нават калі б управа і існавала ў 1978 годзе, то навошта ёй спатрэбіліся дакумэнты 34-гадовай даўніны?

Пра справы 1966–1971 гадоў, якія ў архіў не паступалі, архіўніца сказала, што так запісана таму,

432 Тамсама, арк. 27 аб.

што вопіс складаўся не ў архіве, але ў самой Управе камунальнай гаспадаркі Менгарвыканкаму, таму іх і не здавалі. Невядома, чаму супрацоўніца архіву дала такі адказ, але затое вядома, што дзявяты вопіс фонду №354 — так званы, удасканалены. «Удасканалены» — гэта прафэсійны тэрмін архівістаў, які азначае, што вопіс канчатковы, складзены з магчымых ведамасных вопісаў і абавязкова створаны ў архіве яго супрацоўнікам. Супрацоўніца архіву, якая казала, што дзявяты вопіс складаўся ў Менгарвыканкаме, не прачытала на абароце 27-га аркуша вопісу наступную фразу:

«*Опись составлена ст. н. сот. хозрасчетного отдела Госархива Минской области О. Бринкевич*»[433].

Нават калі архіў зарабляў грошы і накіроўваў сваіх супрацоўнікаў ва ўстановы для ўпарадкаваньня фондаў, дык і ў гэтым выпадку ўдасканаленыя вопісы складаліся ўжо ў самім архіве, аб чым і сьведчыць вышэйпрыведзены запіс. У савецкія часы ўстановы звычайна здавалі свае паперы ў архівы раз на год, радзей — раз на два-тры гады, і вось вопісы за тыя кавалкі часу маглі быць складзеныя ў саміх управах гарвыканкаму. Але гэта, зразумела, не датычыцца нашага выпадку.

Застаецца зьвярнуць увагу чытача, што ў лістападзе 1978 году некаму вельмі спатрэбіліся загады начальніка менскага камгасу за 1944–1971 гады. А гэта (увага) часавыя рамкі зьнішчэньня Старога гораду ў Менску. Летам 1944 году зносы пачаліся на Нізкім і Рыбным рынках, працягнуліся ў 1945-м, другой палове 40-х гадоў і ў 1950-я гады

433 Тамсама.

на Замчышчы, у палове 1960-х была канчаткова зьнішчаная забудова Замчышча і вуліц Гандлёвай і Гандлёва-Набярэжнай, а ў 1970–1971 гадах — зьнесеная Няміга. Загады начальніка менскага камгасу (г. зн. хто, калі, каму і што загадваў) у архіве Менскай вобласьці канфіскаваныя.

Аб тым, што загадкавае «управление» цікавілі менавіта гэтыя часавыя рамкі, найбольш яскрава і доказна сьведчыць той неверагодны факт, што загады начальніка Ўправы камунальнай гаспадаркі і добраўпарадкаваньня Менгарвыканкаму за 1972 і 1973 гады — гэта значыць за час, калі апошняя з вуліц Старога гораду, Няміга, ужо была зьнесеная — у архіве Менскай вобласьці засталіся і сёньня даступныя дасьледнікам. Але там можна знайсьці толькі імя нейкага М. Л. Кацнэльсона — інжынэра тэхнагляду, якога 10 сакавіка 1972 году прызначылі адказным за азеляненьне і пракладаньне ходнікаў па ўжо новай шырокай Нямізе на ўчастку «от Парковой магистрали до улицы К. Цеткин»[434], а таксама даведацца, што 27 чэрвеня 1973 году на Нямізе было 28 «светоточек» і ўсе яны былі ў працоўным стане («Не горело — 0»)[435].

Апошні штрых да цёмнай энкавэдэшнай мінуласьці фонду №354 Дзяржаўнага архіву Менскай вобласьці ўтрымліваецца ў наступнай фразе прадмовы да вопісу:

«*Дата первоначального приема фонда в архив неизвестна*»[436].

434 ДАМн, ф. 354, воп. 9, спр. 443, арк. 34.
435 ДАМн, ф. 354, воп. 9, спр. 454, арк. 62.
436 ДАМн, ф. 354, воп. 9, арк. 2.

Міжволі прыгадваецца беларускі гісторык і шматгадовы супрацоўнік Нацыянальнага архіву Рэспублікі Беларусь Віталь Скалабан (1947–2011), які любіў прыгаворваць, што «нішто так ня хлусіць, як архіўны дакумэнт».

## Адказ НКВД абаронцам Старога гораду ў Менску

Адказ НКВД абаронцам менскай даўніны быў хуткі, рашучы і фатальны для Старога гораду. Ігнаруючы клопат дзеячоў Інбелкульту аб Замчышчы і Старым горадзе на Нямізе, камгас НКВД пачаў распрацоўку плянаў сацыялістычнай рэканструкцыі Менску, якія прадугледжвалі зьнішчэньне самай старой часткі сталіцы Беларусі.

З прычыны поўнай адсутнасьці архіваў камгасу НКВД за другую палову 1920-х і большую частку 1930-х гадоў, а таксама адсутнасьці архіваў Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту пачынаючы з другой паловы 1925 году цяжка прасачыць увесь фармальна-дакумэнтальны мэханізм гэтага адказу[437]. Але не падлягае сумневу той факт, што гэта адбылося ва ўмовах вострага ідэалягічнага процістаяньня 1925–1926 гадоў, калі нягледзячы на адносную свабоду часоў НЭПу АГПУ па Заходнім краі і ЦК КП(б)Б, як мы бачылі, ужо

437 Ён тут апісаны пры дапамозе франтальнага аналізу вялікага масіву захаваных архіўных дакумэнтаў сумежных дзяржаўных, партыйных і савецкіх установаў, а таксама тагачаснага друку. Такі мэтад, як ужо было сказана, можна назваць гістарычна-дакумэнтальнай археалёгіяй з наступнай спробай рэканструкцыі гістарычных падзей.

выкарыстоўвалі тэрміны «белорусское шовинистическое движение» і «национально-демократическая идеология». Як не падлягае сумневу і той факт, што барацьба за захаваньне і рэстаўрацыю помнікаў Старога гораду разглядалася ў адпаведных кабінэтах як частка «национально-демократической идеологии».

У працэсе, які працягваўся некалькі гадоў і які тут названы адказам НКВД абаронцам Старога гораду, быў галоўны пэрсанаж-выканаўца. Гэта Майсей Мэеравіч Рабіновіч, загадчык менскага камгасу НКВД у 1924–1925 гадах, а пазьней першы намесьнік старшыні Менскага акруговага выканкаму і кіраўнік яго камуністычнай фракцыі (сакратар парткаму).

Майсей Рабіновіч нарадзіўся ў 1895 годзе ў Талачыне ў мяшчанскай габрэйскай сям'і. Вучыўся ў прыватнай гімназіі ў Гомелі. З 1912 году браў актыўны ўдзел у працы Бунду, але членам гэтай партыі стаў толькі ў 1917 годзе. Быў сакратаром Віцебскага і Менскага камітэтаў Бунду. У 1919–1921 гадах служыў у войску, быў слухачом Акадэміі генэральнага штабу ў Маскве. У 1920 годзе там жа уступіў у РКП(б). У анкетах сярэдзіны — другой паловы 20-х гадоў пісаў, што апрача мовы ідыш валодае толькі нямецкай і расейскай мовамі. Гэта, аднак, не перашкодзіла яму быць адкліканым з Чырвонай арміі ў распараджэньне ўладаў БССР і пасьля двух гадоў адміністрацыйнай працы ў Савеце прафсаюзаў Беларусі (у тым ліку загадчыкам аддзелу культуры) быць прызначаным кіраўніком Менскага гарадзкога аддзелу народнай адукацыі (ГарАНА). З гэтай пасады ў 1924 годзе Рабіновіч

пераходзіць на працу ў НКВД і становіцца загадчыкам менскага камгасу.

Дзейнасьць Рабіновіча і ягонай структуры адбывалася практычна паралельна з высілкамі Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту ў справе захаваньня і рэстаўрацыі помнікаў Замкавай гары і ўсяго Старога гораду. Можна нават сказаць, што абодва працэсы адбываліся сынхронна.

Ужо ў сярэдзіне сакавіка 1925 году — г. зн. у той час, калі камісія плянавала «абгляд» Замкавай гары, Рабіновіч едзе ў камандзіроўку ў Маскву «в связи с переоборудованием Электро-станции»[438]. Што ён там рабіў і з кім сустракаўся — дакладна не вядома, але менавіта з гэтай паездкі ён прывёз ідэю завядзеньня ў Менску каналізацыі і пачаў яе актыўна рэалізоўваць.

Гэта — сыходны пункт усіх наступных падзеяў і пэрыпэтый, якія адбываліся ў самай старой гістарычнай частцы Менску. Каналізацыю Рабіновіч прапанаваў пачаць у Старым горадзе.

8 красавіка 1925 году, за чатыры дні да «абгляду» Замкавай гары Камісіяй аховы помнікаў Інбелкульту, Майсей Рабіновіч у якасьці загадчыка камгасу НКВД выступае на пасяджэньні прэзыдыюму Менскага акруговага выканкаму з паведамленьнем аб неабходнасьці завядзеньня ў Менску каналізацыі і патрэбных для гэтага працаў. Прэзыдыюм даручыў Рабіновічу «заключить договор с Геодезическим управлением о нивелировке города», але вырашыў, што для «работ по подготовке проекта на предмет составления сметы необходимых расходов по кана-

438 НАРБ, ф. 6, воп. 1, спр. 540, арк. 72 аб.

лизации» грошай пакуль няма[439]. Ні старшыня, ні члены прэзыдыюму АВК ідэю каналізацыі пакуль не ацанілі, але пачатак быў пакладзены.

25 красавіка 1925 году пленум Менскага акруговага выканкаму абірае Рабіновіча першым намесьнікам старшыні, якім тады быў Сьцяпан Яцкевіч. Гэта дало Рабіновічу дадатковыя паўнамоцтвы, уплыў і ўладу[440]. Да таго ж наступныя два месяцы ён яшчэ заставаўся і загадчыкам менскага камгасу НКВД.

Масква для гэтага чыноўніка была сапраўднай крыніцай камунальна-гаспадарчых ідэй і прыкладам для пераймання. Ён туды езьдзіў ці ня кожны месяц — архіўныя справы Менскага акруговага выканкаму і асабістая справа Рабіновіча поўняцца яго камандзіровачнымі пасьведчаньнямі з адным пунктам прызначэньня — Масква.

Напрыклад, 11 чэрвеня 1925 году прэзыдыюм АВК разгледзеў прапанову Рабіновіча «О введении при домовладениях в районе I-го отделения Милиции фонарей московского типа вместо имеющихся в настоящее время» і пастанавіў яе задаволіць[441].

Ужо 18 чэрвеня 1925 году Рабіновіч з вышыні сваёй новай пасады лёгка дамагаецца свайго. У гэты дзень прэзыдыюм Менскага акруговага выканкаму разглядае пытаньне «Об общественных работах в гор. Минске» і пастанаўляе:

*«Считать необходимым, что в будущем году общественные работы в гор. Минске должны раз-*

439 НАРБ, ф. 6, воп. 1, спр. 540, арк. 85 аб.
440 Тамсама, арк. 91.
441 Тамсама, арк. 131.

*виваться исключительно по линии устройства канализации в гор. Минске, предложив комхозу срочно приступить к составлению предположительного плана по устройству канализации в г. Минске, закончив таковой к 1 августа с. г.»*[442].

Пасьля гэтага, 25 чэрвеня 1925 году, Рабіновіч сыходзіць з пасады загадчыка менскага камгасу НКВД і застаецца першым намесьнікам старшыні акругавага выканкаму[443]. Кіраўніком менскага камгасу становіцца П. Вольскі, але ён будзе толькі выканаўцам — курыраваць справу каналізацыі і яшчэ адзін больш важны праект, які з каналізацыі неўзабаве пачнецца, будзе непасрэдна Рабіновіч.

Служба ў Чырвонай арміі, навучаньне ў Акадэміі Генэральнага штабу і праца ў НКВД не прайшлі, відаць, для Майсея Рабіновіча бясьсьледна — дзейнічаў ён вельмі энэргічна і рашуча, як сапраўды вайсковец.

З 1 ліпеня 1925 году старшыня Менскага акругавага выканкаму Сьцяпан Яцкевіч сышоў у адпачынак на паўтара месяца. У сувязі з гэтым прэзыдыюм АВК прызначыў Рабіновіча выканаўцам абавязкаў старшыні прэзыдыюму на час адсутнасьці Яцкевіча[444].

Пры Яцкевічу пасяджэньні прэзыдыюму АВК адбываліся ў сярэднім раз на тыдзень або і радзей. У студзені 1925 году было праведзена чатыры пасяджэньні, у лютым — адно, у сакавіку — тры, у красавіку і траўні — па тры, у чэрвені — пяць па-

442 Тамсама, арк. 137.
443 ДАМн, ф. 3, воп. 2, спр. 168, арк. 16.
444 НАРБ, ф. 6, воп. 1, спр. 540, арк. 141.

сяджэньняў. Затое ў ліпені, калі ўладу ў выканкаме пераняў Рабіновіч, прэзыдыюм зьбіраўся аж сем разоў. Апрача таго за час адсутнасьці Яцкевіча, у самы разгар пэрыяду адпачынкаў, паводле пастановы прэзыдыюму АВК адбыліся пленум менскага гарсавету (16 ліпеня) і пленум акруговага выканкаму з удзелам старшыняў райвыканкамаў (8 жніўня). Гэтак энэргічна ўзяўся за справу новы выканаўца абавязкаў старшыні.

Пры Рабіновічу прэзыдыюм Менскага акруговага выканкаму яшчэ некалькі разоў вяртаўся да абмеркаваньня каналізацыі Менску, у тым ліку, 23 ліпеня разгледзеў пытаньне фінансаваньня праектных працаў.

Нарэшце 28 ліпеня 1925 году пад кіраўніцтвам Майсея Рабіновіча адбылося гістарычнае пасяджэньне прэзыдыюму АВК, на якім быў заслуханы даклад аб каналізацыі Менску, складзены камісіяй маскоўскага «Вадаканалу», якая спэцыяльна прыехала для гэтага ў Менск. Пра значнасьць падзеі сьведчыць той факт, што ў пасяджэньні браў удзел толькі што прызначаны на пасаду кіраўніка Дзяржпляну БССР былы міністар фінансаў БССР Сяргей Карп, які ў папярэднія гады быў начальнікам Рабіновіча ў Менскім гарвыканкаме.

Пытаньне пра каналізацыю было разгледжана першым. У пратаколе яно сфармулявана так:

«*О канализации гор. Минска*

*Доклад Комиссии, командированной из Москвы "Водоканал". (Докл. проф. СЕМЕНОВ)*

*(Докл. в письменной форме прилагается)*»[445].

---

445 Тамсама, арк. 180.

Натуральна, у архіўнай справе, дзе захоўваецца адпаведны пратакол — а гэта фонд №6 Нацыянальнага архіву Рэспублікі Беларусь, у якім сканцэнтраваныя паперы ЦВК БССР — ніякага прыкладзенага дакладу не захавалася, як і ў іншых шматлікіх падобных выпадках. Але і сама пастанова прэзыдыюму Менскага АВК па гэтым пытаньні дастаткова інфарматыўная:

«*1. Доклад Комиссии о канализации гор. Минска принять к сведению.*

*2. Немедленно приступить к составлению проекта канализации города.*

*3. Работы по подготовке работ по канализации вести с таким расчетом, чтобы приступить к канализацион. работе не позднее 1-го мая 1926 года.*

*4. Комхозу немедленно приступить к точному определению района подлежат (*так у тэксьце — С. А.*) канализации.*

*5. Комхозу срочно приступить к составлению плана города.*

*6. Выделить комиссию для руководства работами по канализации города. Персональный состав комиссии выделить на заседании Пленума Исполкома.*

*7. Выяснить вопрос об окончании нивелировочных работ к 1-му октября, для чего поставить этот вопрос на заседании Президиума, на котором заслушать доклад о ходе этих работ и своевременной закончании таковых (*стыль і артаграфія арыгіналу — С. А.*)*»[446].

Вось так у гісторыі Менску і яго Старога гораду зьявіліся маскоўскі прафэсар архітэктуры Ўла-

446 Тамсама.

дзімір Сямёнаў і яго ідэя скласьці генэральны плян сталіцы БССР.

Пратакол не фіксуе зьместу прамоваў і дэбатаў. Патрэба складаньня пэрспэктыўнага пляну гораду тлумачылася, відавочна, тым, што нельга пракладаць каналізацыю, ня ведаючы, што дзе будзе праз 10–20 гадоў. А фармулёўка рашэньня — «Комхозу срочно приступить к составлению плана города» — не пакідае сумненьняў у тэрміновасьці ўсёй справы.

Праз два дні, 30 ліпеня 1925 году, прэзыдыюм АВК зноў вярнуўся да тэмы каналізацыі і абмеркаваў магчымасьць заключэньня дамовы з маскоўскім «Водаканалам». Было вырашана паслаць у Маскву прадстаўніка для вызначэньня дэталяў будучай дамовы[447].

Пленум Акруговага выканкаму 8 жніўня, які праходзіў пад кіраўніцтвам Рабіновіча, паслухмяна «выдзеліў» пэрсанальны склад камісіі па каналізацыі Менску — у яе ўвайшлі Рабіновіч, новы загадчык камгасу Вольскі і яшчэ некалькі чыноўнікаў.

Пасьля гэтага тэма каналізацыі і будучага праекту пляніроўкі Менску ў прэзыдыюме акруговага выканкаму не абмяркоўвалася каля чатырох месяцаў. Відавочна, што канкрэтная праца перамясьцілася ў камгас НКВД, а там пяты пункт пастановы прэзыдыюму АВК ад 28 ліпеня быў прыняты да тэрміновага выкананьня.

Зьвяртае на сябе ўвагу наступная акалічнасьць. Нягледзячы на тое, што ідэя складаньня пляну гораду ўзьнікла ў межах праекту каналізацыі Менску, вельмі хутка сытуацыя зьмянілася на люстраную —

447 Тамсама, арк. 183.

неўзабаве ўжо праект каналізацыі сталі ўзгадняць з аўтарам будучага пляну гораду. І ня толькі, дарэчы, каналізацыі. У афіцыйных дакумэнтах наступных двух гадоў можна сустрэць вось такія фармулёўкі:

*«Адносна мейсца пабудовы стадзіёну даручыць аддзелу Камунальнай гаспадаркі запытаць погляд прафэсара СЯМЕНАВА, які распрацоўвае плян забудовы Менску»*[448].

Гэтак у прэзыдыюме Менскага акруговага выканкаму 7 красавіка 1926 году скончылася абмеркаваньне пытаньня аб пабудове стадыёну ў сталіцы БССР.

Прадметна разважаць аб асабістых матывах удзельнікаў гэтай справы нельга з увагі на адсутнасьць дакумэнтальных сьведчаньняў. Гэта мог быць шчыры клопат за сваю справу, клопат пра людзей; мог быць фінансавы і нават карупцыйны інтарэс — аўтарам праектаў пляніроўкі гарадоў плацілі тысячы рублёў у той самы час, калі многія іншыя людзі зараблялі ўсяго па 80–90 рублёў у месяц; а мог быць і далекасяжны палітычны разьлік, народжаны ў рамках ідэалягічнай канкурэнцыі бальшавіцкай дзяржавы з прадстаўнікамі беларускага нацыянальнага руху. У кожным выпадку, як пакажуць далейшыя падзеі, гэта было поўнае ігнараваньне клопату беларускіх дзеячоў культуры аб лёсе Замчышча і Старога гораду на Нямізе.

448 НАРБ, ф. 6, воп. 1, спр. 899, арк. 89.

## Чаму ў Менску адмовіліся ад паслуг Сяргея Шастакова

26 лістапада 1925 году прэзыдыюм Менскага акруговага выканкаму зноў вяртаецца да тэмы складаньня «пляну гораду».

У той дзень быў заслуханы даклад гарадзкога ўпраўленьня камунальнай гаспадаркі НКВД «Аб здачы работ па састаўленьню праекта пляніроўкі і далейшай забудовы г. Менску»[449]. Тут асабліва зьвяртае на сябе ўвагу фраза «аб здачы работ», якая сьведчыць, што апошнія чатыры месяцы камгас дарэмна часу не марнаваў і займаўся гэтым вельмі сур'ёзна. Нават каналізацыя часова адышла на другі плян.

У пастанове па выніках абмеркаваньня запісалі:

*«Лічыць умовы прапанованыя прафэсарам ШАСТАКОВЫМ па састаўленьню праекта пляніроўкі і далейшай забудовы Менску найбольш прыемлемымі і дазволіць Аддзелу камгаспадаркі заключыць з прафэсарам ШАСТАКОВЫМ належны дагавор па гэтаму пытаньню»*[450].

Як бачым, у пастанове сьцьвярджаецца, што прапанаваныя прафэсарам Шастаковым умовы прэзыдыюм Менакрвыканкаму ўсьлед за камгасам НКВД палічыў «найбольш прыемлемымі» — а гэта азначае, што на той час ужо былі і іншыя, менш прымальныя прапановы. Гэта зноў жа паказвае, наколькі актыўна камгас узяўся за справу. Магчыма таксама, што папярэднія думкі Шастакова адносна будучыні Менску былі ўжо сфармуляваныя.

449 ДАМн, ф. 25, воп. 1, спр. 25, арк. 14.
450 Тамсама.

Такім чынам, летам і восеньню 1925 году, калі прадстаўнікі Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту спрабавалі ўключыць у пляны гарадзкіх уладаў праект рэстаўрацыі Замчышча, камгас НКВД пачаў ствараць генэральны плян сацыялістычнай рэканструкцыі Менску.

Аднак вельмі хутка высьветлілася, што прапановы прафэсара Шастакова Менскаму акруговаму камгасу не падыходзяць, і НКВД пачаў шукаць новага аўтарытэтнага архітэктара для стварэньня праекту генпляну Менску. Ён быў знойдзены, як убачым, ужо празь месяц.

Што ж здарылася? Што такога прапанаваў зрабіць у Менску маскоўскі прафэсар архітэктуры Сяргей Шастакоў, што не задаволіла кіраўнікоў камгасу? На жаль, з прычыны поўнай адсутнасьці ў архівах Беларусі камгасаўскіх папераў за той пэрыяд дакладна адказаць на гэтае пытаньне немагчыма. Можна толькі рабіць прыпушчэньні, грунтуючыся на ўскоснай інфармацыі.

Мы, напрыклад, можам меркаваць, што прафэсар Шастакоў знайшоў сабе ў Маскве больш прывабную (або важную) працу і адмовіўся ад менскай замовы, бо ня меў часу на яе выкананьне. Аднак гэты варыянт — найменш верагодны, улічваючы сумы, якія камгас НКВД мог плаціць выканаўцам сваіх заказаў — праект пляніроўкі Менску, як убачым далей, каштаваў 4000 рублёў — гэта велізарная па тым часе сума. Нельга таксама скідваць з рахунку творчую амбіцыйнасьць архітэктараў дый проста жыцьцёвую неабходнасьць — у рынкавых умовах тагачаснага НЭПу колькасьць замоваў і

велічыня аплаты за іх былі проста прапарцыйныя вядомасьці таго або іншага архітэктара. Адмовіцца ад менскага заказу ў тых умовах — было проста неразумна.

Лішняе пацьверджаньне гэтаму дае факт даволі жорсткай канкурэнцыі, якая пачалася паміж расейскімі архітэктарамі за выкананьне беларускіх заказаў. У лютым 1926 году старшыня Цэнтральнага выканаўчага камітэту БССР Аляксандар Чарвякоў атрымаў зь Ленінграду наступны рукапісны ліст-зварот:

«*Группа ленинградских архитекторов, состоящая из первоклассных спецов, во главе с академиком архитектуры И. А. Фоминым, предлагает свои услуги по составлению проектов на здания: Исполкомов, Народных Домов, Дворцов Труда, банков, зданий трестов, здравниц, жилых рабочих домов, всякого рода утилитарных сооружений а также проектов по перепланировке городов, поселков, курортных мест и пр.*

*Группа ставит себе задачею: 1) исполнять работы быстро, что достигается благодаря хорошо налаженному аппарату, и 2) давать решения жизненные, т. е. согласованные с местными условиями климата, быта и рынка строительных материалов.*

*Что касается архитектуры, то группа выявляет современный, настоящий революционный стиль, однако без излишних увлечений футуристического порядка, дающих зачастую решения совершенно непригодные для жизни как в постройке, так и в эксплуатации.*

*С перепиской и заказами просьба обращаться по адресу: Ленинград В . О. Съездовская 29 кв. 5 (телефон 175-45) Ивану Александровичу Фомину. 13/II.1926»*[451].

Зьмест гэтага ліста не пакідае сумненьняў, што архітэктары жорстка канкуравалі, і ва ўмовах такой канкурэнцыі адмова ад складаньня генпляну сталіцы адной з галоўных рэспублік СССР была раўнацэннаю адмове ад прафэсіі[452].

Ня можа ісьці гаворкі і, скажам, аб хваробе Шастакова, бо вядома, што ўвесь 1925 год ён быў якраз вельмі творча актыўны і браў непасрэдны ўдзел у архітэктурных дыспутах наконт рэканструкцыі Масквы. Ён сам быў аўтарам аднаго з праектаў генэральнага пляну рэканструкцыі Масквы — зь яго прэзэнтацыяй перад дэлегатамі Массавету Шастакоў выступіў яшчэ 13 студзеня 1925 году[453].

Кім жа быў у сапраўднасьці «маскоўскі прафэсар Шастакоў», якога камгас НКВД спачатку запрасіў у Менск, каб распрацаваць плян сацыялістычнай рэканструкцыі гораду, а пасьля нечакана адмовіўся ад яго паслугаў? Чым і чаму яго прапановы не задаволілі менскіх заказчыкаў?

---

451 НАРБ, ф. 691, воп. 1, спр. 82, арк. 81–81 аб.

452 Невядома дакладна, чаму Фамін зьвярнуўся да Чарвякова. Была гэта звычайная спроба зарабіць грошы або ён хацеў працягнуць распачатую Шастаковым справу; зрабіў ён гэта сам або яго нехта папрасіў. І невядома, як мог бы скласьціся лёс менскага старога цэнтру, калі б за справу ўзяўся прафэсар Фамін. У 1933 годзе ён не пабаяўся разам з І. Грабаром ды І. Жалтоўскім зьвярнуцца да Сталіна зь лістом пратэсту з нагоды зносу ў Маскве Сухараўскай вежы. Зрэшты, магчыма, з прычыны такіх поглядаў Фаміна ім у Менску і не зацікавіліся.

453 Из истории советской архитектуры. Документы и материалы. 1917–1925. Москва, 1963. С. 49.

Выдатны расейскі архітэктар, галоўны інжынэр Масквы, прафэсар Баўманскай вучэльні Сяргей Шастакоў (1862–1929) застаўся ў гісторыі архітэктуры дзякуючы распрацаванаму ім у тыя самыя гады генэральнаму пляну так званай «Вялікай Масквы». Ён быў яркім прадстаўніком школы архітэктараў-урбаністаў і браў актыўны ўдзел у тагачаснай палеміцы з архітэктарамі-дэзурбаністамі.

Праект Шастакова прадугледжваў разрастаньне Масквы ўшыркі за кошт малапавярховага будаўніцтва і зрастаньне сталіцы зь невялікімі гарадамі Маскоўскай вобласьці. Генэральны плян Шастакова прадугледжваў, што плошча Вялікай Масквы зойме 200 тысяч гектараў (сёньня 100 тысяч), насельніцтва складзе 4 мільёны чалавек, і што ў горадзе будуць пераважаць прыватныя невялікія дамы.

Але ў нашым кантэксьце самым важным месцам шастакоўскага генпляну зьяўляецца лёс гістарычнага цэнтру Масквы. Сяргей Шастакоў прапанаваў перанесьці палітычны і дзелавы цэнтар сталіцы СССР на Хадынскае поле, а Крэмль і стары цэнтар зрабіць музэем[454]. Да старой часткі гораду і наогул да помнікаў архітэктуры Шастакоў ставіўся зь вялікай павагай і вельмі ашчадна. Напрыклад, ён прапаноўваў у старым цэнтры Масквы для ашчаднага ўпарадкаваньня забудовы выкарыстоўваць толькі разбураныя ўчасткі. Таксама ён прапаноўваў разьбіраць хаатычную драўляную забудову старога

454 Бочаров Ю. Подготовка дипломированных планировщиков в России. История и современность. — http://www.architektor.ru/ai/2003/bocharov.htm

цэнтру, якая замінала візуальнаму ўспрыманьню каштоўных старажытных помнікаў. У сваёй брашуры «Большая Москва», выдадзенай у 1925 годзе, ён пісаў:

«*Москва во многих своих частях в значительной степени разрушена, и вот это разрушение и надо использовать в целях широкого упорядочения старого города... В некоторых случаях указанные разрушения уже целесообразно использованы, например: снесена торцовая застройка на Тверском бульваре у Никитских ворот; разобраны торговые пристройки, загораживающие выдающиеся памятники зодчества — Шереметьевскую больницу, Английский клуб и др.*»[455].

Пры пашырэньні Масквы да велізарных нават паводле сучасных стандартаў памераў плянам Шастакова ў яе межы ўключаліся шматлікія дваранскія сядзібы, многія зь якіх былі выдатнымі помнікамі архітэктуры. І тут мы маем чарговы доказ паважнага стаўленьня прафэсара Шастакова да старой архітэктуры:

«*Третля зона... предназначается к застройке по типу городов-садов... В третьей зоне можно будет использовать много интересного существующего. С особой бережностью надо подойти к сосредоточенным здесь историческим имениям, знаменитым своей живописностью и культурностью устройства. Эти художественные памятники старины должны сохраниться, по возможности, в неприкосновенности. Наиболее замечательные из них: Царицыно, Кузьминки, Кусково, Горки, Ховрино, Архангельское,*

455 Шестаков С. Большая Москва. Москва, 1925. С.5–6.

*Ильинское, Усово, Троекурово, Воронцово, Зюзино, Ускoe и ряд других менее известных»*[456].

Застаецца дадаць, што аб поглядах Сяргея Шастакова на старыя цэнтры гарадоў і аб яго стаўленьні да старой архітэктуры сьведчаць нават аргумэнты яго праціўнікаў — архітэктараў-дэзурбаністаў. Адна зь іх, В. Строгава, крытыкуючы ў сярэдзіне 20-х гадоў шастакоўскі праект «Вялікай Масквы» і яго прапановы адносна лёсу гістарычнага цэнтру расейскай сталіцы, пісала:

«*Сохранить этот центр на будущее — значит попасть в рабство к прошлому*»[457].

Няцяжка заўважыць у падыходах Шастакова да старога цэнтру Масквы аналёгіі з падыходам Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту да Старога гораду ў Менску — у пляне рэстаўрацыі Замчышча, як памятаем, таксама прапаноўвалася зьнесьці толькі драўляную забудову Замкавай гары.

Можна меркаваць, што з такімі ідэямі і такім стаўленьнем да гістарычнай забудовы маскоўскага цэнтру Шастакоў мог паставіцца адпаведным чынам і да гістарычнага цэнтру Менску. Лішняе пацьверджаньне гэтаму дае ліст Кагановіча Сталіну ў Сочы ў 1932 годзе:

«*... Мы занялись вплотную вопросом о ген. плане Москвы... Должен сказать, что архитекторы проявили известную ограниченность и пассивность, старые все еще под влиянием Шестаковских и Щусевских планов, а молодые витают в небесах и но-*

456 Тамсама. С. 17.

457 Строгова В. Москва — город-спрут или союз городов? — http://www.rulife.ru/index.php?mode=article&artID=355&print

*сятся с проектами построить рядом новую Москву, а нынешнюю оставить как музей для истории, по этой нелепой чуши пришлось ударить*»[458].

Зноў паўтаруся, усе архівы камгасу за пэрыяд 1925–1937 гадоў не захаваліся, і мы можам толькі меркаваць, як разгортваліся падзеі ў Менску восеньню і зімой 1925–1926 гадоў вакол выбару аўтара праекту пляніроўкі Менску.

Фраза пастановы прэзыдыюму Менакрвыканкаму ад 26 лістапада 1925 году аб тым, што мова ішла ўжо аб «здачы работ па састаўленьню праекта пляніроўкі і далейшай забудовы г. Менску», можа азначаць, што на той момант прафэсар Шастакоў з ініцыятывы камгасу з папярэднім візытам у Менску ўжо пабываў і свае ўмовы для выкананьня праекту забудовы сталіцы БССР прапанаваў. Для заключэньня дамовы і ўласна падрыхтоўкі менскага праекту Сяргей Шастакоў мог прыяжджаць у Менск у лістападзе або сьнежні 1925 году.

Можна меркаваць, што падчас працы ў Менску ён мог мець кантакты з прадстаўнікамі менскіх інтэлектуальных колаў, у тым ліку і з членамі Камісіі аховы помнікаў і Камісіі гісторыі мастацтва Інбелкульту, сярод якіх, як памятаем, быў малады, гарачы і актыўны яго зямляк, ураджэнец Масквы Мікола Шчакаціхін, а таксама і іншыя актывісты, напрыклад, член камісіі па вывучэньні Замкавай гары Ўладзімер Дубоўка, які стала жыў у Маскве, бываючы ў Менску толькі наездамі. Быў, дарэчы, Дубоўка ў Менску і 25–28 лістапада 1925 году на

458 Сталин и Каганович. Переписка 1931–1936 гг. Масква. 2001. С. 267.

зьезьдзе «Маладняка» — якраз тады, калі Акруговы выканкам разглядаў прапанаваныя Шастаковым умовы ягонага ўдзелу ў стварэньні праекту пляніроўкі Менску.

Інбелкультаўцы маглі пазнаёміць Шастакова са Старым горадам і Замчышчам, а таксама са сваімі плянамі адносна будучыні гістарычнага цэнтру Менску. Паводле гэтай самай лёгікі можна меркаваць, якім мог быць адказ прафэсара Сяргея Шастакова на памкненьні інбелкультаўцаў адносна Старога гораду і Замкавай гары.

Усё гэта прыпушчэньні. А гісторыя нядоўгай менскай кар’еры Сяргея Шастакова заканчваецца неабвержным фактам. Складзены ім «праект пляніроўкі і далейшай забудовы Менску» (або толькі яго папярэднія палажэньні) заказчыкаў з НКВД не задаволіў. І мы ўжо не прыпускаем, але дакладна ведаем, што ў канцы сьнежня 1925 году камгас НКВД знайшоў новага выканаўцу. Вось як гэта было аформлена афіцыйна.

23 сьнежня 1925 году на чарговым пасяджэньні прэзыдыюму Менскага акруговага выканкаму было разгледжана 29 пытаньняў. 11-м пунктам абмеркаваньня быў запісаны такі:

«*Аб здачы работ па састаўленьню праекта пляніроўкі і далейшай забудовы г. Менску. (Дакл. т. РАБІНОВІЧ)*»[459].

У прынятым па гэтым пункце рашэньні гаварылася:

«*У зьмену пастановы прэзыдыюму АВК ад 26 лістапада г/г за №47 §2 дзеля правядзеньня памянёных*

459 НАРБ, ф. 6, воп. 1, спр. 899, арк. 7 аб.

*работ запрасіць інжынэра СЯМЁНАВА з платай за гэтыя работы 4.000 рублёў. Аддзелу Камунальнай гаспадаркі прапанаваць заключыць з інжынэрам СЯМЁНАВЫМ належны дагавор*»[460].

Ці азначае гэтая зьмена, што захаваньне гістарычнага цэнтру Менску ў пляны камгасу НКВД не ўваходзіла? Архівы маўчаць. Але дакладна, гаворка тут ідзе не пра грошы, бо 26 лістапада ўмовы, прапанаваныя Шастаковым, камгас задавальнялі.

Калі адносна магчымага менскага пляну Сяргея Шастакова можна рабіць толькі прыпушчэньні, то адносна пляну Ўладзіміра Сямёнава можна рабіць ужо канкрэтныя высновы, бо менавіта плян Сямёнава стаў асновай для складаньня генпляну Менску 1936 году, які цалкам прадугледжваў знос Старога гораду і Нямігі.

Такім чынам, скласьці пэрспэктыўны плян забудовы Менску ў сьнежні 1925 году было даручана маскоўскаму прафэсару архітэктуры Ўладзіміру Сямёнаву (1874–1960). Гэты архітэктар быў значна больш ляяльны да тагачасных уладаў, аб чым сьведчаць ня толькі яго праект і распрацаваны на яго падставе ў 30-я гады генплян Менску з паркам адпачынку на месцы Замкавай гары, але і вялікая розьніца ў лёсах абодвух прафэсараў.

Уладзімір Сямёнаў праз некалькі гадоў быў прызначаны галоўным архітэктарам Масквы, стварыў зацьверджаны Крамлём яе генэральны плян 1935 году, разбурыў гістарычны цэнтар паводле інструкцыяў Сталіна і пражыў доўгае і шчасьлівае жыцьцё, стаўшы акадэмікам архітэктуры і пазую-

460 Тамсама.

чы ў старасьці перад фатографамі са сваім унукам, таксама Ўладзімірам, будучым архітэктарам.

А Сяргей Шастакоў вельмі хутка пасьля «менскай няўдачы» быў арыштаваны НКВД, высланы з Масквы і загінуў у зьняволеньні[461]. Яго ня стала ўжо ў 1929 годзе, але яго ідэі былі выкарыстаныя ў 1940-я гады пляніроўшчыкамі Вялікага Лёндану, Атавы і Вэлінгтану. Зрэшты, гэта, як кажуць, ужо зусім іншая гісторыя.

Вось жа зімой 1925–1926 гадоў камгас НКВД канчаткова спыніў свой выбар на прафэсару Сямёнаву і не жадаў разглядаць іншыя кандыдатуры. Як памятаем, ленінградзкі прафэсар архітэктуры Іван Фамін зьвярнуўся да старшыні ЦВК БССР Алеся Чарвякова з прапановай сваіх паслугаў у справе «перепланировки городов» 13 лютага 1926 году. Копія гэтага ліста была перасланая ў акруговы камгас НКВД. Адтуль адказалі, што ліст атрыманы і зарэгістраваны пад нумарам 2736, але далейшага ходу яму не далі[462]. Гэта азначае толькі адно — на той момант прафэсар Сямёнаў ужо працаваў над сваім праектам пэрспэктыўнай забудовы Менску, і НКВД яго праца цалкам задавальняла.

Можна разважаць, якім мог быць праект генпляну Менску, калі б яго складаньне даручылі Івану Фаміну. Гэты архітэктар для Менску ня быў чужым. У 1913 годзе ён у суаўтарстве зь Віктарам Струевым спраектаваў і пабудаваў у Менску Царкоўна-археалягічны музэй — так званы Юбілейны

461 Бочаров Ю. Подготовка дипломированных планировщиков в России. История и современность. — http://www.architektor.ru/ai/2003/bocharov.htm

462 НАРБ, ф. 691, воп. 1, спр. 82, арк. 82.

дом, які захаваўся да нашага часу. У 1920-я гады сябар Фаміна Віктар Струеў працаваў у Менску загадчыкам архітэктурнага аддзелу Камітэту дзяржаўных збудаваньняў. НКВД, аднак, выбраў Уладзімера Сямёнава.

Ёсьць яшчэ адзін факт, які вымоўна сьведчыць пра блізкасьць Уладзіміра Сямёнава ў 1920-я гады да камгасу НКВД. Неўзабаве яна была ацэненая належным чынам. Калі ў 1931 годзе камгас вывелі са складу НКВД і заснавалі самастойны Наркамат камунальнай гаспадаркі РСФСР, то Сямёнава прызначылі кіраўніком Навукова-тэхнічнай рады пры гэтым ведамстве.

## Уладзімер Дубоўка і Стары горад

Сярод тых, з кім Сяргей Шастакоў мог сустракацца і кантактаваць у Менску, нездарма быў названы беларускі паэт Уладзімер Дубоўка. Магчыма, Дубоўка пакінуў адзінае ў беларускай літаратуры сьведчаньне (вольнае ці міжвольнае) аб тым, што адбывалася ў Менску вакол Старога гораду ў 1925–1926 гадах.

Наогул гарады, і Менск у прыватнасьці, у той час не былі ў цэнтры ўвагі маладой беларускай паэзіі. І гэта натуральна — большасьць тагачасных паэтаў былі паводле паходжаньня вяскоўцамі і мелі даволі невысокі ўзровень адукацыі. Для захапленьня архітэктурай і мастацтвам патрэбныя немалыя гістарычныя і спэцыяльныя веды, пэўны культурны ўзровень і шырыня кругагляду. Каханьне, прырода, цяжкая стваральная праца работнікаў і сялян,

рэвалюцыя — вось тэмы, якія пераважна займалі паэтаў і заахвочваліся ўладай. Ужо пачыналася тое, што пазьней назавуць вульгарным сацыялягізмам.

Не надаваў вялікай увагі гораду ў сваёй творчасьці і адзін з самых таленавітых беларускіх паэтаў XX стагодзьдзя, тады маладняковец Уладзімер Дубоўка. У 1925 годзе ў яго выйшаў зборнік «Credo», які быў разгледжаны на адным з пасяджэньняў менскай філіі «Маладняка» ў пачатку студзеня 1926 году. У справаздачы аб гэтым разглядзе гаварылася:

«*Паэт ня любіць гораду, яму “паўкажушак і чырвоная хусьцінка” даражэй чымся “гораду грукат”, бо ў горадзе — “афішы на сьценах і тварах”, і паэт гораду не давярае...*»[463]

Дубоўку закідалі «мінорны настрой да сёньняшняга дню» і тое, што ён «кожны свой верш атуляе “вэлюмам імглістым”». А выснова, паводле справаздачы, была зробленая наступная:

«*Некаторыя казалі, што апошнім сваім зборнікам Ул. Дубоўка выявіў сацыяльна не зусім вытрыманае “Credo”*»[464].

Абмеркаваньне гэтае, як ужо было сказана, адбылося ў студзені 1926 году. Праз год у Маскве, у Цэнтральным выдавецтве народаў Саюзу ССР, Дубоўка выдае свой наступны зборнік — «Наля». І зусім нечакана ў гэтай кнізе зьмяшчаюцца два вершы пра Менск, пазначаныя студзенем 1926 году — і абодва яны, улічваючы мізэрную колькасьць паэтычных прысьвячэньняў Менску, і да нашага часу зьяўляюцца, бадай, непераўзыдзенымі ўзорамі

463 Савецкая Беларусь. 6 студзеня 1926.
464 Тамсама.

паэтычнай замілаванасьці да сучаснай сталіцы Беларусі. Напісаныя вершы з інтэрвалам усяго ў два дні: першы — у суботу, 16 студзеня, другі — у аўторак, 19 студзеня.

16 студзеня 1926 году Дубоўка піша верш «Праз даліны і палі ішоў...»:

*Праз даліны і палі ішоў*
*ад бору ў Менск паволі вечар.*
*І калыхаўся за плячыма шоўк,*
*лілёвасьцю аздобіў плечы.*

*Ў руках смала хваёвая і кмін,*
*у папараці ліст пажоўклы.*
*Узьвеяў лісьцінай і пацяклі*
*над вуліцамі крозы зёлак.*

*Нясьлі яны і сон, і супакой*
*для струджаных у шуме бруку.*
*Ў задуме вечар глянуў навакол,*
*над горадам узьнёсшы рукі.*

*Расла напорнасьць, павадка расла,*
*ў празрыстых хвалях біўся рокат.*
*Здавалася, ад рокату раса*
*ільсьніцца з-пад званіц барокко.*

*І самацьветы — дыямэнты сьлёз,*
*і сэрца лябрадорскі камень, —*
*ляжалі скрозь, рассыпаліся скрозь:*
*над галавой і пад нагамі.*

*Ў задуме вечар прахадзіў далей:*
*на Замчышча цераз Нямігу.*

*Ў сьлядох яго ўсё водарыў алей*
*смалы хваёвае і кміну.*

*Над Менскам лёг на стрэхі камяніц*
*панікшы галавой на локаць.*
*А Менск шуміць, а Менск шуміць*
*Дакуль ня прыйдзе ноч здалёку*[465].

Праходзіць два дні, і 19 студзеня 1926 году Дубоўка стварае верш «Вуліцы шумам спавіты»:

*Вуліцы шумам спавіты,*
*нэрвовасьцю й вецер затканы.*
*Пырснула сонца праменьнем на пліты,*
*пырснула на брукаваны сьвітак...*
*І на сонцы ёсьць такжа плямы...*
*Родзіцца ў муках новы дзень.*
*Шчэрыцца хіжа мінулага сьцень,*
*корчыцца ў муках таксама:*
*і на Нямізе,*
*і на Траецкай,*
*і каля кожнай брамы...*

*Імкненьні, імкненьні —*
*аўто —*
*і тое памалу.*
*Нямізе ж мала каменьня —*
*сьцены патынкавала.*
*І памаленьку, паволі —*
*на концы.*
*Імкненьне яе малое —*
*даляры,*
*чырвонцы...*

465 Дубоўка У. Наля: Вершы. Масква, 1927. С.18–19

*— Вы пашырайце культуру,*
*ствырайце паэмы,*
*пішэце карціны...*
*Мы вам з музыкай справім хаўтуры,*
*мы вам вянкі ўзложым на дамавіны.*
*— Вы разьбівайце галовы*
*ў жалю і крыўдзе за мільёны.*
*«Дурань заўсёды ходзіць голы,*
*а разумнага ногі кормяць»...*

*Менск, Менск!*
*Твае заводы —*
*больш на карыкатуры падобны.*
*Але ты расьцьвіцеш,*
*але ты станеш сапраўдным горадам.*
*Менск, Менск!*
*Тады будуць заводы другія,*
*не для сэльтэрскай вады ці піва.*
*Мы можа раней загінем,*
*але будзем імкнуцца да мэты*
*напорна,*
*цярпліва.*

*Вуліцы шумам спавіты,*
*нэрвовасьцю й вецер зatканы.*
*Дзень стары ляжа на пліты,*
*неба нам будзе палітрай,*
*стагодзьдзі цяпер экранам*[466].

Што ж здарылася, што натхніла паэта стварыць два значныя мастацкія творы, у абодвух зь якіх такі

466 Тамсама. С.22–23. У выдадзены ў 2017 годзе ў Менску двухтомнік Дубоўкі абодва вершы не ўвайшлі.

выразны акцэнт робіцца на гістарычнасьці Менску і яго архітэктуры? Чаму раней «няўважлівы» і наогул «варожы да гораду» паэт раптам апявае Стары горад у Менску (*ў задуме вечар прахадзіў далей/ на Замчышча цераз Нямігу*) і захапляецца выразнасьцю стылю архітэктурных дамінантаў Высокага рынку ў адной з найлепшых алітэрацыйных строфаў беларускай паэзіі (*Расла напорнасьць, павадка расла/ ў празрыстых хвалях біўся рокат/ Здавалася, ад рокату раса/ ільсьніцца з-пад званіц барокко*)?

Няўжо крытыка маладнякоўцаў наконт няўвагі ў творчасьці да гораду як такога магла натхніць паэта на стварэньне сапраўднага паэтычнага шэдэўру «Праз даліны і палі ішоў...», дзе выразна азначаныя асноўныя пункты гістарычнай часткі гораду і выяўлена непадробнае замілаваньне менскай даўнінай? Няўжо ў адказ на тую крытыку мог быць напісаны другі верш «Вуліцы шумам спавіты», які наогул хавае ў сабе некалькі сэнсавых паверхаў?

Вельмі сумнеўна. Дубоўка ў той час быў бескампрамісным маладым творцам. Замест падладжваньня да вымогаў «Маладняка», ён у траўні 1926 году стварыў з аднадумцамі новае літаратурнае аб’яднаньне — «Узвышша». Вядома, шэдэўры пішуцца і на замову, і ў нейкай патрэбе таксама — галоўнае, хто піша. Але ў выпадку Дубоўкі ні замовы, ні пільнай патрэбы не было. Наадварот, у ідэалягічных умовах зімы 1925–1926 гадоў абодва вершы былі хутчэй непатрэбныя і нават небясьпечныя для кар’еры і лёсу аўтара — пісаць вершы пра менскае барока азначала тады (як і казалі малад-

някоўскія крытыкі) дэманстраваць «сацыяльна не зусім вытрыманае “Credo”».

Хутчэй можна дапусьціць, што вершы былі напісаныя сапраўды ў адказ на маладнякоўскую крытыку — але не для таго, каб задаволіць яе, але насуперак ёй. Гэтага ад Дубоўкі чакаць якраз можна. Але і ў такім выпадку выбар тэмы, зьмест, эстэтыка і пачуцьцёвая сіла абодвух твораў прымушае шукаць вонкавыя штуршкі і матывы.

Каб два менскія вершы былі створаныя з інтэрвалам усяго ў два дні, мусіла адбыцца нешта неардынарнае. Але што канкрэтна здарылася перад суботай, 16 студзеня, і аўторкам, 19 студзеня? Чаму розум і сэрца паэта ў тыя дні займаў Менск, яго Стары горад, Замчышча, Няміга і помнікі менскай архітэктуры?

Адно з тлумачэньняў можа быць такое. Магчымым штуршком для напісаньня вершаў пра Стары Менск для члена інбелкультаўскай «камісіі па абглядзе Замкавай гары» і члена рэдкалегіі часопісу «Наш край» Уладзімера Дубоўкі магла стаць інфармацыя пра новага аўтара праекту пляніроўкі Менску.

Сяргея Шастакова на Ўладзіміра Сямёнава замянілі 23 сьнежня 1925 году, але ў друк інфармацыю тады не далі. Упершыню пра гэта паведаміла газэта «Савецкая Беларусь» 15 студзеня 1926 году ў невялікай нататцы на апошняй старонцы пад назвай «Пляніроўка Менску»:

«*Менскі акр. выкан. к-т вядзе перамаўленьні з Маскоўскім прафэсарам Сямёнавым наконт складаньня праекту пляніроўкі Менску. У хуткім часе*

*праект будзе гатоў, пасьля чаго распачнецца праца па пляніроўцы*»[467].

Гэты нумар «Савецкай Беларусі» мог трапіць у прадстаўніцтва БССР у Маскве, дзе раней працаваў Дубоўка, і ў Крэмль, куды паэт перайшоў працаваць перакладчыкам[468], ужо вечарам таго самага дня або на наступны дзень — пошту і нават некаторыя беларускія тавары, напрыклад, сітны хлеб, пастаўлялі ў Маскву цягнікамі хутка і рэгулярна. А субота, 16 студзеня — гэта дзень напісаньня Дубоўкам першага верша пра Замчышча і Нямігу.

Якраз гэтым можа тлумачыцца факт, што розум Дубоўкі ў тыя дні займалі думкі пра менскі Стары горад. Зь невялікай газэтнай нататкі 15 студзеня паэт і яго паплечнікі-інбелкультаўцы маглі даведацца, што прапановы Шастакова адкінутыя, што яго патэнцыйны праект рэалізаваны ня будзе, і што камгас НКВД знайшоў іншага выканаўцу сваіх плянаў. Магчыма, расчараваньне і прыкрасьць ад гэтай інфармацыі натхнілі паэта на стварэньне вершаў пра Менск.

Зрэшты, неабавязкова Дубоўку трэба было чытаць нататку ў «Савецкай Беларусі». Ён мог быць асабіста знаёмы зь Сяргеем Шастаковым, мог перасякацца зь ім у Маскве і атрымаць інфармацыю непасрэдна ад самога архітэктара. Маглі яны, як памятаем, сустракацца і ў лістападзе 1925 году ў Менску.

467 Савецкая Беларусь. 15 студзеня 1926.

468 У той час законы і афіцыйныя пастановы цэнтральных органаў перакладаліся на мовы народаў СССР. Дубоўка працаваў перакладчыкам на беларускую.

Калі гаворка ідзе пра расчараваньне і прыкрасьць Дубоўкі ад інфармацыі пра магчымы лёс Старога гораду, то ў гэтым сэнсе асабліва характэрны другі верш «Вуліцы шумам спавіты». Гэта вельмі глыбокі і шматплянавы твор. Тут, як і ў першым вершы, паэт азначае месцам сваёй увагі Стары горад. Ён піша «*Пырснула сонца праменьнем на пліты / пырснула на брукаваны сьвітак...*» Згадае пра пліты Дубоўка і ў апошняй страфе. Многія тратуары Менску, у тым ліку і ў Старым горадзе, былі забрукаваныя квадратнымі плітамі. Далей паэт пазначае і іншыя тапаграфічныя пункты Старога гораду — Няміга, Траецкая. Ну а мэтафара «брукаваны сьвітак» сама па сабе вельмі празрыстая — яна можа і павінна чытацца адназначна: Менск — гэта гістарычная кніга, асяродак гістарычнага духу, «брукаваны сьвітак».

Далей пачынаюцца больш загадкавыя рэчы. Чаму паэт вінаваціць нэпманаўскую Нямігу ў матэрыяльнай абмежаванасьці, маўляў, яе цікавяць толькі «даляры, чырвонцы»? Чаму менавіта «Нямізе» ён укладае ў вусны фразы пра яе пагарду да культуры (*Вы пашырайце культуру / стварайце паэмы, пішэце карціны / Мы вам з музыкай справім хаўтуры / мы вам вянкі ўзложым на дамавіны*)? Чаму паэт высьмейвае нэпманаўскія заводзікі па вытворчасьці сэльтэрскай вады і піва на Нямізе (*Тваe заводы — больш на карыкатуры падобны*) і абяцае Менску зусім іншую будучыню? Чаму ён нарэшце ў загадкавай фінальнай страфе цьвёрда і адназначна сьцьвярджае, што пры пабудове новага Менску «*Дзень стары ляжа на пліты / неба нам будзе палітрай / стагодзьдзі цяпер экранам*»?

Што могуць экраніраваць стагодзьдзі, адбітыя ў старой менскай архітэктуры, падаецца, зразумела — гэтыя радкі Дубоўкі можна лічыць дэманстрацыяй яго вернасьці таму, што раней тут было названа гістарызмам БНР.

А як быць зь іншымі пытаньнямі? Адзін з магчымых адказаў на іх такі.

На Нямізе і ў Старым горадзе жылі людзі розных нацыянальнасьцяў, але, як вядома, больш за палову іх складалі габрэі. Гнанае і пагарджанае ў Расейскай імпэрыі габрэйскае насельніцтва было разьняволена ў выніку рэвалюцыі і пасьля 1917 году праявіла сваю вялікую энэргію і талент. Габрэі актыўна пайшлі працаваць ва ўсе сфэры грамадзкага жыцьця і ў палітыку, а за часы НЭПу — і ў бізнэс.

У выніку адсутнасьці ў Расейскай імпэрыі нармальных умоваў для адукацыі габрэяў, з другой паловы XIX стагодзьдзя ішоў працэс іх русыфікацыі. У 1920-я гады многія беларускія габрэі ў анкетах ужо пісалі, што іх роднай мовай зьяўляецца расейская, і даволі варожа ставіліся да беларусізацыі. Калі ж меркаваць па асабістых справах супрацоўнікаў Менскага акруговага камгасу НКВД, ад 30 да 50 працэнтаў яго супрацоўнікаў у розныя даваенныя гады былі габрэямі[469]. Пераважна габрэямі былі і небагатыя нэпманы-прадпрымальнікі Старога гораду. Яны якраз і валодалі заводзікам «для сэльтэрскай вады ці піва» і большасьцю крамаў і лавак Нізкага рынку і яго ваколіцаў.

Вось адзін са шматлікіх дакумэнтаў таго часу. 8 студзеня 1927 году ў Менску адбыліся таргі на

469 Гл.: ДАМн, ф. 354, воп. 3, спр. 1–340.

здачу ў арэнду гандлёва-прамысловых памяшканьняў. Іх вынікі 13 студзеня зацьвердзіў прэзыдыюм Гарсавету:

«... *Магазын на К. Дзяменьцьяўскай вуліцы д. №5 здаць арцелі інвалідаў тэрмінам на 6 месяцаў;*

*... Магазын на Школьнай вул. у д. №3/9 здаць гр. Газенпуду за 17.50 к. тэрмінам на 6 месяцаў;*

*... Лаўка №10 на Ніжнім Базары — здаць гр. Рубэнчыку па ацэнцы тэрмінам на 6 месяцаў;*

*... Лаўка №11 на Ніжнім Базары — зацьвердзіць і здаць гр. Шустэру тэрмінам на 6 месяцаў...*»[470]

Магчыма, у вершы «Вуліцы шумам спавіты» якраз і выявілася раздражненьне Ўладзімера Дубоўкі варожасьцю дзеячоў Менскага акруговага і рэспубліканскага камгасаў НКВД да справы адраджэньня і захаваньня Старога гораду ў Менску і шырэй — да ўсёй беларускай справы.

Зрэшты, магчыма, аўтару гэтага верша не было ніякай справы да нацыянальнасьці няміскіх гандляроў і дзеячоў камгасу. Пад абагульняючым тэрмінам «Няміга» ў творы можа выступаць стары лад, які непазьбежна будзе пераможаны новай сацыялістычнай рэальнасьцю. Такі ідэалягічна правільны сацыяльны патас быў уласьцівы тагачаснай паэзіі.

Прафэсар Сяргей Шастакоў мог прыяжджаць у 1925 годзе ў Менск, мог кантактаваць з інбелкультаўцамі і зацікаўленымі маладнякоўцамі, абмяркоўваць зь імі дэталі будучага праекту генэральнага пляну Менску і мог пакінуць у душах такіх людзей, як Шчакаціхін і Дубоўка, немалыя надзеі на добры далейшы лёс Замчышча і Старога гораду.

470 ДАМн, ф. 6, воп. 1, спр. 110, арк. 84.

І якраз разуменьне, што гэтым надзеям ня суджана збыцца (успомнім пра адʼезд Кацэнбогена за два месяцы да напісаньня Дубоўкавых вершаў, наступ на краязнаўчы рух і іншыя падобныя абставіны) спарадзіла ў душы паэта жаданьне выказацца такім чынам — стварыць два моцныя вершы пра Менск. Гэта быў магутны выкід творчай і грамадзянскай энэргіі.

Два паэтычныя шэдэўры Дубоўкі, прысьвечаныя Старому Менску, застаюцца, верагодна, адзіным у беларускай літаратуры сьведчаньнем аб падзеях, якія разгарнуліся зімой 1925–1926 году вакол Старога гораду, і людзях, якія той справай займаліся. Дубоўка быў у курсе справаў, усё бачыў і разумеў. Як надзвычай таленавіты творца, ён меў яшчэ і разьвітую інтуіцыю, таму адчуў, куды кіруюцца падзеі і што будзе далей. І не памыліўся. Радкі «*Мы вам з музыкай справім хаўтуры / мы вам вянкі ўзложым на дамавіны*» могуць чытацца і як прароцтва — пасьля 1929 году пачаліся рэпрэсіі, і сам паэт 26 гадоў правёў у лягерах і высылцы.

Могуць быць і іншыя тлумачэньні прычын зьяўленьня двух менскіх вершаў Уладзімера Дубоўкі.

Але падставы для таго, каб зьвязаць рашэньне прэзыдыюму Менскага АВК ад 23 сьнежня запрасіць у Менск Уладзіміра Сямёнава, публікацыю «Савецкай Беларусі» 15 студзеня 1926 году і зьяўленьне паэтычных шэдэўраў пра Стары горад 16 і 19 студзеня, таксама ёсьць. Найперш гэта самі вершы. Іх існаваньне і нараджэньне менавіта ў тыя дні — важны і важкі гістарычны факт. І аргумэнт.

## Праект пляніроўкі Менску Ўладзіміра Сямёнава

Першы генплян Менску быў складзены ў палове 90-х гадоў XIX стагодзьдзя прускім каморнікам, інжынэрам Р. Дросам, якога ў Менск запрасіў славуты кіраўнік гораду Караль Гутэн-Чапскі. Гэты плян прадугледжваў разьвіцьцё гораду галоўным чынам на поўнач.

Вось з крытыкі ідэяў Дроса і пачаў сваю дзейнасьць у Менску будучы галоўны архітэктар Масквы і аўтар яе «сталінскага» генпляну Ўладзімір Сямёнаў. Агледзеўшыся ў Менску, прафэсар Сямёнаў заявіў, што Дрос памыліўся, бо горад за апошнія 30 гадоў будаваўся галоўным чынам на паўднёвы захад уздоўж чыгункі[471]. Сам Сямёнаў прапанаваў разьвіваць горад уздоўж галоўнай магістралі — вуліцы Савецкай, кірункам на Маскву. Як мы ведаем, рэкамэндацыя гэтая была дакладна вытрыманая і сёньня яшчэ вытрымліваецца няўхільна.

12 траўня 1926 году адбылося гістарычнае пасяджэньне прэзыдыюму Менскага акруговага выканаўчага камітэту пад кіраўніцтвам яго старшыні Сьцяпана Яцкевіча. У пасяджэньні бралі ўдзел акруговыя і менскія гарадзкія чыноўнікі. Прэзыдыюм заслухаў даклад запрошанага камгасам НКВД з Масквы прафэсара архітэктуры Ўладзіміра

471 Звезда. 15 верасьня 1926.

Сямёнава «Аб праекце пляніроўкі гор. Менску на бліжэйшае 25-ці годзьдзе»[472].

Пасьля невялікага абмеркаваньня, у якім узялі ўдзел усяго пяць чалавек (паводле парадку ўдзелу — Рабіновіч, Яцкевіч, Лакціёнаў, Нісэнбаўм і Клімаў) прапановы прафэсара Сямёнава былі зацьверджаныя. У рашэньні запісалі наступную фармулёўку:

«*Прымаючы пад увагу, што пытаньне аб пляніроўцы гораду ёсьць надзвычайна важнае, падняць яго ў друку і пасьля састаўленьня папярэдняга праекту пляніроўкі ўнесьці гэтае пытаньне на абмеркаваньне Пленуму Гарадзкога Савету*»[473].

Сама пастанова па праекце Сямёнава выглядала салідна — яна ўключала ў сябе каля двух дзясяткаў пунктаў:

«*Зацьвердзіць для састаўленьня праекту пляніроўкі на бліжэйшае 25-ці годзьдзе ніжэйнаступныя грунтоўныя палажэньні:*

*а) Прыняць разрахуннае насельніцтва г. Менску ў 250.000 к 1950 году.*

*б) Для рэгуляваньня будаўніцтва разьбіць горад на 4 будаўнічых зоны па прыкмеце вышыні і густаты забудовы і прымяняемых матар'ялаў.*

*1-я зона. Дапушчаюцца толькі каменныя будынкі, вышынёю ня больш 6-ці і ня менш 3-х паверхаў пры застройцы вучасткаў ня больш 40 і ня менш 25%.*

*2-я зона. Дапушчаюцца толькі каменныя будынкі, вышынёю ня больш 4-х пры плошчы забудовы вучасткаў ня меньш 40%. У гэтай жа зоне выдзеліць*

472 ДАМн, ф. 25, воп. 1, спр. 25, арк. 124.
473 Тамсама, арк. 124 аб.

*найбольш значныя вуліцы, дзе і вызначыць мінімум вышыні будынкаў каменных ня менш 2-х паверхаў.*

*3-я зона. Вышыня забудовы ня больш 3-х паверхаў пры плошчы забудовы вучасткаў 33%. Нараду з каменнымі дапушчаюцца і дзеравянныя будынкі пры абавязковай умове незгараемай страхі.*

*4-я зона. Вышыня ня больш 3-х паверхаў пры плошчы забудовы вучасткаў ня больш 25%. Дапушчаюцца і дзеравянныя будынкі з усялякімі стрэхамі апроч саламяных...»*[474]

Выканкам падтрымаў прапановы прафэсара Сямёнава аб пашырэньні сядзібнай плошчы на раён за вакзалам і паміж вуліцамі Кальварыйскай і Розы Люксэмбург. Апрача таго ў пастанове вызначаліся зоны для прамысловай забудовы (Ляхаўка і ўздоўж чыгункі на Койданава), для вайсковага гарадка (Чэрвеньскі тракт) і стадыёну (Кашарская плошча).

Але ў нашым кантэксьце найбольш важныя наступныя пункты:

«*д) Плошчу ўнутранай зелені давесьці да нормы ня менш 10%. Пад значныя насаджэньні вызначыць Татарскія агароды і парк у заходняй часьці...*

*е) Намеціць сетку радыяльных магістраляў, абходных пуцей і транзытных лініяў...*

*н) Места для пабудовы Ўнівэрсытэту намеціць у ўсходнім раёне гораду (раён за гарадзкім садам і Даўгаброцкай вул.)...*

*о) Намеціць спраектаваньне профіляў вуліц, а таксама ўстанаўленьне чырвоных лініяў з мэтай спраўленьня вул.»*[475].

474 Тамсама, арк. 124.
475 Тамсама, арк. 124 аб.

Важна адзначыць — 12 траўня 1926 году Сямёнаў прадставіў кіраўніцтву Менскага акруговага выканкаму толькі папярэднія думкі аб пляне забудовы Менску. Пастанова прэзыдыюму даручыла яму скласьці такі плян. Ён яго і склаў за наступныя тры месяцы.

Але ўжо ў папярэдніх прапановах Сямёнава і ў пастанове прэзыдыюму выканкаму былі тры найважнейшыя і найтрагічнейшыя пункты, якія ў наступныя гады пагубілі Замкавую гару і Стары горад — гэта парк у раёне Татарскіх агародаў, сетка радыяльных магістраляў, адна зь якіх (Паркавая) пралегла па Старым горадзе і Замчышчы, а таксама спрамленьне вуліц. Гэта нязьменныя палажэньні ўсіх наступных праектаў і плянаў 30–50-х гадоў.

Парк на Татарскіх агародах у 30-я гады трансфармаваўся ў Цэнтральны парк культуры і адпачынку на месцы Замчышча і Татарскай слабады. Тады ж, у 30-я, задумалі і дзьве радыяльныя магістралі на месцы Старога гораду, адну зь якіх пабудавалі (сёньня — праспэкт Пераможцаў), вуліцы (напрыклад, Фэліцыянскую-Камсамольскую) спрамлялі ўжо ў 40–50-я гады, а Нямігу (Нямiскую) — у 30-я і 70-я.

Падчас абмеркаваньня старшыня Менскага акруговага выканкаму С. Яцкевіч выступіў супраць «парку на Татарскіх агародах», прапанаваўшы над гэтым яшчэ падумаць і «ўсебакова абмеркаваць»[476]. Сухія афіцыйныя радкі пратаколу, на жаль, не фіксуюць аргумэнтаў Яцкевіча, але зразумела, што паводле пасады ён ня мог ня ведаць пра барацьбу

476 Тамсама, арк. 125.

Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту за Стары горад, а яго заклік «яшчэ падумаць» наконт парку — ускоснае сьведчаньне, што ён клопат Інбелкульту падзяляў. Але іншыя выступоўцы Сямёнава падтрымалі, і намер пабудаваць парк на месцы Татарскіх агародаў (а фактычна зьнішчыць Замчышча і Стары горад) быў унесены ў пастанову.

Праз некалькі гадоў яшчэ адзін беларускі нацыянал-камуніст, старшыня Менскай акруговай Камісіі па беларусізацыі і старшыня акруговага выканкаму Сьцяпан Вікенцевіч Яцкевіч (1890–1938), будзе з паніжэньнем пераведзены на працу ў Маскву, а пазьней арыштаваны і расстраляны. Зьвестак аб рэпрэсіях супраць іншых удзельнікаў абмеркаваньня няма[477].

Важна зьвярнуць увагу на месца пабудовы ўнівэрсытэту. Якраз гэты пункт зноў нагадвае нам, хто ў 20-я гады быў сапраўдным гаспадаром становішча, а каму адводзілі толькі ролю зацьвярджэньня прынятых ня імі рашэньняў. Прыехаўшы ў Менск і пачаўшы знаёміцца з архітэктурнай справай у горадзе, прафэсар Сямёнаў даведаўся, што кіраўніцтва БДУ мае праект пабудовы ўнівэрсытэту ў раёне вуліцы Бабруйскай. Для маскоўскага госьця гэта было непрынцыпова, і таму ён уключыў гэтае палажэньне ў свой плян, іншымі словамі, прапанаваў пабудаваць БДУ на Бабруйскай.

Падчас абмеркаваньня амаль усе выступоўцы, у тым ліку старшыня акруговага выканкаму Яцкевіч,

477 Зрэшты, магчымая і іншая трактоўка пазыцыі Яцкевіча, бо ў 30-я гады ён быў пераведзены на працу ў Маскву якраз у адзін з будаўнічых аддзелаў НКВД.

выступілі за пабудову ўнівэрсытэцкага гарадка на вуліцы Даўгабродзкай. Так у пастанове і запісалі.

У БДУ справу пабудовы новага корпусу курыраваў былы кадравы супрацоўнік ЧК-ГПУ, намесьнік рэктара Самуіл Слонім. А падчас абмеркаваньня на прэзыдыюме акруговага выканкаму месца каля вакзалу адстойваў начальнік рамонтна-будаўнічага пададдзелу менскага камгасу НКВД Клімаў. Пасьля дасягненьня кансэнсусу наконт пабудовы ўнівэрсытэту на Даўгабродзкай Клімаў раздражнёна запатрабаваў:

«... *Калі ёсьць перарашэньне ў гэтым пытаньні, трэба зараз жа паведаміць аб гэтым Унівэрсытэт*»[478].

А дзе ж у выніку ўнівэрсытэт быў пабудаваны? Правільна, дарагі чытачу, на Бабруйскай.

Нягледзячы на рашэньне акруговага выканкаму абмеркаваць праект Сямёнава ў друку і вынесьці яго на разгляд пленуму гарсавету ў наступныя чатыры месяцы ні таго, ні другога не адбылося. Прафэсар спакойна дапрацаваў свой плян, і 13 верасьня 1926 году ён набыў статус афіцыйнага нарматыўна-плянавага дакумэнту. У гэты дзень прэзыдыюм Дзяржпляну БССР заслухаў даклад У. Сямёнава, разгледзеў яго прапановы і пастанавіў:

«*а) Информационное сообщение профессора Семенова принять к сведению. б) Разработанный проф. Семеновым проект планировки города Минска считать в основном приемлемым.*

*в) Предлагаемые Строительно-транспортной секцией Госплана дополнения к проекту проф. Се-*

478 ДАМн, ф. 25, воп. 1, спр. 25, арк. 125.

*менова обсудить при рассмотрении проектов канализации и водоснабжения г. Минска.*

*г) Предложить Минскому окрисполкому разработать пятилетний план благоустройства, планировки и застройки г. Минска, положив в основу этого плана проект проф. Семенова*»[479].

Так плян У. Сямёнава стаў афіцыйным дакумэнтам і падставай для распрацоўкі генэральнага пляну Менску 30-х гадоў.

І толькі праз два дні пасьля гэтага, 15 верасьня, зьявілася кароткая нататка ў «Звезде» «Перспектива благоустройства Минска» з паведамленьнем аб пляне Сямёнава, але яе, вядома, нельга лічыць грамадзкім абмеркаваньнем у друку — засталася яна фактычна адной-адзінаю згадкай аб гэтым пляне ў тыя гады. Гэта быў зусім невялічкі артыкул, які ўключаў у сябе кароткае інтэрвію з прафэсарам Сямёнавым:

«... *Предполагается упорядочение реки Свислочи, которая после канализации и распланировки должна явиться украшением города. Вдоль течения реки Свсилочи устраиваются основные парки (возле Татарского моста и в раёне Кошар*)»[480].

Як бачым, Сямёнаў у інтэрвію «Звезде» парк на месцы Замчышча завуалявана і нэўтральна называе «паркам у раёне Татарскага моста» — насамрэч гэты мост існаваў зусім побач з Замчышчам, у Траецкім прадмесьці.

І вось тут час і месца паглядзець, хто, як і калі пачаў ствараць пляны сацыялістычнай рэканструк-

479 НАРБ, ф. 7, воп. 1, спр. 207, арк. 111.
480 Звезда. 15 верасьня 1926.

цыі Кіева. Аказваецца, там адбываліся падзеі цалкам сымэтрычныя па часе і аналягічныя паводле свайго характару менскім.

У 1926 годзе кіеўскі акруговы камгас НКВД узяў на працу ўраджэнца сібірскага гораду Ачынску, інжынэра-тэхноляга Паўла Хаўстава (1882–1949), які на той час займаўся геадэзіяй і ня меў нават архітэктурнай адукацыі. Вось навасьпечаны супрацоўнік НКВД УССР Хаўстаў у 1926 годзе і пачаў ствараць пэрспэктыўны плян Кіева. У 1927 годзе ён распрацаваў таксама часовыя правілы, якія рэглямэнтавалі забудову Кіева. Вось як пра гэтую працу піша адзін з сучасных дасьледчыкаў:

«*Большой заслугой П. П. Хаустова было то, что уже в этом документе он заложил идеи, ставшие впоследствии главенствующими в генеральном плане реконструкции Киева 1934–1938 гг. Стремление к рациональному зонированию городских территорий, максимальное ограничение жилищного строительства в центре, создание перечня зон, где по историко-культурным соображениям надлежало предельно сократить строительную деятельность, — все это было в дальнейшем детализировано самим же П. П. Хаустовым и не потеряло своей актуальности и сегодня*»[481].

А вось як пра вынікі працы супрацоўніка камгасу НКВД Паўла Хаўстава піша іншы сучасны ўкраінскі аўтар:

«*Отдавая должное определенным достоинствам и широте охвата проблем Генеральным планом 1936*

481 Алешин В. П. П. Хаустов: градостроитель, ученый, педагог — http://www.alyoshin.ru/Files/publika/alyoshin/haustov.html#1

*года, надо отметить целый ряд воистину фатальных просчетов, с одной стороны обусловленных политическими установками общества, с другой недооценкой реальных масштабов развития города. Так, генпланом 1936 года закреплялась тенденция "бульдозерного переустройства" исторической части Киева и одновременно предлагались такие сомнительные решения, как создание промышленных зон на Теличке и на месте сегодняшних Русановки и Березняков*»[482].

«Бульдозерное переустройство исторической части Киева» — гэта сказана як пра Менск, дзе плянамі камгасу НКВД 20–30-х гадоў прадугледжвалася разбурэньне Замчышча і Нізкага рынку.

У 1930 годзе ва Ўкраіне стварылі Дзяржаўны інстытут праектаваньня гарадоў (Гипрогор), у якім Хаўстаў з таго часу займаў кіраўнічыя пасады. І толькі пасьля гэтага, ва ўзросьце каля 50 гадоў, ён вырашыў атрымаць спэцыяльную архітэктурную адукацыю і паступіў у Кіеўскі інжынэрна-будаўнічы інстытут па спэцыяльнасьці «Архітэктура».

У 1934 годзе сталіца ЎССР была перанесеная з Харкава ў Кіеў, і ў тым самым годзе ў архітэктурна-пляніровачнай майстэрні Хаўстава пад яго кіраўніцтвам пачынаецца распрацоўка пляну сацыялістычнай рэканструкцыі Кіева. Плян гэты, як і менскі, быў зацьверджаны ў 1936 годзе, і са зьменамі — паўторна ў 1938 годзе[483]. Тады ж, у 30-я

482 http://meridian2000.com/liscat/page2.shtml
483 Алешин В. Цыт. тв. — http://www.alyoshin.ru/Files/publika/alyoshin/haustov.html#1

гады, пачалася яго рэалізацыя, прыпыненая ў 1941 годзе вайной.

Тут мы маем справу з амаль поўнай часавай і сутнаснай карэляцыяй, якая не пакідае сумненьня ў сваёй невыпадковасьці. «Амаль поўнай», таму што Менск усё ж апярэджваў Кіеў на год-два, што было зьвязана, відаць, з тым, што сталіцай УССР у 20-я гады быў Харкаў. У кожным выпадку, у Менску, як мы ведаем, першыя пляны пачалі складацца НКВД у 1925 годзе, а генплян сталіцы БССР пачалі распрацоўваць у Ленінградзе ў самым пачатку 30-х гадоў. Зрэшты, і ўкраінскі «Гипрогор» быў створаны ў 1930 годзе.

Даваенны генплян Кіева, як і менскі, зь невялікімі зьменамі, быў рэалізаваны пасьля вайны цалкам, а гістарычны цэнтар сталіцы Ўкраіны — Хрышчацік — як і менская Няміга (сынонім Старога гораду), перасталі існаваць.

## Хто насамрэч быў ініцыятарам рэканструкцыі Менску

Хто ж кіраваў дзеяньнямі Народнага камісарыяту ўнутраных справаў БССР у яго захадах, што прывялі да гібелі Старога гораду ў Менску?

Для кожнага сур'ёзнага гісторыка гэтае пытаньне можа падацца калі ня дзіўным, дык прынамсі рытарычным. Калі гаворка ідзе аб 1925 годзе, то ў СССР адназначна ўсім кіравала Расейская (са сьнежня — Усесаюзная) камуністычная партыя бальшавікоў, дакладней, яе найвышэйшы апарат — Палітбюро ЦК ВКП(б) і Бюро кампартый саюзных рэспублік.

Менавіта гэтыя органы прымалі або зацьвярджалі ўсе важныя дзяржаўныя рашэньні. Апрача таго мясцовым структурам НКВД даводзілася выконваць пастановы ўрадавых і савецкіх органаў на месцах, але гэтыя апошнія таксама дзейнічалі на загад і пад кантролем партыйных камітэтаў. У той час НКВД яшчэ ня стаў над партыяй, як гэта здарылася ў 30-я гады.

І тым ня менш для нашай гісторыі са Старым горадам адказ на пытаньне «Хто загадаў НКВД?» не выглядае адназначным.

Найперш вызначымся з тэрмінамі. У нашым выпадку гаворка ідзе аб генэральным пляне, паколькі, як памятаем, праект Сямёнава афіцыйна называўся «Праектам пляніроўкі гор. Менску на бліжэйшае 25-годзьдзе»[484]. Калі ж мы ўспомнім, што ленінградзкі акадэмік архітэктуры Фамін прапаноўваў Чарвякову свой удзел у «перепланировке городов», і паставім знак роўнасьці паміж сынонімамі «перепланировка» і «рэканструкцыя», то зразумеем, што праект Сямёнава якраз і быў праектам (эскізам) генэральнага пляну рэканструкцыі Менску, разьлічаным на бліжэйшыя 25 гадоў. У 30-я гады тэрмін «рэканструкцыя» сталі шырока ўжываць у афіцыйных дакумэнтах СССР.

Адпаведна трэба шукаць у архівах згадкі пра патрэбу рэканструкцыі Менску.

У канцы 1924 году Дзяржаўная плянавая камісія пры СНК БССР (Дзяржплян) прапанавала Галоўкамгасу НКВД распрацаваць пяцігадовы пэрспэктыўны плян жыльлёвага будаўніцтва і

484 ДАМн, ф. 25, воп. 1, спр. 25, арк. 124.

добраўпарадкаваньня гарадоў. У той час у беларускіх гарадах яшчэ былі навідавоку наступствы пажараў і ваенных дзеяньняў Першай сусьветнай і савецка-польскай войнаў, адчуваўся моцны дэфіцыт жыльля.

Галоўкамгас такі праект распрацаваў за першыя два месяцы 1925 году, і 21 сакавіка ў Дзяржплян быў прадстаўлены «Пятилетний план жилищного и коммунального строительства БССР на 1925/26 — 1930/31 год»[485].

На разгляд прэзыдыюму Дзяржпляну гэты дакумэнт быў вынесены 23 траўня 1925 году і ў той самы дзень зацьверджаны[486].

У гэтым вялікім дакумэнце аб'ёмам каля 150 старонак ні словам ня згадвалася патрэба складаньня пэрспэктыўнага пляну пляніроўкі і забудовы Менску або яго рэканструкцыі.

Вось што там плянавалася ў наступныя пяць гадоў (1925/26 — 1930/31) зрабіць у Старым горадзе:

«*XII. 1. Для увеличения территории Нижнего Базара предполагается разборка сараев в конце овощного ряда и переноска их на другое место.*

*2. Разборка и переноска на другое место ретирадов Нижнего Базара.*

*3. Устройство нового навеса на продолжение овощного [ряда] на Нижнем Базаре.*

*4. Произвести там же срезку горы для образования помещения к переноске ретирадов и удлиннение навеса, а равно постановке переносимого сарая земляных работ* (так у тэксьце — С. А.).

---

485 НАРБ, ф. 31, воп. 1, спр. 63, арк. 76.
486 Тамсама, арк. 96–100.

*5. Устройство общественных ретирадов со всеми приспособлениями, поглощающ. колодцев и проч.*»[487].

І гэта ўсё. Пра патрэбу складаньня пэрспэктыўнага пляну пляніроўкі гораду або яго рэканструкцыі ў гэтым дакумэнце не гаварылася ні слова, бо, як памятаем, прапанова скласьці такі плян упершыню прагучала ў ліпені 1925 году з вуснаў маскоўскага архітэктара Ўладзіміра Сямёнава, які прыяжджаў у Менск у сувязі з праектам каналізацыі.

Пытаньне «Аб здачы работ па састаўленьню праекта пляніроўкі і далейшай забудовы г. Менску» разглядалася 26 лістапада 1925 году на прэзыдыюме Менскага акруговага выканаўчага камітэту. Можа, нейкую згадку пра меркаваны генплян або хаця б намёк на патрэбу яго стварэньня мы знойдзем у датычнай Менскай акругі частцы пяцігадовага пляну камунальнага будаўніцтва і добраўпарадкаваньня гарадоў БССР?

У адным зь беларускіх архіваў мне ўдалося адшукаць і гэты 50-старонкавы дакумэнт. Ніякай згадкі пра патрэбу распрацоўкі генэральнага пляну Менску і яго рэканструкцыі той дакумэнт ня ўтрымлівае[488]. Размова там вядзецца толькі пра рамонт дамоў і дарог, пра новае будаўніцтва, арганізацыю жыльлёвай каапэрацыі і, натуральна, пра неабходныя для гэтага сумы дзяржаўнага і каапэратыўнага крэдытаваньня з праектнымі разьлікамі выдаткаў па гадах.

Такім чынам, у адпаведных афіцыйных дакумэнтах савецкіх, выканаўчых і плянавых органаў

487 Тамсама, арк. 62 аб.
488 Гл.: НАРБ, ф. 7, воп. 1, спр. 207.

БССР вясной, летам і восеньню 1925 году не было гаворкі пра патрэбу стварыць генэральны праект пляніроўкі і сацыялістычнай рэканструкцыі Менску.

А можа ўсё ж ідэю падаў адзін з партыйных камітэтаў? Магчыма. Указаньне на гэта знайшлося ў адной з тагачасных публікацыяў. Нездарма ў папярэднім разьдзеле напісана, што нататка ў «Звезде» за 15 верасьня 1926 году пра генплян Менску засталася ў тыя гады *фактычна* адзінаю згадкай у друку пра гэты праект. Была і яшчэ адна, ранейшая. У ёй (як амаль заўсёды ў тыя гады постфактум) гаварылася яшчэ толькі пра патрэбу стварыць генплян.

Увесну 1926 году прайшлі выбары новага складу Менгарсавету. Першая сэсія пленуму гарсавету X скліканьня адбылася 12 траўня 1926 году. Адкрыў яе старшыня гарсавету С. Яцкевіч, даклад аб выніках выбараў зрабіў яго намесьнік М. Рабіновіч. Прэзыдыюм гарсавету абралі ў складзе 15 чалавек, кіраўніцтва засталося ранейшае. Пастанавілі, што прэзыдыюм зьбіраецца кожны панядзелак а 19-й гадзіне, а пленум — раз на 6 тыдняў.

Інфармацыя аб гэтай сэсіі была апублікаваная не на наступны дзень, 13 траўня, хоць газэты выходзілі і 13-га, але 14 траўня. Нататка ў «Савецкай Беларусі» называлася «Першае пасяджэньне пленуму Менскага гарадзкога Савету X скліканьня». Магчыма, журналісты не пасьпелі падрыхтаваць матэрыял (што менш верагодна, паколькі сама па сабе нататка зусім невялікая), а магчыма, што прызначаная да апублікаваньня інфармацыя мелася папярэдне быць прагледжана ў структурах, якія мелі права яе цэнзураваньня (што больш верагодна). І вось у

адным зь некалькіх абзацаў гэтай нататкі мы сустракаем нечаканую згадку пра генплян Менску:

*«... У аснову пляну і задач новага гарсавету пленум прыняў наказ дэпутатам, які быў прапанован акруговым камітэтам КПБ: Спыніць разрушэньне кватэр;* ***разгледзець, зацьвердзіць і праводзіць у жыцьцё плян пляніроўкі гораду*** (вылучэньне маё — С. А.)*; узмацніць барацьбу зь беспрацоўем; вызначыць плян школьнага будаўніцтва і праводзіць яго ў жыцьцё; палепшыць ахову здароўя; урэгуляваць гандлёва-каапэрацыйныя пытаньні; палепшыць становішча нашага гарнізону праз вызначэньне і правядзеньне ў жыцьцё канкрэтных мерапрыемстваў; землеўпарадкаваць гарадзкую мяжу...»*[489]

І далей яшчэ шмат пунктаў у такім самым стылі. Натуральна, што фраза аб унесеным на разгляд дэпутатаў наказе акруговага камітэту КПБ магла шмат што зьмяніць у ходзе нашага расьсьледаваньня — яна сьведчыла, што да распрацоўкі генпляну Менску прычыніліся партыйныя органы, што яны тую распрацоўку ініцыявалі, а камгас НКВД быў усяго толькі выканаўцам партыйнага загаду.

Архівы Акруговага камітэту КПБ (як і Цэнтральнага камітэту партыі) захаваліся вельмі добра, пасьпяхова перажылі вайну, сёньня яны рассакрэчаныя і даступныя дасьледчыкам. Прычым стан іх захаванасьці і камплектнасьці такі добры, што часам сустракаюцца нават дублікаты архіўных справаў — у розныя кнігі падшытыя арыгіналы і копіі пратаколаў тых самых пасяджэньняў або сходаў. Пратаколы ўсіх пасяджэньняў, нарадаў і

489 Савецкая Беларусь. 14 траўня 1926.

рашэньняў, нумар за нумарам і дата за датай, акуратна падшытыя ў архіўныя справы.

Натуральна было адразу кінуцца шукаць у паперах Менскага акружкаму КПБ за 1925–1926 гады хоць нейкую згадку пра абмеркаваньне генпляну ці рашэньне яго распрацаваць. Шматдзённыя пошукі аказаліся марнымі. Ні ў пратаколах пасяджэньняў Бюро АК КПБ, ні ў рашэньнях сакратарыяту АК, ні ў пратаколах галіновых нарадаў пры АК (у тым ліку і будаўнічых), ні ў рашэньнях галіновых аддзелаў АК ніякай згадкі пра патрэбу стварэньня пляну пляніроўкі Менску няма.

Зразумела, што такое важнае пытаньне, як рэканструкцыя Менску, не магло быць прынятае без разгляду на Бюро ЦК КП(б)Б. Архівы ЦК таксама захаваныя выдатна — у 1941 годзе яны былі эвакуаваныя і пасьля вернутыя ў стане добрай захаванасьці. Там таксама поўны парадак і пасьлядоўнасьць з нумарамі і датамі пасяджэньняў, а дублікаты папераў падшытыя ў дублетныя справы. Аднак і ў паперах Бюро ЦК за адпаведны пэрыяд ніякай згадкі пра генэральны плян пляніроўкі і рэканструкцыі Менску няма. Даводзіцца зрабіць выснову, што наяўныя сёньня архіўныя крыніцы не дазваляюць сьцьвярджаць, што партыйныя органы БССР мелі нейкае дачыненьне да рашэньня стварыць плян пляніроўкі і далейшай забудовы Менску.

Праект прафэсара Сямёнава быў разгледжаны і зацьверджаны прэзыдыюмам акруговага выканкаму 12 траўня 1926 году — гэта значыць, у дзень правядзеньня першай сэсіі Менскага гарсавету X скліканьня. Нашто ж было даваць дэпутатам заданьне стварыць тое, што ўжо было некалькі

месяцаў як створана і зацьверджана на акруговым узроўні ў той самы дзень, калі дэпутатам гэты «наказ» толькі агучвалі? Адзін зь верагодных адказаў можа быць такі. Магчыма, нататку ў «Савецкай Беларусі» ад 14 траўня 1926 году цэнзуравалі ў акруговым камітэце КПБ і, ведаючы ўжо пра рашэньне прэзыдыюму аб пляне Сямёнава, вырашылі «прымазацца» да плянаў камгасу. Мы можам мець тут справу з «партыйнымі прыпіскамі».

Іншы варыянт адказу: фразу «разгледзець, зацьвердзіць і праводзіць у жыцьцё плян пляніроўкі гораду» кіраўніцтва акруговага выканкаму ўнесла ў пералік пунктаў партыйнага наказу само, бяз санкцыі акруговага камітэту партыі, бо напярэдадні якраз на ініцыятыву камгасу НКВД гэтае пытаньне было ўнесенае на прэзыдыюм і рыхтавалася да зацьвярджэньня. Іншымі словамі, мы маем справу з той самай прыпіскай, толькі гэтым разам ужо «савецкай».

І, нарэшце, магчыма, што якраз у справе ініцыяваньня першага савецкага генэральнага пляну Менску мы сутыкаемся з раньнімі прыкметамі таго свавольства ГПУ-НКВД, якое расквітнела ў 30-я гады.

Паглядзім на ўзаемадачыненьні партыйных органаў з камгасам НКВД у тыя гады ў падобных сытуацыях.

Пра рэальны ўплыў менскіх партыйных структураў на архітэктурную сытуацыю ў горадзе і пра сапраўдную ролю камгасу НКВД у гэтай справе яскрава сьведчыць гісторыя са спробай акруговых уладаў паставіць у 1925–1926 годзе помнік Леніну ў Менску.

5 сьнежня 1925 году Бюро акруговага камітэту КП(б)Б разгледзела пытаньне «О месте для устройства памятника В. И Ленину» і пастанавіла:

«*Для увековечивания памяти В. И. Ленина поставить памятник на Пл. Свободы. Поручить комиссии изучить художественную сторону этого места*»[490].

Камісію ўзначаліў член Бюро акружкаму КП(б)Б, старшыня акруговага выканкаму С. Яцкевіч. Праз 9 месяцаў працы камісія пацьвердзіла слушны выбар месца, і 27 верасьня 1926 году Бюро акруговага камітэту партыі прыняло наступную пастанову:

«а*) Вызначыць месца для ўстаноўкі памятніка Леніну — пляц “Волі”;*

*б) Лічыць пажаданым адчыненьне памятніка Леніну к Кастрычнікавым сьвятам...*»[491]

На той час у Менску ўжо два скульптары — А. Грубэ і З. Азгур — выканалі скульптурныя партрэты Леніна, якія цалкам маглі стаць у бронзе на Пляцы Волі. Але ня сталі. Акружкам КП(б)Б зноў спазьніўся, або (што больш верагодна) яму патлумачылі, што хутка Пляц Волі перастане быць цэнтральным і з помнікам Леніну трэба трошкі пачакаць. Як мы даведаемся з наступнага раздзелу, восеньню 1926 году сытуацыя вакол старой часткі Менску кардынальна зьменіцца — НКВД правядзе праз Дзяржплян праект зусім іншай будучыні сталіцы БССР з зусім іншымі цэнтральнымі пляцамі. У выніку ў 1931 годзе (пасьля высылкі нацдэмаў) будзе абвешчаны ўсесаюзны конкурс

490 ДАМн, ф. 12-п, воп. 1, спр. 199, арк. 193.
491 ДАМн, ф. 12-п, воп. 1, спр. 419, арк. 252.

на найлепшы праект помніка Леніну ў Менску. У ім перамогуць скульптар М. Манізер і архітэктар І. Лангбард. Іх помнік урачыста ўсталююць перад новапабудаваным Домам Ураду 7 лістапада 1933 году.

Гэты прыклад прымушае ўсумніцца ў рэальнасьці або дзейснасьці «наказу» акружкаму КПБ менскаму гарсавету наконт пляну пляніроўкі гораду, пра што ўвесну 1926 году пісала «Савецкая Беларусь».

Пра сілу камгасу НКВД сьведчыць і гісторыя зь месцам пабудовы новых карпусоў БДУ. Як памятаем, Менскі акруговы выканкам пры разглядзе праекту Ўладзіміра Сямёнава 12 траўня 1926 году вырашыў, што новы ўнівэрсытэцкі гарадок будзе пабудаваны на вуліцы Даўгабродзкай. Тым часам Сямёнаў плянаваў новыя карпусы БДУ на Бабруйскай, за гэта ж выступаў і камгас. І вось камгас у канцы 1926 — пачатку 1927 году на падставе праекту Сямёнава распрацоўвае новы пяцігадовы плян, і новы ўнівэрсытэцкі гарадок пачынае будавацца на вуліцы Бабруйскай каля вакзалу. Тут мы бачым, што пры складаньні новага пляну камгас спакойна вярнуўся да сваіх ранейшых намераў і ў гэтым яму ніхто не перашкодзіў. Унівэрсытэт і сёньня стаіць на Бабруйскай.

Камгас меў і вялікія фінансавыя магчымасьці, якіх і блізка не было ў абаронцаў беларускай культуры. Вось характэрны прыклад. У верасьні 1925 году прэзыдыюм Інбелкульту прыняў на працу двух выдатных беларускіх навукоўцаў — Мітрафана Доўнар-Запольскага і Дзьмітрыя Даўгялу. У пастанове запісалі:

*«Зацьвердзіць Доўнара-Запольскага старшынёй Гісторыка-археалягічнай камісіі і т. Даўгяла Зьм. на пасадзе навуковага сакратара камісіі з 1 верасьня з прызначэньнем першаму пэнсіі 200 р. у месяц, а другому 125 р. у месяц»*[492].

А праз два месяцы, 4 сьнежня 1925 году, прэзыдыюм Менскага акруговага выканкаму пастанавіў:

*«... направить тов. Рабиновича в Москву для приглашения бывшего главного инженера «Водоканала» гр. Доброхотова Н. Д. на должность главного инженера по постройке канализации в гор. Минске с возможностью оклада до 800 руб. в месяц»*[493].

Розьніца ў заробку выдатных дзеячоў беларускай культуры і запрошанага знаўцы каналізацыі з Масквы ўражвае і шмат аб чым сьведчыць. А праз два гады, як памятаем, сьціплая просьба Інстытуту беларускай культуры аб падвышэньні ставак сваіх супрацоўнікаў хаця б на 50 рублёў была цынічна адкінутая.

Дакумэнты сьведчаць, што камгас НКВД БССР цалкам кіраваўся Масквой, і што менавіта Масква цалкам кантралявала будаўнічую сфэру Беларусі. Падрабязна аб саюзна-рэспубліканскім статусе камгасу НКВД гаворка ішла ў разьдзеле «Каму камісія перайшла дарогу ў 1925 годзе». Як памятаем, ва ўмовах адсутнасьці саюзнага НКВД беларускі НКВД заўсёды выконваў загады і рэкамэндацыі камгасу НКВД РСФСР. Таму мы сьмела можам казаць, што ўсе мясцовыя рашэньні, нават на ўзроўні рэспубліканскіх органаў, былі фармальным за-

492 ЦНА НАНБ, ф. 67, воп. 1, спр. 9, арк. 211.
493 НАРБ, ф. 7, воп. 1, спр. 403, арк. 5.

цьвярджэньнем рэальных рашэньняў і рэальных плянаў Масквы.

Гэтая заканамернасьць няўхільна датрымлівалася нават на ўзроўні праектаў асобных жылых будынкаў. У кастрычніку 1926 году кіраўнік будаўніча-транспартнай сэкцыі Дзяржпляну БССР інжынэр Брэсьлер напісаў скаргу да старшыні Дзяржпляну. У ёй чыноўнік скардзіўся на невыносныя ўмовы працы і пісаў, што для ўсіх дакумэнтаў «союзных органов, посредством БССР поступающих в секцию», Масква устанаўлівае «нереальные сроки» для падрыхтоўкі заключэньняў[494]. А далей са скаргі вынікае, што гаворка ішла пра будаўніцтва нейкага невялікага дома ў межах праграмы «будаўніцтва рабочых жылішч». Нават у такіх дробных пытаньнях Менск павінен быў толькі выстаўляць станоўчыя заключэньні для Масквы. Што ж казаць пра праект пляніроўкі гораду.

Нельга не згадаць і адну з самых важных падзеяў, якая яшчэ больш прывязала камгас НКВД у будаўнічых і архітэктурных пытаньнях да Масквы. Адбылося гэта ў чэрвені 1925 году — якраз у той час, калі дзеячы Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту сталі дамагацца суду над вінаватымі ў разбурэньні помнікаў і пачалі распрацоўку пляну рэстаўрацыі Замкавай гары ў Менску. 17 чэрвеня 1925 году Савет народных камісараў БССР нечакана скасаваў у штаце Галоўкамгасу НКВД пасаду рэспубліканскага архітэктара[495]. Пазбавіўшы НКВД галоўнага архітэктара і яго апарату, СНК як бы

494 НАРБ, ф. 7, воп. 1, спр. 207, арк. 135.
495 НАРБ, ф. 691, воп. 1, спр. 62, т. 2, арк. 115.

схіляў Галоўкамгас зьвяртацца з архітэктурнымі пытаньнямі ў Маскву.

У НКВД пастанову Саўнаркаму ацанілі належным чынам, бо, магчыма, самі яе і ініцыявалі. Так думаць прымушаюць наступныя акалічнасьці. Разам з пасадай рэспубліканскага архітэктара СНК скасаваў у Галоўкамгасе пасады двух інструктараў — па арганізацыйнай частцы і па пажарнай справе. Праз месяц пасьля пастановы СНК, у ліпені 1925 году, Галоўкамгас зьвярнуўся ў СНК з просьбай перагледзець рашэньне і аднавіць пасады інструктараў (і дамогся гэтага), а пра архітэктара нават і ня ўспомніў[496].

Да гэтага варта дадаць, што калі летам 1925 году Рабіновіч прывёз з Масквы ў Менск прафэсара Сямёнава для складаньня пляну каналізацыі, а той прапанаваў заняцца і плянам пляніроўкі Менску, у сталіцы БССР існавала пасада гарадзкога архітэктара, якую тады займаў нехта Селіванаў. Гэтаму архітэктару, аднак, ні праекту каналізацыі, ні праекту далейшай пляніроўкі Менску не даверылі, як і ўсіх іншых, пра якія гаворка ішла вышэй. Як не даверылі іх і ўсім дзяржаўным архітэктурна-будаўнічым структурам, якія існавалі ў той час у БССР.

496 Тамсама.

## Камгас касуе пляны Інбелкульту адносна Замчышча

Лета 1926 году было адносна спакойнае. Уладзімір Сямёнаў дапрацоўваў свой праект, а дзеячы Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту яшчэ захоўвалі надзею на пасьпяховае разьвязаньне справы Замчышча і Старога гораду.

Аднак у верасьні адбыліся дзьве падзеі, якія паставілі крыж на гэтых надзеях. Пра адну зь іх (пасяджэньне прэзыдыюму Дзяржпляну БССР 13 верасьня 1926 году) гаворка ўжо была. Тут, аднак, самы час расказаць пра яе больш падрабязна.

Архівы Дзяржаўнай плянавай камісіі БССР за 1925–1926 гады захаваліся даволі добра, але не стопрацэнтна. Пратаколы пасяджэньняў прэзыдыюму Дзяржпляну і матэрыялы да іх захаваліся амаль цалкам, пратаколы пасяджэньняў сэкцыяў і матэрыялы да іх — толькі фрагмэнтарна. Пратаколы пасяджэньняў прэзыдыюму падшытыя ў асобныя справы паводле датаў і маюць нават дублікаты. Да некаторых пасяджэньняў падрыхтоўчых матэрыялаў было так шмат, што яны аказаліся падшытыя ў асобныя справы і называюцца, напрыклад, так «Матэрыялы да пратаколу №... пасяджэньня прэзыдыюму Дзяржпляну ад....». Матэрыялы іншых пасяджэньняў прэзыдыюму, не такіх багатых на падрыхтоўчую дакумэнтацыю, аказаліся сабраныя ў зборныя справы паводле пэрыядаў працягам ад некалькіх месяцаў да паўгоду.

Пратакол пасяджэньня прэзыдыюму Дзяржпляну ад 13 верасьня 1926 году, на якім разглядаўся

праект рэканструкцыі Менску Ўладзіміра Сямёнава, мае парадкавы нумар 184. У той дзень разглядаліся аж дзесяць пытаньняў, сярод якіх былі і вельмі значныя, напрыклад, «О пятилетнем перспективном плане местной электрификации» або «О реорганизации щетинной промышленности». Пасяджэньне доўжылася амаль чатыры гадзіны, аб чым сьведчыць запіс пратаколу:

«*Заседание началось в 18 час. 20 м., окончилось в 22 часа*»[497].

Натуральна было меркаваць, што і праект У. Сямёнава, і суправаджальная запіска да яго, растыражаваныя для разгляду ў сэкцыях і для азнаямленьня членаў прэзыдыюму, захаваліся. У кожным выпадку, павінны былі захавацца хаця б матэрыялы да разгляду пяцігадовага пляну мясцовай электрыфікацыі або іншых пытаньняў парадку дня, напрыклад, аб пабудове электрастанцыі ў Асіповіцкім раёне ці рэформы «щетинной промышленности». Тым ня менш асобнай справы з матэрыяламі да гэтага пасяджэньня ў фондах Нацыянальнага архіву Рэспублікі Беларусь няма. Разам з тым асобныя справы з матэрыяламі да менш значных пасяджэньняў захаваліся.

У зборных падшыўках з паперамі да розных пасяджэньняў прэзыдыюму пасьля франтальнага пошуку мне ўдалося знайсьці толькі адзін дакумэнт, які мае дачыненьне да пратаколу №184 — гэта «Заключение строительно-транспортной секции по проекту планировки города Минска»[498]. Аднак

497 НАРБ, ф. 31, воп. 1, спр. 87, арк. 110.
498 Гл.: НАРБ, ф. 31, воп. 1, спр. 872, арк. 388.

уважлівае вывучэньне і гэтых двух дакумэнтаў (Пратаколу і Заключэньня) дало даволі шмат інфармацыі для нашага расьсьледаваньня.

Пасяджэньнем прэзыдыюму Дзяржпляну 13 верасьня 1926 году кіраваў сам старшыня Дзяржпляну Сяргей Карп, што было ў тое лета і восень даволі рэдкай падзеяй. Пераважна кіраваў пасяджэньнямі і старшыняваў на іх яго намесьнік Бунін. Карп зьяўляўся на прэзыдыюме толькі для разгляду важных дзяржаўных праграмаў і праектаў, кшталту розных пяцігадовых плянаў — быў гэта важны дзяржаўны чыноўнік, у мінулым адзін зь лідэраў габрэйскай сацыял-дэмакратыі, які да прызначэньня ў родную Беларусь пасьпеў папрацаваць арганізатарам суполак партыі «Паалей Цыён» у Аўстрыі, Эгіпце і Палестыне.

Пры складаньні пратаколаў пасяджэньняў прэзыдыюму Дзяржпляну захоўваўся няўхільны парадак. Перад кожным пытаньнем у графе «Слушали» абавязкова было пададзена, якой арганізацыяй або сэкцыяй Дзяржпляну яно ўнесена і хто дакладае. Напрыклад, насупраць пытаньня №5 аб дасьледаваньні Асіповіцкага тарфянога балота ў сувязі з пабудовай на ім раённай электрастанцыі ў той дзень было запісана:

«*Внес. Бюро по электрификации, Докл. т. Каплан*»[499].

Такі бюракратычны парадак афармленьня пратаколаў выконваўся абавязкова і няўхільна. І вось тут мы сустракаемся з выключэньнем. Насупраць пытаньня №3 у графе «Слушали» запісана:

499 НАРБ, ф. 31, воп. 1, спр. 87, арк. 112.

*«О проекте планировки г. Минска. — /Інформация проф. СЕМЕНОВА/»*[500].

У пратаколе, такім чынам, не зафіксавана, кім гэтае пытаньне на разгляд Дзяржпляну было ўнесена. У сьпісе спэцыяльна запрошаных на пасяджэньне знаходзім «представителя Минского Окрисполкома» т. Рабіновіча. Рабіновіч быў намесьнікам старшыні Менскага акруговага выканкаму і старшынём акруговай плянавай камісіі, з чаго можна зрабіць выснову, што і пытаньне ў Дзяржплян было ўнесена ад імя акруговай плянавай камісіі або Акрпляну, як яе тады называлі. Тым ня менш, у дакумэнце крыніца не зафіксаваная — нібыта прафэсар Сямёнаў дакладаў ад сябе самога.

Яшчэ адно відавочнае парушэньне — адсутнасьць канкрэтных тэрмінаў выкананьня. Калі справа тычылася канкрэтных праектаў ці плянаў, Дзяржплян заўсёды вызначаў тэрміны іх распрацоўкі і выкананьня. У выпадку з праектам прафэсара Сямёнава Дзяржплян чамусьці абмежаваўся фармулёўкай:

«*Предложить Минскому Окрисполкому разработать пятилетний план благоустройства, планировки и застройки г. Минска, положив в основу этого плана проект проф. Семенова*»[501].

Гэтая пастанова патрабуе дадатковай увагі. Перад намі ні многа ні мала — адмова Дзяржаўнай плянавай камісіі БССР ад стварэньня генпляну Менску. Як памятаем, зацьверджаны Менскім акруговым выканкамам плян прафэсара Сямёнава быў

500 Тамсама, арк. 111.
501 НАРБ, ф. 7, воп. 1, спр. 207, арк. 111.

фактычным генплянам, разьлічаным на 25 гадоў, а Дзяржплян загадаў скласьці толькі пяцігадовы праект. Таму пастанову Дзяржпляну можна лічыць у пэўнай ступені неспрыяльнай для НКВД і Ўладзіміра Сямёнава.

Гэта пацьвярджае і другі знойдзены дакумэнт — Заключэньне будаўніча-транспартнай сэкцыі па праекце Сямёнава. Гэта сьведчаньне, што праект усё ж папярэдне ў гэтай сэкцыі разглядаўся. Чаму ж не яна ўнесла яго на разгляд прэзыдыюму Дзяржпляну? Адказ на гэтае пытаньне знаходзім у самім дакумэнце, ужо ў яго першым пункце:

«*Констатировать, что проект планировки гор. Минска не увязан с финансовыми возможностями Горисполкома и экономическими перспективами жилищного строительства на ближайший период лет*»[502].

Гэта — адмова будаўніча-транспартнай сэкцыі Дзяржпляну БССР ухваліць увесь плян прафэсара Сямёнава і вынесьці яго на разгляд прэзыдыюму. Відавочна, што ў прапанаваным менскімі ўладамі выглядзе праект Сямёнава ня мог быць вынесены на разгляд прэзыдыюму Дзяржпляну ад імя сэкцыі і прадстаўлены кімсьці зь яе кіраўнікоў або членаў. Чаму ж члены сэкцыі так ацанілі праект маскоўскага прафэсара? Адказаў, на маю думку, два.

Па-першае, на маштабныя разбурэньні і новае будаўніцтва, якое заплянаваў Сямёнаў, у дзяржавы тады сапраўды магло ня быць грошай. Фраза заключэньня, што праект «не увязан с финансовыми возможностями Горисполкома и экономическими

502 НАРБ, ф. 31, воп. 1, спр. 872, арк. 388.

перспективами жилищного строительства на ближайший период лет» сьведчыць таксама і пра пазыцыю менскага камгасу НКВД адносна Старога гораду. Зразумела, што Сямёнаў складаў свой праект, зыходзячы з патрабаваньняў і пажаданьняў таго, хто яму праект замовіў — камгасу НКВД і, відаць, наплянаваў столькі зносаў і новых будоўляў у Менску, што чыноўнікі Дзяржпляну цьвяроза ацанілі яго праект як нерэальны і фінансава неадпаведны.

І, па-другое, гэта ведамасная рэўнасьць. У прыведзеных радках заключэньня чытаецца раздражненьне службоўцаў Дзяржпляну з прычыны таго, што ня іх ведамства стала ініцыятарам гэтага праекту рэканструкцыі Менску. Менавіта Дзяржплян тады раздаваў загады, заданьні і рэкамэндацыі што, каму і дзе плянаваць у БССР і якія праекты складаць. На той час Дзяржплян ужо два гады вымагаў ад акруговых і гарадзкіх уладаў стварэньня плянаў забудовы і добраўпарадкаваньня гарадоў. Плян па Менску быў ужо год як складзены камгасам НКВД, пададзены ў галоўную плянавую ўстанову рэспублікі і зацьверджаны ёй у траўні 1926 году — і тут раптам плян прафэсара Сямёнава. Непарадак.

Плян Уладзіміра Сямёнава быў, такім чынам, забракаваны. Чаму ж тады некалькі старонак вышэй тут напісана, што 13 верасьня 1926 году той праект набыў статус афіцыйнага дакумэнту, а той дзень стаў канцом надзеяў дзеячоў Інбелкульту на аднаўленьне і рэстаўрацыю Замкавай гары і яе помнікаў?

Насамрэч, усё было ня так проста. Мы ня маем пратаколу пасяджэньня будаўніча-транспартнай сэкцыі Дзяржпляну, ня ведаем хто там прысутні-

чаў і што казаў. Мы ня ведаем нават, калі дакладна яно адбылося. Зразумела, зрэшты, што яно праходзіла за некалькі дзён (ня больш за тыдзень-два) да пасяджэньня прэзыдыюму 13 верасьня. Затое ведаем канчатковы яго вынік. У заключэньні сэкцыі па праекце Ўладзіміра Сямёнава пасьля некалькіх малазначных абзацаў даецца гэткае падсумаваньне:

«*На основании проекта плана проф. Семенова и перспективных пятилетних планов строительства по гор. Минску предложить Окрисполкому составить пятилетний план благоустройства, планировки и застройки гор. Минска*»[503].

А гэта тое, што камгасу НКВД і было патрэбна. Сэкцыя, такім чынам, хоць праект Сямёнава і забракавала, але разам з тым вырашыла стварыць на яго падставе новы плян — замест 25-гадовага 5-гадовы. Сам праект маскоўскага прафэсара, як бачым, прыняты ня быў, але мэта камгасу НКВД была дасягнутая — яго ініцыятыва аб рэканструкцыі Менску была-ткі ўхваленая адной са структураў Дзяржпляну, а пазьней і кіраўніцтвам гэтай установы. Вось чаму можна сьцьвярджаць, што 13 верасьня на прэзыдыюме Дзяржпляну праект Сямёнава набыў афіцыйны статус. Яго прынялі за аснову.

Адсутнасьць пратаколу пасяджэньня сэкцыі не дае нам магчымасьці рабіць дакладныя высновы аб пазыцыях яго ўдзельнікаў, мы нават ня ведаем іх пайменна, за выключэньнем тых, хто выніковы дакумэнт падпісаў — гэта кіраўнік сэкцыі Брэсьлер, член сэкцыі Ладыгін і сакратар Руткоўскі. Можна меркаваць, што на пасяджэньні прысутнічалі той

503 Тамсама.

самы Сямёнаў, той самы Рабіновіч і нехта з камгасу НКВД. А можа, іх там і не было. Магчыма, што для прыняцьця менавіта такога рашэньня на сэкцыю быў зроблены націск начальства або былі ўжытыя нейкія іншыя намэнклятурныя захады.

Дэталі абмеркаваньня пляну прафэсара Сямёнава на прэзыдыюме Дзяржпляну і аргумэнты абодвух бакоў у пратаколе №184 ад 13 верасьня 1926 году не зафіксаваныя. Але, улічваючы ўсе вышэйпрыведзеныя факты, можна канстатаваць, што ўнясеньне пляну Сямёнава на разгляд прэзыдыюму Дзяржпляну мае ўсе прыкметы калі не спэцапэрацыі ГПУ, то, прынамсі, пасьпяховай чыноўніцкай інтрыгі камгасу НКВД. Камгас вельмі кваліфікавана і якасна дасягнуў сваёй мэты. І няважна, што плян Сямёнава быў забракаваны і яго не ўдалося прасунуць цалкам і адразу, важна, што ён быў прыняты прэзыдыюмам Дзяржпляну за аснову. Нагадаю тэкст пастановы па дакладзе Сямёнава цалкам:

«*а) Информационное сообщение профессора Семенова принять к сведению.*

*б) Разработанный проф. Семеновым проект планировки города Минска считать в основном приемлемым.*

*в) Предлагаемые Строительно-транспортной секцией Госплана дополнения к проекту проф. Семенова обсудить при рассмотрении проектов канализации и водоснабжения г. Минска.*

*г) Предложить Минскому окрисполкому разработать пятилетний план благоустройства, пла-*

*нировки и застройки г. Минска, положив в основу этого плана проект проф. Семенова»*[504].

Галоўнае, што цяпер у камгасу НКВД зьявілася, гэта — законная падстава адмовіць дзеячам Інбелкульту ў рэстаўрацыі старых будынкаў на Замчышчы і самой Замкавай гары, а таксама ў пабудове турыстычнага бульвару на Падзамкавай.

Зрэшты, зьявілася яна ў іх на некалькі дзён раней — адразу пасьля разгляду праекту Сямёнава ў будаўніча-транспартнай сэкцыі Дзяржпляну. Зразумела, што ў Менскім акруговым выканкаме і камгасе пра вынікі разгляду праекту Ўладзіміра Сямёнава ў сэкцыі даведаліся адразу. Гэта дало магчымасьць удзельнікам той намэнклятурнай інтрыгі дзейнічаць рашуча і імкліва.

11 верасьня 1926 году, за два дні да заплянаванага пасяджэньня прэзыдыюму Дзяржпляну, адбылася ня менш, а можа і больш важная для лёсу Старога гораду падзея.

У гэты дзень у будынку Менскага акруговага выканкаму на Пляцы Волі, №4 адбылося пасяджэньне Акрпляну — так тады называлі Менскую акруговую плянавую камісію. Кіраваў пасяджэньнем намесьнік старшыні Акруговага выканкаму і Менскага гарсавету М. Рабіновіч — ён адначасова, як мы ведаем, быў і старшынём Акрпляну. Апрача Рабіновіча прысутнічалі яшчэ пяць чалавек, зь якіх трое — Вольскі, Клімаў і Гарноўскі — прадстаўлялі камгас НКВД. Пытаньне на абмеркаваньне было вынесена адно — Плян грамадзкіх работ на 1926/27 гады. Дакладаў загадчык рамонтна-будаўнічага

504 НАРБ, ф. 7, воп. 1, спр. 207, арк. 111.

пападдзелу акруговага камгасу НКВД Клімаў. У рашэньні паводле 18-га пункту дакладу Клімава запісалі:

*«§18 т. е. планировка местности под бульвар на месте бывшего Литовского замка (Подзамковая ул.) из плана исключить, считая совершенно нерациональным затрату таких колоссальных средств на устройство маленького сквера, и перевести эту сумму на устройство загородного парка в Антоновской лесной даче, переведя ее в работы первой очереди»*[505].

Так НКВД атрымаў законную падставу адмовіцца ад выкананьня прынятых раней пад націскам Інбелкульту і яго Камісіі аховы помнікаў плянаў адносна Замкавай гары.

Гэта — адзіны дакумэнтальны доказ таго, што прынамсі некаторыя элемэнты праекту рэстаўрацыі Замчышча, складзенага Камісіяй аховы помнікаў, былі ўключаныя ў афіцыйны плян камгасу на 1926/27 гады.

Фраза «затрату таких колоссальных средств на устройство маленького сквера» сьведчыць пра маштаб праекту, задуманага дзеячамі Інбелкульту. Але яна можа сьведчыць і пра адпаведную форму, якую выбраў для прадстаўленьня праблемы загадчык рамонтна-будаўнічага пададдзелу акруговага камгасу Клімаў. Якраз яна выдае нежаданьне НКВД рэстаўраваць Замчышча і будаваць там пляцоўку для турыстаў. А згадка пра «бывший Литовский замок» зноў жа недвухсэнсоўна сьведчыць, што бульвар той плянаваўся на патрабаваньне Інбел-

505 ДАМн, ф. 284, воп. 1, спр. 8, арк. 15–15 аб

культу — гэта адсылка да гістарычных аргумэнтаў, зь якімі інбелкультаўцы дамагаліся рэстаўрацыі Замкавай гары. Ня самі ж чыноўнікі НКВД мелі такія глыбокія гістарычныя веды пра Вялікае Княства Літоўскае і менскую сядзібу яго валадароў.

Зьвяртае на сябе ўвагу, што на пасяджэньні Акруговай плянавай камісіі было аж тры прадстаўнікі камгасу НКВД. Але фактычна іх было там чатыры з шасьці ўдзельнікаў, паколькі М. Рабіновіча таксама можна лічыць чалавекам камгасу. Удзельнікі таго пасяджэньня адзін аднаго разумелі добра.

Так з плянаў камгасу быў прыбраны ўключаны туды намаганьнямі актывістаў Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту пункт аб ачыстцы тэрыторыі Замчышча і стварэньні на яго самым высокім месцы бульвару для турыстаў. Аднак больш за само рашэньне і яго вынікі для беларускай культуры і гісторыі ўражвае дата прыняцьця гэтага рашэньня, дакладней нават не сама дата, але яе блізкасьць да дзьвюх іншых — да пасяджэньня будаўніча-транспартнай сэкцыі ў першыя дні верасьня і да 13 верасьня, калі адбылося пасяджэньне прэзыдыюму Дзяржпляну БССР.

Такая блізкасьць якраз і зьяўляецца доказам неразрыўнай сувязі гэтых двух працэсаў: спробаў захаваць і рэстаўраваць Замчышча з аднаго боку, і намеру рэканструяваць Менск у адказ на гэтыя спробы — з другога. Якраз з гэтай часавай блізкасьці двух рашэньняў робіцца зразумелым, што плян рэканструкцыі Менску з закладаньнем на месцы Старога гораду парку культуры і адпачынку быў контрмерай камгасу НКВД, яго адказам на

настойлівыя дамаганьні нацыянальных дзеячоў рэстаўраваць і музэіфікаваць Замчышча.

Пляны акругровага камгасу адносна ўпарадкаваньня Замчышча і пабудовы на ім бульвару для турыстаў скасавалі менавіта тады, калі ў іх адпала неабходнасьць, калі ўжо было вынесена рашэньне будаўніча-транспартнай сэкцыі Дзяржпляну і было ясна, што прэзыдыюм гэтай установы заключэньне сэкцыі пацьвердзіць, надаўшы яму афіцыйны статус.

## Спробы НКВД рэалізаваць пляны Сямёнава ўжо ў 1927–1928 гадах

Так што з плянавымі органамі ў камгасу праблемаў на тым этапе не ўзьнікала. Асабліва, калі дапускаць, што ў верасьні 1926 году мы маем справу зь бюракратычнай інтрыгай камгасу, сапраўдныя мэты (ці вытокі) якой былі вядомыя далёка ня ўсім супрацоўнікам тагачасных плянавых органаў. Магчыма, апрача Рабіновіча, аб іх ня ведаў ніхто.

Ускосны доказ гэтаму — яшчэ адно месца з заключэньня будаўніча-транспартнай сэкцыі Дзяржпляну аб праекце прафэсара Сямёнава. Месца тое паказвае нам, што чыноўнікі Дзяржпляну не зусім арыентаваліся ў сытуацыі і зусім не ўяўлялі сапраўдных мэтаў камгасу на той канкрэтны момант.

Прафэсар Сямёнаў накідаў вялікі плян зьменаў у горадзе — зносаў і разбурэньняў цэлых кварталаў і раёнаў, а таксама заснаваньня новых праспэктаў, пляцаў і вуліц. У выніку гэтых зьменаў, фактычна, зьнікаў гістарычны цэнтар беларускай сталіцы. За

ідэямі Сямёнава ўжо праглядаліся абрысы генпляну 30-х гадоў і распачатага тады будаўніцтва новага Менску. А супрацоўнікаў будаўніча-транспартнай сэкцыі цікавілі зусім «прыземленыя» рэчы: напрыклад, увязка пабудовы новых раёнаў з пракладаньнем туды чарговых ліній каналізацыі або вось такая:

«*Выделить на плане уличных магистралей линии, ведущие к рынку (на площади) Парижской Коммуны с тем, чтобы обеспечить интересы крестьянского движения к рынку и обратно, которое имеет значительные размеры*»[506].

Як бачым, за камгасаўскай смугой чыноўнікі яшчэ ня бачылі новага тэатру опэры і балету на Траецкім рынку — іншымі словамі, ня бачылі размаху плянаваных зьменаў. У Дзяржпляне думалі, што рынак на Траецкай гары будзе існаваць і праз 10, і праз 20 гадоў.

Або вось яшчэ доказ драбнаты і неадпаведнасьці дадаткаў Дзяржпляну сапраўдным мэтам НКВД. Як памятаем, адным з пунктаў пастановы прэзыдыюму Дзяржпляну ад 13 верасьня 1926 году аб праекце Ўладзіміра Сямёнава быў такі:

«*в) Предлагаемые Строительно-транспортной секцией Госплана дополнения к проекту проф. Семенова обсудить при рассмотрении проектов канализации и водоснабжения г. Минска*»[507].

23–25 кастрычніка таго самага году адбылося пасяджэньне прэзыдыюму Дзяржпляну БССР, якое разгледзела «Эскизный проект канализации гор.

506 НАРБ, ф. 31, воп. 1, спр. 872, арк. 388.
507 НАРБ, ф. 7, воп. 1, спр. 207, арк. 111.

Минска, составленный акционерным обществом “Водоканал” (внесено стр.-транспорт. секцией, доклад. тт. Лукиных и Бреслер )»[508]. Прынятая пастанова налічвала 21 пункт, зь якіх пяты якраз і датычыў праекту прафэсара Сямёнава — іншымі словамі, Дзяржплян выканаў той пункт пастановы ад 13 верасьня:

«*5. Предложить Минскому Окрисполкому, помимо составления проекта канализации хозяйственно-фекальных вод разработать: а) проект планировки улиц с некоторым смягчением уклона в местах, где это будет необходимо, в связи с устройством канализации...*»[509]

І гэта ўсё, што Дзяржплян палічыў патрэбным дадаць да праекту Ўладзіміра Сямёнава — пажаданьне не забыцца пра дарогі для сялянскіх падводаў каля Траецкага рынку і зьмякчыць «уклон» некаторых вуліц гарыстага Менску, каб было зручней пракладаць каналізацыю.

Таму тут раней і была зробленая выснова пра неадпаведнасьць маштабу прапанаваных Сямёнавым, а значыць і камгасам НКВД зьменаў з падыходам да іх чыноўнікаў Дзяржпляну. Што скажаш, бліскучая апэрацыя гаспадарнікаў у скуранках і партупэях, якія зносіліся паміж сабой пры дапамозе рапартаў. Яны вымоўна паказалі, што разьбіраюцца з узьніклымі праблемамі хутка, якасна і надзейна.

Праз 10 дзён пасьля пасяджэньня прэзыдыюму Дзяржпляну, на якім праект Сямёнава набыў афіцыйны статус, акруговая плянавая камісія зноў

508 НАРБ, ф. 31, воп. 1, спр. 92, арк. 7.
509 Тамсама, арк. 7 аб.

сабралася па пасяджэньне для зацьвярджэньня свайго пляну работы. Гэта адбылося 22 верасьня 1926 году. Сярод пунктаў таго пляну было і фармальнае пацьверджаньне рашэньня Дзяржпляну ад 13 верасьня — трэба ж было, па-першае, выканаць пастанову Дзяржпляну аб складаньні новага пяцігадовага пляну, а па-другое, зрабіць праект Сямёнава афіцыйным дакумэнтам і на ўзроўні Менскай акругі і гораду. Таму ў «Перечень вопросов, подлежащих рассмотрению в Окрплане» у бліжэйшыя месяцы пад нумарам 56 унесьлі такі пункт:

«*Пятилетний перспективный план благоустройства, планировки и застройки города Минска*»[510].

Як ужо было сказана, архівы менскага камгасу за 11 гадоў — з 1926-га па 1936-ты — у беларускіх сховішчах адсутнічаюць: яны або страчаныя, або наўмысна зьнішчаныя. Адпаведна і пяцігадовы плян камгасу аб пляніроўцы, забудове і добраўпарадкаваньні Менску, складзены на падставе праекту прафэсара Сямёнава, патрымаць у руках наўрад ці ўжо некаму з дасьледчыкаў давядзецца. Тым ня менш некаторыя яго дэталі, адшукаць усё ж удалося.

Складзены новы плян мог быць у канцы 1926 году або ў першай палове 1927-га. Мы ня можам сказаць дакладна, якія з палажэньняў праекту Сямёнава былі ў новы плян камгасу ўключаныя, а якія — не. Але зь вялікай доляй верагоднасьці можна меркаваць, што калі ня ўсе, то амаль усе. Думаць так прымушае роля камгасу НКВД у гас-

510 ДАМн, ф. 284, воп. 1, спр. 8, арк. 19 аб.

падарчым жыцьці Менску і Менскай акругі, якую ён пачаў адыгрываць у 1925–1926 гадах і аб якой гаворка вялася раней.

Адзін з захаваных пунктаў пляну Сямёнава — месца пабудовы БДУ. Новыя карпусы ўнівэрсытэту праз год пачалі будаваць менавіта каля вакзалу, як таго хацеў камгас НКВД і як першапачаткова заплянаваў прафэсар Сямёнаў. 12 траўня 1926 году, як памятаем, прэзыдыюм Менскага акруговага выканкаму вырашыў будаваць унівэрсытэт на Даўгабродзкай, але ўсяго праз паўгода камгас вярнуўся да сваёй ідэі. Гэта можа ўскосна сьведчыць, што камгас уключыў большасьць палажэньняў пляну Сямёнава ў складзены новы пяцігадовы плян забудовы, пляніроўкі і добраўпарадкаваньня Менску.

А вось гісторыя, якая даказвае, што камгас НКВД ужо ў 1927 годзе зрабіў спробу рэалізаваць тую частку пляну прафэсара Сямёнава, якая датычылася непасрэдна Старога гораду. І гэтым зноў пацьвердзіў сваё аўтарства што да гэтых плянаў і сваю асаблівую зацікаўленасьць менавіта ў рэканструкцыі тэрыторыі Старога гораду, а фактычна — у яго зьнішчэньні.

У плян працы Акруговага аддзелу камунальнай гаспадаркі НКВД на 1927/28 гады яго аўтары ўключылі палажэньні, якія прадугледжвалі частковае выкананьне пляну прафэсара Сямёнава адносна тэрыторыі Замчышча і Татарскіх агародаў ужо ў 1928 годзе. Якраз гэта — адзіная дакладная частка новага пяцігадовага пляну забудовы, пляніроўкі і добраўпарадкаваньня Менску, створанага камгасам не пазьней за сярэдзіну 1927 году ў межах выкананьня пастановы Дзяржпляну ад 13 верасьня 1926 году,

якую мне ўдалося пацьвердзіць дакумэнтальна. Гэта ўжо само па сабе сьведчыць аб прыярытэтах НКВД ва ўсёй гісторыі са складаньнем плянаў пляніроўкі і забудовы Менску.

5 кастрычніка 1927 году сабралася пасяджэньне Акруговай плянавай камісіі ў яе звычайным складзе — прысутнічалі старшыня Акрпляну Рабіновіч, сакратар камісіі Шуб, а таксама члены камісіі Юдзін і Мундаў. Яны заслухалі даклад новага начальніка акруговага камгасу Шчацько аб «Плане общественных работ на 1927/28 год по гор. Минску». У пастанове запісалі:

«*9) Устройство сквера на б. церковной площади в районе Ново-Мясницкой, Раковской и Нижнего базара считать нерациональным...*

*14) Устройство парка на Татарских огородах с вырытием пруда и устройством дамбы с затратой 30.000 рублей из плана исключить, считая производство этой работы в этом году преждевременной*»[511].

Як бачым, дакумэнты сьведчаць, што НКВД плянаваў пабудаваць на месцы Замчышча і Татарскіх агародаў парк і возера ўжо ў 1928 годзе. Адны плянавалі пабудаваць бульвар на Замчышчы, а іншыя — вялікі парк замест Замчышча.

Нельга не зьдзіўляцца, як мэтанакіравана і пасьлядоўна НКВД трымаўся замоўленага ім самім у 1926 годзе пляну прафэсара Сямёнава — у парку на Татарскіх агародах і «пруде» нельга не пазнаць будучых Камсамольскага возера (пазьней выкапанага ў іншым месцы, за станцыяй Людамонт) і

511 Тамсама, арк. 103 аб–104.

Цэнтральнага парку культуры і адпачынку (часткова закладзенага ў 1951 годзе, але ўрэшце так і не пабудаванага).

Ня можа не зьдзіўляць і 9-ты пункт толькі што прыведзенай цытаты. Пасадзіць сквэр на акрэсьленай у пастанове тэрыторыі паміж вуліцамі Нова-Мясьніцкай, Ракаўскай і Нізкім рынкам можна было толькі пасьля зносу большай часткі Старога гораду.

Відавочна, што камгасу НКВД патрабаваньні «нацыяналістаў» аднаўляць і ахоўваць Стары горад і Замчышча ў Менску былі тады ненавісныя настолькі, што ён ніяк ня мог дачакацца, калі пачне ажыцьцяўляць плян прафэсара Сямёнава.

Але фармальна грошы выдавала ўсё ж савецкая ўлада, таму на шляху рэалізацыі гэтай ідэі здараліся і асечкі. Давялося пачакаць некалькі гадоў. Усяго некалькі, бо ўжо ў 1931 годзе камгас пачаў першыя зносы на Нізкім рынку і пасадзіў там на былой рынкавай плошчы невялікі парк — правобраз такога жаданага для гэтага ведамства вялікага парку культуры і адпачынку на месцы Старога гораду і Замкавай гары.

1928 год — мы і можам назваць годам пачатку рэалізацыі праекту Ўладзіміра Сямёнава і годам пачатку рэальнага, увасобленага ў праекты і будоўлі наступу камгасу НКВД на менскую даўніну. І гэта з захапленьнем адзначалі тагачасныя публіцысты. Вось фрагмэнт прысьвечанага Менску нарысу «Горад на рубяжы» (1932) Зьмітра Паваротнага:

*«Новы Менск, чырвоная сталіца Савецкай Беларусі, пачаў будавацца і расьці фактычна ў першыя гады першай пяцігодкі. Да 1928 году мы залечвалі*

*раны, папраўляліся ад белай акупацыі, франтоў грамадзянскай вайны і бандытаў. Устаўлялі вокны і дзьверы, насьцілалі стрэхі ў спаленых і разбураных дамох. Прыводзілі ў прытомнасьць нашу прамысловасьць, аднаўлялі ўсю гарадзкую гаспадарку. Менск, яго пралетары, яго працоўныя масы былі ў авангардзе рэвалюцыі, гераічна абаранялі маладую савецкую краіну з захаду і ў крывавай барацьбе панесены цяжкія страты. Многа часу пайшло на выздараўленьне і папраўку»*[512].

Зімой 1929–1930 гадоў маскоўскія генэралы зь ліку кіраўніцтва Беларускай вайсковай акругі задумалі пабудаваць у самым цэнтры Менску, на месцы комплексу Дамініканскага кляштара... казарму. Камгас хацеў вайскоўцам дапамагчы і 16 лютага 1930 году зьвярнуўся зь лістом у Акадэмію навук:

*«Начальнікам забесьпячэньня БВО узбуджана хадайніцтва аб разборцы будынку старога касьцёла па вул. Энгельса дзеля скарыстаньня атрыманага ад разборкі матар'ялу для пабудовы на месцы касьцёла казармы. Просім паведаміць, ці не сустракаецца з Вашага боку перашкод для задавальненьня вышэйпамянёнага хадайніцтва БВО дзеля таго, што ў свой час гэты касьцёл быў залічаны Вамі ў лік помнікаў старажытнасьці»*[513].

Здавалася б, навошта пытацца ў Акадэміі навук? Ёсьць закон аб ахове помнікаў, ёсьць зацьверджаны ўрадам ўсяго тры гады назад сьпіс гэтых помнікаў, які ніхто не адмяняў. Вы ж дзяржаўны орган, які законы якраз выконвае — дык трымайцеся іх.

512 Чырвоная Беларусь. 1932. №20–21. С. 2.
513 НАРБ, ф. 42, воп. 1, спр. 1947, арк. 35.

Акадэмія, натуральна, адказала тады адмовай, і комплекс Дамініканскага кляштару з касьцёлам Тамаша Аквінскага да часу быў захаваны.

Што тычыцца Старога гораду, то ў канцы 20-х гадоў там не адбылося больш нічога істотнага. Менскія будаўнікі паступова пачыналі цягнуць на ўсход, за рэчку, пашыраны працяг Савецкай вуліцы, а ў іншых раёнах гораду, напрыклад, на Камароўцы паступова разгортвалася новае будаўніцтва жылых шматкватэрных дамоў.

Але было ўжо ясна, што сьмяротная пагроза навісла і над Старым горадам. Зацікаўлены чалавек, як кажуць, голым вокам бачыў, як плян прафэсара Сямёнава набывае ў Менску ўсё больш рэальныя абрысы ў выглядзе новых вуліц і будынкаў. І тут, ва ўмовах ужо разгорнутага напоўніцу ідэалягічнага антыбеларускага тэрору, нечакана і гераічна прагучаў адзінокі голас пратэсту супраць гэтай злачыннай несправядлівасьці.

## Апошняя спроба Шчакаціхіна ўратаваць Стары горад

У пачатку 1930 году, за некалькі месяцаў да арышту, Мікола Шчакаціхін публікуе ў часопісе «Чырвоная Беларусь» артыкул «Новы Менск», прысьвечаны навачаснай менскай архітэктуры. Артыкул гэты настолькі непадобны на ранейшыя тэксты Шчакаціхіна пра Менск, настолькі важны і характэрны, што нам тут не абысьціся безь яго цытаваньня.

Шчакаціхін пачынае гэткім пасажам:

*«У моцным поступе сацыялістычнага будаўніцтва Стары Менск хутка зьмяняе сваё аблічча. Між мінулым захудалым, дробна-шляхецкім і дробна-буржуазным «губернским городом Минском» і нашым цяперашнім пралетарскім Менскам, сталіцай Савецкай Беларусі — цэлая прорва... Ранейшым менскім прыватнаўласьніцкім дамінам і вялікім «доходным домам» разам з прылізанымі па-казённаму афіцыйнымі будынкамі губэрнскіх установаў, а таксама рэшткамі старадаўняй фэадальна-клерыкальнай архітэктуры новае будаўніцтва проціставіць зусім іншыя тыпы пабудоў: рабочыя клюбы, будынкі новых навукова-культурных установаў, будынкі дзяржаўных і гаспадарчых установаў, дамы рабочых кватэр, новыя фабрычныя і заводзкія гмахі...»*[514]

Далей Мікола Шчакаціхін разглядае некалькі ўжо пабудаваных у Менску новых дамоў — у тым ліку, Дом селяніна (рог вуліц Чырвонаармейскай і Карла Маркса), Камунальны банк (рог Леніна і Карла Маркса) і новыя карпусы БДУ на вуліцы Бабруйскай, а таксама некалькі будучых праектаў, у тым ліку і Дзяржаўнай бібліятэкі на рагу вуліц Кірава і Чырвонаармейскай.

А заканчваецца апошні апублікаваны на волі мастацтвазнаўчы артыкул Шчакаціхіна апісаньнем праекту будучага Дому Ўраду:

*«Насупроць гэтага, сьпераду як бы раскрываючы прад гледачом усю гэтую паважную пэрспэктыву, павінен будзе знаходзіцца вялікі помнік Леніну. Увязваючы ў адно цэлае з навакольным архітэктурным ансамблем, гэты помнік надасьць яму закончаны і*

514 Чырвоная Беларусь. 1930. №2. С. 10.

*выразны зьмест як найважнейшаму адміністрацыйнаму цэнтру Беларускай Савецкай пралетарскай рэспублікі, створанай у агні Вялікага Кастрычніка пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі і яе геніяльнага правадыра. З пабудоваю Дому Ўраду пралетарскае будаўніцтва Менску бясспрэчна адсьвяткуе сваю самую значную перамогу. Але, зразумела, яна ня будзе апошняй. Пры тых нябачаных тэмпах, якімі ідзе наогул усё наша сацыялістычнае будаўніцтва, за некалькі год, на нашых вачох, Менск ужо зьмяніўся да непазнаньня. А пройдзе яшчэ пэўны час, яшчэ шырэй разгорнецца новае будаўніцтва, і канчаткова зьнікнуць нават сьляды старога мізэрнага Менску. На месцы іх паўстане цалкам новы пралетарскі горад, цытадэль на мяжы капіталістычнага Захаду і першай у сьвеце працоўнай краіны Саветаў. Упартая воля пралетарыяту — гэтаму бясспрэчным залогам»*[515].

«...А пройдзе яшчэ пэўны час, яшчэ шырэй разгорнецца новае будаўніцтва, і канчаткова зьнікнуць нават сьляды старога мізэрнага Менску...» — як параўнаць гэтыя словы Шчакаціхіна зь яго ранейшымі, напісанымі ўсяго тры-чатыры гады да таго, тэкстамі пра Стары Менск, роўных якім паводле паэтычнага захапленьня і апяваньня ня створана ў беларускай літаратуры і навуцы дагэтуль? Як зразумець азначэньне культавых помнікаў Верхняга гораду пагардлівай фразай «рэшткі старадаўняй фэадальна-клерыкальнай архітэктуры...»? Асабліва, калі памятаць прыведзеныя раней апалягетычныя радкі Шчакаціхіна адносна тых самых помнікаў.

515 Тамсама. С. 11.

Адказ відавочны. Пачатак і канец артыкулу «Новы Менск», працытаваныя вышэй, — гэта даніна жахлівай рэальнасьці пачатку 1930-х гадоў, гэта неабходная ідэалягічная рыторыка і заклінаньні, безь якіх тады ўжо нельга было апублікаваць наогул ніякага тэксту.

У №1 за 1930 год часопіс «Чырвоная Беларусь» (які тады, дарэчы, рэдагаваў Міхась Чарот) зьмясьціў на развароце падборку фатаздымкаў Менску пад загалоўкам «Адзінаццаць год БССР — адзінаццаць год пераможнага будаўніцтва». Сярод ужо пабудаваных гмахаў і новабудоўляў з рыштаваньнямі быў надрукаваны і здымак вуліцы Казьмадзям'янаўскай з гэткім подпісам пад ім:

«*Пад ударамі пераможнага сацыялістычнага будаўніцтва памірае стары, сярэдневяковы, губэрнатарска-архірэйскі "город Минск"*»[516].

Паставіць *такі* подпіс пад здымкам *такой* вуліцы — гэта, безумоўна, культурнае дзікунства, злачынства супраць беларускай культуры. Так давала аб сабе знаць вусьцішнае ідэалягічнае здранцьвеньне канца 20-х — пачатку 30-х гадоў у Беларусі. Ужо пісаў свае згубныя антыбеларускія тэксты пагромшчык Сямён Вальфсон, ужо заставалася менш году да самагубства Ўсевалада Ігнатоўскага, усяго дзевяць месяцаў да спробы самагубства Янкі Купалы і чатыры месяцы да арышту Міколы Шчакаціхіна.

Тым больш дзіўным можа падацца той неверагодны факт, што нават ва ўмовах скрайняга бальшавіцкага ідэалягізму, нават аддаўшы яму належ-

516 Чырвоная Беларусь. 1930. №1. С. 12.

ную даніну ва ўступе і выступе, Мікола Шчакаціхін у сваім апошнім тэксьце *робіць спробу ўратаваць Стары горад* ад камгасу НКВД зь яго плянамі зьнішчыць Нямігу і Замчышча і збудаваць на іх месцы «цалкам новы пралетарскі горад, цытадэль на мяжы капіталістычнага Захаду і першай у сьвеце працоўнай краіны Саветаў».

У сярэдзіне свайго артыкулу, паміж разважаньнямі пра архітэктурную вартасьць і стыльнасьць таго або іншага новага будынку, пра «дэкарацыйныя элемэнты» і форму вокнаў, Шчакаціхін раптам піша:

«*Нарэшце, час ужо зьвярнуць у Менску ўвагу на самае разьмяшчэньне будынкаў і іх ансамблі. Сапраўды, самыя месцы для пабудоў абіраліся ў нас часта выходзячы толькі з гаспадарчых меркаваньняў камгасу. Такім спосабам, напрыклад, Унівэрсытэцкі гарадок апынуўся побач з чыгункай і заціснуты ўбок ад галоўнае вулічнае магістралі, а галоўны корпус нават выходзіць на Савецкую вуліцу не фасадам, але бокам. Таксама ставяцца новыя будынкі на вузкіх вуліцах, бяз водступу, што пазбаўляе магчымасьці далейшага іх пашырэньня і стварэньня новых архітэктурных пэрспэктыў, а разам з тым часта нават не дае магчымасьці адшукаць такі назіральны пункт, адкуль можна было б атрымаць ад новага будынку суцэльнае ўражаньне*»[517].

І далей:

«*Выстаўленьне будынкаў сярод старых мураваных дамоў, якія ня хутка яшчэ змогуць быць зьне-*

517 Тамсама. С. 11.

*сены, перашкаджае новаму будаўніцтву свабодна распрацоўваць свае пляны, тым часам вельмі мала выкарыстоўваюцца новыя незабудаваныя пляцы і горад болей расьце ўверх чымся ў шырыню, што цалкам магчыма было бы цяпер пры новых сродках гарадзкой камунікацыі»*[518].

Пішучы пра «старыя мураваныя дамы, якія ня хутка яшчэ змогуць быць зьнесены», Мікола Шчакаціхін, вядома, хітраваў. Зразумела, што ён ведаў пра грандыёзныя пляны камгасу НКВД і пра праект пляніроўкі Менску маскоўскага прафэсара Сямёнава.

З гэтай цытаты наогул вынікае, што Шчакаціхін ня толькі ведаў, але і быў непасрэдным удзельнікам падзеяў 1925–1927 гадоў, зьвязаных з аховай помнікаў і новым будаўніцтвам у Менску. У гэтым нас пераконвае яго згадка пра «камгас» і Ўнівэрсытэцкі гарадок. Сапраўды, як памятаем, беларускія дзеячы і частка чыноўнікаў выступалі за пабудову новага корпусу БДУ на вуліцы Даўгабродзкай, «за рэчкай», а месца побач з вакзалам лабіраваў ужо вядомы нам Самуіл Слонім і тыя, хто за ім стаяў.

У гэтай барацьбе за разьмяшчэньне новых будынкаў у зарэчнай частцы Менску былі нават тактычныя перамогі. Напрыклад, 5 ліпеня 1926 году Бюро Менскага акруговага камітэту КП(б)Б, членам якога быў праціўнік пабудовы ўнівэрсытэту на Бабруйскай і кіраўнік акруговай Камісіі па беларусізацыі, старшыня Менскага акруговага выканкаму Сьцяпан Яцкевіч, прыняло гэткую пастанову:

518 Тамсама.

*«а) Лічыць немэтазгодным зьнесьці дом №4 па Савецкай вуліцы, таму што ў гэты час гэтае мерапрыемства зьяўляецца палітычна нявыгадным.*

*б) Прасіць ЦК КПБ перагледзець пытаньне зьвязанае з сьнясеньнем дома №4 і пабудовай Унівэрсытэту»*[519].

Але камгас НКВД аказаўся мацнейшым нават за Бюро акруговага камітэту партыі — унівэрсытэт пабудавалі на Бабруйскай. І вось Мікола Шчакаціхін нават за некалькі месяцаў да арышту не пабаяўся няўдалае разьмяшчэньне ўнівэрсытэту камгасу закінуць і нагадаць гэтай установе пра тую барацьбу.

Але яшчэ болей у тым, што Шчакаціхін хітраваў, калі пісаў пра старыя мураваныя дамы, «якія ня хутка яшчэ змогуць быць зьнесены», нас пераконвае наступны кавалак яго апошняга артыкулу — гэта, уласна кажучы, і ёсьць яго асноўны пасыл і асноўная мэта — квінтэсэнцыя ўсёй публікацыі. Пад бразгатаньне жалезных ідэалягічных фармулёвак Шчакаціхін адчайна спрабуе адвесьці ўдар камгасу НКВД ад гістарычнага цэнтру Менску:

«*Апошнімі часамі, праўда, шэраг пабудоў вынесены за горад на Камароўку. Такім спосабам там створацца цэлыя кварталы новага пралетарскага Менску.* ***Але яшчэ лепей было бы ласьне там найболей узмацніць новае будаўніцтва, стварыць там цэлы новы горад, які адтуль пераможна мог бы весьці свой наступ на Стары Менск сваімі шырокімі вуліцамі АЖ ДА САМАЙ РАКІ. З гэтага ж боку ракі ў большасьці можна было бы***

519 ДАМн, ф. 12-п, воп. 1, спр. 419, арк. 163.

***абмежавацца толькі зьнішчэньнем драўляных кварталаў і паасобных драўляных дамоў паміж камяніцамі, і разьбіўкай на іх мясцох маладых зялёных сквэраў***»[520].

Ад гэтай сьмеласьці і пасьлядоўнасьці Шчакаціхіна, схаванай за ідэалягічнай траскатнёй, захоплівае дух. Найлепшыя людзі ня здраджваюць сабе і сваім поглядам нават у такіх умовах, якія былі ў Беларусі ў пачатку 1930 году.

Апошняя фраза вышэйпрыведзенай цытаты пра знос асобных драўляных дамоў і пасадку на іх месцы маладых сквэраў недвухсэнсоўна адсылае нас да пляну рэстаўрацыі Замчышча, створананага Камісіяй аховы помнікаў Інбелкульту ў 1925 годзе. Менавіта такі сквэр-бульвар са зносам старых драўляных хатак інбелкультаўцы плянавалі стварыць на вуліцы Падзамкавай — самым высокім пункце менскай Замкавай гары.

Ну а прапанова Шчакаціхіна пабудаваць новы цэнтар Менску на Камароўцы непасрэдна перагукаецца з прапановай прафэсара Шастакова перанесьці цэнтар Масквы на Хадынскае поле. Гэтая акалічнасьць яшчэ больш пераконвае нас у тым, што кантакты інбелкультаўцаў з Шастаковым сапраўды былі, што яны знайшлі паміж сабой паразуменьне, і што адмова камгасу НКВД ад паслугаў Шастакова не была выпадковаю.

Спроба спыніць «пераможны наступ» новага Менску на Менск стары берагам Сьвіслачы з боку

520 Чырвоная Беларусь. 1930. №2. С. 11. Вылучэньне двух апошніх сказаў у цытаце Шчакаціхіна, а таксама фразы «Аж да самай ракі» маё — С. А.

Камароўкі тады, вядома, не ўдалася. Артыкул Шчакаціхіна і ня мог той наступ спыніць — занадта няроўныя былі сілы, занадта моцнай была патрэба камуністычных уладаў ліквідаваць самі падваліны незалежнай беларускай культуры і яе матэрыяльнае апірышча, апетае ў часы БНР і ў першыя гады беларусізацыі — Стары горад у Менску.

Неўзабаве пасьля сваёй апошняй публікацыі Мікола Шчакаціхін будзе арыштаваны і высланы на пяць гадоў у Башкірыю, а пасьля яшчэ шэсьць гадоў будзе бадзяцца на выгнаньні, працаваць на выпадковых дробных пасадах і «прафіляктычна» арыштоўвацца НКВД перад кожным камуністычным сьвятам. У турмах ён захварэе на сухоты і ў 1940 годзе, на сорак чацьвёртым годзе жыцьця, памрэ ў башкірскім горадзе Белебей.

Частка VIII

# Пасьля высылкі нацдэмаў



## Пад поўным кантролем Масквы. Старт рэканструкцыі

Пасьля таго, як у ліпені 1929 году пачалася антыбеларуская кампанія, у рэспубліцы некалькі месяцаў вялася ідэалягічная падрыхтоўка да будучых рэпрэсій. Газэты былі перапоўненыя пракляцьцямі на адрас нацыянал-дэмакратаў і абвінавачаньнямі іх у варожай дзейнасьці. Многіх з былых інбелкультаўцаў звольнілі з працы.

У студзені 1930 году ў асяродзьдзі беларускіх дзеячоў пачаліся нешматлікія арышты — бралі па два-тры чалавекі ў месяц[521]. У лік арыштаваных трапілі і актыўныя абаронцы Старога Менску, былыя члены Камісіі аховы помнікаў Інбелкульту. Аляксандар Шлюбскі, напрыклад, быў арыштаваны 3 красавіка[522].

Сытуацыя кардынальна зьмянілася ў чэрвені-верасьні 1930 году, калі паводле прыдуманай справы «Саюзу вызваленьня Беларусі» было арыштавана 108 найвыдатнейшых беларускіх дзеячоў, у тым ліку практычна ўсе члены былых камісіяў аховы помнікаў і гісторыі мастацтва Інбелкульту. У гэтыя самыя дні былі арыштаваныя сотні беларускіх актывістаў на месцах — супрацоўнікаў аддзелаў

521 Кіпель Я. Эпізоды. С. 124.

522 Возвращенные имена. Сотрудники АН Беларуси, пострадавшие в период сталинских репрессий. С. 114.

адукацыі, настаўнікаў, актывістаў краязнаўчага руху і студэнтаў.

Масква доўга вырашала, што з арыштаванымі рабіць. Іх трымалі некалькі месяцаў у Менску, у «амэрыканцы», а пасьля перавезьлі ў Маскву, у Бутырскую турму, дзе зноў трымалі да вясны 1931 году. Нарэшце было вырашана выслаць беларускіх нацдэмаў на пяць гадоў на поўнач.

І вось паводле дзіўнага супадзеньня якраз тады раптам актывізавалася справа рэалізацыі плянаў прафэсара Сямёнава і стварэньня сапраўднага генпляну Менску. Усё, што адбывалася ў гэтай справе далей, сьведчыць, што ўсім працэсам кіравала Масква, а ў Менску толькі ўхвалялі маскоўскія рашэньні.

У сакавіку-красавіку 1931 году нацдэмаў пачалі развозіць да месцаў высылкі, а ў траўні газэты паведамілі, што неўзабаве з Масквы і Ленінграду ў Менск прыедуць брыгады спэцыялістаў для падрыхтоўчай працы над будучым генплянам. 10 траўня 1931 году газэта «Рабочий» паведаміла:

«*В середине мая в Минск прибывает для работ по планировке и съемке плана города бригада специалистов из Ленинграда и Москвы*»[523].

15 траўня «брыгады» сапраўды ў Менск прыбылі. Праз два тыдні тая самая газэта падала гэткую інфармацыю:

«*В Москве заключен договор на съемку и планировку города. Работа по планированию будет закончена в 1933 году. В Минск для проведения предварительных работ по планированию приехали из*

523 Рабочий. 10 траўня 1931.

*Москвы 9 инженеров и техников. Уже приступлено к рекогносцировке местности. В этом году будут произведены основные работы. На всей территории Минска и городской черты будут построены сорок вышек. Будут использованы также высокие дома и колокольни для наблюдательных пунктов, по многим улицам начнутся работы по бурению для установки съемочных знаков. Для планировки города необходимо провести экономическое обследование, изучение движения роста населения, промышленности, экономики, транспорта. Это обследование будет проведено в этом году. В Минск уже прибыл для начальных работ специалист инженер-экономист*»[524].

У тым самым траўні 1931 году ў Менску з прадстаўнікоў рабочых найбуйнейшых прадпрыемстваў, а таксама членаў гарсавету і супрацоўнікаў Найвышэйшага савету народнай гаспадаркі БССР (ВСНХБ) і Наркамату шляхоў зносін быў створаны Пляніровачны камітэт[525]. Аб яго задачах не паведамлялася, але відавочна, што пакліканы ён быў для фармальнага зацьвярджэньня ў Беларусі рашэньняў маскоўскіх і ленінградзкіх спэцыялістаў і стварэньня бачнасьці ўдзелу беларусаў у працэсе.

Праз два месяцы пасьля высылкі нацдэмаў, у ліпені 1931 году, камгас вывелі са складу НКВД і заснавалі асобны Наркамат камунальнай гаспадаркі БССР, які займаўся пытаньнямі будаўніцтва і архітэктуры. Адначасова гэтая галіна дзейнасьці наркамату і яго інстытутаў была засакрэчана.

524 Рабочий. 25 траўня 1931.
525 Тамсама.

У тым самым 1931 годзе Наркамат камунальнай гаспадаркі БССР стварыў у Менску філіял «Гипрогора» РСФСР. Але справу складаньня менскага генпляну гэтай установе не даверылі. Не перадалі гэтую справу ў сталіцу БССР і ў 1933 годзе, калі шляхам аб’яднаньня Белбудканторы і менскага аддзяленьня «Гипрогора» РСФСР быў нарэшце створаны інстытут Белдзяржпраект[526].

Ад самага 1931 году стварэньнем генэральнага пляну Менску ў ленінградзкім аддзяленьні «Гипрогора» РСФСР займаўся архітэктар Ю. Кілаватаў. Працаваў ён пад кіраўніцтвам прафэсара У. Вітмана і пад агульным наглядам адказнага за пляніроўку гарадоў у Акадэміі архітэктуры СССР і добрага нашага знаёмага — прафэсара У. Сямёнава, які, як памятаем, быў адначасна і кіраўніком Навукова-тэхнічнай рады пры Наркамаце камунальнай гаспадаркі РСФСР.

У сьнежні 1933 году прэзыдыюм ЦВК СССР за подпісам яго старшыні Міхаіла Калініна прыняў пастанову «По докладу о работе Минского городского совета»[527]. Другі пункт пастановы быў такі:

«*Закончить в 1934 г. разработку проекта планировки города Минска под* ***особым наблюдением*** *за этой работой и* ***при систематической проверке ее на месте*** (вылучэньне маё — С. А.) *со стороны Высшего совета коммунального хозяйства при ЦИК Союза СССР*»[528].

526 Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 4. Менск, 1990. С. 181.
527 Собрание постановлений правительства СССР. Отдел первый. Москва, 1933. №72. С. 782–784; Гл. таксама: Известия ЦИК Союза ССР и ВЦИК. №299. 10 сьнежня 1933.
528 Собрание постановлений правительства СССР. С. 783.

Гэтыя радкі — адзін з важкіх доказаў асаблівай зацікаўленасьці Масквы ў рэканструкцыі Менску і асабістым удзеле ў гэтай справе аднаго з найбліжэйшых паплечнікаў Сталіна — Міхаіла Калініна. Апрача Калініна, як убачым далей, у справу рэканструкцыі гарадоў СССР ангажаваліся і іншыя найбліжэйшыя паплечнікі Сталіна — Анатолі Луначарскі, Лазар Кагановіч і Лаўрэнці Бэрыя.

Зьвяртае на сябе ўвагу і наяўнасьць пры ЦВК СССР «Высшего совета коммунального хозяйства», які меўся дасылаць у Менск рэвізораў.

У 1934 годзе, як таго патрабавала пастанова ЦВК СССР, распрацаваньне праекту генпляну Менску закончана не было — не хапіла сродкаў. Пры гэтым нягледзячы на тое, што канчатковы варыянт маскоўска-ленінградзкага генпляну быў выпрацаваны ўжо да 1936 году, а яго новая вэрсія — да 1939-га, актыўная рэалізацыя генпляну мелася пачацца толькі ў 1940–1941 гадах. Перашкодзіла вайна.

«Гипрогор» РСФСР на працягу ўсёй працы над генплянам беларускай сталіцы дасылаў у Менск на фармальнае зацьвярджэньне прапановы і дакумэнты.

Гэтак у 1934 годзе Менскі гарсавет зацьвердзіў так званыя Сацыяльна-эканамічныя установкі і Схему разьмеркаваньня гарадзкой тэрыторыі для будучага генпляну, створаныя маскоўскімі і ленінградзкімі спэцыялістамі на падставе пляну прафэсара У. Сямёнава[529]. У тым самым годзе ўсьлед за гарадзкімі ўладамі гэты дакумэнт быў зацьвер-

529 БДАНТД, ф. 6, воп. 2, спр. 18, арк. 3.

джаны ў Дзяржпляне БССР, Саўнаркаме БССР і ў ВСНГ пры ЦВК СССР[530].

Сам генплян быў закончаны ў 1936 годзе. Яго аўтары не пакідалі сумневаў аб месцы стварэньня праекту і ролі ў гэтым працэсе Менску:

«*Вся работа по составлению генерального проекта планировки города выполнена Государственным институтом по проектированию, съемке и планировке населенных мест при НККХ РСФСР (ГИПРОГОР) в Ленинграде — Планировочным Бюро №4 и Инженерно-экономическим Бюро. Руководство архитектурно-планировочной частью проекта принадлежало руководителю Планировочного Бюро №4 профессору Витману В. А. ... Непосредственным основным исполнителем и автором архитектурно-планировочной части проекта является архитектор Киловатов М. М. при участии архитекторов Николаева А. Г., Романова А. Ф.*»[531].

Калі ў Ленінградзе вырашылі канчаткова, што і дзе ў Менску будзе разьмешчана, а што будзе зносіцца, асобныя праекты ў асобных раёнах даверылі і «Белдзяржпраекту». Напрыклад, запрошаны ў Менск у 1934 годзе з Адэсы выпускнік тамтэйшага Інстытуту інжынэраў грамадзянскага і камунальнага будаўніцтва, малады архітэктар Навум Трахтэнбэрг у 1936 годзе распрацаваў дэталёвы праект Цэнтральнага парку культуры і адпачынку, прадугледжанага генплянам на месцы Старога гораду[532].

530 Тамсама.
531 Тамсама, арк. 3 аб.
532 БДАНТД, ф. 75, воп. 1, спр. 38, арк. 7.

Паралельна з працай над генплянам 1936 году ў Менску пачаліся актыўныя зносы ў Старым горадзе — выбухам падарвалі сабор Пятра і Паўла на Пляцы Волі і амаль цэлы квартал на Нізкім рынку з боку Замкавай гары, унутры якога знаходзіўся старажытны вузкі завулак як працяг вуліцы Гандлёвай (Зыбіцкай) — некалі яна перасякала Нізкі рынак і ўпіралася ў замкавы вал.

З боку Замчышча ў гэтым квартале знаходзіліся старадаўнія Мясныя рады — ён быў абмежаваны Сьвіслаччу, рынкавым пляцам, вуліцамі Стара-Мясьніцкай і Нова-Мясьніцкай. Ад кварталу засталася толькі частка ўнутранай забудовы — два-тры дамы з боку Мясных радоў і Замчышча. А на вызваленым месцы, як мы ўжо ведаем, пасадзілі маленькі парк, правобраз вялікага Цэнтральнага парку культуры і адпачынку.

У 1936–1939 гадах «в связи с изменением ряда основных положений проект подвергся существенной переработке» ў тым самым «Гипрогоре» РСФСР[533]. Масква ўсё яшчэ трымала руку на пульсе. Нарэшце ў пачатку 1940 году дайшла чарга і да інстытуту «Белдзяржпраект», які зрабіў нязначную карэкціроўку генпляну і перадаў яго на фармальнае зацьвярджэньне ў менскі гарсавет. У канцы сакавіка 1940 году сэсія Менскага гарадзкога савету дэпутатаў працоўных

«*зацвердзіла генеральны план рэканструкцыі сталіцы Савецкай Беларусі — Мінска — і праграму будаўніцтва на 1940* год»[534].

533 Пояснительная записка к Генплану Минска. 1951 год. А. 7.
534 Звязда. 2 красавіка 1940.

Генплян, такім чынам, быў прыняты да выкананьня вясной 1940 году. У 1940–1941 гадах ужо лічылася, што плян праводзіцца ў жыцьцё пад кантролем «Белдзяржпраекту». Гэта было натуральна, бо грамадзкае поле пасьля рэпрэсій пачатку 30-х гадоў і вялікага тэрору 1937–1938 гадоў было зачышчана цалкам, любыя пратэсты і дыскусіі выключаліся.

Рэалізацыі генпляну, аднак, перашкодзіла вайна, а ўсе матэрыялы да праекту, як цьвердзілі ў 1951 годзе аўтары генпляну Менску і як гэта агульнапрынята лічыць у гісторыі сёньня, загінулі ў разбуранай беларускай сталіцы[535].

Насамрэч гэта ня так. Усё захавалася і пасьля вайны было пераслана ў Менск зь Ленінграду. І даваенны генплян Менску, распрацаваны «Гипрогором» РСФСР, і праект-ідэя маскоўскіх акадэмікаў, датаваны жніўнем 1944 году, і генпляны Менску 1946 і 1951 гадоў былі адзіным і даволі цэльным дакумэнтам, канчатковай мэтай якога была поўная зьмена архітэктурнага аблічча аднаго з найстаражытнейшых эўрапейскіх гарадоў, гісторыя якога на той момант налічвала амаль 900 гадоў.

Гэтыя чатыры праекты даволі значна адрозьніваліся ў дэталях (напрыклад, у колькасьці і месцах разьмяшчэньня галоўных пляцаў, будынкаў і помнікаў), але былі адзіныя ў адным з галоўных пунктаў — усе яны прадугледжвалі поўнае зьнішчэньне Старога гораду, г. зн. татальны знос гістарычнай забудовы Замчышча, навакольных вуліц і рынкаў, разбурэньне гістарычнай пляніроўкі старо-

535 Пояснительная записка к Генплану Минска. 1951 год. А. 7.

га цэнтру, скопваньне Замкавай гары і стварэньне ня яе месцы зялёнай паркавай зоны — так званага Цэнтральнага парку культуры і адпачынку.

І вось што важна: многія з палажэньняў гэтых чатырох праектаў так ніколі не былі ажыцьцёўленыя, але ў частцы, датычнай Старога гораду, — яны выкананыя цалкам.

Менск было заплянавана ператварыць у новы сацыялістычны горад, архітэктура якога несла дадатковую і схаваную каляніяльна-імпэрскую ідэалягічную нагрузку. І гэтая мэта ідэалягічнага занявольваньня была дасягнутая. Архітэктура як прыкладное мастацтва, з увагі на сваю сталую прысутнасьць у паўсядзённым жыцьці, праз свае форму і зьмест можа несьці важную ідэалягічную функцыю. Таму (і гэта важна падкрэсьліць зноў) з 1926 году і да канца 40-х пачатку — 50-х гадоў XX стагодзьдзя Масква цалкам трымала руку на пульсе рэканструкцыі сталіцы савецкай Беларусі.

Сярод многіх сотняў дакумэнтаў, прынятых на зьездах, канфэрэнцыях або пленумах ЦК КП(б)Б у даваенны час знаходзім толькі адну пастанову, якая хоць неяк датычыць сфэры архітэктуры і будаўніцтва. Гэта пастанова пленуму ЦК КП(б)Б ад сакавіка 1941 году «О мерах по обеспечению плана капитального строительства на 1941 год по БССР»[536]. Але і там няма ні слова пра Менск.

Беларускім і менскім уладам была адведзеная роля выканаўцаў маскоўскіх пастановаў і плянаў. Пры гэтым пасьля канчатковай выпрацоўкі другога

536 Гл.: Коммунистическая партия Белоруссии в резолюциях и решениях съездов и пленумов ЦК. Т. 3. Менск, 1985. С. 404–409.

варыянту генпляну Менску ў «Гіпрагоры» РСФСР у 1936–1939 гадах беларускія ўлады і архітэктары нават дакладна ня ведалі, на які тэрмін выкананьня гэты генплян разьлічаны.

У 1937 годзе галоўны архітэктар Менску Г. Якушка цьвердзіў, што генплян разьлічаны на 10 гадоў[537].

У 1940 годзе газэта «Звязда» сьцьвярджала, што генплян разьлічаны на 15 гадоў[538].

У 1941 годзе ў адным з нумароў газэты «Советская Белоруссия» архітэктар інстытуту «Белдзяржпраект» Д. Яскевіч пісаў пра рэалізацыю маскоўскага генпляну ў наступныя 15 гадоў, а яго калега інжынэр Х. Гарэлік на гэтай самай старонцы цьвердзіў, што генэральны плян рэканструкцыі гораду разьлічаны на 20 гадоў[539].

## Ідэалягічныя задачы Масквы ў рэканструкцыі Менску

Сёньня гісторыкі лічаць, што старт сталінскай рэканструкцыі Масквы і іншых гарадоў СССР дала пастанова пленуму ЦК ВКП(б) ад 15 чэрвеня 1931 году аб разьвіцьці гарадзкой гаспадаркі.

На тым пленуме з падачы Сталіна яго верны паплечнік Лазар Кагановіч запатрабаваў падвядзеньня пад савецкую архітэктуру тэарэтычнай базы марксізму, а іншы Сталінаў памагаты, Анатолі Луначарскі, быў прызначаны кіраўніком адмысло-

537 Звязда. 21 сакавіка 1937.
538 Звязда. 2 красавіка 1940.
539 Советская Белоруссия. 17 студзеня 1941.

вага камітэту, які заняўся пераглядам папярэдніх плянаў і праектаў[540].

Лічыцца, што менавіта з гэтага часу пачынаецца стварэньне генплянаў Масквы і сталіц саюзных рэспублік — ад Кіева да Тбілісі. Але, як мы бачылі, у Менску НКВД ужо ў 1926 годзе замовіў праект пляніроўкі гораду на наступныя 25 гадоў. Генэтычная сувязь генпляну 1936 году з падзеямі 1925–1926 гадоў у Менску і плянам Сямёнава бясспрэчная.

Уладзімір Сямёнаў зьяўляецца тым чалавекам-выканаўцам, які на замову камгасу НКВД заплянаваў кірункі разьвіцьця Менску, якія прывялі да зносу Старога гораду, скопваньня Замкавай гары і плянаваньня на іх месцы Цэнтральнага парку культуры і адпачынку.

Гэта быў адзін з самых ляяльных да Крамля прафэсараў архітэктуры ў 20–30-я гады. У 1930 годзе ён быў прызначаны галоўным архітэктарам Масквы, кіраваў стварэньнем яе генпляну, «который вошел в историю как Сталинский план реконструкции и развития Москвы»[541] і паслухмяна выконваў усе пажаданьні Сталіна ў справе «сацыялістычнай перабудовы» галоўнага гораду СССР. Гэтак сталася і зь менскай замовай.

Сувязь праекту Сямёнава 1926 году з генплянамі Менску 1936 і 1946 гадоў у частцы, датычнай зносу Старога гораду і скопваньня Замкавай гары, прасочваецца вельмі лёгка, нягледзячы на тое, што сам праект у беларускіх архівах не захаваўся. Гісторыя

540 Hugh D. Hudson, Jr. Op. cit. P. 140.
541 Ивахнов А. Архитектурная эстафета. — http://www.acdjournal.ru/2006-1/115/p.html

ўсё роўна пакінула нам дастаткова сьведчаньняў. Дастаткова прывесьці два зь іх.

Першае ў пачатку 1930 году (яшчэ да стварэньня ленінградзкага генпляну 1934–1936 гадоў) даў Мікола Шчакаціхін, які адчайна заклікаў спыніць «пераможны наступ новага Менску» з боку Камароўкі на Стары Менск берагам Сьвіслачы. Зразумела, што «Новы Менск» наступаў на стары паводле схемы, створанай у 1926 годзе Ўладзімірам Сямёнавым — іншай тады ў менскіх камгасаўцаў проста не было. Пагроза непасрэдна навісала над Замчышчам і ўсім Старым горадам, і Шчакаціхін як удзельнік тых падзеяў гэта добра ведаў і разумеў.

Другое пацьверджаньне ў 1945 годзе нам пакінуў першы сакратар ЦК КП(б)Б і адначасова старшыня СНК БССР Панцеляймон Панамарэнка. Выступаючы 10 сьнежня на нарадзе з нагоды абмеркаваньня генэральнага пляну аднаўленьня і рэканструкцыі Менску і гаворачы аб генпляне 1936-га і праекце генпляну 1945–1946 гадоў Панамарэнка з палёгкай сказаў:

«*Мы до войны, когда рассматривали генеральный план, много коррективов внесли, но тот план был связан з другими условиями. Нельзя было решаться на многие вещи, потому что вопрос упирался в густо заселённые дома, хотя и небольшие, но их было много. Сейчас мы целый ряд вопросов решаем свободно... Этот генеральный план в основном, следует сказать, удачный, потому что он решался на основании схемы, разработанной ранее...*»[542]

542 Освобождённая Беларусь. Документы и материалы. Кн. 2. Январь — декабрь 1945. Менск, 2005. С. 400.

«Густо заселённые дома, хотя и небольшие» — гэта і ёсьць Стары горад, у які ўпіралася рэалізацыя грандыёзных даваенных плянаў і рэшту якога ў 1940-я — 1950-я гады паціху прыбралі, каб перашкодаў больш не было.

Сёньня абаронцы старой расейскай архітэктуры часам нават цытуюць Уладзіміра Сямёнава, які ў адказ на заклік Ле Карбюзье ў пачатку 30-х гадоў зьнесьці старую Маскву і пабудаваць на яе месцы новую адказаў:

«*Когда нужен хирург, не приглашают палача*»[543].

Многімі сучаснымі гісторыкамі архітэктуры ў Расеі гэтая фраза падаецца як абарона даўніны. А насамрэч яна дакладна адпавядае канцэпцыі Сталіна, выкладзенай у першых абзацах Пастановы Савету народных камісараў СССР і Цэнтральнага Камітэту ВКП(б) № 1435 «О генеральном плане реконструкции города Москвы» ад 10 ліпеня 1935 году[544]. Гэтай пастановай, уласна, і быў зацьверджаны Генплян Масквы, распрацаваны ў 1933–1934 гадах пад кіраўніцтвам Уладзіміра Сямёнава і пры ўдзеле Аляксея Шчусева і Івана Жалтоўскага.

Гэты дакумэнт — падстава і аснова ідэалягічных мэтаў Масквы ў перабудове Менску. Яго можна на-

543 Блохина-Ваганова О. О сохранении исторического и культурного наследия России. — http://www.nasledie.ru/oboz/N06_00/06_23.HTM

544 «ЦК ВКП(б) и СНК СССР отвергают проекты сохранения существующего города, как законсервированного музейного города старины, с созданием нового города за пределами существующего. ЦК ВКП(б) и СНК СССР отвергают также предложения о сломке сложившегося города и постройке на его месте города по совершенно новому плану». — Правда. 11 ліпеня 1935.

зваць своеасаблівай «бібліяй» маскоўскіх і менскіх архітэктараў і журналістаў, іх «цытатнікам».

Вось чаму на самым версе СССР ніколі не было прынята афіцыйнай пастановы аб рэканструкцыі Менску і вось чаму генплян рэканструкцыі сталіцы Беларусі зацьвярджаў менскі гарсавет, а пастанову аб генпляне Масквы — СНК СССР і ЦК ВКП(б). Справа ў тым, што гэты дакумэнт быў базавым — так у СССР практыкавалася. Менавіта на яго аснове меліся стварацца генпляны іншых гарадоў СССР, у тым ліку і сталіц саюзных рэспублік. У галіне архітэктуры і будаўніцтва маскоўская пастанова 1935 году аб рэканструкцыі Масквы многія наступныя дзесяцігодзьдзі выконвала тую самую ролю, якую ў другой палове 40-х гадоў у галіне літаратуры і мастацтва адыграла ініцыяваная Ждановым сумнавядомая пастановы ЦК ВКП(б) «О журналах “Звезда” і “Ленинград”».

Вось як Сталін і яго бліжэйшыя памагатыя ў пастанове 1935 году ацэньвалі гістарычную і архітэктурную спадчыну Масквы:

«*Стихийно развивавшаяся на протяжении многих веков Москва отражала даже в лучшие годы своего развития характер варварского российского капитализма. Узкие и кривые улицы, изрезанность кварталов множеством переулков и тупиков, неравномерная застройка центра и периферии, загроможденность центра складами и мелкими предприятиями, низкая этажность и ветхость домов при крайней их скученности, беспорядочное размещение промышленных предприятий, железнодорожного транспорта и других отраслей хозяйства и быта — мешают нормальной жизни бурно*

*развивающегося города, в особенности городскому движению, и требуют коренного и планомерного переустройства»*[545].

А вось як Сталін адказаў на сьціплыя памкненьні маладых маскоўскіх архітэктараў захаваць гістарычны цэнтар Масквы і адрэстаўраваць яго:

*«ЦК ВКП(б) и СНК СССР отвергают проекты сохранения существующего города, как законсервированного музейного города старины, с созданием нового города за пределами существующего. ЦК ВКП(б) и СНК СССР отвергают также предложения о сломке сложившегося города и постройке на его месте города по совершенно новому плану. ЦК ВКП(б) и СНК СССР считают, что при определении плана Москвы необходимо исходить из сохранения основ исторически сложившегося города, но с коренной перепланировкой его путем решительного упорядочения сети городских улиц и площадей... ЦК ВКП(б) и СНК СССР считают, что во всей работе по перепланировке города должно быть достигнуто целостное архитектурное оформление площадей, магистралей, набережных, парков с использованием при строительстве жилых и общественных зданий лучших образцов классической и новой архитектуры, а также всех достижений архитектурно-строительной техники»*[546].

Гэта напісана як пра Менск. Усе да адзінага гэтыя падыходы і пастуляты з найдрабнейшымі дэталямі былі рэалізаваныя ў Менску ў наступныя некалькі дзесяцігодзьдзяў.

545 Правда. 11 ліпеня 1935.
546 Тамсама.

Адным з тых, каму Сталін асабліва давяраў у справе ідэалягічнага забесьпячэньня рэканструкцыі гарадоў, быў «усесаюзны староста» Міхаіл Калінін.

Дзейнасьць М. Калініна ў галіне перабудовы гарадоў СССР заслугоўвае асаблівай ўвагі гісторыкаў.

Калінін, побач з Кагановічам, Луначарскім і пазьней Бэрыем быў даверанай асобай Сталіна ў галіне архітэктуры і будаўніцтва — ён тонка адчуваў і разумеў пажаданьні гаспадара ў гэтай галіне. Калі ў 40-х гадах пад кантроль да Бэрыі фактычна перайшоў Наркамат будаўніцтва СССР, то Міхаіл Калінін яшчэ з 30-х гадоў ажыцьцяўляў кантроль за ідэйным і творчым кантэкстам працы савецкіх архітэктараў.

Вось, напрыклад, як Калінін амаль за год да разгортваньня працаў па пасьляваенным аднаўленьні і рэканструкцыі Менску ў лісьце да старшыні Камітэту па справах архітэктуры пры СНК СССР акадэміка А. Мардвінава ад 27 лістапада 1943 году вызначаў ідэйны кантэкст дзейнасьці Мардвінава і яго камітэту ў галіне аднаўленьня гарадоў:

«*Новое строительство дает большие возможности для создания подлинно социалистических городов с большими художественными ансамблями и глубоко продуманными жилищными стройками, полностью отвечающими современным требованиям*»[547].

547 Из истории советской архитектуры 1941–1945 гг. Москва, 1978. С. 102; Гл. таксама: Хмельницкий Д. Зодчий Сталин. Москва, 2007. С. 216.

Зусім канкрэтная арыенціроўка і канкрэтная задача. Зразумела, што месца для Старога Менску ў гэтай канцэпцыі не было.

Як вядома, гістарычная пляніроўка старых цэнтраў эўрапейскіх гарадоў у XX стагодзьдзі прызнаная найкаштоўнейшым помнікам гісторыі і культуры і ва ўсіх цывілізаваных краінах узятая пад ахову дзяржавы. У гэтым сэнсе варта прывесьці погляды Міхаіла Калініна на гістарычную пляніроўку гарадоў СССР. У яшчэ адной інструкцыі архітэктарам, якія плянавалі аднаўленьне савецкіх гарадоў пасьля вайны — артыкуле «Большая общенародная задача», апублікаваным у «Известиях» 10 сьнежня 1943 году — Калінін пісаў:

«*Врагом причинены нам огромные разрушения. Некоторые города... почти полностью разрушены, и их придется заново отстраивать. И вот невольно возникает вопрос — как строить. Можно ведь просто возводить здания на основе старой... планировки, а можно произвести перепланировку. Нам кажется... что прежде всего должна подвергнуться пересмотру целесообразность старой планировки...*»[548]

Гэтыя цытаты надаюць падпісанай Калініным пастанове 1933 году аб генпляне Менску і словам пра «особое наблюдение за этой работой и при систематической проверке» з боку ЦВК СССР асаблівы сэнс і асаблівае значэньне[549]. Менск чакала сапраўды «вялікая рэканструкцыя».

548 Известия. 10 сьнежня 1943; Гл. таксама: Хмельницкий Д. Зодчий Сталин. С. 217.

549 Нагадаю тут поўны тэкст пункту 2 пастановы ЦВК СССР ад 1933 году: «Закончить в 1934 г. разработку проекта планиров-

Сымбалічна, што менавіта ў год заканчэньня працы над першым варыянтам генпляну Менску і пачаткам яго фактычнай рэалізацыі ў НКВД СССР пачынаюць стварацца шматлікія структуры, адказныя за будаўніцтва і архітэктуру. У 1936 годзе іх было створана дзьве: Управа асобага будаўніцтва і ўжо згаданы раней Інжынэрна-будаўнічы аддзел. А пасьля яны пачалі множыцца як грыбы: да ранейшых двух далучыліся Галоўпрамбуд, Дальбуд, Галоўгідрабуд, Управа вайсковага будаўніцтва, Валгадонбуд, Куйбышаўгідрабуд, Сярэдазгідрабуд, Енісейбуд і шматлікія ўправы лягернага будаўніцтва[550]. Фактычна НКВД кантраляваў або ажыцьцяўляў кожную важную будоўлю ў СССР.

## Што ў 30-я гады заплянаваў зрабіць зь Менскам «Гипрогор» РСФСР

Вось жа генплян Менску 1936 году ня быў страчаны ў вайну, як гэта часам сьцьвярджаюць сёньня і як гэта цьвердзілі аўтары генпляну Менску 1951 году.

Яшчэ 21 верасьня 1944 году начальнік Упраўленьня па справах архітэктуры пры Савеце народных камісараў БССР А. Воінаў зьвярнуўся да галоўнага архітэктара «Гипрогора» прафэсара У. Вітмана з гэткім лістом:

ки города Минска под особым наблюдением за этой работой и при систематической проверке ее на месте со стороны Высшего совета коммунального хозяйства при ЦИК Союза СССР».

550 Гл.: http://www.memo.ru/HISTORY/NKVD/STRU/by_year.htm

*«Согласно описи материалов по проекту планировки и изысканий по г. Минску Вами подписанной, в архиве Гипрогора имеется ряд материалов, которые сейчас, при разработке проекта восстановления и реконструкции города крайне необходимы. Имевшиеся на месте все материалы пропали. Поэтому Управление по делам архитектуры при СНК БССР просит Ваших указаний соответствующим отделам Гипрогора о срочной высылке в адрес Управления: Минск, Революционная, 1, Управление по делам архитектуры при СНК БССР, нижеследующих материалов:*

*1. Генеральная схема планировки — часть 1*
*Градообразующая и коммун. экономика*
*Белгоспроект 1940 г.*

*2. Генеральная схема планировки — часть 2*
*1) характеристика природных условий*
*2) краткая санитарная характеристика*
*3) инженерная подготовка территории*
*4) энергоснабжение*
*Белгоспроект 1940 г.*

*3. Генеральная схема планировки — часть 3*
*1) архитектурно-планиров. композиция*
*2) уличная сеть*
*3) внутригородской транспорт*
*4) зеленые насаждения*
*5) железно-дорожный транспорт*
*Белгоспроект 1940 г.*

*4. Генплан в масштабе 1:5000*
*Белгоспроект 1940 г...»*[551]

551 НАРБ. Ф.903. Воп.1. Спр.18. А86-86аб. , ф. 903, воп. 1, спр. 18, арк. 86–86 аб.

И так далей, уключна зь іншымі тлумачальнымі запіскамі да праектаў водаправоду, каналізацыі, геадэзічнымі і графічнымі матэрыяламі (генплян у розных маштабах) — агулам 24 пункты. Натуральна, што гэтыя матэрыялы, якія ў камплекце і складаюць даваенны праект генэральнай пляніроўкі Менску, былі тут жа дасланыя ў Беларусь.

Больш за тое, былі дасланыя ў Менск і некалькі тамоў арыгінальнага генпляну, выкананага ў інстытуце «Гипрогор» у 1936 годзе, а таксама гіпрагораўскі варыянт 1939 году. Тэкставая і графічная часткі гэтага даваеннага генпляну, сабраныя ў некалькі важкіх тамоў, пасьля належных 50 гадоў сакрэтнасьці былі рассакрэчаныя ў 1986 годзе і перададзеныя з Дзяржбуду БССР у Беларускі дзяржаўны архіў навукова-тэхнічнай дакумэнтацыі, дзе і захоўваюцца ў нашы дні.

Вось што пісалі аўтары генпляну 1936 году пра Стары горад у другім томе пад назвай «Текстовая часть»:

«*В центральной части города — за склоном холма, на котором находится площадь Свободы, к северу о нее расположен район Старого Минска — так называемая «Немыга». Район этот характерен своей беспорядочной средневековой планировкой и исключительно ветхими строениями, насчитывающими срок службы до 80-ти лет. В некоторых частях улицы сохраняют направление колец, окружавших давно разрушенные замковые стены. Чрезвычайно узкие улицы (до 10 м.) и полное отсутствие благоустройства создают в этой части города крайне антисанитарные условия, что является одной из причин, диктующих необ-*

*ходимость быстрейшей коренной реконструкции этого района»*[552].

Але ня толькі «хаатычнасьць» пляніроўкі закідалі ў 1936 годзе Старому гораду. Не падабалася і звычайная для старых гарадоў шчыльнасьць забудовы:

*«Кроме того, вследствие низменного своего положения, "Немыга" почти целиком затопляется, что ведет к систематическому разрушению находящихся здесь строений. Зеленых насаждений этот район совершенно не имеет. В наиболее интенсивно застроенном районе города — Центральном, кварталы "Немыги" отличаются максимальной плотностью застройки. В кварталах, расположенных в этой части города, процент застройки, в среднем, больше сорока, причем абсолютное большинство кварталов (17 из 22) имеют еще более высокую, совершенно недопустимую с точки зрения санитарно-гигиенических требований, плотность застройки, достигающую по отдельным кварталам 79–81%. Из 8-ми кварталов города, имеющих процент застройки больший 70-ти, четыре приходятся на долю "Немыги". Десять кварталов Немыги застроены более чем на 50–60%»*[553].

Як бачым, аўтары генпляну 1951 году былі няшчырыя, калі пісалі, што генплян 1936 году загінуў. Працытаваны фрагмэнт у троху зьмененым выглядзе прысутнічае ў генпляне 1946 году, а ўжо адтуль у нязьмененым варыянце 1946-га году перакачаваў і ў праект 1951-га.

552 БДАНТД, ф. 6, воп. 2, спр. 19, арк. 142.
553 Тамсама.

Увагі заслугоўвае і няправільная назва раёну — «Немыга», што сьведчыць аб пагардлівай няўвазе ленінградзкіх камгасаўцаў да менскіх рэаліяў і беларускай мовы.

У трэцім томе генпляну 1936 году пад назвай «Генеральная схема планировки Минска» гэты самы фрагмэнт сустракаецца зноў, але ён «узбагачаны» згадкай пра «ручей Немига» — сьведчаньне таго, што запазычылі пасьляваенныя пляніроўшчыкі яго менавіта адсюль:

«*Через эту часть города протекает ручей "Немига". Разливаясь во время сильных дождей, этот ручей заливал подвалы и наносил много вреда населению этого района. Ручей этот служил также канализационной канавой района. С 1927 года он заключен в железо-бетонную трубу на протяжении от Еврейской улицы до его устья р. Свислочи*»[554].

Іншыя месцы гэтага кавалка згадваюць і пра «пойменную тэрасу», і пра паводкі Сьвіслачы. Фактычна, аўтары генпляну 1946 году сьпісалі яго цалкам з тэксту 1936 году.

Шмат месца ў трэцім томе нададзена і характарыстыцы агульнага архітэктурнага аблічча Менску:

«*Современный Минск не имеет четко выраженного архитектурного лица... Количественно преобладает тип 2–3 этажных кирпичных жилых домов, наиболее распространенный в старых губернских городах. Специфическим для старой части города является очень низкое строительное качество старых домов, в большей своей части полуразрушенных, т. к. они строились без учета естественных*

554 БДАНТД, ф. 6, воп. 2, спр. 20, арк. 59 аб.

*условий территории (рельефа, уровня грунтовых вод, максимальных горизонтов р. Свислочь и т. д.). Особенно показателен в этом отношении так называемый район "Немига". Незначительное количество многоэтажных (4–6-ти) зданий конца XIX-го и начала XX вв. повторяет обычные приемы архитектуры доходных домов. Здания эти обладают наиболее высокими строительными качествами и лучшим оборудованием... Общественные здания дореволюционного периода и здания культа архитектурной ценности не представляют. Наиболее интересными являются лишь б. Ратуша (Верховный суд БССР) и польский костел (XVI–XVII вв.) на площади Свободы»*[555].

Далей аўтары генпляну 1936 году бяруцца разважаць пра стылістычную «неадпаведнасьць» дарэвалюцыйных менскіх будынкаў савецкім навабудам і асуджаюць на знос нават Чырвоны касьцёл:

*«Новый польский костел (XX в.), неудачно приспособленный под польский театр, несмотря на очень высокое качество работы, должен быть в будущем (возможно за пределами расчетного периода) снесен ввиду его полного несоответствия с соседним Домом Правительства. Годы существования Советской власти в БССР обогатили Минск рядом новых крупных объектов. Грандиозный Дом Правительства, комплекс зданий Университетского городка, Дом Красной Армии, Академия Наук БССР, Дворец Пионеров, Дом Печати, Политехнический Ин-т, Госбанк, новый театр Оперы и Балета, ряд крупных жилых домов, новые корпуса крупнейших*

555 Тамсама, арк. 57 аб.

*предприятий — знаменуют собой период радикальной реконструкции Минска...»*[556]

Абсалютна дзікая фамулёўка «общественные здания дореволюционного периода и здания культа архитектурной ценности не представляют», якая адносіцца да двух бэрнардынскіх, трох базыльянскіх, дамініканскага, францішканскага і бэнэдыктынскага кляштараў і касьцёлаў, а таксама Дому дваранскага сходу на вуліцы Энгельса і іншых выдатных помнікаў менскай архітэктуры, сьведчыць пра барбарскі характар савецкай рэканструкцыі, якую зазнаў Менск у XX стагодзьдзі.

Чытаючы такія радкі, дзівісься, як гэта цэхавыя майстры здолелі пабудаваць у іншых гарадах (напрыклад, у Вільні або Горадні) дамы, што стаяць і дагэтуль. І як гэта частка старой Нямігі дажыла да 1972 году? Урэшце, як жа ў Менску дастаялі да нашых дзён некаторыя дамы XVII–XVIII стагодзьдзяў, у іх жа таксама не было прыбіральняў і ўжытыя будаўнічыя прыёмы не адрозьніваліся ад аналягічных у іншых «губэрнскіх гарадах»?

Насамрэч, шматлікія захаваныя здымкі сьведчаць пра даволі высокі ўзровень насьценнай пластыкі на будынках пэрыяду рэтраспактыўных стыляў і эклектыкі, пра выдатныя ўзоры кавальскага мастацтва на гаўбцах і брамах, ня кажучы ўжо пра тое, што у пачатку кнігі было акрэсьлена, як шараговае гарадзкое асяродзьдзе больш раньняга часу — з вузкімі праходамі паміж дамамі, з дубовымі брамамі, частымі аконнымі рамамі, чарапіцай, кантрафорсамі і г. д.

556 Тамсама.

А вось як генплян 1936 году характарызаваў старажытныя менскія вуліцы, якія шмат каго ў Беларусі захаплялі сваім сярэднявечным выглядам яшчэ ў 10–20-я гады XX стагодзьдзя і якія, у выпадку іх захаваньня, маглі стаць цэнтрам прыцягненьня для менчукоў і турыстаў у нашы дні:

«*Существующие улицы города Минска в значительной своей части отличаются чрезвычайной узкостью в отдельных случаях не допускающих грузового движения, часть узких улиц к тому же искривлены. Общая длина улиц, проездов и набережных города составляет 214 клм., из них замощено 95 клм. или 45%. Общая площадь по роду покрытия следующая: Булыжная мостовая — 656 тыс. кв. мт.; Брусчатая— 13 тыс. кв. мт.; Клинкерная — 21 тыс. кв. мт... Существующая ширина улиц с интенсивным движением городского коммунального транспорта и пешеходов в центральной части города (Советская, Энгельса, Ленина, Комсомольская и др.) не обеспечивает нормального движения в настоящее время и требует реконструкции и расширения...*»[557]

І далей, пра будучую сетку вуліц:

«*Таким образом, проектная схема уличной сети построена в полном соответствии с принципиальной схемой магистралей, вытекающей из проектного расселения и организации внутригородского механического транспорта. Вся сеть представляет собой радиально-кольцевую схему, имеющую 12 радиусов и 3 кольца...*»[558]

557 БДАНТД, ф. 6, воп. 2, спр. 18, а. 188 аб; ф. 6, воп. 2, спр. 18, арк. 188 аб.

558 Тамсама, арк. 190 аб.

Ну і, натуральна, не забыліся аўтары генпляну 1936 году і пра плошчы.

«*Город Минск, имеющий довольно развитую сеть, хотя и узких улиц, почти не имеет хорошо развитых и благоустроенных площадей. Существующие площади — площадь Свободы, площ. Парижской Коммуны, в некоторой степени благоустроены, остальные, как например — Привокзальная площадь, площадь у выходов на Борисовский и Логойский тракты, площадь у Дома Правительства и др. мелкие, совершенно не благоустроены и не удовлетворяют транспортным требованиям. При реконструкции уличной сети необходимо предусмотреть расширение и создание новых транспортных и городских площадей*»[559].

Вось якую «пляцавую» будучыню Менску прадугледзелі. Спачатку размова заходзіць пра новыя плошчы, якія пабудуюць у сталіцы БССР:

«*Проект предусматривает следующие площади: Площадь при Доме Правительства на Советской ул., при пересечении с магистралью в южный район города — как административно-демонстрационная архитектурная площадь... Новая площадь при Доме Горсовета, примыкающая к Советской улице за р. Свислочь вдоль проектируемого пруда — как административно-демонстративная архитектурная площадь... Существующая площадь при пересечении Логойского и Борисовского трактов расширяется и увеличивается и будет являться транспортной и разгрузочной площадью...*»[560]

559 Тамсама, арк. 189.
560 Тамсама, арк.192 аб., 193.

А пасьля аўтары генпляну 1936 году апісваюць свае пляны адносна старой часткі гораду:

«*Существующая площадь Свободы реконструируется, разгружается от рельсового транспорта и приобретает исключительно архитектурно-административное направление... Площадь Парижской Коммуны расширяется и является также преимущественно архитектурной площадью с расположенным на ней зданием театра. Как примыкающая к Ц. П. К. и О. и расположенная на пересечении с городской магистралью, эта площадь будет являться и транспортной... Новая площадь на Немиге при Ц. П. К. и О. проектируется как транспортная. Эта площадь является продолжением площади Свободы и по своему положению также должна быть и архитектурной. Новая площадь вдоль Ц. П. К. и О. и пруда, примыкающего к 2-й кольцевой магистрали, проектируется как архитектурная. Новая привокзальная площадь — имеет транспортное значение...*»[561]

«Новая площадь на Немиге при Ц. П. К. и О.» — гэта, як чытач зразумеў, пляц на месцы кварталаў Нізкага і Рыбнага рынкаў у былым Старым горадзе.

Прадугледжваў генплян 1936 году (2-гі том «Тэкставай часткі») і чарговасьць ажыцьцяўленьня рэканструкцыі Менску:

«*При составлении генерального плана развития любого города чрезвычайно важное значение приобретает очередность осуществления этого плана... В связи с этим при разработке вопросов очередности реконструкции города нами условно*

561 Тамсама.

*приняты следующие 3 этапа: I этап (время окончания) — 1940–42 г.; II этап — 1948–50 г.; III этап — 1958–60 г.»*[562].

У апісаньні першага этапу знаходзім такую дырэктыву:

«*Особенно активно должна производиться реконструкция района Немиги — во 2-м этапе полностью ликвидируемого*»[563].

А вось ленінградзкая дырэктыва адносна Старога гораду для другога этапу рэканструкцыі Менску:

«*Район Немиги ликвидируется окончательно. Создается большое число основных архитектурных центров: осуществляется проект площади Свободы, Драматического театра, центров Западного и Сторожевского районов... Продолжается эволюционный процесс реконструкции центра, главным образом за счет сноса наиболее амортизированных зданий. Среди расширяемых улиц центра особое место занимает Советская улица — с целью наиболее быстрого осуществления главной парадной 60-метровой магистрали, во 2-м этапе может быть допущен ряд сносов...*»[564]

І нарэшце ў трэцім этапе ленінградзкі трэст «Гипрогор» Народнага камісарыяту камунальнай гаспадаркі РСФСР заплянаваў прыбраць з твару Менску ўсе сьляды Старога гораду, пасадзіўшы на яго месцы парк:

«*Заканчивается строительство Центрального Парка К. и О., и благоустраиваются лесопарки (в*

562 БДАНТД, ф. 6, воп. 21, спр. 19, арк. 131.
563 Тамсама, арк.132.
564 Тамсама, арк.132 аб.

*направлении Дроздов и на Слепянке). Осуществляется оформление берегов Свислочи в пределах парка и в южном ее течении — от железной дороги до речного порта. В этот период особенно значительны должны быть реконструктивные мероприятия в Центральном районе: за немногими исключениями сохранения наиболее ценных зданий (например Дом НКВД на Советской улице) все улицы центра достигнут своего проектного вида, обеспечивая нормальные транспортные условия и полноценное архитектурное восприятие*»[565].

Каб лепш зразумець гэтыя фармальна правільныя, але па сутнасьці барбарскія пляны, трэба пагартаць тагачасны друк. Інтэрвію і публікацыі датычных да стварэньня генпляну чыноўнікаў дадаюць да сухіх радкоў афіцыйнага дакумэнту найбольш каштоўныя для гісторыі дэталі.

## Генплян 1936 году ў асьвятленьні беларускага друку. Пачатак рэалізацыі

Адна з самых важных перадваенных прапагандысцкіх публікацый пра будучае архітэктурнае аблічча Менску зьявілася вясной 1937 году. Яе аўтарам быў тагачасны галоўны архітэктар Менску Герасім Якушка. У гэтай публікацыі ён даволі падрабязна пазнаёміў тую нешматлікую частку беларускай грамадзкасьці, якая яшчэ не была рэпрэсаваная, з дэталямі распрацаванага ў Ленінградзе пляну рэканструкцыі сталіцы БССР.

565 Тамсама, арк.133.

У генпляне «Гипрогора» РСФСР шмат месца адводзілася ідэалягічным задачам Масквы ў справе рэканструкцыі сталіцы Беларусі. Якушка ў сваім артыкуле іх творча пераасэнсаваў і лякалізаваў:

«*Выяўленьне характару архітэктуры будынкаў будучага Менску зьяўляецца задачай, складаючай частку вялікай, цяжкай і важнай праблемы сёньняшняга дня. Вырашэньне гэтай праблемы ўскладзена партыяй і ўрадам на архітэктурныя сілы краіны. Сацыялістычная архітэктура павінна быць перш за ўсё ідэйнай, выразнай, багатай сваёй сілай і магутнасьцю, і ў той жа час простай і радаснай, як наша шчасьлівае жыцьцё. Кожны будынак, намечаны да пабудовы, павінен служыць і быць упрыгожаньнем горада ў цэлым. Новым генэральным плянам рэканструкцыі Менску адкрываецца новая эпоха ў архітэктурнай творчасьці горада. Ніколі яшчэ да гэтага часу Менск ня меў такой магчымасьці ствараць архітэктуру комплексаў цэлых участкаў, кварталаў і плошчаў. Такая каштоўнасьць замыслу і ансамблёвае рашэньне забудовы горада нямысьлімы ў капіталістычных умовах... Пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, пры дапамозе архітэктараў брацкіх рэспублік і ўсёй савецкай грамадзкасьці Менск будзе выведзен на шырокі шлях рэканструкцыі і будзе вызначана яго далейшае аблічча*»[566].

«Як наша шчасьлівае жыцьцё...» Гэтыя словы характарызуюць агульна-ідэалягічны кантэкст пляну Масквы ў справе разбурэньня Старога Менску.

Дэталі генпляну 1936 году адносна лёсу Старога гораду не хаваліся, а нават падкрэсьліваліся:

---

566 Звязда. 21 сакавіка 1937.

*«Пляц Волі пашырыцца за лік зьнесенага сабора і дамоў, якія ня маюць архітэктурнай каштоўнасьці і па свайму стану падлягаюць зносу ўжо ў бліжэйшы час. Для пашырэньня гэтага пляца будзе зьнесена таксама частка дамоў на Школьнай вуліцы. Пляц Волі будзе складацца з 2 пляцаў — верхняга і ніжняга. Апошні будзе разьмяшчацца ў новым парку культуры і адпачынку, будаўніцтва якога намечана на месцы існуючай забудоўлі на Нямізе і ўздоўж ракі Сьвіслач да Весялоўкі і Драздоў. Верхні пляц зь ніжнім будзе злучацца прыгожа афармленай вялікайараднай лесьніцай»*[567].

Абазнанаму ў гісторыі менскай архітэктуры пры чытаньні гэтых радкоў магло заняць мову. «Частка дамоў на Школьнай» — гэта самы стары мураваны квартал гораду паміж Школьнай і Казьмадзям'янаўскай. Парк і пляц на месцы «існуючай забудоўлі па Нямізе» — гэта знос Нізкага рынку, у тым ліку і самай вузкай часткі Нямігі паміж Рыбным і Нізкім рынкамі, якая тады называлася вуліцай Калініна. А знос забудовы «уздоўж ракі Сьвіслач да Весялоўкі і Драздоў» — гэта канец Замчышча.

Мянчук Г. В. Якушка нават тагачасныя вуліцы Калініна і Вольную назваў па-старому — Нямігай і Школьнай [568]. Свой тэкст ён пісаў тады, калі Стары горад яшчэ быў амаль некрануты. А тут усяго ў некалькіх радках архітэктара зьмясьцілася ўся

567 Звязда. 21 сакавіка 1937.

568 Г. Якушка пасьля актыўнага ўдзелу ў «сацыялістычнай рэканструкцыі» беларускай сталіцы з пачаткам вайны ў чэрвені 1941 году застаўся ў акупаваным Менску і працаваў у гарадзкой управе. Памёр ад цяжкай хваробы ў 1942 годзе.

будучая гісторыя Старога гораду на наступныя 70 гадоў — аж да пабудовы «параднай лесьвіцы» на схіле ад катэдральнага сабору да Пляцу 8 сакавіка.

Праз 10 гадоў пасьля артыкулу Г. Якушкі Стары горад сапраўды канчаткова зьнесьлі і заклалі на яго месцы парк, пасьля прыбралі парк і заклалі Пляц 8 сакавіка, праз 35 гадоў зьнесьлі апошнюю частку Нямігі, праз 55 гадоў зьнесьлі і найкаштоўнейшыя купецкія камяніцы XVIII стагодзьдзя каля касьцёлу жаночага Бэрнардынскага кляштару на Пляцы Волі, якія, як пісаў Якушка ў 1937 годзе, «ня маюць архітэктурнай каштоўнасьці». І нарэшце, больш чым праз 60 гадоў, як трагікамічны фінал, пабудавалі зьменшаную копію плянаванай у 30-я гады вялікай параднай лесьвіцы на схіле ад Высокага да Нізкага рынку.

У сваім артыкуле Г. Якушка сумленна паўтараў радкі з дасланых у 1936 годзе Масквой матэрыялаў да будучага генэральнага пляну Менску. Пазьней іх шмат разоў паўтаралі і аўтары пасьляваенных генплянаў.

«*Менскія вуліцы вельмі вузкія, іх шырыня ад 7 да 18 мэтраў. Часьцей вуліцы крывыя, перасякаюцца ў многіх месцах іншымі вуліцамі не пад простым кутом. Генэральным плянам ставіцца задача зрабіць усе вуліцы шырэй у 3–4 разы. Бязь зьмен астанецца толькі вуліца Карла Маркса, якая выдатна забудавана і добра ўпарадкавана. Яе пашырэньне не выклікаецца ніякімі меркаваньнямі. Савецкая вуліца, шырыня якой 18–20 мэтраў, пашырыцца ў тры разы, да 60 мэтраў...*»[569]

---

569 Звязда. 21 сакавіка 1937.

З гэтага вынікае, што ў сярэдзіне 30-х гадоў у Маскве на пашырэньне былі асуджаныя ўсе вуліцы Новага гораду ў Менску, якія праз 8 гадоў паводле дзіўнага супадзеньня «загінулі ў вайну» або, як яшчэ і дагэтуль пішуць розныя гісторыкі, «былі па-варварску разбураныя нямецка-фашысцкімі акупантамі падчас Вялікай айчыннай вайны…»

Наогул, 30-я гады — гэта быў час, калі ў паветры ўжо адчуваліся будучыя грандыёзныя зьмены ў архітэктурным абліччы Менску. У прэсе пачалася актыўная кампанія з мэтай абгрунтаваць неабходнасьць будучай рэканструкцыі сталіцы, якая прадугледжвала і масавыя зносы ў Старым і Новым горадзе. Для гэтага стары нерэканструяваны Менск трэба было маляваць у чорных фарбах. У студзені 1939 году старшыня Менскага гарсавету З. Герчыкаў (які, вядома ж, не чытаў Шпілеўскага і Сыракомлі) пісаў у газэце «Известия»:

«*Минск имел всегда славу крайне отсталого города. Пресловутая конка существовала до 1925 года. Грязь, нищета и бескультурье — таковы мрачные черты дореволюционного Минска, центра “черты оседлости”. Белорусский народ под руководством большевитской партии до неузнаваемости переделал столицу своей республики. Минск... превратился из города тьмы в город света... Минский городской совет разработал генеральный план реконструкции столицы Белоруссии, который должен быть осуществлен в течение десяти лет. Минск по этому плану должен превратиться в один из самых благоустроенных городов Союза...*»[570]

570 Известия. 17 студзеня 1939.

Якое дачыненьне Менскі гарадзкі савет дэпутатаў меў да распрацоўкі генэральнага пляну 1936 году, мы ўжо ведаем. Ведаем таксама, што і ў XIX-м, і ў пачатку XX стагодзьдзя расейскія і нямецкія наведнікі Менску дзівіліся яго цывілізаванасьці і чысьціні.

Ва ўмовах несупынных загадаў з Масквы «паскараць, будаваць, пашыраць і паляпшаць» улады Беларусі ў 30-я гады ня ведалі, за што хапацца — гэта быў час вялікай блытаніны, неразьбярыхі і сумятні. У Менску мелі месца два супрацьлеглыя працэсы. Маскоўскія і рэспубліканскія ўлады плянавалі ў найбліжэйшыя гады знос і пашырэньне цэнтральных вуліц, а гарадзкія камунальныя і будаўнічыя службы адначасова з гэтым актыўна ўкладалі вялікія сродкі ў рамонт будынкаў у старой частцы гораду і надбудову над імі новых паверхаў.

Цэнтральную артэрыю гораду — вуліцу Савецкую (цяперашні праспэкт Незалежнасьці) — пачалі цягнуць на паўночны ўсход і актыўна забудоўваць яе зарэчную частку яшчэ ў першай палове 30-х гадоў. Дом друку пабудавалі ў 1935 годзе, славуты «Дом спэцыялістаў» на рагу Савецкай і Даўгабродзкай — у 1936 годзе, Круглую плошчу з двума паўкруглымі дамамі на ёй заклалі ў 1939-м. Наогул, у другой палове 30-х гадоў зарэчная частка сёньняшняга праспэкту Незалежнасьці ўжо набыла знаёмыя нам асноўныя рысы — да пачатку вайны на ёй ужо стаялі і будынак Інстытуту фізкультуры, і галоўны корпус Акадэміі навук, і нават так званыя «генэральскія дамы» насупраць Парку Чалюскінцаў. Гэтак былі закладзеныя і адпаведныя маштабы, у тым ліку шырыня будучага праспэкту Сталіна.

І ў гэты самы час дамы ў цэнтральнай частцы вуліцы Савецкай, якія былі асуджаныя на знос дзеля пашырэньня праспэкту, актыўна рамантавалі і надбудоўвалі. Напрыклад, калі ўжо быў запланаваны пляц перад будынкам ЦК КП(б)Б (сёньняшні Кастрычніцкі), дамы на месцы гэтага пляцу — на вуліцах Савецкай, Энгельса, Камуністычнай і завулку Луначарскага — актыўна надбудоўвалі новымі паверхамі, якія ў выніку пажараў у пачатку вайны першымі і абрынуліся..

Актыўна йшлі ў 30-х гадах капітальныя рамонты і ў Старым горадзе — на Нямізе, Школьнай і Нізкім рынку — там, дзе, паводле новага генпляну, меўся зьявіцца Цэнтральны парк культуры і адпачынку. Напрыклад, дамы на рагу Нова-Мясьніцкай і Стара-Мясьніцкай вуліцаў на Нізкім рынку адсялілі для правядзеньня капітальнага рамонту перад самай вайной — у 1941 годзе, а яшчэ ў лістападзе 1939 году бюро Менскага гаркаму КП(б)Б, у адпаведнасьці з генэральным плянам рэканструкцыі Менску, пастанавіла пабудаваць у сталіцы штучнае возера, вядомае сёньня як Камсамольскае[571]. Недарэчнасьць сытуацыі палягае ў тым, што, паводле генпляну, возера з Пляцам Волі зьвязваў парк і дзьве шырокія магістралі на месцы Старога гораду, тым ня менш дамы на Нізкім рынку рамантавалі.

Масква патрабавала выкананьня генпляну, улады Беларусі мітусіліся, абрысы новага гарадзкога цэнтру ўжо можна было пазнаць наяве, а праектаў канкрэтных дамоў не было. У лютым 1940 году «Советская Белоруссия» зьмясьціла разгромны

571 Советская Белоруссия. 2 сьнежня 1939.

артыкул «Подготовка к строительному сезону идет плохо». Аўтар, нехта А. Чашчын, пісаў:

*«С началом весны должно начаться строительство всех намеченных в 1940 году объектов. Однако к этой чрезвычайно важной и ответственной задаче подготовка развернута далеко не достаточно. Белгоспроект, занимаясь серьезной и плодотворной работой по генеральной проектировке нового города, очень мало уделяет внимания отдельным зданиям, намеченным к постройке в этом году. Так, до сих пор еще большинство строек 1940 года не имеет проектов»*[572].

Маскоўскі плян прадугледжваў стварэньне некалькіх пляцаў у цэнтры Менску і цэнтральных пляцаў кожнага зь сямі раёнаў гораду — усяго 10 пляцаў. Самым вялікім задумваўся «Пляц Саветаў» на левым баку Сьвіслачы — там, дзе цяпер вуліцы Камуністычная і Кісялёва. На тым пляцы меўся стаяць грандыёзны Дом Гарсавету. Парк на месцы сёньняшняга парку Янкі Купалы плянаваўся ўжо тады.

У студзені 1941 году ў беларускай прэсе пачалася масавая кампанія прапаганды плянаванага разбурэньня цэнтру Менску. Пры гэтым было прынята падкрэсьліваць дырэктыўны характар пастановы ЦК ВКП (б) і СНК СССР ад 1935 году пра рэканструкцыю Масквы.

У рэспубліканскіх газэтах выходзілі цэлыя палосы пад тытулам «Будущее нашей столицы» з прапагандай зацьверджанага ў 1940 годзе генпляну Менску. І кожны аўтар не забываўся з гонарам

572 Советская Белоруссия. 5 лютага 1940.

напісаць пра хуткае зьнішчэньне Старога гораду і Замчышча.

У студзені 1941 году дырэктар інстытуту «Белдзяржпраект» Г. Бернштэйн выступіў у друку з артыкулам «План реконструкции города Минска». Ён пісаў:

«*В основу этого плана планировщики Белгоспроекта положили историческое решение ЦК ВКП(б) и СНК СССР о реконструкции города Москвы, в котором сказано: "необходимо исходить из сохранения основ исторически сложившегося города, но с коренной перепланировкой его путем решительного упорядочения сети городских улиц и площадей. Важнейшими условиями этой перепланировки являются: правильное размещение жилых домов, промышленности, железнодорожного транспорта и складского хозяйства, обводнение города, разуплотнение и правильная организация жилых кварталов..." В основе этого решения самым сложным вопросом для наших планировщиков (архитекторов Муравьева, Трудова, инженеров Ескевича, Леках, Горелика) была планировка старой, исторически сложившейся скученной части города, где необходимо было проложить новые магистрали... (в районе Немиги и примыкающих к ней кварталов)*»[573].

Зразумела, што ў фразе Бернштэйна «самым сложным вопросом для наших планировщиков» на месцы апошняга слова павінна было быць слова «выканаўцаў». Плянавалі не яны і ня ў Менску.

Згаданы Г. Бернштэйнам Д. Яскевіч — начальнік і галоўны інжынэр аддзелу пляніроўкі «Бел-

573 Советская Белоруссия. 17 студзеня 1941.

дзяржпраекту» — у тым самым студзені 1941 году ў адной з публікацыяў расказваў пра лёс менскага Старога гораду амаль тымі самымі словамі, якімі пра гэта пісалі аўтары ленінградзкага генпляну Менску 1936 году:

«*Особенно сильной реконструкции подвергается район Немиги, площади Свободы и вся прибрежная полоса реки Свислочи. От площади Свободы, параллельно реке Свислочи пробиваются по району Немиги две новых широких магистрали, подводящие центральную часть города к искусственному озеру и будущему Центральному парку культуры и отдыха. Эти две новых широких магистрали вливаются в улицы Энгельса и Ленинскую... Вместе с площадью Свободы, Оперным театром, рекою Свислочью и богато разыгранной зеленью они будут представлять одну из основных композиционных архитектурных осей города*»[574].

«Две новых широких магистрали» на месцы Старога гораду прадугледжваў яшчэ нават і генплян Менску 1946 году. І гэта, дарэчы, паказвае на поўную пераемнасьць гэтага генпляну не з эскізным праектам «Ідэя цэнтру Менску», распрацаваным у жніўні 1944 году дэлегацыяй маскоўскіх акадэмікаў архітэктуры, які прадугледжваў адну магістраль, але якраз з даваенным генплянам 1936 году, створаным у ленінградзкім аддзяленьні «Гипрогора» РСФСР.

Такая вернасьць менскіх архітэктараў яшчэ даваенным плянам НКВД ня можа ня ўражваць.

574 Советская Белоруссия. 17 студзеня 1941. Артыкул Д. Яскевіча называецца «Генеральный план».

Ад адной зь дзьвюх магістраляў праз Замчышча адмовіліся ў генпляне 1951 году, другую пасьпяхова «пробили» — цяпер гэта праспэкт Пераможцаў. Сёньня ўжо ніхто не задумваецца, чаму пракладзены праз Стары горад праспэкт спачатку назвалі Паркавай магістральлю. Адказ просты — паводле генпляну 1936 году гэтая «радыяльная» магістраль пралягала па тэрыторыі будучага Цэнтральнага парку культуры і адпачынку на месцы Замкавай гары і Татарскіх агародаў.

Застаецца дадаць, што радыяльную магістраль, якая пазьней і стала Паркавай, ужо ў інстытуце «Белдзяржпраект» у 1940 годзе плянавалі зрабіць бульварам 125-мэтровай шырыні. У створанай у канцы 1940 году ў «Белдзяржпраекце» на падставе ленінградзкага генпляну 1936 году і яго вэрсіі 1939-га «Генеральной схеме планировки Минска» гаварылася:

«*Площадь Свободы, не имеющая большого транспортного значения, представляющая большой архитектурный интерес, находится на большом склоне по отношению района "Немига". С ликвидацией его (района Немиги) намечается на продолжении осей улиц Ленинской и Энгельса до площадки, где расходятся направления на Вильнюс, шириной в 125 метров бульвар, подводящий архитектурную ось к запроектированному ЦПК и Отдыха и искусственному озеру. Этот центральный бульвар открывает с Площади Свободы большие пространства и дает возможность видеть будущий ансамбль площади Парижской Коммуны, площади 25 октября, Ц. П. К. и Отдыха, будущий стадион и озеро*»[575].

575 БДАНТД, ф. 6, воп. 2, спр. 22, арк. 9–10.

Са старога Пляцу Волі ніякіх «больших пространств» убачыць нельга было. Даўней будавалі эканомна, на прыватных пляцах. У выніку старыя цэнтры эўрапейскіх гарадоў вызначаюцца камэрнасьцю ды ізаляванасьцю прасторы — за гэта іх і цэняць сёньня. А ў праектных інстытутах 30-х гадоў людзі марылі аб «адкрыцьці прасторы». Фраза «открывает с Площади Свободы большие пространства» натхняла менскіх архітэктараў яшчэ і ў 70-я гады XX стагодзьдзя. Як вядома, праз 40 гадоў галоўны архітэктар Менску Ю. Грыгор'еў плянаваў зьнесьці ўвесь Верхні горад, каб «открыть» Цэнтральны пляц у бок Камсамольскага возера.

Таксама з апошняй цытаты відаць, што Цэнтральны парк культуры і адпачынку меўся пачынацца троху далей на захад. Гэта, у параўнаньні зь ленінградзкімі плянамі, была менская навацыя, якая, аднак, нічога не мяняла ў лёсе Нізкага рынку і Старога гораду, на месцы якіх плянаваўся 125-мэтровы бульвар. А стадыён «Трудовые резервы» першапачаткова было заплянавана пабудаваць менавіта каля Камсамольскага возера.

Іншых камэнтароў гэтыя цытаты не патрабуюць. Стары горад ня меў шанцаў і непазьбежна быў бы разбураны ў мірны час, каб не вайна.

*2006–2021*

## Замест пасьляслоўя

На маім стале ў рамцы шмат гадоў стаіць павялічаны здымак вуліцы Казьмадзям'янаўскай, зроблены ў 1931 годзе. Чытач ужо ведае, што гэта самая старая мураваная вуліца Менску, якая пачала забудоўвацца камяніцамі яшчэ ў канцы XVI — пачатку XVII стагодзьдзяў. Некалі на ёй былі ўніяцкая царква з кляштарам, аптэка, карчма, склады і крамы.

Пасьля вайны вуліца зьнікла, але ня цалкам. На ёй да 80-х гадоў XX стагодзьдзя заставаўся адзін дом, а трасу вуліцы менчукі выкарыстоўвалі паводле прызначэньня. Людзі спускаліся ёю з Плошчы Свабоды на Плошчу 8 Сакавіка, дзе было аўтобуснае кальцо многіх менскіх маршрутаў. Давялося хадзіць па ёй і мне.

За савецкім часам лічылася, што Менск у вайну быў разбураны больш чым на 80%. Трапляла ў гэтыя працэнты і самая прыгожая вуліца старога Менску — Казьмадзям'янаўская.

А пасьля я даведаўся, што вуліца падчас Другой сусьветнай вайны амаль цалкам захавалася і была зьнішчана пазьней. Гэта ўразіла, нарадзіла мару дамагчыся яе аднаўленьня і стала адным са штуршкоў для напісаньня гісторыі зьнікненьня Старога гораду.

Наогул, разбурэньне падчас вайны 1941–1945 гадоў амаль усяго, што было заплянавана да зносу ў Менску савецкім генплянам 1936–1939 гадоў, — трагічная і цёмная старонка беларускай гісторыі. Як так сталася? Ці толькі немцы адказныя за разбурэньні? Пра гэта — у другой кнізе.

1. Плян-схема гістарычнай часткі Менску. Назвы вуліц пададзеныя паводле стану на 1925 год.



2. Фрагмэнт аднаго з самых старых авіяцыйных здымкаў Менску, зробленага нямецкім лётчыкам 15 чэрвеня 1917 году. Цэлы здымак ахоплівае сабой амаль увесь горад. Каштоўнасьць гэтага фота надзвычайная. Перад намі — некрануты ваеннымі дзеяньнямі, пажарамі і пазьнейшымі разбурэньнямі гістарычны цэнтар Менску, у тым ліку Стары горад, якім ён сфармаваўся да пачатку XX стагодзьдзя.



3. Яшчэ адзін даўні авіяцыйны здымак цэнтру Менску, зроблены нямецкім лётчыкам зімой 1917–1918 гадоў. Засьнежанасьць дазваляе лепш ацаніць трасіроўку вуліц і завулкаў, іх маштабнасьць. Добра бачны вузкі крывы завулак, які перасякаў квартал паміж Рыбным рынкам і вуліцай Школьнай. Таксама відаць, што Школьны двор выкарыстоўваўся менчукамі як завулак для скарачэньня дарогі паміж вуліцай Няміскай і Верхнім горадам.





4. Самы стары панарамны здымак гістарычнага цэнтру Менску. 1863 год.

5. Мясныя рады Нізкага рынку ў 1888 годзе. Мур з чырвонай цэглы з боку Замчышча ўспрымаўся падарожнікамі як частка старога замку.





6. Вусьце Нямігі, якая абцякала Замчышча, у 1903 годзе.

7. Будынак Гродзкага суду, які яшчэ называюць Трыбуналам ВКЛ. XVII–XIX стагодзьдзе. Здымак пачатку XX стагодзьдзя. На першым паверсе да канца 1920-х гадоў была кузьня. Характэрнай асаблівасьцю старога Менску былі забрукаваныя двары.





8. Нізкі рынак, 1897 год. Фота з калекцыі Васіля Каляды.

9. На Нізкім рынку ў 1909 годзе.



10. Нізкі рынак, 1915–1918 гады. Нямецкая паштоўка са збораў Віленскага беларускага музэю Івана Луцкевіча.

11. Нізкі рынак, 1918 год.






12. Паўночны кут Нізкага рынку. Добра відаць драўляныя гандлёвыя павільёны ўздоўж берага Сьвіслачы і дах жалезных гандлёвых радоў зьлева і ў цэнтры кадра. У крамах па пэрымэтры рынку гандлявалі рамесьніцкімі і прамысловымі таварамі, а ў гандлёвых радах — прадуктамі харчаваньня. Будынак лазьні з надпісам «Бани и ванны» знаходзіцца на другім беразе ракі, у Траецкім прадмесьці.

13. Крамы на паўночна-ўсходнім баку Нізкага рынку пры пачатку вуліцы Казьмадзям’янаўскай. У 1887 годзе расейскі эканаміст Андрэй Субоцін пісаў, што ў Менску на 3000 дамоў прыпадае 2000 крамаў, а за лаўку на Нізкім рынку ў адно акно арандатары-гандляры плацілі 2–3 рублі на тыдзень. Праз 31 год, як бачым, сытуацыя не зьмянілася — 7 вокнаў, 7 шыльдаў, 7 крамаў.






14. Яшчэ адзін нямецкі здымак Нізкага рынку. 1918 год. За левым плячом фатографа пачыналася Кацярынінская вуліца (працяг Нямiскай).

15. Крамы на паўночна-ўсходнім баку Нізкага рынку паміж вуліцамі Гандлёвай і Гандлёва-Набярэжнай. Сакавік 1918 году. Нямецкая паштоўка.





16. Частка Нова-Мясьніцкай вуліцы, якую яшчэ называлі Рэзьніцкай, другая палова 1920-х гадоў. У канцы вуліцы — брама Мясных радоў або Мяснога тупіку.

17. Фрагмэнт папярэдняга здымка, які дае магчымасьць адчуць атмасфэру Старога гораду. Т-падобнае перакрыжаваньне Нова-Мясьніцкай і Стара-Мясьніцкай вуліц. На дамах зьлева зьвяртаюць на сябе ўвагу варонкі вадасьцёкавых трубаў. За паваротам налева пачынаўся пад'ём на Замчышча.





18. Вуліца Школьная пры яе перасячэньні з Кацярынінскай. 1918 год.

19. Вуліца Школьная. 1918 год. Нямецкая паштоўка.





20. Адна з дзьвюх архітэктурных дамінантаў Старога гораду — рэнэсансная Петрапаўлаўская царква 1612 году на Ракаўскай вуліцы каля Рыбнага рынку, перабудаваная на расейскі манер у 1870–1872 гадах.

21. Другая архітэктурная дамінанта Старога гораду — бэс-мэдрэш пахавальнага брацтва «Шывэ круім» XVIII стагодзьдзя на рагу Школьнай і Няміскай вуліц. Яго купал быў добра відаць з розных частак старога Менску.






22. Рыбны рынак. Канец XIX стагодзьдзя. Пад гандлёвай паветкай справа — рэчышча Нямігі пад драўляным насьцілам. Расейская паштоўка.

23. Рыбны рынак. 1918 год. Нямецкая паштоўка.






24. Вуліца Няміская. Пачатак XX стагодзьдзя.

25. Вуліца Няміская. 1923–1925 гады.






26. Крамкі на рагу Кацярынінскай і Школьнай. 1925 год. Зьлева — панарама Школьнай у бок Замчышча.

27. Вуліца Кацярынінская (працяг вуліцы Нямiскай у бок Нізкага рынку). 1926 год. Пракладка каналізацыі.





28. Вуліца Няміская. 1927 год. Пракладка каналізацыі.

29. Камгас у 1920-я гады рэгулярна займаўся рамонтамі дамоў, у тым ліку і ў Старым горадзе. Але камяніцы на перакрыжаваньні самай вузкай часткі Кацярынінскай вуліцы са Школьнай падышлі да вясны 1929 году ў аварыйным стане. Пішучы пры гэтым здымку фразу «Камгас зусім не клапоціцца аб іх рамонце», журналісты «Зьвязды» маглі ня ведаць пра плянаваны знос гэтых дамоў, пра што дакладна ведалі супрацоўнікі камгасу НКВД. У тым самым 1929 годзе дамы будуць зьнесеныя.







30. Выхад Казьмадзям’янаўскай вуліцы на Высокі рынак. Паштоўка канца XIX стагодзьдзя. Подпіс на паштоўцы тлумачыцца тым, што да канца 20-х гадоў мінулага стагодзьдзя прастору паміж Вялікім (фрагмэнт справа) і Малым (у цэнтры) гасьцінымі дварамі таксама называлі Казьмадзям’янаўскім завулкам.

31. Тое самае месца ў пачатку XX стагодзьдзя.






32. Тое самае месца ў 1915 годзе.

33. Крама на вуліцы Казьмадзям'янаўскай, 47. 1925 год.





34. Задні бок Малога гасьцінага двара. Аўтэнтычныя менскія камяніцы XVIII стагодзьдзя з мураванымі брамамі і кантрафорсамі. 1926 год. Канчаткова зьнесеныя ў 2001 годзе.

35. Казьмадзям'янаўская вуліца пры выхадзе на Высокі рынак. Кадар з кінафільму рэжысэра Юрыя Тарыча «Лясная быль». 1926 год.




36. Вуліца Казьмадзям'янаўская з боку Высокага рынку. Фрагмэнт уклейкі часопісу «Чырвоная Беларусь», №2 за 1930 год. У тым самым нумары быў апублікаваны апошні артыкул Міколы Шчакаціхіна, у якім ён заклікаў захаваць Стары горад. Подпіс пад здымкам гаворыць сам за сябе.



37. Вуліца Казьмадзям'янаўская. 1931 год.





38. Высокі рынак, у цэнтры — гатычна-рэнэсансная ўніяцкая царква Сьвятога Духа, справа — ратуша, зьлева — апсыда бэрнардынскага касьцёлу сьвятога Язэпа і купецкая камяніца ў комплексе Вялікага гасьцінага двара. Малюнак невядомага мастака. Да 1835 году.

39. Былая ўніяцкая царква Сьвятога Духа на Высокім рынку, двойчы ў XIX стагодзьдзі перабудаваная ў праваслаўны катэдральны Петрапаўлаўскі сабор. 1918 год.



40. Інтэр’ер катэдральнага Петрапаўлаўскага сабору. 1918 год. Зьлева над іканастасам можна бачыць гатычную нэрвюру ў апсыдзе старой Сьвятадухаўкі. 1918 год.









41. Віленскі паводле стылістыкі куток Высокага рынку каля жаночага базыльянскага кляштару. Зьлева відаць пачатак вуліцы Герцана. 1925 год.

42. Вуліца Акцябрская (былая Валоцкая), што аддзяляла Высокі рынак ад Новага гораду. Справа бакавы нэф дамініканскага касьцёлу Тамаша Аквінскага, які добра сьведчыць пра маштаб самога храму. 1925 год.





43. Парад 1-га польскага палка Крэхавецкіх уланаў на Высокім рынку (Плошчы Свабоды) падчас менскіх урачыстасьцяў у 100-ю гадавіну сьмерці Тадэвуша Касьцюшкі 15 кастрычніка 1917 году.

44. Езуіцкі комплекс на паўднёвым баку Высокага рынку з катэдральным касьцёлам Дзевы Марыі. Люты 1918 году. Штрыхаваная мастаком вокладка (магчыма, уклейка) нямецкага часопісу значна большага за А4 фармату.



45. Інтэр’ер каталіцкага катэдральнага касьцёлу Дзевы Марыі. 1918 год. Добра бачныя пяць больш чым двухмэтровых скульптур сьвятых і іншыя незваротна страчаныя дэталі інтэр’еру катэдры.





46. Паўднёвы кут Высокага рынку. Пастраеньне перадавых частак I польскага корпусу генэрала Доўбар-Мусьніцкага, якія ўвайшлі ў Менск разам зь немцамі 22 лютага 1918 году. Ззаду ў легіянэраў рог гатэлю «Эўропа» і пачатак тагачасных вуліц Губэрнатарскай і Праабражэнскай.

47. Гэтак жыхары Менску назіралі за ўрачыстым пахаваньнем камандзіра I палка Крэхавецкіх уланаў палкоўніка Баляслава Масьціцкага ў менскай катэдры 27 лютага 1918 году.





48. Паўночна-заходні кут Высокага рынку (Плошчы Свабоды). Нямецкія шыхты. Чэрвень 1918 году.

49. Нямецкае камандаваньне падчас параду ў чэрвені 1918 году і выхад вуліцы Школьнай на Плошчу Свабоды.





50. Некалькі здымкаў Новага гораду. Вуліца Энгельса (былая Дамініканская). Выгляд з касьцёлу Тамаша Аквінскага. Унізе ў цэнтры яе перакрыжаваньне з Камуністычнай (былой Юраўскай). Правей у цэнтры відаць Лютэранскую кірху. 1918 год. Нямецкая паштоўка.
51. Вуліца Губэрнатарская (былая Францішканская) ў бок Высокага рынку. Здымак з будынку пошты. Справа сквэр пры лютэранскай кірсе. Былы кляштар францішканаў — праз адзін дом ад гатэлю Эўропа на тым самым баку вуліцы. 1918 год. Нямецкая паштоўка.






52. Вуліца Губэрнатарская (былая Францішканская). 1918 год. Нямецкая паштоўка.

53. Мастак Язэп Драздовіч каля вусьця Нямігі пад Замкавай гарой. Чэрвень 1920 году. Здымак Льва Дашкевіча.






54. Язэп Драздовіч пад Замкавай гарой сярод дзяцей і прачак. Чэрвень 1920 году. Леў Дашкевіч паставіў кампазыцыю здымка так, каб глядач ня толькі ўбачыў, але і адчуў вышыню Замкавай гары над Сьвіслаччу.

55. Язэп Драздовіч. «Абрыў Замкавай гары і прыбярэжная грэбля на правым беразе ракі Сьвіслач», 1920 год.







56. Язэп Драздовіч. «Рака Сьвіслач ля Замкавай гары», 1920 год.

57. Язэп Драздовіч. «Крушні дамоў Маньковіча на замкавым узгорку», 1920 год. За сьпінай мастака схіл да Сьвіслачы, драўляная брама ў цэнтры выходзіла на Стара-Мясьніцкую вуліцу. Правал на сьцяне дому зьлева зафіксаваны на наступным малюнку.



58. Язэп Драздовіч. «Дом былога судзілішча Менскага замку», 1920 год. На просьбу аўтара знаўца гісторыі беларускай муроўкі Алег Трусаў датаваў замаляваныя Драздовічам руіны канцом XVII — пачаткам XVIII стагодзьдзяў. Гэта азначае, што на тэрыторыі замку былі і іншыя камяніцы, апрача будынку суду.





59. Сустрэча Юзэфа Пілсудзкага на вакзале ў Менску. 18 верасьня 1919 году.

60. Некалькі здымкаў менскіх ходнікаў. На Замчышчы яны, паводле традыцыі, якая налічвала ў Менску шмат стагодзьдзяў, былі драўляныя. Дом па адрасе Замкавая 1 / Стара-Мясьніцкая 33. 1925 год. Добра відаць пачатак павольнага спуску з Замкавай гары да Нізкага рынку. Ходнік драўляны.







61. Брамы і аканіцы крамак у доме №8 па Стара-Мясьніцкай вуліцы на Замчышчы. У двары гэтага дому стаяў будынак Трыбуналу ВКЛ, які яшчэ называлі Гродзкім судом. Ходнік драўляны. 1925 год.

62. Драўляныя ходнікі былі ня толькі на Замчышчы. Вось такі ходнік каля дому №18 па вуліцы Гандлёвай, якая, зрэшты, была часткай Старога гораду. 1925 год.





63. Але і ў ніжняй частцы старога Менску былі відаць вынікі дзейнасьці славутага гарадзкога галавы Менску 1890–1901 гадоў Караля Гутэн-Чапскага і яго наступнікаў — забрукаваныя квадратнымі плітамі ходнікі. Менавіта пра гэтыя пліты, што пакрывалі большасьць ходнікаў гістарычнага Менску, у тым ліку вуліц Казьмадзям'янаўскай і Школьнай, пісаў Уладзімер Дубоўка: «Дзень стары ляжа на пліты...» Дом па адрасе Герцана, 19 / Гандлёвая, 10. 1925 год.

64. Часам ходнікі брукавалі квадратнымі плітамі наўскос. Як каля гэтага дому №13 па Ракаўскай вуліцы. 1925 год.






65. Мэтафара Дубоўкавых плітаў мела дачыненьне і да цэнтральных вуліц гістарычнага Менску, у прыватнасьці да Савецкай і адной з самых маляўнічых мураваных артэрый гораду — Урыцкага. Дом справа на перакрыжаваньні гэтых вуліц меў адрас Савецкая, 12 / Урыцкага, 54, выгляд з боку Савецкай. Многія эўрапейскія гарады маюць падобныя куточкі. Менск, на жаль, іх страціў. 1925 год.

66. Але і ў Старым горадзе была пэўная разнастайнасьць формаў пакрыцьця ходнікаў. Каля дому на рагу Нізкага рынку і вуліцы Гандлёва-Набярэжнай пліты выглядалі як гістарычны брук. 1925 год.



67. Выгляд Старога гораду з боку вуліцы Вялікай Татарскай. Фатограф знаходзіцца на мінарэце Татарскага мячэту. Вельмі рэдкі здымак 1941 году. У Верхнім горадзе ўжо няма праваслаўнага катэдральнага Петрапаўлаўскага сабору, былой уніяцкай царквы Сьвятога Духа, зьнесенай у 1936 годзе. Тым ня менш, нягледзячы на зносы канца 20-х і 30-х гадоў Стары горад яшчэ заставаўся Старым горадам. У цэнтры на сярэднім пляне – густая забудова Замчышча, у тым ліку Замкавай і Падзамкавай вуліц.

| | | | |
|---|---|---|---|
| | 5-75. | Фабрыка Меншвэй № 1—кв. Дырэктара Пейгіна, А. Г. | Пляц Волі, 15, кв. 4. |
| | 13-06. | Фабрыка Меншвэй № 1—склад гатовага убраньня | Н.-Ракаўская, 14/16. |
| | 12-85. | Фабрыка Меншвэй № 1—фабком | Ленінская, 13. |
| | 10-18. | „ „ № 2 | Рог Валадарскага і К. Маркса. |
| | 12-95. | „ „ № 3 | Рог Ніжн. Рынку і Кацярынінскай. |
| | 10-94. | „ Млынавых жарноў—п/к „Вулкан“ | Р. Люксембург, 26. |
| | 10-59. | Фабрыка Мэблевая—п/к | Ю.-Завальная, 6. |
| | 10-60. | „ „ „ магазын | Кацярынінская, 5. |
| | 11-29. | „ Цукерак „Прагрэс“ | Лекерта, 1/22. |
| | 7-20. | „ „ „ кантора | Унівэрсытэцкая, 24/48. |
| | 12-97. | Фабрыка Шчацінавая—Бухгальтэрыя | Рог Каліноўскага і Біржавога зав., 14/2. |
| | 13-20. | Фабрыка Шчацінавая—Фабком | „ |
| | 10-41. | „ Шчотачна.-Скур.-Галянтар.—п/к—Бухгальт. | Розы Люксембург, 26. |
| 7. | 13-10. | Фабрыка Шчотачна-Скур.-Галян- | |



68. Старонка даведніка «Сьпіс абанэнтаў гарадзкіх тэлефонных сетак Менскай акругі сувязі» (Менск, 1929), на якой тая самая вуліца два разы названая Кацярынінскай і адзін раз — Каліноўскага.

69. Фрагмэнт «Схэмы уліц, завулкаў і пляцоў гор. Менску. Выданне Менгорсовета. 1934 г.» з назвамі некаторых вуліц цэнтральнай часткі гораду. І сьледу не засталося ад спробы назваць вуліцы ў Старым горадзе імем Францішка Скарыны і Кастуся Каліноўскага. Кацярынінская і Казьмадзям’янаўская ўжо называюцца вуліцамі Міхаіла Калініна і Дзям’яна Беднага.

Секретно

Н.К.К.Х.-Р.С.Ф.С.

Государственный Институт по проектированию, с"емке и планировке населенных мест

ГИПРОГОР

Генеральный проект планировки города Минска.

/текстовая часть/

Том I

гор. Ленинград

1936 год.

70. Тытульная старонка аднаго з тамоў генэральнага пляну Менску 1936 году, распрацаванага ленінградзкімі архітэктарамі. Праца над ім была пачатая ў 1931 годзе.



Управляющий ГИПРОГОР"ом /ЛЕБЕДЕВ И.И./

Зам.Упр.по техн.части /ВАСИЛЕВСКИЙ И.И./

Главный архитектор /проф.ВИТМАН В.А./

Нач.Планиров.Отдела /БУРЛАКОВ И.И./

Руковод.Бюро № 5 /КИЛОВАТОВ Ю.И./



71. Аўтары генпляну Менску 1936 году. Асноўную ролю ў вызначэньні будучай пляніроўкі Менску адыгралі архітэктары Ўладзімір Вітман і Юры Кілаватаў.

72. Фрагмэнт графічнай часткі генпляну Менску 1936 году. Лявей у цэнтры, насупраць Траецкага прадмесьця ў выгіне Сьвіслачы добра відаць стадыён, а зьлева ад яго дзьве лініі — у арыгінале сінюю і чырвоную. Першая азначае новы аўтобусны маршрут, другая — новую трамвайную лінію. Трасы, паводле пляну, «прабіваліся» праз раён Старога гораду са зносам усёй яго забудовы.





73. Так ленінградзкія архітэктары ў 1930-я гады бачылі пляц Парыскай камуны перад Тэатрам опэры і балету. Уверсе зьлева за рэчкай відаць, што на месцы скапанай Замкавай гары — парк, а ўздоўж вуліцы Нямiскай — шматпавярховая забудова, якая там зьявілася толькі ў 1970-я гады.

74. Фрагмэнт графічнай часткі генпляну Менску 1946 году, створанага на падставе ленінградзкага генпляну 1936 году, з дзьвюма магістралямі на тэрыторыі былога Замчышча, але без стадыёну, які праз пару гадоў усё ж пабудуюць. На месцы Старога гораду і Татарскіх агародаў меўся раскінуцца Цэнтральны парк культуры і адпачынку. Каштоўнасьць артэфакту палягае ў тым, што архітэктары пакінулі на малюнку абрысы старых менскіх вуліц. Гэта дазваляе лепш ацаніць маштаб пераўтварэньняў, якія стары Менск зазнаў.





75. Архітэктар Сяргей Шастакоў (крайні справа), 1914–1917 гады. Другі зьлева сядзіць архітэктар Аляксей Шчусеў, які пасьля Другой сусьветнай вайны браў удзел у стварэньні канцэпцыі аднаўленьня Менску.

76. Архітэктар Уладзімір Сямёнаў, другая палова 30-х гадоў XX ст.





77. Некалькі малюнкаў мастакоў, якія ўдзельнічалі ў мастацкіх выставах 1920-х гадоў і малявалі стары Менск. Такім мастак Майсей Сьляпян убачыў выхад Казьмадзям’янаўскай вуліцы на Высокі рынак.

78. Мікалай Дучыц. На Нізкім рынку. 1929 год. У цэнтры — выхад вуліцы Гандлёвай на рынкавы пляц.



79. Мікалай Дучыц. Падзамкавая вуліца. За сьпінай мастака — Сьвіслач. На гары зьлева плянаваўся бульвар для турыстаў. 1930 год, пастэль.





80. Міхась Тычына. Гродзкі суд на Замчышчы. 1924 год.

81. Міхась Тычына. Выхад Казьмадзям’янаўскай вуліцы на Высокі рынак. 1930 год.





82. Міхась Філіповіч. Дом Сапегаў XVII стагодзьдзя за дамініканскім касьцёлам. 1924 год.

83. Міхась Філіповіч. Пакой на першым паверсе Дому Сапегаў. 1924 год.





84. У 1960-я гады мастак Мэер Аксэльрод стварыў сэрыю малюнкаў на падставе сваіх эскізаў 1920-х гадоў. Нізкі рынак пасьля зносу цэлага кварталу з боку Замчышча. 1968 год.

85. Мэер Аксэльрод. Завальная вуліца. 1968 год.

## Крыніцы ілюстрацыяў

**Беларускі дзяржаўны архіў навукова-тэхнічнай дакумэнтацыі, Менск** — *26, 33, 41, 42, 60, 61, 62, 63, 64, 65, 66, 69, 70, 71, 72, 74*

**Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакумэнтаў, Дзяржынск** — *8, 25, 37*

**Нацыянальны гістарычны музэй Рэспублікі Беларусь, Менск** — *16, 17, 18, 27, 28, 34, 78, 82, 83*

**Нацыянальны мастацкі музэй Рэспублікі Беларусь, Менск** — *55, 56, 57, 58, 80, 81*

**Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі, Менск** — *20, 53, 54*

**Фэдэральны архіў, Кобленц, Нямеччына** — *3, 11, 12, 13, 14, 39, 40, 44, 45, 47*

**Вайсковы архіў Баварыі, Мюнхэн, Нямеччына** — *2, 46*

**Нацыянальны музэй, Варшава, Польшча** — *7, 38*

**Цэнтральны вайсковы архіў, Варшава, Польшча** — *43, 59*

**Збор краязнаўцы Паўла Растоўцава, Менск** — *9, 15, 19, 22, 23, 30, 32, 48, 49, 50, 51, 52, 67, 75, 76*

**Мэмарыяльны комплекс Яд Вашэм, Ерусалім, Ізраіль** — *21*

**Збор сям'і Мэера Аксэльрода** — *84, 85*

**Збор аўтара** — *10, 31, 79*

**Часопіс «Фотографическая иллюстрация», 1863** — *4*

**З кнігі Канстанціна Случэўскага «По Северо-Западу России», том II «По Западу России», СПб, 1897** — *5*

**З альбому «Виды г. Минска», Мн, 1904, Издание С. А. Некрасова** — *6*

## Скароты назваў архіўных установаў

**БДАНТД** — Беларускі дзяржаўны архіў навукова-тэхнічнай дакумэнтацыі, Менск

**ДАМн** — Дзяржаўны архіў Менскай вобласьці

**НАРБ** — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь

**ЦНА НАНБ** — Цэнтральны навуковы архіў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

# Паказьнік асобаў

**Ц**



**Ч**



**Ш**



**Э**

**Ю**



**Я**

# Падзяка

Аўтар выказвае шчырую падзяку ўсім, хто дапамагаў яму ў працы над кнігай у 2006–2021 гадах. Гэта рэдактар Аляксандар Лукашук, карэктар Сяргей Шупа, мастак Генадзь Мацур, дызайнэр Янка Пятроў, гісторык Уладзімер Дзянісаў, краязнавец Павел Растоўцаў, паэты Алесь Клышка і Міхась Скобла, грэка-каталіцкая манашка сястра Вікторыя Чэкан, менскія старажылы Ірына Грамыка, Ірына Клышка, Вітаўт Кіпель, Яўген Кунін, Аляксандар Сакалоўскі, Леў Шавель, Леанід Шкода. Асобная падзяка належыцца Фонду культуры і адукацыі Алы Орса-Рамана за садзеяньне ў працы над кнігай, а таксама рэдакцыі газэты «Наша Ніва». Аўтар дзякуе сваім дарагім бацькам Паўлу і Алісе Абламейкам, якія арганізоўвалі гутаркі зь менскімі старажыламі і дапамагалі капіяваць публікацыі старых газэт у менскіх бібліятэках, а таксама брату Андрусю. І, нарэшце, аўтар вельмі ўдзячны сваёй жонцы Вользе, якая падтрымлівала яго ў больш чым дзесяцігадовай працы над кнігай, згадзіўшыся зь немалымі сямейнымі затратамі на паездкі ў замежныя архівы і капіяваньне здымкаў, а часам і сама разам з аўтарам сядзела ў чытальных залях, як гэта было, напрыклад, у Нацыянальным архіве ЗША. Дзякуй і тым, хто тут ненаўмысна ня ўспомнены.

## Пра аўтара

Сяргей Абламейка нарадзіўся ў 1962 годзе ў Менску. Скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту і дактарантуру Люблінскага каталіцкага ўнівэрсытэту (Польшча). Доктар гісторыі. Працаваў сьлесарам на Менскім аўтамабільным заводзе, выкладаў гісторыю ў школе, быў навуковым супрацоўнікам Беларускага дзяржаўнага музэю народнай архітэктуры і побыту, а затым Скарынаўскага цэнтру Акадэміі навук Беларусі. Зь верасьня 1990 — журналіст «Свабоды» ў Менску, з траўня 1995 — супрацоўнік Беларускай службы Радыё Свабода ў Празе. Зь сярэдзіны 1980-х гадоў займаўся актыўнай грамадзкай дзейнасьцю, быў членам «Талакі». Адзін з арганізатараў першага Вальнага сойму беларускіх суполак (1987), выдавец-заснавальнік часопісу «Унія» (1990). Аўтар некалькіх дзясяткаў навуковых публікацый па гісторыі Беларусі. З 1983 друкуецца як пісьменьнік і журналіст. Выдаў кнігі «EGOізмы», «Настальгія», «Мой Картаген», «Дом літаратара», «Нечаканы Скарына», «Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі». Тэксты перакладаліся на італьянскую, польскую, расейскую і чэскую мовы.

## Summary

"Unknown Minsk. A Disappearance Story."

This book focuses on one of historic Minsk's oldest and most architecturally significant neighborhoods, a part of the city once known as "Old Town." Spanning fifteen blocks, it was an area tightly packed with 18th-19th century stone buildings, extant until the second half the 20th century in what was then known as Castle Hill.

Historian Siarhiej Ablamiejka explores:

• The importance accorded to Minsk's architectural heritage by ideologues of the Belarusian political movement of 1917-20, and by the founders of the Belarusian National Republic;

• The origins of the idea of building a BNR headquarters behind the ruins of the city's castle;

• The Belarusian Culture Institute's efforts in the 1920s to maintain BNR activists' focus on the city's Old Town, including plans to restore the Castle and its monuments;

• The 1925 launch of plans by BSSR communist leaders for the socialist reconstruction of the city, a product of ideological competition with the "nationalists."

• Ablamiejka introduces the reader to all the heroes and anti-heroes of this historical process, and casts his eye on heretofore unknown chapters in BSSR

history. We learn about the 1920's disappearance of a monograph of the Old Town; about efforts to create a museum dedicated to the district; about the renaming of Old Town streets. The author also focuses attention on the mysterious disappearance of archival documents associated with many of these events.

Siarhiej Ablamiejka has authored books of aphorisms, essays, short stories and numerous other works on Belarusian culture, the history of the Uniate (Greek-Catholic) Church in Belarus, and national identity. He works at Radio Free Europe/Radio Liberty, and lives in Prague.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.* **Імёны Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.* **Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.* **Мой шыбалет.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.



**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.



*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.



**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.



*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.



**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.



*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)
вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.




**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Быў у пана верабейка гаварушчы...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 326 с.: іл.




**100 словаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 346 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Не сьмяшыце мае прыназоўнікі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста другі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 388 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Высьпятак ад Скарыны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 500 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 174 с.: іл.




*Сяргей Шупа.*
**Падарожжа ў БНР.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 282 с. + 56 с. укл.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Нечаканы Скарына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 328 с.: іл.




*Алена Струвэ.*
**Турма, жанчына і мужчына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 434 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста трэці.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 536 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Клініка кітайскага дантыста.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 284 с.: +24 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч. 100 цытатаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 268 с.




*Сяргей Дубавец.*
**Тантамарэскі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 356 с.




*Алесь Пілецкі.*
**Казкі па целефоне.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 298 с.




*Сяргей Абламейка.*
**Каліноўскі і палітычнае нараджэньне Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 132 с.: іл.



*Дзьмітры Гурневіч.*
**Забойства ў цэнтры Эўропы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 248 с.: іл.




*Сяргей Астраўцоў.*
**Спадар Свабода.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 328 с.: іл.




**Каліноўскі на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 830 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Каліноўскі
і палітычнае
нараджэньне
Беларусі.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2020. —
140 с.: іл.




**Гаворыць Радыё
ВЫЗВАЛЕНЬНЕ...**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2020. —
172 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
4-е выд., дап.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2020. —
826 с.: іл.